# Янка Купала

*Поўны збор твораў*



*Том*

# 4

**ВЕРШЫ, ПЕРАКЛАДЫ, 1915—1929**

Рэдактар тома
БАГДАНОВІЧ І. Э.

Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі
МАЗАНІК Л. М., ШАМЯКІНАЙ А. І.

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1997



# 1915

## МАЁ ЦЯРПЕННЕ

Маё цярпенне, мой крывавы боль —
Што значаць перад мукамі мільёнаў,
Дзе безнадзейны стогны родзяць стогны,
А слёзы грызуць вочы ўсім, як соль!

Хоць дух мой ўзносіцца пад неба столь,—
Як галавой аб мур, там б'е паклоны.
Але як мал мой гэты ўздых шалёны...
Мой крык перад малітвай свету — ноль!

І веру я, што я нішто ў быцці —
Іначай думаць не дае сумленне,—
Аднак чаму ж здаецца мне нязменне,

Што меж майму цярпенню не знайсці,
Што так вяліка мне яно ў жыцці,
Як мiлiёнаў разам ўсіх цярпенне!

*1915*

## СМЕЙСЯ!..

Ха-ха-ха-ха! Будзь весел, кінь хныкаць,
Ўпіцца кроўю сваёй не спадзейся!
Можаш сэрца рваць, выці і клікаць,—
Можаш з сэрца свайго молат выкуць,
Толькі ўдарыць не смей ім, а смейся!

Смейся смехам-сычэннем праз скрогат
Перадсмертны зубоў і рассейся
Ў гразь жыцця, ў пекла Дантава рогат!
Каб аж косці ўстрасаў дзікі дрогат,—
На пацеху сляпой дзічы, смейся!

*

Вырывай з сябе жылу па жыле,
Ві ў вяроўку, ў пятлю і павесся,
І, пакуль у зямлю не зарылі,
Хоць дух будзе шыпець у бяссіллі,—
На сваіх вісі жылах і смейся!

Смейся смехам-скавытам вядзьмачым,
У віхровым пасвісце развейся,
І над светам раз'юшаным, спячым,
Над жывымі трупамі і плачам
Ты лунай, вочы рві сабе... й смейся!

*

Ха-ха-ха-ха! Душу сваю выні,
Палажы на далонь і надзейся,
Што паверацца табе, што не згіне
Ўся прысяга твая ў чорнай ціне
Перасудаў людскіх... Ха-ха! Смейся!

Смейся смехам — хрыпеннем быдляці
З перарэзаным горлам, і грэйся
Ў гэтым храпе скрозь стогн і праклянцце,
І не важся да сэрца ўздыхаці,
Ласкі ждаць... Хоць крывёю, а смейся!

*1915*

## БЫЎ ГЭТА СОН...

Быў гэта толькі сумны сон
Душы расплаканай маей,
Што сярод бледных будных дзён
Я свята меў, глядзеў святлей.

Быў гэта толькі сумны сон,
Што у вачах яе скрозь смех
Чытаў святы сабе закон
Кахання шчырага і ўцех.

Быў гэта толькі сумны сон,
Што вось інакшая яна
І пойме болю майго стогн,
Зірне ў душу маю да дна.

Быў гэта толькі сумны сон,
Што развяду я з ёй бяду,
Што пад яе напеваў звон
Лягчэй к магіле дабрыду.

Ўсё для мяне быў гэта сон;
Хтось іншы яву меў ў жыцці,—
Ён ёй і мне стварыў прыгон,
А сам сышоў, каб... не прыйсці!

*1915*

## НЕ СУДЗІЛА ДОЛЯ

Не судзіла ты мне, доля,
Быці рэчкай сярод скалаў,
У якой яна бы вочкі
На паранку умывала.

Не судзіла ты мне, доля,
Быці сонцам над крыніцай,
У якім яна б сушыла
Ад слёз беленькае ліца.

Не судзіла ты мне, доля,
Быці ветрам з-пад нябёсаў,
Аб які яна б часала,
Заплятала свае косы.

Не судзіла ты мне, доля,
Быці птушкай у садочку,
Да якой яна б паслухаць
Песню выйшла з церамочку.

Не судзіла ты мне, доля,
Хоць далёкай зоркай быці,
На яку яна б зірнула
Мо хоць раз, хоць раз у жыцці.

*1915*

## ТАВАРЫШ МОЙ

Ідзе за мной услед касцісты, бледны труп,—
Як цень,— за мной, пры мне, куды я ні ступлю;
Ці [illegible] устану, ці ў пасцелі мёртва сплю —
Са мной заўсёды ён, заўсёды гэты жывы слуп.

Вакруг мяне пабудаваў жалезны зруб,
Ператварыў ў турму бязмежную зямлю,
Садраў чуццё — ці я цярплю, ці не цярплю,
Здушыў вужача грудзі ў сто сталёвых шруб.

Таварыш шчыры мой, люблю, люблю цябе!
Ні час, ні чалавеча злосць цябе не з'есць;
Ты — пасланец мой, ты — сама аб шчасці весць!

Цябе, мой труп, [illegible] ў сне і ў явы барацьбе
Не кіну, як не кінеш ты мяне ў жальбе...
О, чэсць табе, маё ты Адзіноцтва, чэсць!..

*1915*

## НА СУД

На суд вам, кніжнікі, сябе я аддаю,
Судзіце па стаццях, як піша ваш закон;
Было ж жыццё мне — узаконены прыгон,
Хоць я не даў вам і не дам стаптаць душу сваю.

Мінаў я вашу фарысейскую сям'ю,
Мяне не збэсціў вашым ідалам паклон,
Калі ж з грудзей і вылятаў праклящця стогн,
То кляў я сам сябе і мук сваіх змяю.

Нічым грашыць ад вас грашнейшым я не ўмеў,—
Піў чарку крыўды і цярпення — ўсё да дна,
І не спаганіла мяне аблуда ні адна.
Адзін грэх толькі лёг мне на душу, як леў,
Праступак, суддзі, мой: я сэрца, сэрца меў!
Але ці ж гэта так страшэнная віна?!

*1915*

## ТАЕЙ ДАЎГАЖДАНАЙ

Чакаў яе, чакаў з трывогай,
Лічыў хвіліны неспакойна,
Чакаў... І не прыйшла нябога.
Не захацела быць так гойнай.

Што ж, не прыйшлося маім думам
Быць явай радаснай, жаданай;
Сам застануся з сваім сумам
Лячыць нязлечаныя раны.

Пачну адвечную бяседу:
Паклічу верных сваіх другаў —
Яны, як добраму суседу,
Акажуць шчыру мне паслугу.

Мой першы друг — бязмежна гора,—
Не скупіць мне сваёй апекі,—
Душа яго, як тое мора,
Што ўсе ў сябе ўбірае рэкі.

Мая сама вярнейша дружка,
Мяне не здрадзіўша ніколі,
Нядоля — беспадобна служка,
Мая пацеха дома, ў полі.

Яшчэ, яшчэ нямала маю
Такіх дружкоў, бы ўвесну цвету,
Іх тутка ■ не вылічаю,—
Нашто дарма хваліцца свету!

Вось як яны усе сыйдуцца
Ў маю святліцу — маё сэрца,—
Імглою вочы прыбяруцца,
Душа на жальбу абапрэцца.

І блісне першая слязіна,
За ёй апошняя заблісне,—
Абедзве па табе, дзяўчына,
Што я чакаў так бескарысне!..

*1915*

## СЫЙДУ...

Сыйду са сцежкі я тваей,
Як цень з няведамага краю,
Хоць і не вырву ўжо з грудзей
Таго, з чым жыці сіл не маю.

Судзіла доля мне сустрэць
Цябе, як казку негадану,
Ды не судзіла доля мець
Пацехі з гэтага жаданай.

Пракляцце нейкае вісіць
Над лёсам марным і сірочым
Ды рве і рве за ніцяй ніць,
Якія з шчасцем злучыць хочуць.

Нявольнік дум сваіх і сноў,
Сябе самога раб няшчасны,
Я скрозь жыццё адзін сам шоў,
Пуціны не зазнаўшы яснай.

І думаў, што ўжо скаваў лёд
Мне ўсе жаданні і парывы,
Што дажыву я сваіх год,
Па-свойму вольны і шчаслівы.

Так думаў... Сталася не так —
Душу збудзіла дзіўна з'ява:
Чагось жадаць пачаў бядак,
Штось згледзеў больш, як смерць і слава.

Інакш забілася ў грудзях
Сляпое, прыспанае сэрца,—
Змяніў на кветкі церні шлях
І думаў: шчасце ка мне рвецца.

Але здалося гэта ўсё,
Быў сон, [redacted] ява засталася,
Надзеі зорка ў небыццё,
Як здань жывая, пранеслася.

Зноў сам адзін, як блудны цень,
З далёкай вырваны каметы.
Ідзі, брыдзі і ноч, і дзень,
Навек згубіўшы ўсе прасветы.

Каб мог душу ўзяць, паказаць,
Каб мог сабе сам вырваць грудзі,
Тады б мо ты змагла паняць,
Чаго паняць не хочуць людзі.

Тады б мо каменем цяжкім
Маёй душы не надзяліла,
Над сэрцам мела б жаль маім
Ды і ўздыхнула б над... магілай.

*1915*

## ВЕЧАР

Мой вечар, знаю, блізка, недалёка —
Ёсць раніца — павінен й вечар быць,
Але не счэзну я з-пад долі вока —
Дзень, вечар, ноч, а трэба, буду жыць!

Зямлі і сонцу нізка пакланюся —
Я сын зямлі і сонца вольны сын!
Як з братам, з ветрам шчыра абымуся —
Я — ветру, а мне вецер друг адзін.

Сум вечны пасаджу свой на пасадзе —
Ён заслужыў даўно ў мяне на трон,—
Ўзлажу карону з слёз яму ў парадзе —
Така карона ўсіх важней карон.

Слугой яму прызначу адзіноту —
Яна сама вярнейша з слуг — без здрад;
Асветлю хорам сваіх дум яснотай —
Дум шмат я маю, ах, як шмат, як шмат!

Душы дам волю, заручуся з песняй —
Душа і песня — свет мой, скарбы ўсе мае...
Хай раніца жыцця майго ускрэсне,
Хай вечар мне жыцця ноч дапяе!

*1915*

## ЎВЕСЬ ДА ДНА...

Ўвесь да дна трэба выпіць свой келіх жыцця,
Ці з вадой жыватворчай, ці з ядам;
З роўнай меркай чакаць вечнаты й небыцця,
Заадно абымацца з анёлам і гадам.

Не мяркуйся свой быт давясці да канца,
Не скрывіўшы ні каплі душою,—
Не сягоння, то заўтра ўпрагуць малайца,
Запішчыш і здружышся з таўпою.

Днём з агнём не задумай ты праўду знайсці,
Паспытаць, што за смак гэтай праўды,—
Бо што зробіш, як знойдзеш, ты з ёю ў жыцці?
Сам спужаешся гэтакай знайды!

Хтось там скажа, што церні на шляху ляглі,
Што сіротам дзьме вецер у вочы,—
Ну, дык будзь цернем сам, будзь сын верны зямлі,
Віхрам будзь і бушуй сярод ночы!

Кажуць, кветку стаптала быдляча нага...
Няхай топча, і ты рабі тое;
Сам Антыхрыст не пойме, што нельга, што льга...
Ты не стопчаш — цябе стопчуць ўдвое.

Мо захочацца сэрца, кахання, пяшчот...
Плюй, бо йнакш аплююць і самога.
Ліжы золату рукі і карк гні, як скот,
Купіш ўсё: сястру, брата і Бога.

З сонцам, з зорамі ўздумаеш збратацца, жыць,
Вольнай птушкай лунаці па свеце...
Смейся!.. Лепш вось старайся ты з катам здружыць,
Калі горшых не хочаш пут меці.

Бачыш, косці па полі збірае груган
І твае так калісь збіраць будзе...
Дык жыві ж з сабой сам ці цвярозы, ці п'ян
І з людзьмі так жыві, як і людзі.

Ўвесь да дна выпівай чорны келіх жыцця,
Ці з вадой жыватворчай, ці з ядам;
З роўнай меркай чакай вечнаты й небыцця,
Заадно абымайся з анёлам і гадам.

*1915*

## НА ВУЛІЦЫ

Блудзіў па вуліцы я тэй, дзе сустрачаў яе,
Яе — не ўцямлю — шчасце ці сваё няшчасце...
Час быў такі, калі ўжо першы певень устае,
А злодзей смела з ложа выпаўзае красці.

На небе месяц бледны, як нябожчыкавы твар,
З-над воблакаў сцікаўся, быццам бы ён шляху
Свайго не мог знайсці паміж расплаканых там хмар,
Ці, каб стуль не зваліцца, блукаўся так з страху.

Паволі горад на сябе ўскладаў аковы сну,
Святло ў акнах адно ўслед за адным канала;
Дзе-недзе ржавы ключ пужаў скрыготам цішыну
Ды спознена павозка дзіка ляскатала.

У дроце, што паміж слупамі віўся густа ўдоўж,
Як бы напяты былі там людскія жылы,
Гудзеў, заводзіў вецер, бы па дроце рэзаў нож;
Як вісельнік, выў, вырваўшыся з-пад магілы.

Здалёку ад чыгункі данасіўся свіст-выццё,
Ўпіваючыся ў сэрца вытачанай сталлю,
Як бы з тым свістам адлятала шчасце і жыццё.
Ці гінуў нехта наймілейшы там — за даллю.

Аб сцены рэха стукалася ад хадзьбы маей,—
Цагляны мур сачыў за мною безупыну;
Цень ад ліхтарняў мой ўсё то даўжэй, то карацей
Выцягваўся, дваіўся, то зусім дзесь гінуў.

Лічыў за крокам крок я й пазіраў ўвакруг, як здань,
На заміраючы да заўтра горад грэшны,
І чуўся я, як здрадай схопленая ў клетку лань,—
Такі бяссільны, пазабыты, безуцешны!

За думкай думка джалам свідравала галаву:
Што ёсць, няма,— судзіў суды і перасуды,
І думаў ўсё: за што, нашто сябе на часці рву,
Калі за гэта маю толькі камняў груды?

Так сноўдаўся па вуліцы і сам згараў ў сабе...
...Іду і чую: тут з-за муру, ў сутарэнні,

Рагоча музыка, як сумашэдшая ў кляцьбе,
Пад музыку — бразджанне ног, грудзей хрыпенне...

І жудка стала!.. Ёсць жа яшчэ людзі на зямлі,
Што могуць дзіч сабой змяніць і весяліцца,
Не бачачы сваіх бяспутнасцей, што іх змаглі
І душаць адусюль, як змеяў навальніца!

З нявольніцай нявольнік тут танцуе на забой,
Пад здзекам рабскія свае сагнуўшы шыі,
А там, на акрываўленых палях крывёй людской,
Нявольнік для нявольніка грабніцу рые.

Стыд спанаваў мяне, што я на вуліцы тэй быў
І аддаваўся нейкай візы ўсёй душою,—
Тым горкім думам аб сабе і сэрцу тым, на здзіў
Так заўладаўшым маім сэрцам-сіратою.

*1915*

## СЯРОД МАГІЛ

Сярод магіл, на плечы ўзняўшы крыж свой, стану,
Як пасланец з магіл ад спячых там пракокаў,
І ў даль сягну, дзе толькі можа сягнуць вока,
І скрозь туды, дзе вольнай думкаю дастану.

І кліч пушчу скрозь ад кургану да кургану,
Як віхраў лёт па ўсёй бязмежнасці шырокай,
Кліч закліканне векавечнага зароку,
Што ў гуслях толькі дрэмле, ў песню ўчараваны.

Прадсмертнаю кляцьбой канаючага раба,
Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку,
Звярнуўся к сонцу, сонцу без канца й пачатку.

Хай спаліць мне душу, як ствол разбіты граба,
Хай вочы высмаліць, як кветку ў лілеі слабай,
Але і крыж мой спапяліць хай папарадку!

*1915*

## НАШТО?

Нашто губляць парывы чыстыя
Таемных дум сваіх, сваёй душы
Для тых, што стопчуць іх бязлітасна
Ці высмакчуць з цябе іх, як вужы?

Нашто трывожыць сэрца беднае,
Жаданнем ласк, сардэчнага цяпла? —
Ўсё роўна збэсцяць тваё сэрцайка,
Святое вырвуць з яго ўсё датла.

Нашто, як жабраку, вымаліваць
Ўсё тое, што ты заслужыў жыццём?..
Знай, доля к тым не прысуседзіцца,
Хто жабранінай гоніць дзень за днём.

Ідзі праз свет з вачмі адкрытымі,
Ў грудзях гадуй, як сталь, і моц, і гарт,
Глядзі ўвакруг свабодным сокалам
І крэпка знай, чаго ты ў свеце варт!

Не паніжай сам духа вольнага
І ў паніжэнне іншым не давай;
Над рабскаю таўпой аслепленай,
Над злом зямлі увысь, да зор сягай!

*1915*

## ІДЗЕ ВЯСНА

Ідзе вясна... На белым полі ложыць плямы!
Вада цурком цячэ з-пад снегу ў долы, ў ямы,
Злятаюцца ды дзіка гракаюць вароны...
Ідзе вясна... каб быццам свет збудзіці сонны.

А будзе толькі з гэтага ўсяе карысці,
Што лес на час — каб скінуць после — ўздзене лісце,
Ды зацвітуць і адцвітуць адзін раз лішні
У садзе маладжавым яблыні і вішні;

Ўсё тую ж песню адшчабеча салавейка,
Малітву адгалосіць сонейку жалейка...
Ах, пражывеш ты, чалавеча, не напрасне —
Яшчэ адна вясна ў душы навек загасне.

*1915*

## ЧАМУ?

Няма для духа вольнага граніцы, меры,
Дзе б ён сягнуць не смеў, дзе б ён не узлунаў;
У хаосе быцця, у цьме ўсясветных з'яў
Ён не ніштожыцца, ў сябе не губіць веры.

Яму да тайнаў душ і сэрц адкрыты дзверы,
Ўсё тое спазнае, што бег сталеццяў не спазнаў;
Як фенікс з попелаў, узносіцца з канаў,
На дно якіх яго спіхаюць цемраў звеfры.

Магутны, векавечны, створан з сонц мільёнаў,—
Гром, перуны ў руках трымаць, спыняць не слаб,
Хоць бы ў агні кіпеў, ў віхрах марозаў зяб...

Аднак чаму ж ты там нішто, дух непрыгонны,
Дзе, дружна звонячы ў кайданы ўсімі тоны,
Крывёй, пажарамі частуе раба раб?

*1915*

## БАЦЬКАЎШЧЫНА

З зямлёй і небам звязывае мяне ніць —
Неразарваная веквечна павуціна:
Зямля мяне галубіць, як вернага сына,
А сонца мне душу не кідае туліць.

Яшчэ ў калысцы я навучыўся з песень сніць
Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так мясцінах:
Што роднай нівы я мільённая часціна,
Што зоркі роднай ў сэрцы мне іскрынка тліць.

Так Бацькаўшчыну я здабыў сабе без злосці,
Узрос з яе й чужых з яе не скінуў косці,
Грудзьмі тулюсь к ёй, як да матчыных грудзей.

І калі здзекваецца нада мною хтосьці —
Над Бацькаўшчынай здзекваецца ён маей,
Калі ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй.

*1915*

## ВЯСНА 1915-ая

Дык вось жа як прыйшла яна — жаданая вясна —
Ў кароне з зелені і кветак, з пошаптам бяроз!
Ядыная з паміж былых сясцёр сваіх яна:
Не развясельвае душы і не ўцірае слёз.

Не росы зіхацяцца брыльянцістыя на ёй,
Не росамі палеткі збожны свенціць на зямлі,
А йрдзіцца ўся гарачаю чырвонаю крывёй,
Крывёй палошча ўсходы, што ўзышлі і... не ўзышлі!

Не з сонцам выйшла благаслaвіць аратага арбу,
Не сонцам туліцца да скрыўджаных сяліб і хат,
А грознымі пажарамі распачала сяўбу,
Пажарамі-зніштожаннем святкуе свята свят!

Не выйшаў сейбіт на загон, як ён калісь ішоў,
Каб з верай і надзеяй кінуць зерне на прыплод,—
А сее... от, абы!.. бо сеяць звык ён з прадвякоў,
Хоць і не знае, хто пажне, хто з'есць яго ўмалот.

І хаты майскім дзераўцом не ўмаіў селянін,
Як прадзеды умайвалі, як вучыць абычай...

Спытай: Чаму аб спадчыне бацькоў забыў так сын?
Адкажа: Ведама — жалобу носіць наскі край!

Перапалохана кабеціна з дзяцьмі на шлях
Ідзе штодзень пад крыж і пазірае ўдаль;
Праглядзела ўжо вочы — ўсё ж надзея тліць ў грудзях,
Праслухала і вушы ўжо, а слухае на жаль...

Дзяўчына, распусціўшы косы, вылецела ў бор
І, прытуліўшысь к дрэву, песню жудкую пяе,—
Не то падладжваючыся пад хаўтурны хор,
Не то спраўляючы ў бары заручыны свае.

А бусел, што на пірамідах зімку зімаваў,
А лета летаваць у любы край свой прыляцеў,—
Здзівіўся, пасмутнеў... сваёй мясціны не спазнаў
І не знайшоў гнязда свайго, што летась яшчэ меў.

Адно балюе баль звяр'ё з сну збуджана ў лясах.
Пажывы на пабоішчах скрозь маючы ўдаволь,
Ды груганы, што костачкі збіраюць па палях,
Не пашкадуюць, што жылі ў такі ўсясветны боль.

Дык вось жа як прыйшла вясна жаданая на свет,
Калоцячы, як ліпай, змучанай зямлёй да дна.
Крывёй, пажарам, пошасцяй — людзям яе прывет,
А напіс на яе агнёвым знамені: В а й н а!

*1915*

## МУСІЦЬ, ТРЭБА БЫЛО

*Пасвячаю Ул. Станкевічанцы*

Ці на небе не мільён зорак льсніць!
Кожна зорка дзесь кагось весяліць.
Толькі ж месца там не стала
Для аднэй, што мне б міргала...
    Мусіць, трэба было!

Ці то мала ўдоўж і ўшыр вырас свет? —
Для ўсіх даў ён і прыпын, і прывет.
А я век, як тое зданне,
Не знайшоў сабе прыстання...
Мусіць, трэба было!

Ці дарожак і на захад і ўсход
Легла мала на зямлі з году ў год?
Бо след к шчасцю на ўсім свеце
Не судзіў мне Бог сустрэці...
Мусіць, трэба было!

Ці то вецер толькі ў волі жыве —
Дзе захоча і ляціць, і плыве?
Я ж куды ні пасуліўся,
Ўсюды ў путах толькі віўся...
Мусіць, трэба было!

Ці зямелька не гадуе людзей,—
Ці ў іх сэрца ястраб выпіў з грудзей?
Бо дзе з сэрцам ні звяртаўся —
Я на камень натыкаўся...
Мусіць, трэба было!

Ці дзявочы ручкі звялі ў бядзе?
Ці ж нікога не галубяць нідзе?
Каб я лёг і ў дамавіне —
Воч ніхто мне не зачыне...
Мусіць, трэба ўжо так!

[*1915*]

## А ЯНА...

Гэткім шчырым каханнем яе атуліў,
З гэткай ласкай глядзеў ў яе сумныя вочы,—
Як і сонца не туліць расквечаных ніў,
Як і зоры людзям не ўглядаюцца ўночы!

Так пясціў, так галубіў галубку, яе,
Так цяпліў сваім сэрцам сірочым ёй грудзі,—
Як і маці не песціць дзіцё — як спаўе,
Як і вогнішча ззябнутых грэці не будзе!

Столькі песень над песнямі ёй я напеў,
Столькі думак злажыў аб ёй важных, таёмных,—
Як і бор гэтак з ветрам шумець не шумеў,
Як і *век* гэткіх дум не злажыў для патомных!

Гэткі ў сэрцы сваім збудаваў ёй пасад
І такую ўзлажыў ёй з кахання карону,—
Як і неба з зямлёю, на Божы загад,
Не прыдбаюць такіх ні кароны, ні трону!

Так уславіў яе ў славу сонца і зор,
Так маліўся дзень-ноч к ёй мальбою нябёсаў,—
Як і мудрасць не ўславіць ўсясвету прастор,
Як і каня не моліцца ўлетку да росаў!

Утварыў з яе шчасце з-над шчасцяў сваё —
Чарадзейную княжну з аповесці дзіўнай,
І пад ногі ёй кінуў жыццё сваё ўсё...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

А яна?.. А яна была толькі... дзяўчына!..

*1915*

## ПАХАВАННЕ

Пахаваў я сярод злому
    У пушчы песню аб шчасці —
Так глыбока, скуль нікому
    І ніколі не ўкрасці.

А каб хто аб гэтай справе
    Не сказаў дрэнным сказам,—
Хаўтуры-памінкі справіў
    З пушчай, з ночкаю разам.

Быў і вецер на магіле
На абрадку бядачым,
І русалкі не забылі —
Шчырым плакалі плачам.

А цяпер адно паставіць
Толькі памятку важну,
Каб нябожчыцу праславіць,
Каб праславіць, як княжну.

Хай прыходзіць ка мне тая
Чараўніца-дзяўчына,
Праз якую так спраўляў я
Гэты сховы-ўспаміны,

І з грудзей маіх гарачых
Няхай выдзярэ сэрца,
Ды на трох нажах стаячых
Хай нясе і смяецца.

Як паложыць на магіле,
Дзе аб шчасці спіць песня,
Само сэрца ў той жа хвілі
Загарыцца, ускрэсне.

І гарэці вечна будзе
На тым схове-пасадзе,
І дадуцца дзіву людзі,
Як кахаў я папраўдзе!

*1915*

## НОЧЦЫ

К табе, мая ночанька цёмная,
І к вам, мае зораньκі-кветкі,
З паклонам іду, непрытомны я,
І клічу вас, клічу за сведкі.

Пасведчыце, як мне тут маецца
Ў маёй адзіноце, нядолі,
Як сэрца ў грудзях разрываецца,
Як плача душа без патолі.

Пасведчыце там перад мілаю,
Як тутка па ёй я журбую...
Мо хоць над маёю магілаю
Я водклік ад мілай пачую.

К табе ж, брат мой, вецер, звяртаюся
З закляццем-прысягай такою:
На смерць і жыццё прысягаюся,
На шчасце сваё маладое:

Мілей мне яна і ад сонейка,
Мілей ад маіх сноў дзяціных,
Ад красак квяцістага гонейка,
Ад песень вясной салаўіных.

Вось гэты заклён з загаворамі,
Ты, ветру, мой шчыры дружача,
Дамчы к маёй мілай за горамі
І кінь ёй пад ногі — хай бача!..

*1915*

* * *

*Т. С. Жывапісцавай*

Арліныя крыллі
Душа твая мае,
К красе яна й сіле
Свой сцяг уздымае.

Зямля ёй зацесна,
Ёй трэба прастору,
Тэй высі нябеснай,
Дзе царствуюць зоры.

Лунай жа, саколе,
У гэтых міражах,
Пакуль цябе доля
К зямлі не прывяжа.

Пакуль не растопча
Жыццё крыўдай грудзі,
А сэрца дзявоча
Не высушаць людзі.

*1915*

## ПЛАЧА ВОСЕНЬ

Плача восень за акном,
Слёзы плюскаюць аб шыбы,
Абняла трывожным сном
Непрытульныя сялібы.

Плача восень, стогне ў сне,
З пушчай, з ветрамі галосіць,
Як бы дзе каго кляне
Ці аб шчасці моліць, просіць.

Плача восень ноч і дзень,
Слёзы плюскаюць аб вокны,
А па хаце чорны цень
Лазіць, тчэ свае валокны.

Гэта ходзіць, бродзіць сум,
Душу мучыць ў сваіх сетках
І трывожыць сказы дум,
Дум аб шчасці і аб кветках.

*1915*



# 1918

## ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Я зноў заснуўшую было жалейку
Бяру і пробую ў ёй галасоў:
Ці хопіць светлых, звонкіх думак-слоў,
Ці гладка пойдзе песня-дабрадзейка?

І пачынаю йграць з трывогай нейкай,
Хоць песня як і з даўных б'е часоў,—
Звініць, як вецер паміж верасоў,
І ўперагонкі рвецца з салавейкай.

А ўсё ж як тамка сваякі-суседзі
Яе паймуць, хацелася бы знаць,—
Ці блаславяць, ці ўтопчуць гідка ў гаць?

Адно, снуючы з сумам па праследдзі,
Я голасна йграць буду ў тайным брэдзе,
Для Бацькаўшчыны-маці буду йграць!

*1918*

## У ДАРОЗЕ

Цёмна, сумна ў сонным полі,
Як скрозь сіта ймжыць імжака;
Воддаль прэе ў лесе лісце,
Як шкілет, тарчаць галіны.

Скрыгатаюць грудзі боллю,
Сэрца ссе нуда-вужака,
Звод скрабе ў душы агнісце,—
Будзіць буднія ўспаміны.

Еду, пхнуся бітым шляхам,
Па балоце конь плюскоча,
А ноч крадзецца паціху,
Сыпле чары ўлева, ўправа.

Пхнуся ўдвойчы з жудкім жахам,
Злыдні зіркаюць у вочы...
Ах, хаця б не дацца ліху!
Но, мой косю!.. Стой!.. Канава!..

*1918*

## ПЕСНЯ

Як крыніца, льецца, рвецца
З сэрца песня ў свет, за светы;
Светла йскрыцца, рэхам прэцца,
Тутка, тамка, дзе я, дзе ты...

Скрозь гамоніць, звоніць звонка,
З сэрца ў сэрца б'е, ірдзіцца,
То ўжо ў хаце, то ўжо вонках
Маладзіцца маладзіцай.

Скочыць к сонейку, ўсхахоча,
Пацалуецца лісліва;
Ясну месячыку ў вочы
Зіркане тугой тужлівай.

Стрэціць зорку-заранiцу,
Праслязіцца з ёй слязою
I сплыве ўплаў на зямліцу,
Разаўецца дзермязою.

Ў полі здольна з ветрам разам
Зажартуе, ў танок сходзе,
Згодна з борам важным сказам
Завурчыць аб непагодзе.

Ў лесе лісцем зашалесце,
З птушкай птушкай зашчабеча,
Па пуціне кіне весці
Суму, шчасця хаце нейчай.

I лунае, так лунае
Гэта песня па ўсім свеце,
Плоту, путаў ані знае
Ад сталецця да сталецця!

*1918*

## СВАЙМУ НАРОДУ

Табе, народ мой, згібнуты ў аковах,
З-пад сэрца песню гэтую пяю
I, ускрашаючы мінуўшчыну нанова,
Выказваю цяперщчыну тваю.

Сягні ў даўно заснуўшыя сталецці,
Заслону дзён уцёкшых адхілі
I глянь, як сёння твае жывуць дзеці,
Як ты жывеш на прадзедаў зямлі.

Дняпро і Сож, Дзвіна, Вілля і Нёман
Шмат могуць што у памяці збудзіць,
Ды пушчы Белавежскай сумны гоман —
Паслухай толькі, што ён гаманіць.

Тваймі рукамі ўзнесены замчышчы,
Глянь, зарастаюць дзікім палыном,
Па сцен астатках вецер дзіка свішча,
Як бы пяе памінкі быўшым днём.

Пяе аб тым, як гэтыя байніцы
Край сцераглі на захад і на ўсход,
Як з поўначы разбойны чужаніца
Не мог замчыскавых скрышыць варот.

Ты жыў, ты панаваў у краі родным,
Сцярог ад чужака й законы укладаў;
Звон вечавы сход склікаваў народны,
І сход аб шчасці Бацькаўшчыны дбаў.

Сягоння ўсё спіць і зарастае зеллем,
Сцярэч свой край няма ні сцен, ні рук;
Званы вячовы змоўклі, анямелі,
Ў ярме сагнулі людзі плечы ў крук.

Чужак-дзікун, крывёю ўпіўшысь свежай,
Запрог цябе ў няволю, ў батракі
І тваю маці-Бацькаўшчыну рэжа,
Жывую рве на часці, на кускі.

Сыноў тваіх рассеяў па ўсім свеце,
Як птушак ястраб з гнёздаў разагнаў;
Бацькі дзяцей, а бацькоў сваіх дзеці
Сярод магіл шукаюць і канаў.

І мерцвякоў знаходзяць... А жывыя...
Як мерцвякоў пагляд іх і жыццё,
Праклёны толькі шэпчуць векавыя
Ды вечнае чакаюць небыццё.

Упаў народ. Змарнеў народ, забыўся,
Як Бацькаўшчыну, як яго завуць;
Як падарожны без пуцця, знябыўся,
Як сірата, якой нідзе заснуць...

Паўстань, народ! Прачніся, беларусе!
Зірні на Бацькаўшчыну, на сябе!
Зірні, як вораг хату і зямлю раструсіў,
Як твой навала злыдняў скарб грабе!

Паўстань і глянь, як з'яюць скрозь вагнішчы,
Як носяцца ўсясветных змен віхры,
Як на старога быту папялішчы
Цвет зацвітае новае зары!

Паўстань, народ! Для будучыны шчасце
Ты строй, каб пут не строіў больш сусед;
Не дайся ў гэты грозны час прапасці,—
Прапашчых не пацешыць шчасцем свет.

Сваю магутнасць пакажы ты свету,—
Свой край, сябе ў пашане мець прымусь.
Паўстань, народ!.. З крыві і слёз кліч гэты...
Цябе чакае маці-Беларусь!

*1918*

## НА СХОД!

На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

Як роўны йдзі жыхар між роўных жыхароў,
Аддай на суд свае ўсе крыўды, слёзы, кроў.

Аб вечным катаванні, здзеку далажы
І пакажы на курганы і на крыжы.

І аб раскопаных магілах не забудзь,
Дзе груганы тваіх там продкаў косці рвуць.

Як гналі пот з цябе паны і каралі,
Як гналі проч цары з радзімае зямлі.

І як крываўляць раскаваныя рабы,
Як ты ўпадаеш з непасільнай барацьбы.

Як Бацькаўшчыну тваю рэжуць на кускі.
Як гібнеш з дзецьмі ты ад катняе рукі —

Аддаці ўсё на суд, на ўсенародны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

*1918*

## НА ПРЫЗБЕ

Сядзіць на прызбе бледны дзед
І пазірае слёзна ў свет.

Старэчай думкай ўдаль бяжыць,—
Як жыў, жыве, як будзе жыць.

За успамінам успамін
У грудзі лезе, як той клін.

Шлях немалы прайшоў ў жыцці,
А йшчэ ці многа перайсці!

Ўсё разважае на свой лад,
І, што збудзіў ўспамін, не рад.

У думкі прэцца стада мар —
І двор, і пан, прыгон і цар.

Бадзянні тыя, што ўслед шлі,
Па роднай, па чужой зямлі,

І тыя новы ўладары,
Што пруць к яму ў гаспадары;

Ўсё важыць розумам дзядуль
І не здыбе дабра знікуль,

Адно, адназалістых дум
Што раз, то горшы цісне сум.

І сам не бачыць, як расой
Сплыла слязіна за слязой,

З сухім змяшалася пяском
І заблішчэла аганьком...

А дзед на прызбе ўсё сядзіць
І ў дальню даль глядзіць, глядзіць!

*1918*

## ЧАС!

Час склікаці ўжо грамаду
На вялікую нараду,
На вялікі сход!
Хай рассудзіць, хай разважа,
Слова цвёрдае хай скажа,
Скажа сам народ!

Як жыць мае, пажываці
Ў родным краю, ў роднай хаце,
Як заводзіць лад:
Ці жыць далей у няволі,
Ці разжыцца новай доляй,
Новы ўзнесць пасад.

Доўга людзі ўдзень блудзілі,
Крыўду, слёзы, кроў пладзілі,
Ўсё не ўмелі жыць,—
А сягоння ўжо не тое,—
Ўсходзе сонца залатое
Роўна ўсім свяціць.

Ходзіць ходырам свет цэлы,
Смела ў бітву йдзе нясмелы,
Ў бой за лепшы час.
Дык і нам цапы і косы
Час браць з вышак, покі росы
Воч не згрызлі ў нас.

Хай званы зазвоняць з жарам,
Хай музыка ў струны ўдара!
Гэй, паўстань, народ!
За сябе сам пастаяці
І за Бацькаўшчыну-маці
Йдзі, народ, на сход!

*1918*

## У ВЫРАЙ

Зашумела нудна восень
Шумам лісцяў, шумам сосен,
Даўшы волю хмурам;
Ажно з гоняў Беларусі
Ў вырай вылецелі гусі,
Паплылі ўдаль шнурам.

Следам з выраем, з гусямі
Паляцелі думкі самі,
Сэрца ўскалыхнулі;
Ўскалыхнулі долі плесняй,
Азваліся казкай-песняй,
Ў смутку патанулі...

Ой, вам, гусі-вырайніцы,
Жыць нядоўга ў чужаніцы,
Зноў к нам прыплывеце,
Зноў вас будуць сустракаці
Нашы рэчкі, сенажаці,
Наша сонца ў цвеце.

Ой, вы, гусі-гудзіцелькі,
Не забудзеце зямелькі,
Дзе дзяцей пладзілі,
Дзе вы месячык страчалі,
Дзе вы зоркі падлічалі,
Плавалі, хадзілі.

Знаю, зложыце тут косці,
Толькі злётаеце ў госці
Асвяжыце грудзі:
Вы не ўмееце йшчэ, гусі,
Выракацца Беларусі,
Як умеюць людзі.

*1918*

## НАША ГАСПАДАРКА

Спрадвеку мы ў родным краю гаспадарым,—
Свае загоны сеем, пасцім статак свой;
З надзеяй сустрачаем вырaі вясной,
З надзеяй ўвосень іх праводзім над папарам.

Спрадвеку ходзім пад панамі і пад царам
На недруга й на бліжняга свайго вайной,
Хоць нам за нашу кроў падзякаю адной —
Крыжы і хаты нашы скошаны пажарам!

Так гаспадарым мы і дома і за домам,
Усё ждучы пацехі з севу і жніва,
Ждучы дарма, як летам жджэ расы трава.

Чужы і свой хлеб станавіцца жорсткім комам
І душыць кліч: ці доўга будзе нам заломам
Варшава панская і царская Масква.

*1918*

## ПЧОЛЫ

Мой сад калодамі абведзен мёдных пчол,
Што гаманяць, як неўгамонныя музыкі;
Іх з лета ў лета звоняць звончастыя зыкі
І далятаюць да блізкіх і дальніх сёл.

Я дбаю аб вуллёх,— куру, свянчу наўкол,
Запасу ўвосень мёду кідаю вялікі,
Сляджу зімою, каб чарвяк не ўбіўся дзікі,
Вясною шчыра падчышчаю верх і дол.

Але як дойдзе час выходзіць рою ў свет,
Ён не садзіцца, дзе назначу я пасадку,
А коціцца, чужы дзе зацвітае цвет.

Або як мёд пайду я падглядаць у кадку,
І тут бяда — не ўсё ў парадку і даглядку:
Як рой, і мёд падгледзеў ўжо сваяк-сусед.

*1918*

## СОН

Заглянь, сынок, у соннік,
Сон мела я пусты:
Прысніўся мне сасоннік
Такі густы-густы.

Па ім ішла я ўночы.
За мною зводы йшлі,
І зазіралі ў вочы,
І ціснулі к зямлі.

Шапталі штось над вухам,
Сплягалі плот з імгліц,
Абхутывалі пухам
Сасонічых іглiц.

Вадзілі па канавах,
Заломах, бадылях,
Па хворастах крывавых,
Распаленых вуглях.

Далей вялі адтуля
Між пнёў гнілых, кам'я,
Дзе спіць твая бабуля,
Дзе маці спіць мая.

Кіўнулі на абліплы
Спляснеўшым мохам крыж,
Захіхаталі сіпла
І счэзлі недзе ўзвыш.

За імі і сасоннік
Захіхатаў глухі.
Дык глянь, сынок, у соннік,
Што значыць сон такі?

*1918*

## ЗВАНЫ

Гудуць званы, з дня ў дзень гудуць мядзяныя званы,
Як стогн, гуд-водгулле гучыць мальбою жудзі;
Дрыжыць званіцы мур сцюдзёны, цагляны,
Дрыжыць званар, надорваныя рвучы грудзі.

Наводзіць гэта музыка нязводны звод нуды,—
Скрабе душу, як сенажаць жалезныя бароны,
Па сэрцу б'е, як дождж па шклянай шыбе ў халады,
Гадуе ў думах сказ бадучы, забабонны.

Ў мазгі залазіць жах, што гэты буйны звон званоў —
Хаўтурны гэта звон спакон нямых сталеццяў,
Што гэтая званіца — мерцвяковы вечны схоў,
Званар — грабар, што косці згортвае па свеце.

*1918*

## У ХОРАМАХ

Узносілі муры,
Каб княжыці ў мурах;
Ад зоркі да зары
Купаліся ў іграх.

Звінела серабро,
І золата, і медзь;
На зло і на дабро,
На ўсё — ўсё ўмелі мець.

Не ў страх ім ноч і гром,
Зямля, свет цэлы — рай;
Кані-арлы віхром
Імчалі з краю ў край.

Салодкі мёд пілі,
Жыць соладка было,
Забылі адылі,
Што йнакш жыло сяло.

*1918*

## МЛЕЧНЫ ШЛЯХ

Лёг па небе Шлях Млечны, шлях злепленых зорак,
Паясом-серабром без канца і пачатку
І цікуе, як месяц, з узгорку на ўзгорак
Пад ім лазіць, мяняючы штоноч апратку.

І галубіць шлях бледны зямлю яснавіцай,
Сочыць вочак мільёнамі долю людскую,
То святлей, то мглісцей зацвітае, мігцічча,
Сее скрозь не то сон, не то яву такую.

Людзі кажуць, што птушкам, зблудзіўшым уночы,
Млечны Шлях служыць сцежкай-пуцінай у вырай.
Яшчэ кажуць, што гэта слязінкі сірочы
Замяніліся ў зоркі ды свецяць так шчыра.

*1918*

## УДОСВІТАК

Яшчэ певень пець не масціцца,
Не згасла ніводная зорка,—
У хаце дыміцца газніца,
У хаце ўжо чутна гаворка.

За прасніцай з мяккай кудзеляй
Папрадуха сучыць пры сценцы,
За нітачкай нітачку сцеле,
Вурчыць і вурчыць вераценца.

Хоць мілы сон клеіць павекі,
Хоць будзіць пасцель успамінак,
Дзяўчына сон гоніць наўцекі,
Расце і таўсцее пачынак.

*

А ў полі заходзіцца бура,
Разносяцца жальбы і стогны,

Страхою калоціць віхура,
Дождж хвошча па шыбах сцюдзёны.

Пуцінай брыдзе падарожны;
Куды ён брыдзе, не згадаці,
Паглядкаю сочыць трывожнай
Сцяжыну ў балоцістай гаці.

Над ім неба з хмарамі вісне,
Цямрыца, дзе вокам ні кінуць;
Няўжо ж вогнік з хаты не блісне,
Няўжо ж падарожнаму гінуць?

*

Папрадуху зморы абселі,
Ў руках вераценца не скача;
Галоўку схіліла к кудзелі,
І дрэмле, і сон дзіўны бача.

Ёй сніцца, што знекуля хтосьці
Спяшыць у дарозе дахаты,
Што ён так спяшыць к ёй у госці,
Такі малады і багаты.

І ўсмешка ўсцвіла маладая,
І кроў забурліла крыніцай...
Ёй сніцца... Дый хто там згадае,
Што ўдосвіт папрадусе сніцца?..

*1918*

## ЗАБЫТАЯ КАРЧМА

Павыбіты вокны, сарвана страха,
Паўлазілі ў гліну вуглы,
Абдымлены комін тырчыць, як вяха,
Як здань, вызірае з імглы.

Стаіць, як абскубаны зверам шкілет,
Забытая светам карчма,
Начніцы пяюць ёй магільны прывет,
Галубіць праклящцямі цьма.

Разбітая напал калісь перуном,
Асіна ўздыхае над ёй,
Калыша, матае кастыльным галлём,
Шыпіць, уздыхае змяёй.

Як вісельнік, звісла галіна адна,
Бы цэпам, калоціць камель,
І сведчыць, што некалі, вельмі здаўна,
На гэтай галіне...
Як шмель,

Шумела, гудзела карчма усю ноч,
Музыка рваў струны і смык;
Бяда і нуда адыходзілі проч,—
Рашаў гаспадарку мужык.

Вось поўнач... Звон чарак... Смех, крыкі, кляцьба...
Не сцяміш, дзе свой, дзе чужы...
Гахх!.. цвякнуў тапор... Міг, знямела гульба...
Ляжыць труп, як крыж на мяжы...

— Мярцвяк!! — загудзеў разбуялы народ
І рынуў з святліцы пад тын...
— Дзе ўбіўца?.. На горкай асіне, бы кнот,
Хістаўся нябожчыкаў сын...

Мінула гулянка... Замёрла жыццё...
Канае карчма у журбе;
Навокала блудзіць зданнё, страхаццё,
Па шчылінах вецер скрабе.

І толькі у поўнач адзін раз у год
Карчма ажывае на міг:
Музыка іграе, гамоніць народ,
Кружыць за кяліхам кяліх.

І ў саму гульню, наганяючы жах,
З'яўляюцца госці туды:
Стары — з тапаром у кастлявых грудзях,
На шыі з пятлёй — малады...

*1918*

## БУСЛЫ

Падчысціла Ўзвіжанне ўсю зямлю шчыра,
Ліст зводзе хмызняк заскаруслы...
Злятаюцца буслы к адлёту у вырай,
На сходку сыходзяцца буслы.

Дзе плотам граніцу адвёў сабе выган,
За прасла пашчэпліваў прасла,—
За выганам буслы рашаюць суд мігам,
Пакуль дню лучына не згасла.

Хто Млечны Шлях ноччу дагледзіць не зблудзе,
Хто мора адмерыць крыламі,—
Той вылеціць толькі ў далёкія людзі,
Той вылеціць ў вырай з бусламі.

Клякочуць, хлапочуць. І крыллі, і скабы
Сусед аглядае суседа,
Разводзяць і дзеляць, хто дужы, хто слабы,
Хто болей, хто меней свет зведаў.

Зрабілі агледзіны, зрадзілі раду,
К канцу прыбліжаецца сходка,
Шнур зладзілі к выраю ў згодзе і складу,
Сціхае гамонка-клякотка.

Ўжо мецяцца к лёту, ўжо хлопаюць крыллі...
Бач, бусел адзін стаіць хмуры,—
Яго аднаго усе неяк забылі,
Адзін ён не змесціўся ў шнуры.

Стаіць і чакае сабе прыгавору,—
Знаў — буслава сходка не смешкі...
Ой, болей яму не пабачыці мора,
Не бачыці выраю сцежкі!

Ізноў ўсклекаталі крылатыя сябры:
— Ён слабы, не наскага міру!
Хай гіне, хто слабы, згнілі ў каго жабры!
Смерць буслу, няздатнаму ў вырай!

Смерць! смерць!.. Задымела пуховае пер'е,
З-пад сэрца кроў хлынула стужкай...

І, споўніўшы прыгавар, буслы ў бязмер'е,
Ўзняліся за дружкаю дружка.

Шнур доўгі паплёўся пад небам вячыстым,
Плыў з клекатам далей і далей,
Аж згінуў з-пад вока у воблаках мглістых,
Спавіўся ў туманныя хвалі.

А там, а за выганам сцелецца поле,
На полі рассыпаны косці,
Над косцямі вецер гуляе, скаголе,
Груган залятае у госці.

А там, ля касцей залаціцца пярсцёнак,
А надпіс чужой на ім мовай:
«Як вернецца бусел з нязнаных старонак —
Ка мне мілы вернецца ўзнова...»

*1918*

## БУРАЛОМ

Пахіліўся дуб да дуба
Ды бурчыць, гамоне:
— Што-та вецер вельмі груба
Загуляў сягоння!

Паглядзі, сусед, на пушчу,
Як трашчаць галіны,—
Там у самую ўжо гушчу
Вецер сілы кінуў!

Вунь, прымець, старуха-хвойка
Сскочыла з карэння,
А вунь там з бярозы бойкай
Валіцца паленне.

Пакацілася удоўжкі
І асіна-сваці...

Фу, ты! аж мяне у дрожкі
    Пачало кідаці!..

Што? Не ўстояла і ліпа —
    Рухнула, бядачка!..
Ці ж быць можа? Ўжо захліпаў
    І стары твой бацька.

Ах! што гэта?.. Праз узгоркі...
    Ці ж то к нам?.. Ой, ногі...
І, не скончыўшы гаворкі,
    Рынуў дуб, як доўгі.

*1918*

## СПАДЧЫНА

Ад прадзедаў спакон вякоў
Мне засталася спадчына;
Паміж сваіх і чужакоў
Яна мне ласкай матчынай.

Аб ёй мне баюць казкі-сны
Вясеннія праталіны,
І лесу шэлест верасны,
І ў полі дуб апалены.

Аб ёй мне будзіць успамін
На ліпе бусел клёкатам
І той стары амшалы тын,
Што лёг ля вёсак покатам;

І тое нуднае ягнят
Бляянне-зоў на пасьбішчы,
І крык варонiных грамад
На могілкавым кладзьбішчы.

І ў белы дзень, і ў чорну ноч
Я ўсцяж раблю агледзіны,

Ці гэты скарб не збрыў дзе проч,
Ці трутнем ён не з'едзены.

Нашу яго ў жывой душы,
Як вечны светач-полымя,
Што сярод цемры і глушы
Мне свеціць між вандоламі.

Жыве з ім дум маіх сям'я
І сніць з ім сны нязводныя...
Завецца ж спадчына мая
Ўсяго Старонкай Роднаю.

*1918*

## СЯВЕЦ

На заўтра, к налеццю
Свой сею загон,—
Ад бацькі прыкмеціў
Так сеяць, як ён.

Лубянку-сявалку
Дзед сплёў мне даўно,
Ў сявалцы без малку
Бурштын-сам зярно.

Знаток сваёй рэчы,
Іду к старане,
Каб вецер у плечы,
Не ў вочы, дзьмуў мне.

Прывычнаю жменяй
Зярняты кладу,—
Дзе болей, дзе меней
Сляджу на хаду.

Сляджу, каб абсевак
Не кінуці дзе,

Бо з ім неспадзевак
Благіх шмат ідзе.

Кулёвай саломай
Дасеў прысцялю,
Ад злога залому
Сяўбу бласлаўлю.

Ляжыце, зярняты,
Ў парадак, у рад,
Усходзьце багата,
Каб сейбіт быў рад.

Абходзь ты наўкола
Рунь, Юр'я святы!
Ты, добры Мікола,
Пільнуй ад слаты.

Дай, хмарка-вясёлка,
Жывучай расы,
Маланкай-агнёўкай
Не зводзі красы.

Свой град, Градавіца,
Ў пару сутрымай;
Пярун, Грамавіца,
Ў жніво сунімай!

*1918*

### РУНЬ

Абходзіў зважна гаспадар
Свае абсеяныя межы,
Глядзеў, ці добра Божы дар
На свет зірнуў з зямелькі свежай.

На небе воблачная сінь
Лягла пасцілкаю махнатай,

А на зямлі, дзе вокам кінь,
Цвіце, рунее рунь багата.

Над ёй круг сонца залаты
Плыўнём плыве, палае, йскрыцца,
За ёй, трывожачы кусты,
Бурліць, плюскочыцца крыніца.

На ўзмежку, збыўшыся кары,
Тырчыць ігруша, як сухотнік,
Над грушай ястраб угары
Цікуе кінуты заплотнік.

Як вучыць нас варожбаў лунь,
Як варажыў і летась гэтак,—
Лёг гаспадар плашмя на рунь,
Стаў слухаць сёлета палетак.

Абняўшы рунь, ляжыць, як сноп,
Жывых і мёртвых вызваў ў сведкі,
Прысмерціў сэрца, зморшчыў лоб...
І чуе руні шопат гэткі:

«Забіў ты бацьку, каб на рот
Адзін паменшала у хаце,—
Прыйшоў твой сёлета чарод,
Жніва табе не дачакаці!»

Ўстаў гаспадар! Як дурнап'ян,
Сказ руні раны разварушыў...
Ён, зняўшы пояс-саматкан,
Павіс над руняю на йгрушы.

*1918*

## ПЕРШЫ СНЕГ

Халоднай пабелай магільна залёг
На зжатае поле, на скошаны лог.

Лёг пухам на лесе, на жоўтых лісцях,
Абсеяў, абсыпаў прысады і шлях.

Так высыпаў ззябна, бязрадасна снег
У першы папас свой, у першы начлег.

Ад стада адбіўшыся, птушка адна
Квіліць і квіліць сярод бела радна.

На небе на снежным ні сонца, ні зор,
На гонях на снежных ні груд, ні разор.

Абснежаны свет без канца, без граніц,
Душа ажно тлее, як свечка з грамніц.

На хаце, за хатай махнаціцца бель,
На белі за тынам, як нітка з кудзель,

Чырвоная стужка скрозь бель зіхаціць,
І ў сажалцы губіць свой след гэта ніць.

Ад рання скараннем бурліць варажба:
Што значыць такі след, такая хадзьба?

Хто смеў першы снег асвянціці крывёй?
Крывавай ён веры — чужы ён ці свой!

Дагадка шыбае ў лядзянай імгле,
Паўзе і прысуд-перасуд па сяле.

Па полі па бледным снуе бледны цень,
А птушка квіліць і квіліць цэлы дзень...

У гэты снег першы брат брата засек
І ў сажалку трупа валок цераз снег.

*1918*

## З ДНЯ Ў ДЗЕНЬ...

Жывём з дня ў дзень мы столькі лет,
А ўсё тым ладам, як жыў дзед,
Галовы клонячы з пакорай;

Адвечных крыўд, адвечных бед
Не бачым мы, не бачыць свет,
І не пабачым, мусіць, скора.

Праз столькі лет, праз столькі зім
Цвіце ў вачах пацёмкаў дым,
І звесці не хапае сілы;

Відаць, святла не знаці тым,
Хто нарадзіўся ўжо сляпым,—
Такім ён дойдзе да магілы.

Жыві з дня ў дзень, цягні ярмо,
Ў крук плечы гні, кажы: дармо!
Не так яшчэ умею, браце.

Ямчэй сабе сам ладзь прызьмо,
Каб не парвалася само,
Бо як ярмо тады цягаці?!

Ці быў прыгон, ці ёсць прыгон,—
Шануй закон — матай паклон,
Бо вылеціш і з роднай хаткі.

Пачуеш звон — кажы, што стогн,—
Знай, брат пакінуў свой загон,
На той свет складывай манаткі.

[*1918*]

## З ДУМАК ЖАБРАКА

Я чалавечак жабрачай натуры —
Жыць не судзілі іначай багі.
З выгляду важан я: косці ды скура,
Не далічуся рукі і нагі.

Важна іду ад парога к парогу,
Спора акрайцаў у зрэбным мяху;

На чалавечую добру ўспамогу
Мушу я меці надзеі крыху.

У дабрадзеяў або ў дабрадзеек
Грошы не смею шмат вельмі прасіць.
Дайце мне толечы колькі капеек,
Каб мог сабе я вяроўку купіць.

Рэшту прыладаў сабе сам дастану —
Ў лесе асіну ці дзе які слуп...
Ці ж не пацеха пані і пану
Бачыць, як нейкі ўскалышацца труп?!

Глянеш, і воку аж робіцца міла!
Жыў вось людзіна і шчасця дарос.
Братняе сэрцайка штось ды зрабіла,
Хоць і не так мо, як баіў Хрыстос.

[*1918*]

## ЯК ЦЕНІ

Ідуць народы з лета ў лета
К жыццю, к святлу з бяды, з жуды,
А мы, як цені з таго свету,
Ідзём, не знаючы куды.

Ні нас свабода прыгалубе,
Ні доля весела зірне;
Паўзём і стогнем у загубе
З ярмом на шыі, ў вечным сне.

Не на пацеху дзеці даны
Матулі, што іх сцеражэ,—
Усё адно сусед паганы
У плуг жалезны запражэ.

Не на прыбытак сеем нівы
І палівае потам іх,

Нахлынуць трутні пражарлівы,
І мы не ўбачым жніў сваіх.

Пад непрагляднай марай ночы
Нам не дабачыць нашых крыўд.
На свет падняць баімся вочы,
Сабе сам кожны ўжо абрыд.

Як мы жывём, чаго чакаем,—
Не знаем мы, не знае свет;
Не то ўжо мром, не то ўскрасаем,
Змагчы не ў сілах мук і бед.

Зайграе шумам лес зялёны,
Аб хвойку хвойка затрашчыць,
І пойдзе шум той к небасклону,
А неба каменем маўчыць.

Маўчым і мы і, як сляпыя,
Як цьмы, снуёмся з кута ў кут,
Адно віхор падчас завые
Ды змей прамкнецца там і тут.

На курганах засвецяць росы —
Крывавы росы — сведкі мук...
А ў хатах спяць цапы і косы —
Усё чакаюць ёмкіх рук.

[*1918*]

## МАТЦЫ

Ты гадуй сынка, матуля,
У пялёнкі спавівай,
Калышы, пей люлі-люлі,
Пей пацíху баю-бай!

Над калыскай з бегам ночак
Песні роднай не жалей,

Каб, як вырасце сыночак,
Верным вечна ён быў ёй.

Як навучыцца хадзіці,
Маткі мову разумець,
Ты вучы яго любіці,
Ўсё сваё ў пашане мець.

Бай яму даўнейшы казкі,
Аб бацьках сваёй зямлі,
Як жылі без чужой ласкі,
Як слугамі не былі.

Як на веча сход ззывалі
І тварылі свой закон,
Як жылі ды панавалі,
Покі ўпалі у палон.

Як жа ў розум убярэцца
Твой сынок, як мак у цвет,
Дужым стане, што, здаецца,
Павярнуў бы цэлы свет,—

Выпраўляй яго у людзі,
На дарогу блаславі,
Разам з крыжам дай на грудзі
Роднай вузельчык зямлі:

Каб не даўся ў крыўду здзекам,
Не забыў сваіх старон,
Каб вярнуўся чалавекам
К роднай Бацькаўшчыне ён.

Ды узяўся шчыра, міла
Сеяць шчасце, гнаць бяду,
Стаў адважна словам, сілай
За свой край і грамаду.
. . . . . . . . . . . . . . .
Гэта ўсё ўпаі дзіцяці
З малаком сваіх грудзей,
Бо іначай пойдзеш, маці,
Жабраваць хлеб у людзей.

[*1918*]

## ПАЯЗДЖАНЕ

Распаўзлася па абшары
Сцюжным пухам, сцюжнай марай
Папаўзуха-завіруха —
Злога духа злыбядуха.

Ў полі дымна, ў полі цёмна,
Беспатольна і заломна,
Ні пуціны, ні упыння,
Як у вечнай дамавіне.

Як у моры, ў белым снегу,
Без днявання, без начлегу,
Ў бездарожжа, ў беспрыстанне
Едуць, едуць паязджане.

Едуць, едуць, ані следу,
Ні праслуху, ні прагледу,
Ні прасвету, ні надзеі,—
Ўсё ў зацьмішчы, ўсё ў завеі.

Папаўзуха-завіруха
Шэпча, шэпча штось да вуха
Аб музыцы-дудаграі,
Аб пшанічным караваі.

Снежным надзячы начлегам,
Пасыпае сном і снегам,
Лазам лезе ў сэрца, ў вочы,
Зазірае патарочай.

Маладога к маладусе,
Свата к сваццi-пасядусе,
Да закосніцы закосню
Жах прытульна прыкаросніў.

Прытуліліся, як дзеці,
Як галубкі на рассвеце,
Як нішто ні знаць, ні ведаць,
І ўсё едуць, едуць, едуць.

А над імі збеядуха,
Папаўзуха-завіруха,
Снежнай хустаючы вехай,
Захліпаецца ад смеху.

*1918*

## КРЫЎДА

Цягалася Крыўда па свеце,
Ад хаты да хаты блудзіла;
Тым строіла вечныя сеці,
Тых гнала без часу ў магілы.

Ад хаты да хаты йшла з хвалай,
Ўзвялічвала троны, кароны;
Нявольнікам путы кавала,
Пладзіла сусветныя стогны.

Здавалася, ноч не пяройдзе,
Іржа не згрызе вечных путаў,—
Аж бліснуў пажар на усходзе,
І дрогнулі рабскія скруты.

І дрогнула Крыўды ўсяўлада,
Разлёгся скрозь кліч перуновы;
Апалі кароны, пасады,
З нявольнікаў спалі аковы.

І мілай пацехай заззяла
І доля і слава людская,
Дый толькі, знаць, слава і хвала
Недаўгавечнай бывае.

Раскованы раб сябе выдаў —
Не ўзнёсся ўвысь дух чалавечы,—
Нявольнік пабратаўся з Крыўдай
І ў помач ёй даў свае плечы.

*1918*

## МАЯ ВЕРА

Не веру ідалам паганым,
Што выразаюць разьбяры,
Бажкам не веру маляваным,
Што мажуць фарбай маляры.

Не веру купленым пракрокам,
Што з казальніц за грошы лгуць
І сочаць прагавітым вокам,
Скуль больш чырвонцаў ім нясуць.

Не веру ў фокуснікаў цуды
Усіх народаў і вякоў,
Што ў ход пускаюць хітра ўсюды
Туман на цёмных слепакоў.

Не веру ў каменны багоўні,
Ў людской асвенчаны крыві,
Дзе толькі вяжуць, бы ў прыгоне,
Жывому духу ланцугі.

Ні за якую плату, меру
Не дамся гэтай варажбе...
Ў народ і край свой толькі веру
І веру ў самаго сябе.

[*1918*]



# 1919

## СВІТАЕ

Эй, годзе ўжо спаць! Уставайце!
Глядзіце — світаць пачало.
Скарэй жа, скарэй паспяшайце:
Нясе сонца свет і цяпло.

Яно сэрцы нам разагрэе,
Адчыняцца вочы на свет,
Яно сон наш хутка развее,
Вясёлы шлючы нам прывет.

Ўжо годзе, ўсю ночку праспалі,
Ўжо годзе, у цемры былі;
Глядзіце — ноч скрылась удалі,
Свет сонца царыць на зямлі.

[*1919*]

## СЫН І МАЦІ

— Мамка, мамка! Што так плачаш?
І крыжамі неба значыш?
Ці ж баішся вельмі неба?
То ж яно дае нам хлеба!

— Бачыш, сынку: цёмна хмара
Залягла, як злая мара,
Градам выб'е наша збожжа,
Хлеб паводкаю зніштожа.

— Мамка, мамка! ўжо мінула
Чорна хмара й не чапнула
Нашу хату і збажынку,
А ты плачаш безупынку...

[*1919*]

* * *

Калі часам табе сэрца ные, баліць
І захочаш свой боль прад кім выліць ў жальбе,
Дык вось, брат малады, я тут раду падам,
Да каго бы ў той час ды звярнуцца табе...

Сярод поля — ці дзе там — над быстрай ракой
Сабе камень вялікі халодны знайдзі
І гарачай сваёй маладой галавой
З сэрцам змучаным ты да яго прыпадзі.

І усё ты яму шчыра, смела кажы,
Падзяліся усім сваім болем-жудой,
Ўсю балесць свайго сэрца прад ім ты злажы
І пры гэтым скрапі брыльянцістай слязой.

Ад гарачай слязы камень стане цяплець,
Ў лучах сонца адсвецяцца слёзы твае;
Пад іх водбліск ў душы ураз стане святлець,
Уся сумнасць жуды адхлыне ад яе.

І адыдзеш ты з лёгкай, спакойнай душой...
Смела!.. Камень не высмее болю твайго...
А ўспануе нядоля ізноў над табой —
Да наверніка смела вярніся свайго.

Да людзей?.. О, ніколі не йдзі да людзей,
Бо не змогуць яны тваіх слёз зразумець;
Ад халодных каменняў іх сэрцы цвярдзей,—
Ні слязой, ні жальбой іх табе не сагрэць!

[*1919*]

## ЛЯСНОЕ ВОЗЕРА

Дрэмле абсаджана лесам адвечным,
Цінай засланае возера ў лесе;
Шастае сціха асока і аер,
Нудныя казкі куст з кустам шапоча.

Сосны і вязы, дубы і асіны
Вокала возера вартай пасталі,
Долу ківаюць паклоны нямыя,
Небу малітву таемную твораць.

Возера! Возера! Йду к табе смутны
Соннаю пушчай, амшалаю сцежкай,—
Жоўтае лісце шасціць пад нагамі,
Шчокі калючка сасновая шчыпе.

Сам з сабой насам пад дубам саджуся,—
Вочы і думкі пабеглі далёка...
Сцішна над возерам, воблачна ў небе...
Недзе запелі Узвіжанне гусі.

*1919*

## З ПАВЯЎШАЙ СЛАВЫ...

З павяўшай славы быўшых дзён,
З магільных прадзедавых крас,
Пад стогн няволі, путаў звон
Мы зложым песню, зложым сказ,
А так агністы, як пажар,
А громкі так, як грому ўдар.

І так, каб чуў і брат, і кат
З нізін-далін, з высокіх гор;
Ад меж да меж, ад хат да хат
Зайграем свету ў дружны хор
З жыццём у тон, з віхрамі ў тон,
Пра свой папас, пра свой палон.

Хай тое ўсё, што спала ў сне,
Паўстане яваю жывой,
І светам блудным здрыгане,
І панясе скрозь светач свой
Ад краю ў край, між спячых сіл,
Аж там — да бацькаўскіх магіл!

*1919*

## БЕЛАРУСКІЯ СЫНЫ

Па беларускім бітым шляху,
Б'ючы ў кайданавы званы,
Брыдзе чужынец, а з ім побач
Хто?
— Беларускія сыны!

У беларускім вольным краі,
З ярэмнай збрыўшы стараны,
Царыць чужынец, а ў паслугах
Хто?
— Беларускія сыны!

Над беларускай беднай хатай,
Як полка вырвана з труны,
Вісіць чужы сцяг, а трымае
Хто?
— Беларускія сыны!

У Беларусі спеў чужацкі,
Як над касцямі груганы,
Крумцяць чужынцы, а іх складам
Хто?
— Беларускія сыны!

На беларускім буйным полі
З вясны да новае вясны
Растуць крыжы, а пад крыжамі
Хто?
— Беларускія сыны!

*1919*

## НАД КАЛЫСКАЙ

Калыхала маці сына
У калысцы у ліповай
І пяяла яму песню
Вось як тутка, слова ў слова:

— Люлі, люлі, мой маленькі!
Спі і сні вясёлкі-гулі,
Як жа вырасцеш вялікім,—
Не забудзься ты матулі.

Люлі, люлі, мой маленькі!
Спі, злажыўшы ўкрыж далонкі,
Як жа вырасцеш вялікім,—
Не забудзься ты старонкі.

Люлі, люлі, мой маленькі!
Спі, як кветка напрадвесні,

Як жа вырасцеш вялікім,—
Не забудзься гэтай песні.

Люлі, люлі, мой маленькі,
Набірайся моцы, сілы,
Як жа вырасцеш вялікім,—
Не забудзь маей магілы.

Люлі, люлі, мой маленькі!..
. . . . . . . . . . . .
Сын павырас, на лес гледзя,
А ці помніць песню маткі,—
Запытайся у суседзяў.

*1919*

## ГРУГАН

Кожнай вясны, як выходжу
    Свой засяваці загон,
Чорны груган вылятае
    Знекуль — з няшчасных старон.

Крылле, як вехі, разняўшы,
    Страшны затачвае круг:
Крумкае, гракае жудка,
    Жудкі сплятае ланцуг.

Сумныя думы абсядуць,
    Ног не павырваць з раллі.
Млее рука, а сявалка
    Цісне і цісне к зямлі.

Восень як прыйдзе, і з поля
    Выйду збіраці сяўбу,—
Гэты ж груган вылятае,
    Гэту ж вядзе варажбу.

Звісне пад хмарамі зданяй,
    Воч не спускае з мяжы,

Косці пасеяны ліча,
    Ліча людзей і крыжы.

Гляну, і сілы слабеюць,
    К думам сцікаецца жах,
Сціснецца сэрца ад болю,
    Ноч замігціць у вачах.

Гэтак вось кожны год вечна,
    Ў поле як толькі іду,
Знекуль груган вылятае
    І наклікае бяду!

*1919*

## ВОСЕНЬ

Села пад пушчаю Восень,
Вочы ўтаропіўшы ўдаль;
Жаль ёй павяўшых дакосін,
Спетых дажынак ёй жаль.

Пацеры шчыра шапоча,
Нудную шэпча мальбу;
Творыць паціху уночы
Свету сваю варажбу.

Склікала вецер і хмары,
Кожнаму дзела дала:
Вецер завыў на папары,
З хмары павісла імгла.

Вецер, убраўшыся ў сілы,
Лесам, як вехцем, трасе,
Крыж вырывае з магілы,
Круціць салому ў страсе.

Хмара, упіўшыся морам,
Хвошча і хвошча дажджом,

Плача нязмераным горам,
Жаліць душу, як нажом.

Вецер і хмара дахаты
Просяцца, лезуць смалой:
Вецер дзьме ў комін заўзята,
Хмара лье ў вокны залой.

Ў шчылінах свіст не сціхае,
Муціць, варожыць, кляне,
Як бы жывы хто ўздыхае
Ў слёзнай паўяве, паўсне.

Мокрыя каплі па шыбах
Плюскаюць, хлюпчуць, бубняць,
Быццам людцоў у сялібах
Мецяць патопай даняць.

— Скуль вы? Што трэба вам, госці,
Зваў вас які гаспадар? —
З хаты пытаецца хтосьці
Буйнага ветру і хмар.

— Восень сюды вам за кару
Выгнала нас на папас! —
Гэтакі вецер і хмара
Кідаюць хаце адказ.

І ўзноў завыў вецер жудка,
Дождж пачаў сцёбаць сільней...
А там пад пушчай ціхутка
Моліцца Восень далей.

Знізвае пацеры Восень,
Вочы ўтаропіўшы ўдаль;
Жаль ёй павяўшых дакосін,
Спетых дажынак ёй жаль.

*1919*

## ВАЯК

Сеў ваяк на каня,
Ў рукі ўзяў востры меч
І пусціўся дадня
Пашукаць, каго сеч.

Немалы ехаў час,—
Не сустрэўся нідзе,
Аж напроці якраз
Вораг войска вядзе.

У яго старану
Гмін вядзе на грабеж;
Перайшлі баразну —
Пагранічны рубеж.

Схамянуўся ваяк,
Кроў зайграла ў грудзёх:
Сціснуў меч у руках,
Конь памчаў з усіх ног.

Наляцеў, як пярун,
На разбойніцкі зброд;
Запусціў меч-кладун,—
Сцеражыся, народ.

Б'е агонь з дзецюка,
Косіць голавы з плеч,
Не здрыгнецца рука,
Не тупеецца меч.

Тысячу ўжо лягло,
Ўжо другую сячэ,
А праціўнік назло
Войска больш валачэ.

Гэй, трымайся, дружок!
Не дрыгні ў барацьбе:
Жджэ пахвалы вянок,
Жджэ дзяўчына цябе!

На бяду захацеў
Дзеўку ўспомніць ваяк,—

Меч з рукі паляцеў,
Сам зваліўся наўзнак.

Рухнуў побач і конь —
Разам жыў, разам лёг;
Неба ясная тонь
Свой паслала палог.

Спіць ваяк з доляй сам,
Над ім птушка пяе,
А дзяўчыне няўцям,
Што памёр праз яе.

*1919*

## КНЯЗЬ

З-за далёкай стараны
Едзе, едзе князь, князь;
Конь пад князем буланы,
Капытамі бразь, бразь!

Зброя золатам гарыць,
Толькі ў сонцы зях, зях!
У руцэ меч князь дзяржыць,
Так і гэтак мах, мах!

Скача конь на паваду...
Ціха, косю, стой, стой!..
Чэрпе дзеўчына ваду,—
Як зірнула: ой, ой!

— Пачакай, бо даганю,
Дзяўчынанька, гэй, гэй!
Дай вады майму каню,
А мне песню спей! спей!

Князь і молад, і прыгож,
Як у садзе мак, мак,

І дзяўчына — як цвет рож,
Як лілея, так, так!

Піць дала каню з вядра,
Спела песню там, там,
Князь горсць кінуў серабра
І паехаў сам, сам.

Ўзяўшы ведзеркі свае,
Дому дзеўка йдзе, йдзе
І так жаласна пяе:
Доля, доля, дзе, дзе?

*1919*

## ПАЎСТАНЬ...

Паўстань з народу нашага, прарок,
Праяваў бураломных варажбіт,
І мудрым словам скінь з народу ўрок,
Якім быў век праз ворагам спавіт!

Збяры ў адну ўсю Беларусь сям'ю,
Вазьмі з яе прысягу і зарок,
Што не прадасць сябе, сваю зямлю...
Зняць путы Бацькаўшчыне ўстань, прарок!

*

Паўстань з народу нашага, пясняр,
Былых і будучых вякоў баян,
І ў бурны кліч, як буры ўдар,
З віхрамі загудзі пад звон кайдан!

Гудзі над Беларусяй з краю ў край,
У сэрцах спячых распалі пажар,
Над курганамі перуном зайграй!
Збудзіць нябожчыкаў паўстань, пясняр!

*

Паўстань з народу нашага, ваяк,
І волатам на вогненным кані
Народ аграблены — бы з торб жабрак —
За Бацькаўшчыну павядзі ў агні!

Да хвалы шлях айчыне пакажы,
Змяці з палёў яе чужых бадзяк,
На стражы стань гранічнае мяжы...
Свой край заваяваць паўстань, ваяк!

*

Паўстань з народу нашага, Ўладар,
Адбудаваць свой збураны пасад,
Бо твой народ забыў, хто гаспадар
І хто яго абдзёр з каронных шат.

На Ўладара жджэ Беларусь даўно,
І жджэ цябе ўладарства Божы дар,
Вялікае, магутнае яно...
Пад беларускі сцяг прыйдзі, Ўладар!

*1919*

## НА НАШЫМ...

На нашым полі
Растуць бадылі,—
Ніхто іх не поле,
Не вырве з зямлі.

Над нашай нівай
Крумцяць груганы,—
Ніхто ў іх шчаслівай
Не пусціць стралы.

На нашым лузе
Гадзюкі шыпяць,—

Ніхто іх не хлудзіць,
Не гоніць у гаць.

У пушчы ў нашай
Заводзяць звяры,—
Ніхто іх не страша,
Не гоне ў нары.

На нашым шляху
Калдобінаў цьма,—
З нягоды ці страху —
Раўняць сіл няма.

У нашай хаце
Тчэ кросны павук,
А вонкі пагнаці
Не знойдзецца рук.

У нашым краі
Пануе чужак,
Ніхто не парае,
Пазбыціся як.

*1919*

## МАЯ НАВУКА

Мне мудрасці кніжнай не даў Бог пазнаці,
Мой бацька не мог даць раскошаў такіх —
Навучыўся я слоў беларускіх ад маці
І дум беларускіх без школы і кніг.

Ад самай красы маіх дзён невясёлых
Настаўнікам быў беларускі абшар;
Усходы палеткаў і гоманы ў сёлах
Навуку сваю мне прыносілі ў дар.

Душу акрылялі прыгожасці свету,
Па гонях пад небам лунала яна,
Купалася ў сонцы вясёлкай распетай,
Сама, як вясёлка, як казка-вясна.

І п'яная чарамі, п'яная песняй,
Як сон заварожаны райскіх мясцін,
Шаптала мне дзівы цвітучых прадвесняў
І песняй лілася з паходам часін.

Бурлівая рэчка і млын гутарлівы
Адмерным, раскоцістым плюскатам вод
Складалі мне рытму мастацкія звівы,
Парадквалі складаў раскоцісты ход.

Цяністыя бітага шляху прысады
І ў вырай лятучыя гусяў шнуры
Гармонію ўводзілі ў песельным складу,
Сачылі нязгоднай зваротак ігры.

Зялёнае поле рунеючым збожжам,
Цвітучая ў сонечны цвет сенажаць
Мне песню квяцілі узорам прыгожым,
Вучылі, як словы ў вянок завіваць.

Ад шопату спелых пшанічных калоссяў,
Ад шэлесту лісцяў узмежных ігруш
Музычнае водгулле ў песню лілося,
Зліваласся з жальбамі скрыўджаных душ.

Шум бору адвечнага казкавым сказам
Нашэптываў смутную повесць жыцця
І песню ў шум-гоман захопліваў разам,
Заснуўшыя думы будзіў з небыцця.

А сонца, скрозь сеючы іскры па свеце,
Мне песню іскрыла нябесным святлом,
А вецер, што ў полі рве дзёрны і сеці,
Даў волю і крылле лунаці арлом.

Каса, і сякера, і цэп малацьбітны
Магутную волатаў сілу далі;
Марозы і спекі далі гарт нязбытны —
Мне песню, як звон, як пярун, адлілі.

Так іншай не знаўшы навукі і школы,
Ў пацёмках шукаў і знайшоў Божы дар;
Цяпер маймі скарбамі — думы-саколы,
Цяпер беларускай я песні ўладар.

*1919*

## ДЗВЕ ДОЛІ

Расце бярозка серад поля,
Ўдалі ад лесу, сіратой;
Жыве пясняр з сваёй нядоляй,
З сваёй маркотнаю душой.

Ваюе з бурамі бяроза,
Мароз, слата сячэ яе;
Пясняр з няпраўдай б'ецца ў слёзах,
За ўсіх цярпіць, для ўсіх пяе.

З бярозкі свежыя галіны
Віхор зрывае, коціць ўдаль,
А песняровы думкі-гімны
Ламочыць крыўда, гора, жаль.

Жыла бярозка, годзе жыці:
Сячэ на дровы дрывасек...
Ідзе пясняр пад дзёрн злажыці
Сваю галаваньку навек.

Бярозка ў печы ўжо вуглямі...
Дымы пад неба ўжо бягуць;
Памёр пясняр, забыт людзямі,
А песню ўсе яго пяюць.

[*1919*]

## ЖЫДЫ

Жыды! «Хрыстапрадаўцы і прыблуды»!
О, слава вам, ўсебеларускія жыды!
Я веру вам, хоць чорнай граззю ўсюды
Плюе вам раб і цар, стары і малады.

Нявольнікі вы сёння з намі разам
На беларускай змучанай зямлі,
Дзе чорны здзек пасвенчаным абразам
Гняце вас разам, як звяр'ё, ў крутой пятлі.

Вы ўскрэснеце, жыды, услед за Беларусяй,—
Сцяг ваш і нашая паходня будуць жыць,
Хоць наш магільнік кветкай апрануўся,
Хоць згубны мор над намі гібеляй імжыць!

Не згаслі вашы і не згаснуць свечкі,—
Вы для народаў далі мудрага Хрыста,
Якому ўзнеслі грэшныя авечкі
Муры, дзе векі бьець паклоны бедната.

Таго ж Хрыста прыбілі вы да крыжа,
Бо ён вам ворагам для Бацькаўшчыны быў,
І распасцерці сваю ўладу выжай
Народ ваш мецiўся пад водгаласы ніў.

Але вам край ваш выдзерлі народы,
На вечнае бадзянне ў прочкі згналі вас,
І разбрыліся вы — ўсе вашы роды
Па нетры ўсіх старон на векавы папас.

І вось, Усход і Захад, Поўдзень, Поўнач,
Уся зямля гасцьмі тады вас прыняла,
Вы ўсім і ўсе няслі вам братню помач,
Вы ўсіх тады і ўсе вас сцераглі ад зла.

Калі ў Гішпаніі ўзбунтаваны людзі
З сваёй краіны выгналі вас напасмех,
На беларускім полі вашы грудзі
Навек знайшлі дняванне, страву і начлег.

Шлі дні. І вас у ланцугі скавалі
Бязбожны каралі і дэспаты-цары.
Адны вас беларусы шанавалі,
Як блізкіх родных — да святлейшае пары.

Масква й Варшава аплюлі вам імя
І ў дзікай чэрні ненавісць спладзілі к вам,
А Беларусь пад крыллямі сваімі
Вас грэла й вашым нянькаю была дзяцям.

Пасля, жыды, вы зрэкліся народу,
Які вам шчыра даў багацце і прыпын;
Пайшлі прыдбаць сабе чэсць і выгоду
Да сільных тых, хто даў вам вісельню і чын!

Раскіданыя гібнуць па ўсім свеце.
Вы Месіі чакаеце яшчэ, жыды,—
Тэй Месіі ждуць Беларусі дзеці.
І з вамі пойдуць, як вы з намі, ўсе тады.

Ваш ясны светач там, дзе Палестына,
Наш ясны светач — Маці-Беларусь адна;
Спадзе ланцуг ваш у сляпым загіну,
Спадзе ланцуг наш і заззяе ўсім вясна!

Цяпер за вамі слова ў буру гэту:
Пайці ці не, з народам нашым да святла...
Пара, жыды, паны усяго свету,
Сплаціці доўг, які вам Беларусь дала!

*1919*

## ПАЭТА І ЦЭНЗАР

*Крыху балада*

*Прысвячаецца быўшым,*
*цяперашнім і маючым*
*быць цэнзарам*

Цяпер ці калісьці — не ўцямлю,
А толькі не лгу ні на міг,—
Паэты пісалі паэмы,
А цэнзары рэзалі іх.

Паэмы (ужо ж не паэтаў)
Сек цэнзар, як вецце пастух,
Аж трэскі-паперкі ляцелі
У чыстае поле, як пух.

І доўга цягнулася гэта,
Як баіць народная весць,
На згубу бунтарскіх паэтаў,
На цэнзарскі гонар і чэсць.

І шлі так гады за гадамі
Пад воклікі чорных імшоў,

Ішоў за паэтам паэта,
За цэнзарам цэнзар ішоў.

І трэба ж — о дзівы! О цуды!
О слаўны дваццаты наш век!
Паэта прыдумаў паэму,
А цэнзар яе не пасек.

А толькі... Паслухайце толькі,
Што з гэтага далей было:
Вы ўбачыце, людзі, як гэта
Ў дабры часам гнездзіцца зло.

Паэта пад потам крывавым,
Не сплючы сто ночак падрад,
Паэму згарусціў, аж міла,
І цэнзару даў на прагляд.

А цэнзар меў добрае сэрца,
Што рэдка у нашым вяку,—
Паэмы не сек і не рэзаў,
А толькі... пагладзіў крыху.

Паэта пісаў:

О віхры, о вы, бураломы,
Свабодных нябёс жыхары!
Дрыгніце разбэшчаным светам,
Збурыце парадак стары!

А цэнзар пагладзіў:

О ветры, зефіркі любыя,
Свабодных нябёс жыхары!
Галубце вы свет наш набожны,
Шануйце парадак стары!

Паэта пісаў:

Зваліце кароны і троны,—
Ўжо досць каралёў і цароў!
Хай будзе народу ўладарства
І панства зямлі жыхароў!

А ц э н з а р пагладзіў:

Шануйце кароны і троны...
О, чэсць каралям і царам!
Патрэбна народу прынука,
Патрэбны бізун жыхарам!

П а э т а пісаў:

Ўжо досыць прыгону і здзеку
І панскага досыць ярма!
Хай будзе раб вольным навекі,
Ён векі цярпеў нездарма!

А ц э н з а р пагладзіў:

Ўжо досыць нам з дэмасам ладзіць...
Замала йшчэ меў ён ярма,—
Хай будзе пан панам навекі,
Ён век панаваў нездарма!

П а э т а пісаў:

О віхры, о вы, бураломы!
Ударце ў заснуўшы курган!
Хай волаты ўстануць да бітваў
І скрышаць закрэпы кайдан!

А ц э н з а р пагладзіў:

О ветры, зефіркі любыя!
Галубце ласкава курган,—
Там дрэмлюць патульныя душкі
Пакорных, паслушных хрысцян.

Увага ц э н з а р а:

Я крышку вам, пане паэта,
Пагладзіў ваш вершык слабы,—
Бо, бачыце, ў ім я прыкмеціў
Залішне шмат грэшнай кляцьбы.



Як гэта паэта пабачыў,
Што цэнзар з паэмай зрабіў,—
Заплакаў, заліўся слязамі,
Ў кулак, як жабрак, затрубіў.

Адзін і другі дзень так плакаў —
На трэці не вытрымаў ён,—
Узяў і памёр, як належа,
У вечны ахутаўся сон.

Прад смерцю толькі пакінуў
Таку эпітаф'ю жывым:
«Памёр я праз цэнзара, браткі,
Мяне не вініце ні ў чым.

Пакуль мяне цэнзары секлі,—
Ах, то ест паэмы мае,—
Яшчэ я мог вытрымаць неяк,—
Пяяць, аб чым думка пяе.

Але як пачалі мне гладзіць
Крывёю напісаны твор,
Не вытрываў, браткі,— каб жыў так!
Узяў я сабе ды памёр».



І спіць у магілцы паэта.
Вяночак на наспе ляжыць:
То сонца магілку цалуе,
То дробненькі дожджык імжыць.

Вясною, у маі вясёлым,
Калі увесь свет у красе,—
Дзяўчынка ўздыхне над магілкай,
Хлапец кулаком патрасе.

А цэнзар,— чытач запытае,—
Што сталася з цэнзарам тым?
Скажу, як мне людзі казалі:
Пайшоў ў манастыр назусім.

Сядзіць там, нічога не робіць.
Аловак свой выкінуў вон
І моліцца, моліцца шчыра.
За цэнзараў моліцца ён.

*1919*

## МОЙ ЦЕНЬ

Як прыйдзе дзень майго збаўлення,
З крывавых церняў вызваленне,—
  А веру, прыйдзе гэткі дзень,—
З імглы адвечнасці паўстане
І крыжам стане на кургане
  Майго жыцця бяссмертны цень.

Без воч, без косці, жыл і сэрца,
Сам крыж, на крыж ён абапрэцца
  І, ўвесь удумаўшыся ўдаль,
Сачыць пачне ўвесь ад пачатку
Мой шлях, які шоў да астатку,
  Які мне толькі кінуў жаль.

Сачыці будзе, як арліца
Дабычу сочыць над крыніцай,
  Чаму з жыццём не ўмеў я жыць;
І наракаць, клясці не будзе,
Што я, што мне зрабілі людзі,
  Не будзе плакаць ён і выць.

Не будзе нават уздыхаці,—
Адно мо вырвецца пракляцце,
  Якім я жыў ад малку лет,
Адно сам аб сабе цень скажа
Крыжам, адвечнай сваёй стражы:
  Каб не радзіўся лепш на свет!..

[*1919*]

## НОВЫ ГОД

Пад звоны зброі, путаў звоны,
Пад свіст раз'юшаных прыблудаў
Брыдзеш з няведамых старонаў,
Як здань няведамага цуду.

На беларускае йдзеш поле,
На акрываўленыя межы,
Дзе закаванай дрэмле воля,
Дзе звоне звон хаўтурны з вежы.

Ідзеш у край, дзе пажарышча
Яшчэ дымець не перастала,
Дзе смерць спраўляе сваё йгрышча
У сполку з чэрняй адзічалай.

Ідзеш у край, дзе сотні летаў
Хто толькі хоча гаспадарыць,
Але не сын зямліцы гэтай,
Які тут косці вечна парыць.

Ідзеш у край, які бязбожна
Жыўцом парэзаны на часці,
А брат проць брата стаў варожна
І памагае край раскрасці.

На Беларусь ідзеш, Год Новы,
На змену йдзеш Старому Году,
Ідзеш і звоніш у аковы,
Як той стары з пачатку роду.

*1919*



# 1920

## БЯСПУТНАСЦЬ

Дзе сонца, дзе сонца прытульнага трэба,—
Там хмары, там золкія хмары снуюцца;
Дзе плакаць, дзе слёзы крывава ліць трэба,—
Там людзі, там людзі жывыя смяюцца.

Дзе песні, пагудкі прызыўнай дзе трэба,—
Там жальбы там нуднай разносяцца стогны;
Дзе жыць, дзе тварыць жыццё новае трэба,—
Там сыплюць магілы, там — смерць, пахароны!

[*1920*]

## 25.III.1918—25.III.1920
## ГАДАЎШЧЫНА-ПАМІНКІ

Не свята светлае спраўляці
Сягоння будзе наш народ.
А трызну па айчызне-маці
Ён справе ў гэты цяжкі год.

У гэту нашу гадаўшчыну
Звініць ланцуг, як і звінеў,
І там, і тутка без упыну
Шалее катні здзек і гнеў.

За катам кат на нашы гоні
Прыходзіў, грабіў, знішчажаў,
Людзей закованых палоніў,
На той свет без пары саджаў.

Край разрываны ўвесь на часці —
Народ аграблены яго —
Не ўбараніўся ад напасці
І ад пагібелля свайго.

Праз два гады на Беларусі
Народ аб радасці не сніў,
А галасіць і плакаць мусіў
На папялішчы хат і ніў.

Над курганамі галасілі
Сіроты, ўдовы, жабракі,
Над імі ж у крывавым пыле
Луналі груганы-крукі.

Лунае груганнё ў прыволлі
На ўсход, на захад, там і тут
І сочыць косці ў чыстым полі,
Дзе вые куля, вые кнут.

Яшчэ дыміць скрозь пажарышча,
Растуць магілы скрозь яшчэ,
А на магілах крыўда свішча
Ды кроў гарачая цячэ.

Не «незалежнасць» праз час гэты
Сваё разводзіла святло,
А падняволле без прасветы,
А рабства Беларусь гняло.

Народ спраўляць памінкі будзе —
Не свята светлае вясны,—
За стол жалобны сядуць людзі
Там, дзе крыжы, дзе курганы!

*1920*

## УСЯНОЧНАЯ

Усяночная
Велікодная
Непраглядная
Распасцёрлася.

Ў цэркве Божае
Свечкі цепляцца,
Ўсё васковыя,
Ўсё ахвярныя.

Людзі грэшныя
Богу моляцца,
Паратуначку
Даглядаючы.

Ў гэту ночаньку
Велікодную
З мёртвых Богавы
Сын васкрэсіцца.

І жывёліна,
І дабрыніна
Узвяселіцца
Узбушуецца.

Толькі ў горасці
Ў чалавечае
Ці прасветліцца
Усяночная?

*1920*

## ПЯЦЬ СЕНАТАРАЎ

Іх сышлося пяцёх на крывіцкіх палёх,
    На абшары не Божым ці Божым,
І давай развважаць, і давай так казаць:
    Найвышэйшую раду заложым.

Бо ўсялякіх спакус мае шмат беларус,
І да ўлады ён мае нахілы,
А найлепш, як нас пяць будзе ўладу спраўляць
Над народам, які для нас мілы.

Як казалі з сабой, так зрабілі, як стой,
Найвышэйшую раду зляпілі;
Папілі барышы, пабылі на імшы
І ў сенатарскі чын уступілі.

Дзень жывуць і другі, а людзей ні крыхі,—
Не спяшыць штось падданы з паклонам,
Хоць зарэж, а не йдзе, вось і вер грамадзе!
А тут сноўдаюць цені ў чырвоным.

Трэба раду як даць,— так іх раіцца пяць,—
Трэба ўсіліць дзяржаўную ўладу...
І спазналі яны, што тут «маркі» адны
Уладзе будуць найлепшай прынадай.

У сваім пачуццю падвялі пад стаццю,
Што не стыд, хоць і ў чорта ўзяць грошы,
А тым болей, калі дні такія пайшлі,
Што падданы ад чорта стаў горшы.

І пайшлі упяцёх за высокі парог
Да «крэсовага» яснага панства;
Ў «пшэдпакоі» падрад сталі, як на парад,
Сенаторскага поўны падданства.

Пазіраюць кругом, штосьці шэпчуць цішком,
А ля іх — ім на дзіва да смерці,—
Беларускі расол белы хлебча арол,
Да то ўправа, то ўлева хвост верце.

Так стаяць, хоць і страх, а тут дзверы шарах!
Лёкай ткнуў ім «крэсовы пачушак»...
Мігам выйшлі яны,— рады, хоць на штаны
Для сябе настаялі «касцюшак».

І жывуць зноў сабе, а падданы не йдзе,
А чырвоны цень ціснецца ў дзіры;
Дык зноў сушаць мазгі, як схадзіць раз-другі,
Сенаторскія сшыць каб мундзіры...

*1920*

# На вайсковыя матывы

*(Песні на ваяцкі лад)*

---

## ДЗЕ ТЫ, ХМЕЛЮ, ЗІМАВАЎ?..

Дзе ты, хмелю, зімаваў,
Што не развіваўся?
Дзе ты, сынку, начаваў,
Што не разуваўся?

Зімаваў я ў старане,
Дзе віхуры дзьмулі;
Начаваў я на вайне,
Дзе гуляюць кулі.

*

Дзе ты, хмелю, ўлетку цвёў,
Што засох без следу?
Дзе ты, сынку, дзень правёў,
Што і не абедаў?

Цвёў я ўлетку, дзе пякуць
Спекі агняваты;
Дзень правёў я, дзе гудуць,
Як грымот, гарматы.

*

Чаму, хмелю, не адну
Зносіў сцюжу, спеку?
Чаму, сынку, на вайну
Шоў ты ў небяспеку?

Доля кінула мяне
Гінуць так, як гіну;
Ваяваў я на вайне
За сваю краіну.

*1919*

## ГАБРУСЯ Ў ЖАЎНЕРКУ ЎЗЯЛІ...

Габруся ў жаўнерку ўзялі,
Ад дамоўства адарвалі.
Зажурыўся стары татка,
Стогне, плача цяжка матка,
Ой, Габруська! Ой, Габруська!

Не журбуйце, тата, маці!
Я ўсядзець не мог у хаце,
Сам пайшоў па добрай волі,
Паспытаць ваеннай долі,
Не журбуйце, не журбуйце!

Сваякі ўсе і суседзі —
Ніхто дома з іх не ўседзеў,
Выйшлі ўсе з аднэю радай —
Бараніцца ад нападу,
Бараніцца, бараніцца!

Мучыць вораг нас заўзяты:
Папаліў нам нашы хаты,
Патаптаў нам наша поле,
Пакараў людцоў няволяй...
Мучыць вораг, мучыць вораг!

І мы ў шапку спаць не будзем,
І пакажам свету, людзям,
Як баронім межы родны
Ад напасці ад нягоднай.
Як баронім, як баронім!

Не журбуйце ж, тата, маці!
Буду вас яшчэ вітаці,
Як з вайны здароў вярнуся
І вам нізка пакланюся...
Не журбуйце, не журбуйце!

А як згіну, то зязюля
Прыляціць да вас адтуля
І ля вокнаў, ля хаціны
Закукуе, што я згінуў.
Закукуе, закукуе!

*1919*

## ГЭЙ,
## ПАЕХАЎ СЫН ДАНІЛА...

Гэй, паехаў сын Даніла
Ваяваць на вайну,
Ад нападу, ад няволі
Бараніць старану.

Сына маці выпраўляла,
Крыж на памяць дала,
Каб матулю родну помніў,
Як паедзе з сяла.

А дзяўчына, міла сэрцу,
Правяла за сяло
І дала на памяць персцень,
Каб у бойках вязло.

Так паехаў сын Даніла
Сам сабой на вайну,
Азірнуўся на хаціну
Ды змахнуў слязіну.

Ехаў поле і другое,
Трэцце поле дасціг,
Дзе сабраліся жаўнеры
З сёл і вёсак усіх.

І пайшлі яны паходам,
Дружна, смела пайшлі,
Каб вон злыбяду прагнаці
З беларускай зямлі.

Добра ўсе там ваявалі,—
Умiралі ў баю.
А найлепш Даніла біўся
За краіну сваю.

Хто йшоў ззаду, а хто збоку,
Азіраўся назад,
А Даніла ўсюды ўперад
Выступаці быў рад.

І ручыла, шанцавала
Ў бітвах цяжкіх яму,

Ажно вораг напужаны
Дзіваваўся таму.

Год мінуў, як ваяваці
Шоў Даніла з сяла,
А ўжо слава па ўсім свеце
Аб ім громка ішла.

Як ачысцілі ваякі
Край ад ворага свой,
Важна ехалі дадому,
Як тых пчол буйных рой.

А наперадзе ўсіх едзе
Наш Даніла з вайны,
Шабля бліскае пры боку,
Конь пад ім буланы.

Ён вязе ўсім падарункі:
Маці срэбны абраз,
А сваей дзяўчыне мілай
Доўгі пацерак звяз.

*1919*

## БУДЗЬ ЗДАРОВЫ, БАЦЬКА, МАЦІ...

Будзь здаровы, бацька, маці,—
Мы пайшлі ўжо ваяваці.
    Свішча куля, йяй-ха-ха!
    Каля вуха дзецюка.
Што за доля, што за воля —
Жаўнероньку выйсці ў поле!
    Свішча куля, йяй-ха-ха!
    Каля вуха дзецюка.
Нам няўцям віхры, грымоты,
Дадае нам гром ахвоты.
    Свішча куля, йяй-ха-ха!
    Каля вуха дзецюка.

Днём ваюем, ночкай дрэмем,
А што блізка вораг — кемім.
Свішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.
Спім на ўзмежку пад ігрушай,
Дождж моча, сонца суша.
Свішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.
Ёсць ці не хлеб і да хлеба,
І без хлеба знойдзем неба.
Свішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.
Мы — ваякі, забіякі,
Сцеражэцеся, ламакі!
Свішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.
Камандзір наш знае дзела,—
Ён на ворага йдзе смела.
Свішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.
Паваюем, пагаруем,
Зато дома запануем.
Свішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.
Запануем, як і людзі,
Ў хату вораг лезць не будзе,
Свішча куля, йяй-ха-ха!
Каля вуха дзецюка.

*(1919 — красавік 1920?)*

## А Ў БАРЫ, БАРЫ...

А ў бары, бары
Тры дарожанькі.
Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!
Тудой шоў жаўнер
Наш прыгожанькі.
Гэй, гэй, гэй, наш прыгожанькі!

*

Стаў, глядзіць жаўнер,
Сумняваецца.
    Гэй, гэй, гэй, сумняваецца.
Па якой пайсці
Надумляецца.
    Гэй, гэй, гэй, надумляецца!

*

Па адной пайсці —
Не пашэньціцца.
    Гэй, гэй, гэй, не пашэньціцца!
Завядзе на ўсход,
Скуль не вернецца.
    Гэй, гэй, гэй, скуль не вернецца!

*

Па другой пайсці —
Абняволіцца.
    Гэй, гэй, гэй, абняволіцца!
Бо ў заходні бок
Шлях той коціцца.
    Гэй, гэй, гэй, шлях той коціцца!

*

Выбіраў жаўнер
Трэццю сцежаньку!
    Гэй, гэй, гэй, трэццю сцежаньку!
Бо вяла яна
Ў родну межаньку.
    Гэй, гэй, гэй, ў родну межаньку!

*

І запеў жаўнер
Той прыгожанькі.
    Гэй, гэй, гэй, той прыгожанькі!
А ў бары, бары
Тры дарожанькі.
    Гэй, гэй, гэй, тры дарожанькі!

*1920*

## ОЙ, ВЯДУ БЯДУ...

Ой, вяду бяду,
А бяда мяне
Водзіць вечным следам;
Гэтак ходзім мы
За адным адно,
Як той дзед за дзедам;
Гэй, паклічу сход,
Ды збяру народ,
Ды збяру жаўнераў,
Хай ідуць вайной
На маю бяду —
На ліхога звера.
На мой кліч на сход
Гмін народу йшло,
Шоў ваяк з ваякам,—
Кожны смел, ахвоч,
Б'е адвага з воч,
Поле ўслалі макам.
Як той лес, жаўнер
Ля жаўнера стаў,
Зброя ў сонцы йграе;
Зварухнуўся полк,
А за ім — другі,
Толькі сцяг міргае.
Мах за крокам крок!
Войска йдзе ў паход,
Быццам тая хмура.
Аж дрыжыць зямля,
Як ваякі йдуць.
Ды пяюць, як бура.
Гэй, выходзь бяда,
Гэй, выходзь, хто нам —
Непрыяцель — вораг;
Пачаступм так,
Што папомніш век,
Ды сатром на порах.
Знай, жаўнеры мы,
Выйшлі не на жарт
Біцца, ваяваці;
Знай, хавалі нас
Поле, бор і лог
Беларусі-маці!

*1920*

## ЕДЗЕ ЯНКА Ў ПОЛЕ...

Едзе Янка ў поле,
Едзе ваяваці,
А дзяўчына, як маліна,
Выйшла праважаці.

Адчапіся, дзеўка!
Што ты ка мне маеш?
Бачыш, еду на пабеду,
А ты замінаеш.

Журыцца дзяўчына,
Што Янук пакінуў...
Той паехаў на пацеху,
Бараніць Айчыну.

Доўга ці каротка
Ваяваў наш Янка,
Ажно ў вёску ён дарожкай
Прэцца, як маланка.

І дамоў прыехаў
З тэй вайны, здалёку,
А дзяўчына, як маліна,
Пазірае збоку.

Падыйдзі, дзяўчынка,—
Ці ж мяне не знаеш?
Бачыш, еду я з пабеды,
А ты ані дбаеш.

Цешыцца дзяўчына,
Што Янук не згінуў,
Той ураз жа ёй і кажа:
Ўбараніў Айчыну.

*1920*

## ГЭЙ, У ЛЕСЕ, ПРЫ ДАЛІНЕ...

Гэй, у лесе, пры даліне,
У нас сталася бяда.
Гэй, гэй, у лесе, лесе
У нас сталася бяда.

К нам там выйшла на сустрэчу
Дзяўчынанька малада.
Гэй, гэй, выйшла на сустрэчу
Дзяўчынанька малада.

А мы, хлопцы, ўсе не зломкі,
Спадабалі ўсе яе.
Гэй, гэй, хлопцы, хлопцы,
Спадабалі ўсе яе.

Кожны лезе па-жаўнерску
Прытуліці да сябе.
Гэй, гэй, лезе, лезе
Прытуліці да сябе.

Чуць не сталі нашы хлопцы
За дзяўчыну біцца там.
Гэй, гэй, сталі, сталі
За дзяўчыну біцца там.

Аж тут кажа камандзір наш
Кінуць жэрабя ўсім нам.
Гэй, гэй, кажа, кажа
Кінуць жэрабя ўсім нам.

Хто лёс будзе мець шчаслівы,
Будзе мець дзяўчыну той.
Гэй, гэй, будзе, будзе,
Будзе мець дзяўчыну той.

А так біцца за спадніцу
Не гадзіцца, дружа мой.
Гэй, гэй, біцца, біцца
Не гадзіцца, дружа мой.

Вось мы лёсы пацягнулі.
Ах, каб цёмны на іх вір!
    Гэй, гэй, лёсы, лёсы,
    Ах, каб цёмны на іх вір.

Самі, братцы, пасудзіце:
Выйграў дзела камандзір.
    Гэй, гэй, братцы, братцы,
    Выйграў дзела камандзір.

*1920*

---

## У ВЫРАЙ!

Гэй, вольныя птахі, саколія дзеці!
У вырай! Да сонца вясёлкавым шляхам!
Час сонца схапіці і сонцам ірдзеці
І зведываць светы арліным узмахам.

Гэй, вольныя птахі, патомкі крывічаў!
Да неба! Па зоры і гром перуновы...
Час крылле расправіць — пагудка ўжо кліча,
Ўжо віхры цярэбяць да шчасця шлях новы!

Гэй, вольныя птахі, ўладарнікі песні!
На шляхі, пад сцягі красы і свабоды!..
Час вылецець к славе з пагібельнай плесні
І песняй агністай дзівіці народы.

*1920*

## НА БІБЛЕЙНЫЯ МАТЫВЫ

*(З псалму 78)*

Божа! Паганцы прыйшлі на айчыну тваю,
    Дом апаганілі, дом твой святы;
Кінулі целы тваіх слуг зямному звяр'ю,
    Птахам паднебным на страву — трупы.
Рэкамі скрозь палілася чырвоная кроў.
    Некаму справіць набожных спамін-хаўтуроў.

Нашы суседзі нябожна паганьбілі нас;
    Здзекам, пасмешышчам нас адалеў
Той, што у нашы сялібы прыйшоў на папас,
    Нашыя хаты змяніўшы у хлеў.
Докуль, о Божа, ты гневацца будзеш маўчком?
    Хутка ж твая ўспаланее заўзятасць агнём?!

Вылі гнеў твой на паганцаў, што вечна цябе
    Знаці не знаюць — яны, іх сям'я;

Вылі гнеў твой і на царствы, ў сваёй што мальбе
Вечна твайго не ўзывалі імя.
Бо усмярцілі яны твой слухмяны народ,
Месца яго спусташылі на захад і ўсход.

Каб не казалі пагане паміжы сабой:
Дзе ж гэта іхні той Бог ці ён глух?
Помста твая хай раздасца над хэўрай сляпой,
Помста пралітай крыві тваіх слуг.
Стогны скаваных твой воблік адчуюць няхай,
Дзетак забітых бацькоў ад загубы ўхавай!

*1920*

## ДРЭМЛЕ ЮРКА

Ёсць старонкі, дзе ў народзе
Беды не гуляюць:
Хлеба годзе, святла годзе,
З волі карыстаюць.
А у нас жа, што за дзіва?
Бяздольнасць такая!..
Дрэмле Юрка ў закануркy
І долі чакае!

*

Пахілілася хаціна,
У хлявочку пуста;
Толькі латы — кажурына,
Хлеба — хоць бы луста.
Кепска жыці, што ж такое,
Хто аб гэтым дбае?..
Дрэмле Юрка ў закануркy
І долі чакае!

*

Чутны воклік пахаронны,
Крыж стаўляюць новы;

Дзень і ноч у кузнях-горнах
    Ладзяць, клеплюць ковы;
Беспрасветна, беспуцінна,
    Як магіла тая!..
Дрэмле Юрка ў закануркy
    І долі чакае!

*

Дабрадзеяў, як на тое,
    Хоць прудзі ты рэкі!
Слаўна, Юрка! Што ж такое?
    Мае шмат апекі.
Хоць яму апека гэта
    Косткаю у горле...
Дрэмле Юрка ў закануркy
    І чакае долі!

[*1920*]

## «НЕ ЎСЕ ДОМА»

Мы ад дзеда аж да ўнука,
Як дзе бачым што не так,
З вечнай тычымся навукай,—
І гаворым, хоць няўзнак,—
    Ці сваёму, ці чужому:
    «Не ўсе дома, не ўсе дома!»

*

Знаў хлапца, Арцёмам зваўся,
Меў тады семнаццаць год;
Бедзен, нерахман здаваўся,
Кемкі ж быў, каб яго звод!
    А плялі ўсе на Арцёма:
    «Не ўсе дома, не ўсе дома!»

*

Ад стыдлівасці ён нейкай
Да карчмы не знаў дзе след;
За апошнюю капейку
Купіць кніжак ці газет.
    І тут валяць на Арцёма:
    «Не ўсе дома, не ўсе дома!»

*

Вось сабе дзяўчыну мае,—
Стаў вяселейка спраўляць;
Беднавата маладая,
Гаспадыня ж — пашукаць!
    Тут ізноў ўсе на Арцёма:
    «Не ўсе дома, не ўсе дома!»

*

Стаў жыць з жонкай удваёчку
Працавіта небарак —
На сям'ю сваю дзень, ночку,
Як мурашка, проста так...
    А ўсе валяць на Арцёма:
    «Не ўсе дома, не ўсе дома!»

*

Вось і ў школу ходзяць дзеці,—
Кожны чыст, абмыт, абшыт,
Сам не хвор і лапці ўздзеці
І заціркаю быць сыт.
    І тут валяць на Арцёма:
    «Не ўсе дома, не ўсе дома!»

*

Сходзяць годы за гадамі,
І Арцёма хоць на «ўра!».
Ён з сынамі, як з дубамі,
Статак, коні, моц дабра!
    Аж сягоння на Арцёма
    Штось не кажуць: «Не ўсе дома!»

[*1920*]



# 1921

## ПЕСНЯ І КАЗКА

Песня і казка
Ходзяць у пары,
Сеюць па свеце
Дзівы і чары,

Будзяць спрасоння
Думкі дзіцячы,
Як той уранні
Промень свяцячы.

*

Песня і казка
Як у крышталі,
Свету пакажуць
Тайныя далі,

Шляхі намецяць
К сонцу і зорам
Для людской долі,
Скованай горам.

*

Песня і казка
Ў райскіх праявах
Шчасце збудуюць
З кветак яскравых.

Сэрца атуляць
Вечнаю ласкай...
Слухай жа, сэрца,
Песняў і казкаў.

*1921*

## БАЙ

Бегаў бай па сцяне
У чырвоным кафтане.
Байку баіў. Ай, лю-лі!
Жылі пчолкі у вуллі...
    Баіць ці не?
        — Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Шла вясна па вясне,
Жылі пчолкі з году ў год...
Бралі ў соты з кветак мёд...
    Баіць ці не?
        — Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Ніхто пчолак не кране;
Самі мёд збіраюць той,
Самі ласваюць зімой...
    Баіць ці не?
        — Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
У той самай старане
Пустапасам труцень жыў,
Неяк з пчолкамі здружыў...
    Баіць ці не?
        — Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Труцень кажа: «Дайце мне

Глянуць, пчолкі, у вуллёк,
Паспытаці ваш мядок!..»
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Ці так добра, ці так не,—
Пчолкі добрымі былі,
Трутня ў госці прынялі...
Баіць ці не?
— Баіць!

Бегаў бай па сцяне...
Труцень пальцам не кіўне:
Пчолкі мёд нясуць да сот,
Труцень есць ды есць той мёд.
Баіць ці не?
— Не!

*1921*

* * *

Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі
Да збураных гнёзд на палях Беларусі;

Як «бежанцы» тыя, ганяны тугою,
Да роднага краю плывуць чарадою.

А думцы маркотна, а думка не бачыць,
Як птушка і тая айчынай маячыць.

Мкне з выраю птушка, а думка у вырай
Ляцела б, ляцела, а шчыра, так шчыра!

*1921*

## СЫН І МАЦІ

Сын

— Мамка, мамка, нам сягоння
Гаманілі ў школе
Аб якойсьці Беларусі,
Што жыве на волі.

Хоць я слухаў вельмі шчыра
(Не люблю іначай),
Ды ніяк не мог уцяміць,
Што ўсё гэта знача.

Маці

— А вось тое, мае дзеткі,
Глянь-зірні наўкола:
Бачыш гэтыя сялібы,
Хаткі нашых сёлаў;

Гэта поле — шнур ля шнура —
Ўзгоркі і лагчынкі,
На узмежку грушу-дзічку,
Крыж каля пуцінкі?

Бачыш логі, сенажаці,
А на іх — крыніцы,
Далей — бор зялёны, гонкі,
Што увысь глядзіцца?

А там далей, дзе ўжо вока
Дасягнуць не можа,
Тое самае пабачыш,—
А ўсё так прыгожа!

Сотні вёсак і мястэчак,
Гарадоў нямала,
Рэк бурлівых, пушч гамонкіх
З неапетай хвалай.

Там плывуць Дняпро і Сожа
Ды Дзвіна і Нёман,
Белавежы, Налібокаў
Там чуваці гоман.

Гарады — Мінск, Віцебск, Вільня,
Магілёў, Гародня
І Смаленск з сцяной цаглянай
Разляглі выгодне.

Аб вялікай нашай славе
Сведчаць на свет цэлы,—
Як жылі мы, панавалі
Ў родным краі смела.

Во ўсё гэта, мае дзеткі,
Ад межаў да межаў
Беларусяю завецца
Й да цябе належа.

Сын

— А! Ўжо сцяміў! Дык багат я,
Меўшы столькі цудаў:
Гэткім чынам я ніколі
Служкаю не буду.

Ну, а йшчэ скажы мне, мамка,
Бо я не разважыў:
Што такое беларусы,
Як настаўнік кажа?

Маці

— Ах, які ты йшчэ дурненькі,
Каб не скеміць гэта!
Ну, паслухай: усе людзі,
Што ад лета ў лета,

Ад пакон вякоў жылі тут
І жывуць сягоння,
Носяць світкі, носяць лапці
Ды былі ў прыгоне,

Ўсе — і ты, і я, суседзі,
Хто, па-твойму, прусы?
Дык жа ўцям: на Беларусі
Жывуць беларусы!

Ды яшчэ, каб лепей ведаў,
Мушу табе ўспомніць:

Беларусы беларускай
Гутаркай гамоняць.

Сын

— Вось яно што! Праўда, мамка,
Ўжо сабе ўтлумачыў:
Беларус я! Ох, дам пытлю,
Хто скажа іначай.

Ну, але яшчэ не ўсё тут
Ясным мне здаецца:
Што такое беларускай
Гутаркай завецца?

Маці

— Ой, дурненькая варона,
Што з табой чыніці!
Як жа йначай беларусы
Могуць гаманіці?

Як жа мы з табой гуторым
Вось у гэту хвілю?
Як жа я пяю над зыбкай
Для малой Марылі?

Ды паслухай, як на вёсцы
Кажа дзядзька, цётка;
Як пяюць улетку жнеі
За сваёй работкай;

Як бабуля баіць казкі
Аб нядолі-долі;
Як начлежнікі спяваюць
На начлезе ў полі?!

Сын

— Ну, ўжо знаю, знаю, мамка!
Як у люстры бачу,
Пакажу я ўсяму свету,
Хто я дый што значу!

*1921*

* * *

На шырокім, на далёкім
    Буйным полі
Вырастаюць згодна кветкі
    І гуголле.

Людзі рвуць і топчуць кветкі
    Без паталі,
А гуголь расце, не дбае,
    Ў поўнай волі.

Ой, ці ж вам не ўцяміць, людзі,
    Ўжо ніколі,
Што не кветкі трэба рваці,
    А гуголле?!

*1921*

## НА СМЕРЦЬ СЦЯПАНА БУЛАТА

Задрамаў ты з доляй, з хвалай,
Жвір халодны прыгаруніў...
Ой, скасіла — не спытала...
— Сні, таварыш, аб Камуне!
    Ты хапаў за косы сонца,
    Думаў думку аб пяруне,
    Што дух збудзе ўсёй старонцы...
— Сні, таварыш, аб Камуне!

Як сіроты, забытымі
Цэп з касой вісяць у пуні,—
Хто ж на ворага іх здыме?!
— Сні, таварыш, аб Камуне!
    Свет узняўся, схамянуўся...
    Вер, свабодны вецер дуне
    Па ўсёй чыста Беларусі!
— Сні, таварыш, аб Камуне!

Забуяе ў славе буйнай,
Зазвініць залатаструнне
Родны Край адной камунай...
— Сні, таварыш, аб Камуне!
На магілцы-валатоўцы
Зарунеюць кветак руні;
Зайдзе сонца, ўзыйдзе сонца...
— Сні, таварыш, аб Камуне!

*1921*

## ГОЛАД

Праз поле, праз хаты і сёлы
Ў кароне з касцей чалавечых
Іду, разбуялы, вясёлы,
З хатомкай мярцвячай на плечах.
Паклоны б'е стар мне і молад
І дзетак рой босых і голых,—
Бо Голад я, Голад!

З прадсмертных слязінаў і поту
Брыльянты на мне мігацяцца,—
Абвёў іх з крыві пазалотай...
А з сілай маёю зраўняцца
Не ў сілах ні спека, ні холад;
А шлях мой без рыцьваў і плоту,—
Бо Голад я, Голад!

Іду. Прада мной зазірае
Жывым смерць галодная ў вочы
І косе ў рад, не разбірае —
Ў дні белыя, ў чорныя ночы.
Ці слаб хто, ці дужы, як волат,—
Груган яго косці збірае,—
Бо Голад я, Голад!

Іду. А за мной следам-лазам
Паўзуць зніштажэнні, руіны.

Я — мору тварэц безупынны,
Я — сейбіт бязмежнай заразы,
Мой скіпетр — лядзянячы молат,
Ім рабству дыктую указы,—
    Бо Голад я, Голад!

Пад чорным маім уладаннем
Сіроцтва гне корна калені,
І ўдоўства галосіць літаннем
На голым магільным каменні.
Мне гімны складае вякоў лад —
Мне, сытаму людаў кананнем,—
    Бо Голад я, Голад!

*1921*

### А ЗЯЗЮЛЬКА КУКАВАЛА...

Як на свет радзіўся Янка,
Як заплакаў многа-мала,—
Пела маці над калыскай,
А зязюлька кукавала:
    Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
    Спі, саколік! Ку-ку, ку-ку!

Як падрос, падняўся Янка,
Як ганяць стаў ў поле стала,—
На жалейцы граў дзень цэлы,
А зязюлька кукавала:
    Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
    Пасі, статак! Ку-ку, ку-ку!

Як вялікім вырас Янка,
Як стаў сеяць шчыра, дбала,—
За сяўбою пеў аб долі,
А зязюлька кукавала:
    Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
    Сей палетак! Ку-ку, ку-ку!

Як ні сеяў пільна Янка,—
Ўсё чагосьці не ставала:
Янка сеяў — людзі жалі.
А зязюлька кукавала:
    Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
    Жаці будзеш! Ку-ку, ку-ку!

Як старым-старым стаў Янка,
Як пазбыўся сілы ўдалай,—
Баіў байкі-казкі ўнукам,
А зязюлька кукавала:
    Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
    Годзе баіць! Ку-ку, ку-ку!

Як хавалі людзі Янку,—
Галасілі многа-мала:
— А нашто ж памёр ты, сейбіт!..
А зязюлька кукавала:
    Ку-ку, ку-ку, кінь дакуку!
    Спі, саколік! Ку-ку, ку-ку!

*1921*

## МАРОЗ

Іду я, сняжысты, ўсясільны,
Па сцежках-пуцінах пустых,
І ночкай, і днём безупынна
Пільную абшараў сваіх.

Бязмежна, ўладарна паную
Пад сховаю пушчавых вех,
Каронаю бор мне зялёны,
А тронам-пасадам бел-снег.

Палац мой — лес буйны, вяцвісты —
Ірдзіцца брыльянтамі скрозь,
Мне воўк і мядзведзь у паслугах,
Мне служаць вавёрка і лось.

Як пухам, сняжком пасыпаю
І хвою, і ёлку, і клён;
Хто ў госці ка мне забярэцца,
Тулю тых, галублю іх сон.

І казкі шапчу ім аб шчасці,
І цемру зганяю з вачэй...
Хадзіце, хадзіце к Марозу!
Хадзіце у госці хутчэй!

*1921*

## З НОВЫМ ГОДАМ!

З Новым годам, з Новым годам!
З новай песняй, з новай казкай!
Зачаруем мімаходам
Долі ходы думкай-краскай!

Кінем покліч гулказвонны
Ад аконца да аконца,
Свет паклічам мёртва-сонны
Аж да сонца, аж да сонца!

Для унукаў, для праўнукаў
Расцярэбім сцежкі-шляхі;
Хай пануюць над прынукай,—
Каб аж к небу лёту ўзмахі!..

Над зямлёй зардзіць вясёлка
После бураў, ліхалеццяў;
Бацьку, маці жыць нялёгка,—
Хай жа лёгка жывуць дзеці!

З Новым годам, што крыніцай
Новай пойдзе ў пераходзе,
Беларуская зямліца!
Беларускі наш народзе!

*[1921]*



# 1922

## ПЕРАД БУДУЧЫНЯЙ

Стаім мы перад будучыняй нашай
І ўсё варожым, сочым ейны ход...
Ці ўскрэснем мы з душой, ўпаўшай, звяўшай,
Каб выйсці ў свет, як нейкі здольны род...

Сягоння мы жывём, і ўдзень мы блудзім
Пад маскай, асляпляючаю нас,
І што сказаць самім сабе і людзям,
Не ведаем, не можам, хоць і час.

Заціснуты, задушаны, як мышы
Пад жорсткім венікам, з усіх бакоў,
Шукаем, як сляпыя, не згубіўшы
Таго свайго, што наша ад вякоў.

Пакрыўленыя колісь нашы душы
Дагэтуль выпрастаць не ў моцы йшчэ;
Снуёмся, ў думках зводных затануўшы,
А хтось, і штось і мучыць і пячэ.

Цябе чакаем, будучыні нейкай,
Што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш,
І гінем марна пад чужой апекай,
Адбіўшыся ад родных вехаў, меж.

А хтось далёкі ці хтось, можа, блізкі
Засеў за наш бяседны, сытны стол
І кідае, як з ласкі, нам агрызкі,
А мы к зямлі з падзякай гнёмся ўпол.

Нявольніцтва й жабрацтва так нас з'ела
І так нам высмактала з сэрца сок,
Што нат у вочы глянуць, плюнуць смела
Не смеем, стоптаныя на пясок.

Там чутна: Беларусь! Там — Незалежнасць!
А там — «Паўстань, пракляццем»... Ну, а мы?
Мы ў страху... дум крутня... разбежнасць...
Без толку крыллем хлопаем, як цьмы.

О так, як цьмы, як спуджаны вароны!..
І слухаем, і нюхаем тут, там:
Які павеяў вецер на загоны,—
Заходні, ўсходні, й ці ад нас, ці к нам?

Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпыну выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.

З кійком жабрачым так мы, паўналеткі,
Брыдзём, паўзём у свет — скрозь неўпапад.
І прысягаем, клічам Бога ў сведкі,
Што мы — не мы, што нехта вінават...

І так жывём, сябе саміх не знаўшы,
Учора, сёння лазім між канаў...
Няўжо ж бы хто й над будучыняй нашай
Навек залом пракляты заламаў?

Няўжо нас не аб'ясніць розум ясны
І не пакінем біцца з кута ў кут?
Няўжо кліч вечны будзе ў нас напрасны —
Кліч бураломны: вызваленне з пут?!

*1922*

## КАРОЛЬ

Я кароль над каралямі,
Пан я над панамі!
Што мне значаць і цары ўсе,—
Пасудзіце самі.

Тругу-гугу! Тругу-гугу!
Дзьму я ў рог вайсковы:
Гэта знак даю падданым
З трубы берастовай.

Лясь-лясь! Лясь-лясь! — зброяй лясну
Ўправа, ўлева громка:
Гэта страшу я падданых
Пугай доўгай, ёмкай.

І сабраў сваіх падданых
І павёў, павёў я
Цераз горы, цераз долы,
За гай, за дуброўе.

Тругу-гугу! Тругу-гугу!
Зноў трублю сярдзіта;
Лясь-лясь! Лясь-лясь! — свішчу зброяй
Грозна, санавіта.

І усеўся я на троне —
На карчы яловым,
А падданыя падданяць,—
Не буркнуць ні слова.

Толькі — скуб-скуб! Скуб-скуб траўку
Згодна ды пакорна,
Ажно рэха ад скубання
Коціцца прасторна.

Толькі часам мм-у, мм-у! —
Замычыць цялятка;
Бэ-э, мэ-э! Бэ-э, мэ-э! —
Забляе ягнятка.

Рох-рох, цох-цох! Кві-кві, кві-кві! —
Пісне парасятка,

Ды гі-гі-гі? — адыржэцца
Недзе жарабятка.

А я важна, а я пышна
Сяджу на пасадзе,
На падданых пазіраю,
Як дзе на парадзе.

Сонца косы млоснай спекай
Сцелюцца на полі,
А ў дуброве штось шапоча
Ліст з лістком паволі.

Куку-куку! Куку-куку! —
Кукуе зязюля;
Піць-піць! Піць-піць! — каня кліча,
Як бы после гуляў.

Ву-ву! Ву-ву! — загудзеў жук
Каля вуха смела;
Ззынь-ззынь! Ззынь-ззынь! — з мёдам з кветкі
Пчолка зазвінела.

Сэрца мне затрапятала.
І я без прынукі —
Шась трубу сваю на плечы
Ды жалейку ў рукі!

Туль-туль-лілі! Туль-туль-лілі! —
Граю, не зважаю;
Туля-ляля! Туля-ляля! —
Птушкам падцінаю.

Гуля-ляля! Не кароль жа
Я над каралямі? —
Я, мой статак, сонца, поле?..
Пасудзіце самі!

*1922*

## АД МІНСКІХ ДЗЯЦЕЙ

*На прывітанне IV Усебеларускага з'езда Саветаў*

1

Ад дзіцячай згоднай, буйнай,
Зацвітаючай Камуны
Чэсць, прывет вам, дэлегаты
З беларускіх ніў і хатаў!

Гэй, работнікі, сяляне!
Мазыране, бабруйчане,
Ігуменцы і случчане,
Ды барысаўцы й мінчане! —

Беларусы вы без плямаў,
Беларусы мы таксама,—
Хай на нашым на загоне
Век ніхто нас не разгоне.

Вы ўжо сталы, мы — йшчэ малы,
А як вырасцем, удала
Ўсе к вам пойдзем на падмогу
Церабіць к святлу дарогу,—

За тым шчасцем удагонцы
Пойдзем, пойдзем аж да сонца.
Гэй, работнікі, сяляне,
Беларусі грамадзяне!

2

Таварышы дэлегаты!
Для нас сягоння свята,
Што вы папрыязджалі,
Каб жыў Савет наш далей.

Ад сэрца вас вітаем!
Кіруйце нашым Краем,
Каб нашай Беларусі
Жылося не ў прымусе.

Дамоў жа хто паедзе,
Скажыце там суседзям,
Што мы, Камуны дзеці,
Жыць хочама на свеце.

Што хочам грэці плечы,
Як там у вас, ля печы,
Ды ласаваці часам
Яечню і каўбасы.

Што трэба нам святлічкі,
Кашулькі, чаравічкі,
Настаўнікі і кніжкі
Ды іншыя «ізлішкі».

Што як мець будзем гэта,
То на другое лета
Вам прыйдзем памагаці
Араць, касіць і жаці.

Дык не забудзьце дзетак,
З палеткаў вашых кветак,
Як вернецесь дахаты,
Сяброчкі-дэлегаты!

*1922*

## ПАЗВАЛІ ВАС

Еўрапейскія дзяржавы пастанавілі запрасіць на міжнародную нараду ў Геную т. Леніна.

*З газет 1921 г.*

Пазвалі вас на пір піроў,
Пазвалі вас за волю стаць,
І далі ўладу путы рваць,
І далі ўладу біць цароў —
Зрабілі з вас гаспадароў.

І вы з рабоў пайшлі ў цары...
— О, каб не ў краты толькі з крат?!
Паклон аддаў вам азіят,
За ім Еўропы жыхары
Шлі к вам праз морскія віры...

Але не ваш вітаць шлі сцяг:
З сваёю воляй шлі на вас...
І не дайшлі — зышлі на час
Праз белы й чорны морскі шлях,
А вам не страх, а вам не страх!..

Чатыры годы крок у крок
Тварыць вы шлі і кроў лілі
Сваю, чужую па зямлі...
Раслі магілы... зваў прарок...
Рос вашай моцы блеск і мрок.

І ўсё вы ўзялі, усё як ёсць:
Фабрычны дым, сяўбы загон,
І панскі двор, і царскі трон...
Ды стала ўсё вам гэта ў злосць —
У хлебе восць, у горле косць.

Сабою самі ўстаць з руін
Вам не хапіла смагі, сіл,
І вось к вам вылез цень з магіл:
Крывавы грош і «гаспадзін»,
А іх закон адзін, адзін.

З-пад ног, з утоптанай нары
Пайдзе ўжо збэшчаны павук
І ў сто, у сто кагцістых рук
Хапае вас, рабы-цары,—
Як бы ўжо вы не ўладары...

Вы ўладары... Яшчэ жар-цвет
Бунтарскіх дум у вас не згас:
Еўропа кліча ў госці вас:
Пад рогат піравых пабед
Саветы кліча на «савет».

*1922*

## З ПЕСЕНЬ МУЖЫЧЫХ

Гора нам, бедным, гора загнаным,
Мучаць нас чорныя долі,
Стогнем пад царам, стогнем пад панам,
Стогнем мы дома і ў полі.

Вечна не знаем суду і права,
Цёмны народ мы сярмяжны.
Б'ёмся, працуем слёзна, крывава,
Едзе па карку нам кажны.

Нас самавольна земскі карае,
Душыць, саджае ў адседкі,
Крыўдзіць ураднік, поп абірае,
Воласць з нас цягне паследкі.

Гляньце: паліц'я, войска, астрогі,
Цэрквы, чыгунка, палацы! —
Гэта наш труд, падаткі, налогі,
Наша мужыцкая праца.

Плача ў няволі край наш радзімы,
Самі ж не знаем спакою:
Паляць нас леты, студзяць нас зімы,
Мучыць нас голад вясною.

[*1922*]

* * *

Можам часта мы плакаць
У вялікай бядзе,
Можам часта мы плакаць
У вялікай нудзе.

Але ёсць жа такі жаль,
Нанясе благі лёс,—
Што хацеў бы заплакаць,
Дый не выціснеш слёз.

[*1922*]

## ПЕСНЯ

Гнаны Янка доляй,
Змушаны патрэбай
Цягне ў места дровы,
Каб купіці хлеба.

А дзе кісне пуня
Панская старая,
Прэцца Янукова
Жонка маладая.

П'е мужык на рынку
Барышы за дровы,
А паніч гуляе
З жонкай мужыковай.

Накупіў за дровы
Янка хлеба, солі
І вясло баранкаў
Для сваёй Антолі.

І гасцінцам дома
Жонку ён частуе,
Паніча з палаца
У руку цалуе.

*[1922]*

## НЯМА ГРОШЫ

Кожны гэта пэўна скеміў,
Што не ўсё ў нас так, як трэба,
А не лжэ і біты ў цемя,
Што і сходзіць не ўсё з неба.
Ёсць на ўсё прыпеў харошы:
«Трэба грошы — няма грошы!»

*

Шнур у Сцёпкі штосьвузіцца...
Дзеці... Крута з хлебам, з соллю;
Б'ецца, рвецца, не ляніцца;
Эх! каб так, ды ніўкі болей!
А адсюль прыпеў харошы:
«Трэба грошы — няма грошы!»

*

Дзеці выраслі ў Сцяпана;
Чуў, ёсць школы, ёсць навука.
Добра ўзяць прымер ад пана...
Ці ж то ўчыцца вельмі штука?
А тут зноў прыпеў харошы:
«Трэба грошы — няма грошы!»

*

Жэніць сына, хрысце ўнука,—
Пойдзе з просьбай к пану, к «чыну»...
После працы, после мукаў
Адпачыў бы сам часіну...
А зусюль прыпеў харошы:
«Трэба грошы — няма грошы!»

*

Жонка штось не выйдзе з хаткі:
Злегла, крэкча і... ўмірае;
Цісне староста падаткі;
Фэльчар, поп,— бяда такая!
Аж тут на, прыпеў харошы:
«Трэба грошы — і ёсць грошы!»

[*1922*]

## ДУШАЧКА, ШЫНКАРКА...

Душачка, шынкарка,
Калі ў Бога верыш,
Дай, дай пахмяліцца,
Хоць чарку, хоць трошкі!

Кепска трохі: грошы
Не маю сягоння,
Але ж мяне знаеш,—
Я круціць не ўмею.

Ўрэшце і заставу
Дам, калі захочаш;
Гэтага замала,—
Шчыра пацалую.

Эх, каб яго немач
З гэтакім і шчасцем!
Ты і ўцям не возьмеш,
Што спаткаці можа.

Так учора цвёрда
Мяціўся не ўпіцца,—
Бач, сваяк сустрэўся,
І глядзі, што выйшла:

З сваяком пабіўся
Чуць дамоў заплёўся,
Ўхлёпаўся ў балота
І пасеяў шапку.

А пасля пахмелля
Смак ці знаеш гэты? —
І ў грудзях трасецца,
І лоб як не трэсне.

Дык, шынкарка-сэрца,
Калі ў Бога верыш,
Дай, дай пахмяліцца,
Хоць чарку, хоць капку!

[*1922*]



# 1923

## КРЫМ

### 1

О Крым, нязведаная казка
Жыцця мінулага вякоў,
Адным які былі ласкай,
Для іншых — скрыгатам акоў!

У шумным пробегу сталецццяў
Нішто цябе, Крым, не згняло,—
Таксама цягнуць рыбу сеці,
Таксама птушка мкне ў сіло.

Адвечным ладам шуміць мора,
А з ім — магнолія, платан...
Аб чым яны з сабой гавораць,—
Спытайся ночку ды туман!

### 2

На узбярэжжы крымскіх вод
У неба сінь глядзіць Ай-Петры,—
Над ёй аблокаў карагод,
Пад ёй прапасцістыя нетры.

Глядзіць Ай-Петры ў дол з вышын —
На белы хаты, на палацы,
На стужкі каменных пуцін —
Плады нявольніцкае працы.

А я — з далёкіх ніў пясняр —
Па Гаспры з кута ў кут снуюся.
Гняце мне думкі Крыма чар,
Маркотна мне без Беларусі.

3

Гаспра, мілы мой прыпынак!
Я ўжо скончыў свой спачынак
І цябе я пакідаю,
Да свайго імкнуся краю.

Будзь прыветна, будзь здарова,
Як татарка чарнаброва!
Жыві доўга, як Ай-Петры,
Хоць і веюць буйны ветры!

Вам, магноліі, платаны,
Кіпарысы і каштаны,
Шлю [redacted] шчыра на прашчанне
Ад бярозак прывітанне!

*1923*

## ЦІШКУ ГАРТНАМУ

*У пятнаццатую гадавіну яго шчырай*
*песнярскай працы на карысць*
*беларускага працоўнага люду*

Многа поля з добрай доляй,
Нешчасліва і шчасліва,
Праляцеў ты, мой саколе,
Па-над роднай нашай нівай.

У світанне, у прадвесне,
З непамернай гордай сілай
Пела бура табе песні,
Думкі бурныя будзіла.

І мацнелі твае крыллі,
І мацнеў дух неўгамонны,
А вясёлкі шлях сачылі,
А маланкі слалі ўклоны.

Яснай зоркай з-пад аблокаў
Азіраеш пуцявіну,
Па якой ты ненарокам
Мкнуўся к сонцу без упыну.

Нікнуць чары ў пору гэту,
З воч спадае асляпленне,
І законы піша свету
Людскай праўды вызваленне.

Гэй, ляці, саколе, далей
Па-над буйнай Беларуссяй!
Не спыняйся ў векаў далі
І не гніся, як не гнуўся!

*1923*

## АРЛЯНЯТАМ

### 1

Гэй, узвейце сваім крыллем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасцю хаўтурнай!..

У маланках перуновых,
З гулкім гоманам грымотаў
Для вякоў дыхтуйце новых
Нечувалыя ясноты.

Вам сярпы і косы ў рукі
Ды мячы, каваны з сталі,

Далі буры, завірухі,
Што тут вылі, бушавалі.

Цень мінуўшчыны праклятай,
Дзе бізун гуляў з нагайкай,
Змецішчё вы, арляняты,
Сваёй новай сілай, байкай.

Ужо выбіла часіна
На вялікую прыгоду
Выйсці з мутнай каляіны
Беларускаму народу.

Ў чарадзейным карагодзе,
Ў неабсяжнае свабодзе,
Без аковаў на прыволлі
Ўжо віхрыцца наша доля.

2

Вам на памяць Серп і Молат
    Даравала доля,
Каб з вас кожны быў, як волат,
    Не гнуў плеч ніколі.

Каб здабытую свабоду
    Знлі, шанавалі
І у цяжкую прыгоду
    Ўсталі грознай хваляй.

Зашумелі, загудзелі,
    Як віхор сусветны,
Не праспалі у пасцелі
    Волі агняцветнай.

*

Вам дасталіся ад продкаў
    Сохі і бароны,
Каб вы ў час, пасля паводкаў,
    Выйшлі на загоны.

І з'аралі сваю ніву
Шырака, глыбока,
Зерне ўкінулі шчасліва,
Чыстае, як вока.

Каб рунела зерне тое
Весела, яскрава
Побач з вашай маладою,
Сакалінай славай.

*

Вам пакінулі прадзеды
Гартаваны косы,
Каб вы з імі сонца следам
Выйшлі на пакосы;

Каб касілі да упаду
Пустацвет і зелле,
Што сваім пякучым ядам
Труцяць кроў у целе.

Каб звінелі вашы косы
Над зямлёю соннай
Ад начных да ранніх росаў
Звонка, векапомна.

*

Вам у спадчыне ад роду
Засталіся песні,
Каб быць вашай асалодай
У жыцця прадвесні.

Каб вы пелі, не сціхалі
Ў радасці і ў горы,
Гаманілі, нібы хвалі
У бурлівым моры.

Каб шоў гоман неспыняны
Ад поля да поля
І людзей, яшчэ скаваных,
Заклікаў на волю.

*1923*



# 1924

## ДЗВЕ СЯСТРЫ

На тутэйшай зямлі
Дзве сястрыцы жылі,
Як забытыя ў лесе каліны;
Жыватворных крыніц
Не было для сястрыц,—
Яны вялі і сохлі націнай.

Як надыдзе вясна,
Ў чыстым полі адна
Аж да восені сілы губляла,
А сцюдзёнай зімой
У хаціне курной
Кужаль прала, снавала і ткала.

А ў другой з году ў год
Выядаў, як той крот,
Дым фабрычны дзявочыя вочы;
А дзявочу красу,
Нібы тую расу,
Піў цагляны падвал цёмнай ночай.

Сярод гора і мук
З працы гнулася ў крук
Так адна, як ад ветру каліна,
Ды пяяла з нуды,
З непацешнай бяды:
Ах ты, доля-няволя жанчыны!

А другая ў людзей
Гадавала дзяцей,
Не зазнаўшы прасветнай часіны;
Ды таксама скрозь сон
Чуцен быў яе стон:
Ах ты, доля-няволя жанчыны!

Ой, настаў ужо час
Пашукаць іншых крас,
Як дагэтуль вы мелі, сястрыцы.
Голас ваш малады,
Адчураўшысь нуды,
Забурліць хай бунтарскай крыніцай!

Годзе кіснуць, марнець,
Песні смутныя пець,—
Ладзіць новую час гаспадарку!
Казкі новыя ў свет,
Дум палаючых цвет
Кінь, сялянка, з сястрой-пралетаркай!

*1924*

## НАШ ЛЕТАПІСЕЦ

*Пасвячаю У. Ігнатоўскаму ў дзень пятнаццацёхгоддзя яго культурна-грамадскай працы на ніве Беларускай*

Пад нашэпты пушчаў-бораў,
Пад напевы завірухаў
Летапісец творыць творы,
А ты слухай, шчыра слухай.

Беглі векі, як ручаі
Паміж нашых сцежак, межаў,—
Чужаніца байкі баіў,
А ён толькі праўду рэжа.

Як жылі, як вечавалі,
Як пасля былі ў прыгоне,
Адаб'е, як у крышталі,
Летапісец наш сягоння.

Думкі мудрыя ён піша,
Нібы пацеркі з бурштынаў,—
Як пазбыцца лішніх крыжаў,
Як падняць дабро краіны.

Вызначае шлях наперад —
Дзе, кудой ісці нам лепей,
Каб не ўпалі зноў у нерат,
Каб палон не ашчарэпіў.

. . . . . . . . . . .

І ўзбуялі нашы людзі,
Пачалі ўвысь голаў высіць...
Зручна жыць на свеце будзе,
Калі ёсць свой летапісец!

*1924*

* * *

...О так! Я — пралетар!..
Яшчэ учорах раб пакутны —
Сягоння я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!

Мне Бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі!

*1924*

## ДЛЯ НАСЦЕННАЙ ГАЗЕТЫ БДзВ

### 1

**Што ты спіш?**

*Па Кальцову*

Што ты спіш, Госыздат?
Бач, вясна на дварэ,
І суседзі твае
Ўжо працуюць даўно.

Ты збудзіся, устань,
На сябе паглядзі,
Чым ты быў, чым ты ёсць
І што будзе з цябе.

Ні шрыфтоў, ні прылад,
Ні той фарбы людской,
І паперу тваю
Даядае пацук.

Замест кніжак для школ
Бланкі шлёпаеш ты,
А пацехі ад іх
Ні табе, ні людзям.

Ты устань, Госыздат,
Пратры вочы свае,
Бо інакш хтось другі
Скарыстае твой сон.

### 2

**Да нашага праўлення безнадзейнае маленне**

Праз нашу бясцэнную
Газету насценную
  Заносім маленне,—
Звяртаемся з просьбаю
(Ды ўжо ж — не з грозьбаю)
  К табе, праўленне!

Вока ласкавае
Мей ты над справаю
Друку ўляпшэння:
Для нашых сектараў
Трэба, як нектару,
Грошы, праўленне!

Паперы белае
Кіп сотні цэлыя
Даць мей хаценне,
І шрыфту ўсякага,
Але небыякага,
Падай, праўленне!

Машыну сшывальную
І фальцавальную
Для палягчэння,
Машыну наборную
І фарбу чорную
Дай нам, праўленне!

І цынкаграфію,
Для паліграфіі
Нашай збаўленне,
І стэратыпную
Болей дасціпную
Падай, праўленне!

Пад пераплётную
Больш паваротнае
Дай памяшчэнне;
Ад сціску цеснага,
Як зла няўцешнага,
Выбаў, праўленне!

Хоць не актыўнае,
Але калектыўнае
Гэта маленне
Заносім, плачучы,
Прасвету не бачучы,
К табе, праўленне!

*1924*



# 1925

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

*15/V-1905—15/V-1925*

Як пацерку да пацеркі, за годам год
На шнур жыцця ўсё ніжа, ніжа;
Адна з тых пацерак сцюдзёная, як лёд,
Другая цёплая, як сонца летні ўсход,
А трэцяя — як той чарвяк з-пад крыжа.
Адна далей, другая сэрцу бліжай,
Адна, як кветка, а другая, як асот,
А ўсе вісяць на шыі...
Дваццаць толькі год
Прайшло з тых пор, калі ў прадвесні,
Успомніўшы сваю бяду і свой народ,
Жывая думка зазвінела буйнай песняй.
А многа змен: за летам лета, за зімой зіма
Праз гэты час на беларускія няслі загоны:
Былі прабліскі і была благая цьма.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Перш-наперш дзевяцьсоты пяты год, калі законы
Расійскага цара на вісельню вялі
Дзяцей скаваных Беларускае зямлі,
А там — рэакцыя, чарнейшая ад ночы,
Кроў выпівала з сэрца, асляпляла вочы;
Калі здавалася, што гэтак будзе без канца
Гуляць нагайка над «забраным» краем,
Што людзі «лепшыя», як зблукшая аўца,
Той за маскоўскім, іншы за варшаўскім раем
Імкнуцца будуць вечным тым звычаем,
Што атрымалі ад прадажных продкаў,

Якія за шляхоцкія адзнакі,
Або за царскія чыны, ў прымакі
Плылі ў чужыншчыну сляпой паводкай.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Далей... Цары карон з сабой не падзялілі:
Год чатырнаццаты абліў крывёй зямлю,
І беларускія сыны на прадзедаў магіле
Ліць кроў пайшлі за Бацькаўшчыну, толькі ж... не
свою.

Палілі хаты ім і ў бежанцы, як жабракоў, пагналі
Туды — ў Сібір — жалобнай, слёзнай хваляй.
Бацькі і маткі там ад голаду каналі,
Ад роднага адлучаны дабра,
А дзеці іхнія кроў верна пралівалі
За веру рускую і рускага цара.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
І рухнула вайнацароў за царскія кароны,
І іншы запалаў на свеце дым чырвоны:
Чырвоны сцяг узняўся над Масквой,
Аж па-за межы водбліск гэты пакаціўся.
Рабочы тут пісаў закон жалезны свой:
Адважна рызыкуючы працоўнай галавой,
Упобач з селянінам за ланцуг свой мсціўся.
То рэвалюцыя запела на ўвесь свет:
«Паўстань, пракляццем катаваны!»...
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
Ды ўсіх бед
Яшчэ не ўспеў пазбыць край зрабаваны:
Зняўцеку панскі конь пачаў нам гоні дратаваць.
І ўбачылі засмучаныя нашы вочы,
Як дні праяснасці змяніліся на ночы,
Як зноў бізун па Беларусі стаў свістаць;
Крыві нявіннай пацякла рака,
Крывёй пажараў аблілося неба.
Так дзякавала панская рука,
Што некалі — ці трэба, ці не трэба —
Мы паншчыну на іх рабілі, як маглі,
І хлеба лусты ім свае апошнія няслі,
А маткі нашы мамкамі для іх былі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Але мінулася і гэта ліхалецце,
Хоць і не ўсе ў сваю сышліся хату дзеці:

Адных магіла ўжо не верне нам,
Другія і сягоння іншым б'юць паклон багам,
Ад трэціх жа гранічны слуп нас аддзяляе.
Відаць, што доля ўжо такая...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось так шляхамі год дагэтуль я ішоў
З адною думкаю аб шчасці Беларусі;
То блукаўся паміж абшараў і крыжоў,
То, як сланечнік, к сонцу яснаму імкнуўся...
Сягоння ўжо працерабіўся гэты шлях:
На гонях родных не пануе нелюдзь,
З душы спадае перад будучынай жах,
Да новага жыцця сцягі віднеюць.
На чорных пажарышчах дзён мінулых
Народ разбуджаны сабе сам ладзіць гаспадарку.
І веру... Не прадасць ён за чужую скварку
Ані сваёй зямлі, ані сваіх дум чулых.
Я веру, песень маіх кліч бунтарскі
Знаходзіць водгук будзе ў сэрцах братніх,
Як і дагэтуль голас мой пяснярскі
Не заміраў без водгулля астатнім.
Што думаў селянін, што парабак-работнік думаў,
Падслухаў іх і ў песню шчыра пераліў,
А ўжо яны пад гоман вольных шумаў
Мне свой прыхільны водклік падалі.
Дык жа шумі, красуй у волі, родны Край!
Звіні ў свой звон, сялянска-пралетарскі звон!
Спявай ты, Беларусь, у радасці спявай!
Твайго Народа сёння права і закон.

*1925*

## АДШЧАПЕНЦАМ (ЗАХОДНІМ)

Адкуль і хто яны, адменцы?
Няма у кнігах роду іх;
Імя іх толькі — адшчапенцы,
А гэта ведама й без кніг.

Узялі крыўдай уладанне
Над братам бедным і сляпым
І распасцерлі панаванне
Ў чужым дабры, як у сваім.

Народ ім харамы паставіў,
Раллю капаў для іх, як крот,
Яны ж чужой прадалі славе
Сваю зямлю і свой народ.

У звоне золата ўтапілі
Трухлявы душ сваіх абраз
І на прадзедавай магіле
Спраўляюць радасны папас.

Гадуюць думы, думы ката
Крывёй другіх на ногі ўстаць
І на плячах скаваных брата
Сваю «ойчызну» будаваць.

Забылі ўсё за катнім дзелам,
Сваіх счураліся людзей,
Што корм давалі сваім целам,
Чыю смакталі кроў з грудзей.

З пянчанай пугай на адводзе,
На лбе з пячаткаю святой,
Ў чужым распасвены гародзе,
Яшчэ гарод паганяць той.

Законы топчучы святыя,
Стварыў якія чалавек,
Свае распасвеныя шыі
Ў ярмо нясуць на смех і здзек.

Жывуць, брыдуць, а дзе — не знаюць
Сягоння іх начлег, папас,
Адно — народ з пуцця збіваюць
І ў процьму гоняць кожны час.

Дакуль жа будзе іхня сіла
Трымаць над намі свой прыгон?
Калі у Бацькаўшчыне мілай
Загосціць праведны закон?

Дакуль іх будзе панаванне,
А рабства нашае трываць
І аднімаць у нас прыстанне
І путы вечныя каваць?

Калі ударыць на трывогу
Гарт нашых сілаў маладых
І адшчапенцам дасць дарогу,
Якая жджэ даўно на іх?

Хай пранясецца кліч да славы,
Пакліча к іншаму жыццю!
Хай помста точыць нож крывавы
На крыўду вечную сваю!

[*1925*]



# 1926

## СЕЙ, ВОЛЬНЫ СЕЙБІТ!

*Газеце «Беларуская вёска»*

Сей, вольны сейбіт,
Сей свой палетак!
А гэтак шчыра,
А дбала гэтак!

Сонца ўлье сілу
Вольным загонам,—
Зерне абойдзе
Шоўкам зялёным.

Вольна, як вецер,
На ўсю старонку
З коласам колас
Пачне гамонку.

Вольныя жнеі
Прыйдуць з сярпамі,
Густа засцелюць
Поле снапамі.

Людзі з няволі
Здзівяцца дзіўне
З вольнае працы
Ў вольнай краіне.

Здзівяцца людзі
І скажуць гэтак:
«Сей, вольны сейбіт,
Сей свой палетак!»

*1926*

## АКОЎ ПАЛОМАНЫХ ЖАНДАР...

*На палеміку ў «Сав. Беларусі» аб беларускай мове*

Акоў паломаных жандар,
Сліўнём зарыўшыся ў нару,
Сядзіць расійскі чынадрал,
«Слуга оцечаству, цару».

Ён сніць былую моц і шыр:
Цары, царыцы, цэрквы, трон,
Пагромы, катаргі, Сібір...
О Русь! Прымі раба паклон!

Табе такой служыць па гроб
Не кіну я, і расцярзаць
Не дам дзяржаўнасці «оплот»,
Цябе, «единую», о маць!

Здарма ж двуглавы твой арол
Праз векі ў кіпцюрох трымаў
Мільёны ўбогіх хат і сёл,
Рабоў мільёны?.. Не, здарма!

У твой ланцуг былі, о Русь,
Уплецены з усіх бакоў
Украйна, Польшча, Беларусь
І сотня іншых «языкоў».

Цяпер што бачу я кругом?
Пасад маўклівы збуран скрозь...
Рэспублікі?! ды з «языком»
З іх лезе кожная ўсур'ёз.

А ты, о рускі мой «язык»!
Мой «обшчарускі», што з табой?
Табе слухмян быў мал, вялік,
Быў славен ты сваёй кляцьбой.

Табой сам самадзержац цар
Пісаў ланцужны свой закон,
Што маці-Русь есі жандар
Усёй Еўропы!..
І свой сон

Сніць далей гэты царадвор,
Калі надыдзе яму дзень,
Ізноў пад лёзгат царскіх шпор
Свой распасцерці чорны цень.

Ён, гэты скінуты сатрап,
Не знае, што ў свабодзе жыць;
Яму дай вісельню, дый каб
На ёй «языкі» ўсе ўшчаміць.

Не па нутру, як смерць, яму,
Што беларускае дзіцё
Бяжыць у сцюжную зіму
У школку пазнаваць жыццё.

Спужаўся, што хлапчук ў лапцёх,
Напаўадзеты вёскі сын,
У роднай мове ўчыцца змог?..
О, стыдна, рускі «гражданин»!

Язык твой царскі ён табе
Не выража, спакойны будзь!
Цябе тваім жа у кляцьбе
Ён не забудзе памянуць.

Былых не выклічаш вякоў
І ты, Масквы кароннай гразь,
Парваных не скуеш акоў,
З якой брахнёю ні вылазь!

*1926*

## І ШТО Я ЁЙ ЗРАБІЎ ТАКОЕ?

І што ■ ёй зрабіў такое?
Душа ў душу жылі ўвесь час,
Цяпер жа выйшла безгалоўе,
Хоць не кажы аб ім пры нас.

Хлапец я здатны і дастатні,
Сякі-такі прыбытак ёсць,
Таксама ў працы не астатні
І не ўпадаю вельмі ў злосць.

Сустрэў яе (каб лепей — багнасць)
Мо за гумном, мо і ў гумне,
І пацягнула раптам магнасць
Да ёй мяне, яе ка мне.

З тых дат мы сталі, як у змове,
Страчацца з ёй — а дзе і як,—
Аб гэтым Богу ды карове,
Як кажуць, ведаць так ці сяк.

Аб гэтым вам найлепей скажа
За ручаём зялёны лог,
Шумлівы лес, што лёс нам важыў,
Ды ў пуні ўтоптаны мурог.

А не адзін дзянёк і ночку
Мы правялі сярод пацех,
Мы нават ездзілі ўдваёчку
З сваёй красуняй на начлег.

Калі ж, бывала, за работу
Якую бралася яна,—
Я памагаў ёй у ахвоту,
Каб любасць не была дарма.

Звіваў ёй ніткі — для прынады —
На матавіла з верацён,
А як яна палола грады,
Выносіў зелле з баразён.

Калі на лузе грэбла сена,
Я за яе насіў пласты,
А як нагрэбла звыш калена,
Я сам варочаў вал таўсты.

Снапы ў жніво насіў у мэтлі,—
А ўсё каб ласкавей была,—
Не раз ёй комінак рассветліў,
Калі вячэраць з поля йшла.

Выкручваць памагаў бялізну,
Ды шмат яшчэ чаго і ў чым...
І так характар яе вызнаў,
Што і не сніў аб чым благім.

Мяне стан звабіў перагібны,
Так да яе прыліп красы,—
Купіў пярсцёначак ёй срыбны,
Каснік чырвоны да касы.

Купіў ёй хустачку і жычку,
Шнуроўку ў талю падабраў,
А раз паркалю на спаднічку
Ў каапарацыі набраў.

Набраў ёй нават і тавару
На чаравічкі — напавер...
Аж тут як дасць яна мне жару,
Што й не да ног яе цяпер!

На ліха ў Мінску ў «пішчытрэсце»
Стаўляў ёй піва і сітро,
Каб гэта бліжай яе сесці,
Каб не нудзілася нутро!

За ўсе пяшчоты і празэнты,
За стрэчу першую ў гумне
Адным слаўцом, як тым ланцэтам,
Зарэзала ўсяго мяне.

Раз нейк тулю яе абмацкам —
Чаму ж, як туляць, не туліць,—
А тут яна мне торк знянацку:
— Час аліменты ўжо плаціць!

— Пашто ляменты нам з табою? —
Кажу, але які тут сказ?

. . . . . . . . . . . . .

І што я ёй зрабіў такое?
Душа ў душу жылі ўвесь час.

*1926*

## ПА ДАЎГІНАЎСКІМ ГАСЦІНЦЫ

*Мінск — Акопы*

Пусціўшы дома пагалоску,
Што я нядуж, лячыцца час,—
Пакінуў горад, еду ў вёску
Набраць здароўя на запас.

Трухкоча брычка па дарозе,—
Сам Разымблюм за фурмана,—
Мяне ж падкідвае на возе
Ад ям, калдобін і канаў.

Дарогі нашы, ой, дарогі!
Былі няважны для язды,—
Цяпер сам чорт паломіць ногі,
На хвост нагоніць верады.

Ах вы, шляхі!..
З гары на горку
Кульдык-кульдык, то ўвысь, то ўдол;
Збярэшся з думкай на гаворку,
А тут пад зад цябе вандол...

Конь пазірае ўбок з укоса
На плех мурожны пад кустом
Ды круціць-верціць пад сам носам,
Як той кадзільніцай, хвастом.

Абапал высяцца прысады,
А дрэвы пэўне па сто год —
Было іх больш, дый далі рады:
Працерабіў іх свой народ.

Гляджу на звалены бярозы,—
Маркотна думкі пацяклі:
Змаглі вы буры і марозы,
Людской сякеры не змаглі.

А людзі? Ведама, як людзі,
Як кожны наскі чалавек:
Садзіць сягоння тое будзе,
Што ўчора так нядбала ссек.

Бяжыць пад коламі гасцінец,
Бягуць прысадзіны назад.
Вакол бясконца свет-дзядзінец,
Палеткі, вёскі, лес, як сад.

Знаёмы гэты мне шлях родны,—
Даўгінаўскі вядомы шлях!
Які нёс годных і нягодных
На векавых сваіх плячах.

З Даўгінава ў Мінск балаголы
Па ім, бывала, дзень у дзень...
Ад дзёгцю пах, скрыпня ад колаў,
Шум ад людзей...
І ўсё, як цень!

Як сон нязбытай абяцанкі...
Заціхнуў шлях, як птах зімой,
Цяпер даўгінаўскай фурманкі
Ты не спаткаеш, браце мой!

Ты не спаткаеш *стуль* суседа,
А мо й матулі з вас які...
Былі сваймі у шчасці, ў бедах,—
Цяпер чужыя чужакі.

Ды ані вестачкі адтуля,
І нібы сам адтуль далей,
Адно пачуеш, як зязюля
Кукуе *там*, як і даўней.

А воўк завые — адгалоскі
Лятуць сюды, калі дзень ціх,
Як бы і воўк *адгэтуль* вёскі
Забыць не можа там — *у іх*.

Для птушкі вольнай і для звера,
Як і для думкі — ўвесь ім свет!
Для іх не ўпішаш на паперы
Ні меж гранічных, ні пікет.

Калісь мы ў Рыгу збожжа везлі,
Цяпер зямлі завезлі часць...
Але ж куды мы, думка, ўлезлі?
Глядзі, наклічама напасць!

Ану, мой косю!
Што там?
Пустка...
Вярні з гасцінца ўбок гужом!
Бо далей — «пропуск», і... «пшэпустка».
Стань, Разымблюм!
Акопы ўжо!

*1926*

## І ПРЫЙДЗЕ

І прыйдзе новых пакаленняў
На наша месца грамада
Судзіці суд, ці мы сумленна
Жыццё прайшлі, ці чарада

Зняваг мінулых нас не з'ела,
Пакінуўшы свой дым і чад,
І мы па-даўняму нясмела
Жылі не ў лад і неўпапад?

Ці аб свой гонар дбайна дбалі,
І дабравольна, без прынук,
Самі сабой не гандлявалі,
Не неслі ў петлі дум і рук?

І ці пакінуці на памяць
Мы песень гэтакіх змаглі,
З якіх бы можна было ўцяміць,
Што мы свабоднымі былі?..

А ўжо свой выдасць непадкупны
Аб нас гісторыя прысуд,
Калі аглядам гляне рупным
І разбярэ, ў чым справа тут.

У сведкі запісы пакліча,
Паданні клікне ў час такі

І ўсё паліча, пераліча...
А суд гісторыі цяжкі!..

І засумуецца патомак,
Калі дазнаецца аб нас,
Што нейкі з нас хоць быў не зломак,
А плечы гнуў у крук не раз;

Не йшоў з адкрытымі вачыма
У свет і сцежкі не пратаў,
А ўсёй магчымасці магчымай
Таптаў сляды, сябе таптаў.

*1926*

## ЗА ЎСЁ...

За ўсё, што сёння маю,
Што даў мне мой народ:
За кут у родным краю,
За хлеб-соль без клапот,—

Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла.

Для Бацькаўшчыны беднай,
Для ўпаўшых яе сіл
Складаў я гімн пабедны
Сярод крыжоў, магіл.

Змагаўшыся з напасцяй
За шчасце для людзей,
Не раз пісаў ў няшчасці
Крывёй з сваіх грудзей.

Уносіў гэтым долю
Сваю для ўсіх дабра,
А болей... Што ж там болей
Жадаць ад песняра?!

*1926*

## ЦАРСКІЯ ДАРЫ

*(З мінулага)*

Цар грозны, маскоўскі — вясёлы,
Шчаслівы з пабедаў вялікіх —
У госці і з местаў, і з сёлаў
Нявольнікаў верных паклікаў.

Пад водгулле трубаў, літаўраў,
Пад рогаты ўпасвенай дворні
Падносіць падданым ён дары,—
Нявольнікі прымуць пакорне:

Дару я табе, украінцу,
Украйны капальні і стэпы,—
За гэта вугаль і пшаніцу
Ты звозіш мне ў свірны і склепы.

У Польшчы ты, польскі народзе,
Жыві сабе й думай аб славе,—
Мне толькі хай ткуць ткачы ў Лодзі;
Чуў — пекныя полькі ў Варшаве.

Хай Латвію возьмуць латвійцы
І рыбную ў Балтыцы лоўлю,—
Адно я да іхняй зямліцы
Баронаў дадам на гадоўлю.

Ты цешся, грузіне, краінай,
Тамарай грузінкаю слаўнай,—
Мне выдзеліш толькі часціну,
Дзе пыхкаюць нафтай фантаны.

Свой Крым, а з ім ханаў і мулаў
Бяры сабе, крымскі татарын,—
Мне ж мора пакінеш агулам
І ўсе санаторыі дарам.

Ты, мой туркестанскі сабрату,
Ідзі ў Туркестан разжывацца,—
Ўзамен я каракуль і вату
З тваіх пазбіраю плантацый.

Табе, сібірак, без граніцаў
Сібір аддаю, мо што выспіш,—
Але мне да ўласнай скарбніцы
Сібірскае золата ссыпеш.

А ты, беларусе нямрушчы,
Вазьмі Беларусь на ўспамінак,—
Твае ж прыдадуцца мне пушчы
Мой царскі вялічыць будынак.

І права даю для ўсіх разам
Пладзіцца, як маку зярняты,—
За што мне за першым наказам
Дасцё ўсе сыноў у салдаты.

Так грозны маскоўскі цар шчыра
Дзяліў між нявольнікаў дары,
Пад гікі прыдворных упыраў,
Пад водгулле трубаў, літаўраў.

*1926*

## НА ПАГРАНІЧЧЫ

На пагранічны ценем-зданню
Снуецца з кута ў кут трывога,—
То ў хату здрадліва загляне,
То мітусіцца ля парога.

У кожны год, як на асінах
Кара ад сонца адсычэе,
З сваім з'яўляецца ўспамінам
І мутным сочыцца ручэем.

Куснецца мухаю куслівай,
Насыціцца да перасыту,
І ў сэрцах забубніць пужліва,
Як цэп па такавішчы ўбітым.



На пагранiччы вечнай вехай
Красуе памяць аб мiнулым,
Калi раз'юшанай уцехай
Жыццё ў крывi з крывёй танула.

Перад паглядам, як прывiды,
Ўстаюць расстрэлы i пажары,
Нiчым не сплачаныя крыўды,
Нiчым не вернуты ахвяры.

Красуе памяць папялiшчаў
Iржою з'едзеных калючак,
З вятрамi жудаслiва свiшча
I ў прысках топiцца пякучых.



На пагранiччы кемкi знахар,
Калi тварыць варожбы хоча,—
Ён азiраецца на Захад,
Ён на Усход кiруе вочы.

А сейбiт, жменяй мазалiстай
Загонам кiдаючы зерне,
Надзеяй думкi назалiстай
Да супакою не наверне.

Згадаць не ўмоц, як нi варожа,
Каму ён сее свой палетак:
Цi сам пажне i змеле збожжа,
Цi нехта iншы з'есць хлеб гэты.



На пагранiччы цiха, сонна,
Хоць, як пруты, напяўшы жылы,
Па той i гэты бок нязгонна
Стаяць варожыя дзве сiлы.

Праз пушчы, пасекi, загоны,
На рубяжы крывавай славы,

Апабал высяцца кардоны,
Апабал блукаюць заставы.

Падчас вуркне матацыклетка,
Воз кантрабандны пракульгіча,
Ды бзынкне куля злоснай сведкай,
На знак, што тут вось пагранічча!

*1926*

## УЛЕТКУ

Соладка ўлетку ў дзень ройны
Ў зелені, ў кветках купацца,
З ветрам гуляць неспакойным,
З сонцам гуляць, цалавацца!

Слухаць лясное гамонкі,
Зважных, няўцямлівых шумаў,
Як гэта хвойкі-сасонкі
Гойдаюць ласкава думы.

Слухаць, як міла ля ўзмежку
Гутарыць з коласам колас,
Як льецца ў сэрца з усмешкай
Нівы спагадлівы голас.

Музыка зычная ў свеце,—
Моўкнуць нягоды напасці...
Хочацца думаць, як дзеці,
Верыць, як дзеці, у шчасце.

*1926*

## У ЛЕСЕ

Калі бывае мне маркотна,—
А я маркочуся часцей,
Як гэта думае ахвотна
Мой дабрадзей ці ліхадзей,—

Тады іду и ў лес нядбала,
Каб не мазоліць воч людзям,
На мох валюся дзе папала,
І ўжо я з пушчай сам-насам.

Ніхто не бачыць і не чуе,
Аб чым тут гутарку вяду,
Дзе думка днюе і начуе,
Сваю хавае дзе нуду.

А з лесам сябры мы старыя,—
Не раз праводзілі папас;
За сорак год нам дружбу крые,
Калі сышліся першы раз.

За гэты час, навек схаваны,
Шмат мелі ўсякіх лет і зім,—
Былі агні, былі туманы,
Было ўсяго са мной і з ім.

Цяпер, калі сюды прыйду я,
Знаёма, ясна, як сляза:
Ўсё тыя шышкі лес гадуе,
Ўся тая ўецца дзермяза.

Таксама мох ляжыць, як воўна,—
Бы ў пуху песціцца нага;
Ад птушак ройна, шуму поўна,
Глядзі ды слухай як мага.

Сягоння бачу тут бярозку:
Была жывой — цяпер ляжыць,—
Як маёй смутнай долі цёзку,
Паспеў віхор яе скрышыць.

Без часу ёй прыйшлось замерці...
Ляжы, гаротная, ляжы,

Пакуль не разбяруць па чвэрці
Цябе на дровы ці крыжы!
. . . . . . . . . . . . . . . .

На памяць мне прыйшла дзяўчына,—
Скажу — тутэйшая яна,—
І здарылася з ёй прычына,
Прычына жудкая адна:

Кашульку ёй знялі ў няшчасці —
Суседзі, а не іншы хто —
І падзялілі ўсю на часці,
Як бы дзяліць не мелі што.

Прыціхне лес ды зноў аб нечым
Шуміць, гамоніць, колькі дуж,
Супроць вятроў каробіць плечы,
Ўвесь выгібаецца, як вуж.

Вароны ў высі крык заўзяты
Узнялі, бы клянуць сябе,
А дзяцел дзюбаю зубатай
Дзяўбе сасонку ды дзяўбе.

Зязюлька ў тахт «ку-ку» кукуе,
Як ёй хто голас натачыў;
Лічу, ці доўга павякую...
Замоўкла... мала налічыў.

*1926*

## ВЕЦЕР

Ах, і з якой жа дакукай
Бушуе са свістам крылаты!
Вые жалобна, як сука
Па ўтопленых дзецях-шчанятах.

З гікам праз нетры, ламочча
Імчыцца і ліжа вужакай,

Ліжацца ў вушы, у вочы,
Як тая слізлівая п'яўка.

Скуль яго з немачай гэтай
Нялёгкая гоніць, прыгнала,
Як бы яму людзей, свету
Без свету майго яшчэ мала?

Я ж не прасіў і не клікаў,—
Не трэба такога мне госця,—
Без тваёй музыкі дзікай
Патраплю злажыць свае косці.

*1926*

## МАЛАДАЯ АЧУНЯЛА

Ах, як сталася ўсё гэта?!
Як бы нейкая камета
Натварыла цудаў-чараў
І схавалася за хмару.

Знядужэла маладая,
Нібы смерць яе з'ядае,
Ці то хоча, ці не хоча,
Зазірае ў самы вочы.

Яе дружкі і нядружкі,
Як дасужлівыя служкі,
Баюць: верце ці не верце —
Маладая ўжо пры смерці;

Што ў яе, мабыць, сухоты
Або іншыя слаботы
Не дадуць дажыці веку,
Колькі трэба чалавеку.

Людзі далі ў гэтым веру —
Надта ж верныя не ў меру,—

Паглядзелі бліжай, далей
І галоўмі паківалі.

— Што ж рабіць, калі нядужа?
Пахаваем яе, дружа...—
Так кум куму зважна кажа;
А ноч цёмная, як сажа!

І ніхто нідзе не згледзеў,
Як тут рупныя суседзі
У ахвоту аж да поту
Узяліся за работу.

Той з сякераю, як дужы,
На дамоўку дошкі стружа
І габлюе гэблем гладка...
Ці не рана, мой ты сватка?

А другі з стальной рыдлёўкай
Зямлю рэжа на дамоўку,—
Дол капае, дол глыбокі,
Каб пясочак быў нялёгкі,—

Каб, як ляжа, легла лепей
Маладая ў гэтым склепе,
Свету больш не турбавала,
Ціха-ціха ў доле спала.

А суседкі без аглядкі,
Маладую ўклаўшы спаткі,
Пазабыўшы смехаў, гуляў,
Шыюць ёй на смерць кашулю.

Шыюць, шыюць дый заплачуць,
Аж адна адной не бачаць,
Слёзы вытруць, потым сціха
Шэпчуць: «Ах, якое ліха!»

А ў святліцы на палацях
Маладая ў белай шаце
Уздыхае, ломіць рукі
Ад вялікай, цяжкай мукі,

Што яе адну дзіцятку,
Як сіротку, без даглядку

На няласку, на нядбалле
Ўсе пакінулі без жалю.

— Хай кідаюць,— шэпчуць губы,—
Хай жадаюць маёй згубы,
Але дзе ж той ненаглядны?
Ці і ён, як усе, здрадны?

Няўжо ён яе ніколі
Ўжо не хоча бачыць болей?
А бажыўся з усёй сілы,
Што йшчэ вернецца да мілай,

Прынясе здароўе, шчасце
І не дасць ён ёй прапасці,
Потым разам удваёчку
Скінуць з думак, з сэрца ночку.

— Ах, вяртайся, мой саколе!
Паратуй мяне ў нядолі,
Ўсцеражы сваю каліну,
Каб не легла ў дамавіну!

Так адзін сышоў дзень з свету
І другі мінуў за гэтым,
Маладая ўсё йшчэ жыва,
Аж суседзям неяк дзіва!

Ўжо грабар — сусед замежны —
Дол ёй выкапаў належны,
І дамоўка ўжо гатова,
І кашуля... адным словам!

А на трэці дзень навіна:
Той прыехаў да дзяўчыны,
Каго так чакала дбала...
. . . . . . . . . . . . . .
Маладая ачуняла.

*1926*

## КАБ...

Каб таму па локаць
Адсушыла рукі
І аб сценку біўся
Ад балеснай мукі,—

Хто сушыў ў няволі
Люд наш працавіты,
Задаваў вужача
Раны непазбыты.

*

Каб таму крукамі
Пакрыўляла ногі
І да роднай хаты
Не знайшоў дарогі,—

Хто крыўляў нам праўду,
Застаўляў ў прыгоне
Бежанцамі гінуць
На бацькоўскіх гонях.

*

Каб таго скруціла
Гадзінавым скрутам
І прыстала потым
Сухажыльным прутам,—

Хто круціў нам сцежкі
Да жыцця і славы,
Засцілаўшы вочы
Туманом крывавым.

*

Каб таму маланкай
Асляпіла вочы
І блукаў абмацкам
Ён удзень і ўночы,—

Хто для нашых дзетак
Хоча асляплення,—
Бэсціць чужаніцай
Думак прасвятленне.

*

Каб вады гарачай
На таго нагрэлі
І не ўстаў ён болей
Са сваёй пасцелі,—

Хто над Беларусяй
Хоча распасцерці
Свой бізун чужацкі
І народ усмерціць.

*

Каб таго парвала
З сэрцам на тры часці
І звяр'ё збрылося
Мяса параскрасці,—

Хто быў прычыніўся
Нашаму падзелу,
На кускі парваўшы
Маці роднай цела.

*1926*

## ЁСЦЬ ЖА ЯШЧЭ...

Ёсць жа яшчэ ў мяне сіла
Крыўдзе не дацца, змагацца,
Над спячых продкаў магілай
Вольна маланкай мігацца.

Ёсць жа яшчэ ў мяне сэрца,
Поўнае шчырых жаданняў,
Якое перш разарвецца,
Чымся любіць перастане.

Ёсць жа яшчэ ў мяне песень,
Поўных надзеі, жыцця,—
Як бы ні быў ім свет цесен,
Вырвуцца ў свет з небыцця.

Ёсць жа яшчэ ў мяне вера
Ў вольны мой родны народ,
Што — у патрэбе — з сякерай
Выйдзе за волю ў паход!

Ёсць жа яшчэ... Ну, а людзі?
Сябры-суседзі тут, там?
Вы — непадкупныя суддзі,
Што ж яшчэ хочацца вам?!

*1926*

## ПІЯНЕРСКАЕ

### 1

### Будзь гатоў!

Будзь гатоў ты, ваяка малы,
Ці то рана, ці позна!
Лётна так, як арлы-сакалы,
Не чакаючы слоў
Ад прынукі пагрознай,
Будзь гатоў!

Колькі сіл — сцяг дзяржы ў кулачку!
Бо як здарыцца справа,—

Не драмаць, верна быць начаку!
На ўбарону бацькоў
Піянерскаю славай
Будзь гатоў!

Не драмі, рэвалюцыі сын,
У звяне, у атрадзе!
Ў бубен бі, песні пей, кліч на чын!
А сястрыц і браткоў
Не даць крыўдзе і здрадзе
Будзь гатоў!

Нездарма, мой малы піянер,
Ты — чырвоная змена;
Думкі, сілу гартуй на манер
Сваіх старшых — бацькоў;
Стаць за волю нязменна
Будзь гатоў!

Беларусь спадзяецца з цябе
Мець свайго абаронцу,
Будзь жа ім, і ў жыцця барацьбе,
Ўжо даросшы гадкоў,
Яе весці да сонца —
Будзь гатоў!

2

**Заўсёды гатоў!..**

Піянер я малады, хоць куды!
Не смучуся, смяюся, вясёлы;
Я не знаю ні бяды, ні нуды,
Бухну ў бубен — і пайшоў, і пайшоў...
Пераскочыць і горы, і долы
Заўсёды гатоў!

За свабоду я пайду хоць у вір,
Бо я вольны, як вецер, як птушка,—
Дзядзька Ленін мне адно — правадыр.
За працоўны народ проць акоў
Выйсці з песняй сваёй весялушкай
Заўсёды гатоў!

Не баяліся браць барыкад,
Як няволі ішлі крышыць сцены...
Я таксама разбураць стары лад,
Дзе застаўся ад мінулых вякоў,
Састарэўшым ваякам на змену
Заўсёды гатоў!

Хоць бабулі мне бурчаць, не маўчаць,
Што з багамі ніяк не міруся...
Чым папала я гаціць буду гаць;
Я не толькі ваяваць проць багоў,—
Нават чорта ганяць з Беларусі
Заўсёды гатоў!

Падрасці б мне, як мага найбардзей,—
Паказаў бы сваю моц і сілу!
Сцеражыся ўжо тады, ліхадзей!
Бараніць ў кожны час без адмоў,
Як быў, буду красу волі мілай
Заўсёды гатоў!

Вось які [redacted] піянер, хоць куды!
Не смучуся, смяюся, вясёлы;
Я не знаю ні бяды, ні нуды,
Бухну ў бубен — і пайшоў, і пайшоў...
Пераскочыць і горы, і долы
Заўсёды гатоў!

*1926*

## АБ ДЗЯЎЧЫНЕ

Аб дзяўчыне яшчэ не пяяў,
Бо дагэтуль не знаў ўсіх прынад,
Сёння йдзе ў думку шмат новых з'яў,
Дык і ў песні па-новаму лад.

Маладую дзявочу красу
Не змалюеш, не спішаш пяром...

Бо хто ж летню змалюе расу,
Спіша хто птушын шчэбет і гром?

І я толькі яе хараству,
Як умею, аддам песняй дань...
Прытупіў сэрца я аб жарству
Год цяжкіх, што мінулі, як здань.

Вось яна — цуд-дзяўчына мая,
Нібы казкі чароўнай жар-цвет!
Я шапчу ёй: — Зірні, паспрыяй!
Дык куды?! Іншы сніцца ёй свет.

Вочкі спусціць на грудкі, на дол,—
Так ідзе і набок не зірне,
А прывабны прыпол і падол,
Аж смяюцца з мяне, да мяне!

Яе сонца ад ног да калень,
Ад калень да грудзей і да губ
Атуляе ў пяшчотны прамень,
Бы спраўляе заручыны-шлюб.

Я гляджу, сам не свой, як у сне,
Цень на сэрцы, у думках імгла...
Ці была тут дзяўчына, ці не?..—
Яна ўпобачкі з сонцам пайшла!

*1926*

## ГУТАРКА АБ КЕПСКІМ ГАСПАДАРУ

Кепска, калі кепскі
Ўдасца гаспадар,—
Сам у сваім доме
Ніякі ўладар.

У яго парадак —
Адпусці ты грэх:
І сабе на гора,
І людзям на смех.

*

Хата ў яго, хата —
Дзіркі на страсе,
З печы дым не ў комін,
А пад столь нясе.

На курынай ножцы
Пуня і хлявок,—
Вецер ім салому
Закасаў набок.

Зруб у студні з'ехаў,
Гразь цячэ ў ваду,
І асвер, і вочап
Толькі на бяду...

А платы навокал —
Тын і частакол,—
Дзе гнілая жэрдка,
Дзе зламаны кол.

*

Чыста ў яго, чыста —
Лад вядзе стары;
Лому, гною кучы,
Хоць ты падбяры.

З гноем пад нагамі
Граблі, вілы, крук,
Пад акном у лужы
Рыецца парсюк.

Рыцвіны ды ямы
Па дзядзінцы скрозь,
Ажно, калі глянеш,
Разбірае млосць.

Сам ён непамыты
Лета і зіму,—
Дзедаў дзед не мыўся,
Дык чаму ж яму?..

*

Статак яго, статак
Не знайсці нідзе:
З поля і на поле
Чуць ідзе-брыдзе.

Конь сляпы, з ахватам,
Ходзіць абы-як,
Ёсць адна карова,
І ў таей кільчак.

Кашаль свінню душыць,
Ног не ўзніме кныр,
«Матылі» ў авечак —
Круцяцца, як вір.

Вылезла ў ягняці
Воўна дачыста,
А цялё за хлевам
Ходзіць без хваста.

*

Праца ў яго, праца —
Мабыць, згультаеў:
Рана спаць кладзецца,
Позна ўстае.

Дзе там нейкі трактар,
Дзе там нават плуг:
Ён сахой, як прадзед,
Гоні верне ў круг.

Паарэ на ўзрэхі,
Куст расце — расці!
Церабіць не варта,
Можна абысці.

Бараны жалезнай
Не спанатрыў ён,—
Смыкам дапатопным
Ёрзае загон.

Сеяць жа як выйдзе
Гэты свой узрэх:
Дзе насыпе кучу,
А дзе голы плех...

Збожжа ў яго, збожжа —
Дзякуй ні за грош:
Неабходных дзёран,
Як абходных, больш.

Жыта пасплятали
Гірса ды званец.
У пшаніцы «сажа»,
Дурнап'ян-дурэц.

Вераб'ю авёсік
Толькі да калень.
Адно толькі вуссе
Выпусціў ячмень.

Бульба, як арэхі,
Па тры пад карчом,
Боб, гарох, капусту
Збэрсала свінчо.

*

Возіць з поля, возіць,
Што не згноіў дождж,—
Не збярэ ўмалоту —
Каласы, як хвошч.

Малацьба надыдзе,
Бо патрэбен хлеб,
Нашто малатарня,
Балазе ё цэп.

Таксама на арфу
Не прыйшла пара,—

Веялкай навее
Кубялок дабра.

Млын хоць недалёка —
Не прывык яшчэ:
Змеле ў жорнах жыта,
Ў ступе круп стаўчэ.

*

Сядзе есці, сядзе
За кульгавы стол,
Траногі зэдаль
Чуць не рыне ў дол.

Груца ды зацірка,
Цэд, цура, кісель,
Мілта, саладуха —
Амаль стравы ўсе.

Ані тэй закрасы,
Ані скваркі тэй,
Бульба з мундзірамі,
Хлеб нібы з пасей,

Бліны, верашчака —
На паўгода раз,
Нават чамяруха
Рэдка ў які час.

*

Едзе ў госці, едзе —
Запрасіў камрад,—
На чым свет скаголіць
Кволы панарад.

Не падмазаў колаў,
Колы і скрыпяць,
Па вандолах скачуць
Ні ў дзесяць, ні ў пяць.

Загваздкі, атосы —
Па адной няма.

З восі лезе швораи
Угару старчма.

Конь той клыпу-клыпу,
Сем гадзін — вярста;
Вонкі хамуціна
Прэцца з хамута.

Плеценая вобраць —
Адны матузы,
Галаву шмальцуе
Горш ад дзермязы.

Што ні крок — супоня
Рвецца, як аб пень,
І гужы з дугою
Злазяць з аглабель.

Падсядзёлак з'ехаў
Аж пад бруха ўніз,
А чэрассядзельнік
Пад калёсы звіс.

Набадрыкі-зрыўкі
Шыты навырост,
Ляйчыну з вузламі
Конь злавіў пад хвост.

Замест нейкай пугі
Стусіна-дубец.
Але й той з двара ўжо
Ссцёбаны ўканец.

*

Едзе ў госці, едзе...
Едзь жа ў добры час!
. . . . . . . . . .
Кепска, калі кепскі
Гаспадар хто з вас.

*1926*

## ДВА СВЕТЫ

### 1

### Дзед

Сёрбай, дзеду, сёрбай
Крупнік ды зацірку,—
Пабрыдзеш бо з торбай,
З торбай дзірка ў дзірку.

Закарбуй на бірку,
Што на гора спор быў,
Спорна год нацыркаў,
Дарабіўся горбу.

Высвідраваў корбай,
Вырыў плугам-кіркай
Баразністу ворбу
Тры аршыны шыркай.

Выцерпеў прыдзіркаў,
Што і мор не сцёр бы,—
Стар і мал век гыркаў:
— Сёрбай, дзеду, сёрбай!

### 2

### Унук

Дзедаў ўнук-гарэза,—
Як чмель чапурыцца,
Ўсе б платы парэзаў,
Плот яму — макрыца.

Ён не спакарыцца,
Як сам рымскі цэзар,—
Хто супроць — кастрыцай,
Бахне і з «абрэза».

У руках жалеза
Жарам заіскрыцца,

Не ўпляце дзярмезаў
Яму і цямрыца.

Як ёсць чым прыкрыцца —
Багацей ад Крэза...
Выйдзе ў свет крыніцай
Дзедаў ўнук-гарэза.

*1926*

## ПРАЗ ГУЛЬТАЙСТВА...

Праз гультайства, праз нядбальства
Шмат чаго гублялі мы:
Ад падданства, ад начальства,
Як начныя ніклі цьмы.

Сабе самі ўгаварылі,
Што не ў моцы збыць бяды,—
Без падпалкі так варылі
Сабе кашу ў ненаўды.

Лазма лезлі самі ў нерат,
Як бы гнаў хто у каршэль,—
Тыц ды мыц — ні ўзад ні ўперад,
Збілі сцежкі на кісель.

І ані, каб зварухнуцца,
Азірнуцца навакол,—
Заляглі, бы ў ступе груца,—
Той не хоча, а той квол.

А ўжо час працерць, здаецца,
Вочы хоць бы кулаком
І заняць у куце месца,
А не недзе за вуглом.

Не хадзіць жа век у прочкі
Ад сябе, не знаўшы дзе;
Быць затычкай пустой бочкі —
Сорам вольнай грамадзе!

*1926*

## ДЗЕ СТАЯЎ ДВОР ПАНСКІ...

Дзе стаяў двор панскі
Грознаю пікетай
I паны спраўлялі
Гарцы ды банкеты,—

Там цяпер красуюць
Выселкі, пасёлкі,
А іх аздабляюць
Сяміцвет вясёлкі.

*

Дзе стаяў на полі
З бічам прыганяты
I ганяў прынукай
Змучаных аратых,—

Там цяпер без страху
З выглядам малойца
Новы, вольны сейбіт
Братаецца з сонцам.

*

Дзе палац быў панскі,
Дзе жыццё йшло пуста
I гняздо звівалі
Вызыск і распуста,—

Там цяпер парадак
Іншы разгарнуўся:
Сочаць веды дзеткі —
Кветкі Беларусі.

*1926*

## ГУТАРКА АБ КЕПСКАЙ ГАСПАДЫНІ

З кепскай гаспадыняй
Кепска жыць, вядома,—
Ані з ёю ў людзі,
Ані з ёю дома.

Не жыццё, а мука,
Хоць скачы ты жабай,
Калі ды не ўдасца
Табе твая баба.

Чалавек спакойны
Я па сваім складу,
Але ж не стрываеш,
Як няма дзе ладу.

Нават пабажуся,
Што ў ніякім чыне
Не крану і пальцам
Добрай гаспадыні.

Але ўжо аб кепскай
Аніяк не змоўчу,
Хоць мо і дастану —
Ў вочы ці за вочы.

Вось яна у хаце,
Гаспадыня наша,
Выглядам, хадзьбою
Нават пеўня страша.

Як зірнуць, здаецца,
Не брыдкая з твару,—
І той стан, як трэба,
І ў грудзях шмат жару.

Але як там далей
Так і гэтак глянеш,—
Нікне ўся павабнасць,
Любіць перастанеш.

Вось пачнем мы знізу,
Па сваёй прастоце,—

Ногі за калена
У гразі, ў балоце.

А калі абута,
Каб не секлі блохі,
З лытак без падвязак
З'ехалі панчохі.

Перад у спадніцы
Ўвесь зафлюндран з долу,
Цыцалямі ззаду
Цягнуцца брынзолы.

Чуць ліпіць на целе
З вузлоў паясніца,
Ажно кожнай хвілі
Валіцца спадніца.

А кафтан надзене —
Плямы ад заціркі,
Дзіркі ў кожным локці
І на грудзях дзіркі.

Гэтак і кашулю
Бачыш ты адкрыта,
І яна ўся ў дзірках
Ды дзён сто не мыта.

Валасы страхою,
Ў валасах, як маку...
Век, знаць, не часаны,
Косаў ані знаку.

Глянь цяпер у хату
Гэтай гаспадыні,
Хто жыве — не ўцяміш —
Ці людзі, ці свінні.

Па кутках і столі
Павуціння густа,
Гразі на падлозе —
Ў паўаршына луста.

Збіта, як стог сена,
Ў качарэжнік смецце,—

Вон не выкідана,
Мабыць, з тагалецця.

Пад нагамі венік,
Чапяла ў запеччы,
За парогам вілкі,
А ўсё недарэчы.

Кіснуць не памыты
Ў лыжачніку лыжкі,
Дзе папала — ў нелад
Саганы і міскі.

На стале абрус той,
Як у бот ануча,
Не пасцель на ложку,
А так — рызаў куча.

А пад ложкам важна
Хлеў цялё зрабіла,
Парасяты тут жа,—
Проста глянуць міла.

Пад сталом скавыча,
Як бы чаго плакаў,
З апараным бокам
Галодны сабака.

З перабітым задам
Кот начынне ліжа,
Побач з ім і певень
Хлеб у дзюбу ніжа.

Дзеці пустапасам
Лазяць сабе самі,
Па вушы ў балоце,
З голымі пупамі.

Пад паўдня устала
Гэта гаспадыня,
Працірае вочы,
А сон і не гіне.

Засланку адклала,
Пашчапала смолку,

Дроваў за чалеснік
Кінула без толку.

Неяк падпаліла
Ў печы гэтак дровы,
Аж паплыў на хату
Пах смалы яловай.

Гаршкі паўстаўляла
І так варыць, варыць;
Каб хаця ўдалося,—
Ціха, сонна марыць.

Але, як заўсёды,
Не судзіла доля:
Як чэмер — капуста,
Заціркa — без солі.

Прыцягнула дзежку
З рошчынай на лаву,—
Ўкісла ці не ўкісла —
Не яе тут справа.

Рук не закасаўшы,
Нават не памыўшы,
Месіць цеста, месіць,
А пот лье, як з мышы.

Потым гэта цеста
З вялікай бядою
Пасадзіла ў печку —
Сядзі на здароўе!

У каго закалец
Усяго на палец,
Па яе ж законе —
На ўсе дзве далоні.

А пайшла карову
Падаіць да хлева,
Вымя не памыла,
Доіць права-лева.

Цягне цыцку, цягне,
Малако цурыцца —

Болей за даёнку
Або на спадніцу.

Потым сабе села
З прасніцай на зэдлі,—
Што пацягне нітку —
Рвецца ад кудзелі.

Так і гэтак тыцне
Ды кляне уголас,
Нітка ж то як палец,
То цяней за волас.

Спрала, насукала
Пачынак за тыдзень,
Дый той змарнаваўся:
Зблытаў, мабыць, злыдзень.

Але ж нейк за зімку
Са сцяну напрала —
Кужаль ды на зрэб'е
Перамеркавала.

Удалося з часам
І паставіць кросны;
З пядзю за дзень вытча,
А болей дык млосна.

Выткаўшы, бяліла,
Але так — на сціркі,
Пашто бяліць надта,
І так будуць дзіркі.

Ну, а пойдзе ў грады,—
Поліць, як з пахмелля:
Вырве бурак, моркву,
А пакіне зелле.

У жніво таксама
Ўсё йдзе не па мыслі,
Як бы падстаўляе
Хто нагу сумысле.

Чуць сярпом ківае,
Праклінае гоні,

Вышай за калена
Вырасла іржонне.

А сноп калі звяжа —
Як пабэрсаў нехта:
Ніяк не згадаеш,
Дзе камель, дзе верх той.

Гэтак яна ў працы,
Гэтак яна ў хаце,
З языком затое
Не раўня нам, браце.

Ой, на гэту справу
Не гультай, не зломак,
І прыйсці да слова
Век не дасць нікому.

А як створыць плёткі,—
Усіх пасварыць зводна:
З роднай жонкай — мужа,
Брата — з сястрой роднай.
. . . . . . . . . . . . .
Гэткіх гаспадыняў
Няма ў Беларусі,
Дык даруйце, цёткі,
Што крыху пахлусіў.

*1926*



# 1928

## ЛЕТАПІСНАЕ

*Прысвячаю*
*дзесяцігоддзю БССР*

На магілах ваякаў,
Што ляглі за Саветы,
Ты, Рэспубліка, ўстала
І ўсяму свеціш свету.

. . . . . . . . .

Былі годы няволі,
Былі жудкія годы,
Людзі ў ёрмах марнелі
Без шчаслівай прыгоды.

Вораг польскі і рускі
Шчыра множыў курганы,—
Не было Беларусі,
Толькі быў «Край забраны».

Расіяне, палякі
Ды французы і шведы
Беларускай крывёю
Палівалі край гэты.

Былі жудкія годы,
Яшчэ горшых даждалі,
Як вайны усясветнай
Пракаціліся хвалі.

Бітву ўзнялі цараты
За таляры і троны,
Безліч кінуўшы люду
Ў прадсмяротныя стогны.

І пакрылі руінай
Нашы землі і хаты,
А народ зрабавалі,
Як разбойнікі-каты.

...Што за хмара такая
Пхнецца, як вокам кінуць? —
Беларускі люд бедны
Пабрыў «бежанцам» гінуць.

Рэвалюцыя. Воля.
Верх узяў пралетарый...
Беларусь, як жабрачка,
Брыдзе з «бежанства» хмарай —

Сцяг чырвоны над Мінскам,
А з ім — гімн міжнародны...
Абвяшчэнне Саветаў:
БССР быць свабоднай...

А паляку не спіцца,
З боем прэцца, як змора;
Яму панскую Польшчу
Дай «ад мора да мора».

Арол белы над Мінскам,
А з ім польскія дары:
Катаванні, пагромы,
Шыбяніцы, пажары.

Адступіў ўрэшце вораг,
Але ў спадках пакінуў
Папялішчы ў сталіцы
І руіны, руіны...

А далей, як бы мала
Усіх гэтых няшчасцяў:
Рыжскі мір перарэзаў
Беларусь на дзве часці.

За слупамі з арламі
Беларусы пад панам,
Далей ёрмы валочуць,
Звоняць гулка ў кайданы.

. . . . . . . . . . .

На магілах ваякаў,
Што ляглі за Саветы,
Ты, Рэспубліка, ўстала
І ўсяму свеціш свету.

. . . . . . . . . .

Беларусь, маё сэрца,
Залатая краіна,
Як нявольнік з няволі,
Паўстаеш ты з руінаў.

За будынкам будынак,
Як той лес, узрастае,
І замежны парадак,
Як лазою, хістаеш.

Ты прывабіш сабою,
Сваім ладам зарнічным
Беларусь з-пад прыгону,
З-за слупоў пагранічных.

Безаглядна, няспынна,
З маладняцкім разгонам
Думкі новыя й долю
Нясеш нашым загонам.

Зарунеюць палеткі
Рунню буйнай, сачыстай,
Людзі працу ўшануюць
Беспрыгонна, ўрачыста.

Нацыянальная сварка
Ўжо ў нас месца не знайдзе —
Чалавек чалавеку
Будзе братам папраўдзе.

А гудкі і жалейкі
Тваіх местаў і сёлаў
Запяюць аднагодна,
Пераможна, вясёла.

І ніхто ўжо не зможа
Ані ў якай прыгодзе
Налажыць табе путы,
Беларускі народзе.

. . . . . . . . . . .

На магілах ваякаў,
Што ляглі за Саветы,
Ты, Рэспубліка, ўстала
І ўсяму свеціш свету.

*1928*

## ЦІ ХТО ДУМАЎ...

*Цішку Гартнаму*

Ці хто думаў, ці хто сніў
Таму дваццаць зім і лет,
Што капыльскі наш гарбар
Гэтак слаўна выйдзе ў свет.

Так бунтарна апяе
Жыцця новага сяўбу,
І змаганне бедньаты,
І рабочых барацьбу!

*

Ці хто думаў, ці хто сніў,
Лапці носячы й рыззё,
Калі ўсерасійскі цар
Наш народ таптаў з гразёй,—

Што рэспублікі сваёй
Мы уздымем вольны сцяг,
Абвясціўшы ўсім, усім,
Што цары ўжо нам не страх!

*

Ці хто думаў, ці хто сніў
Таму дваццаць лет і зім,
Што не хто, а той гарбар,
Каб гучэў Саветаў гімн,—

Для свабоднай БССР
(Не для іншай там якой)
Ён прынёс народу дар
«Сваёю ўласнаю рукой!».

*1928*



# 1929

## ДЫКТАТУРА ПРАЦЫ

Культуру хамства і далара,
Князёў і біскупаў палацы,
Ад Скандынаваў да Сахары,
Зруйнуеш, дыктатура працы.

Свет рабаўласнікаў і турмаў,
Свет багахвальства, спекуляцый
Маланкай дызеляў віхурнай
Падпаліш, дыктатура працы.

Насельнікаў зямлі вячыстай,
Што звыкліся ў крыві купацца,
Сярпом і молатам агністым
Зраўнуеш, дыктатура працы.

Закон і права ў долі роўнай
Для ўсіх народаў, для ўсіх нацый
Рукой жалезнай, непакорнай
Напішаш, дыктатура працы.

Жыццё без цемры і цярпення,
А ў ясным сонцы, як у байцы,
Для ўсіх вякоў і пакаленняў
Збудуеш, дыктатура працы.

*1929*

## СЫХОДЗІШ, ВЁСКА,
## З ЯСНАЙ ЯВЫ...

Як сон маркотны, нежаданы,
Сыходзіш, вёска, з яснай явы,
А твой народ вернападданы
Імкнецца, скінуўшы кайданы,
Да новай долі, новай славы.

У поле выйдуць твае людзі
З інакшым складам і прыладай:
У грамадзе сяўба іх будзе,
Смактаць не будзе вызыск грудзі,
Адна верх возьме думка-рада.

З жабрацкай торбай твой патомак
Не пойдзе па сібірным шляху
Шукаць прытулку, як бяздомак:
Жудкі гісторыі абломак
Пад сказ дзён бурных згібне прахам.

Гарбы тваіх нямых курганаў,
Дзе спяць нявольнікі і князі,
Парэжа сталь, як нож баранаў,
І спражыць полымя буянаў,
Каб цвет зацвіў на гразкай гразі.

Дзе за пасёлкам лёг пасёлак,
Гіганты ўзнімуць сцяг бунтарны,
І ў бліску квецістых вясёлак,
Дым гасячы лучын і смолак,
Зайскрыць электрыка ўладарна.

Тваіх жалеек спеў гаротны
Патопча трактарнае кола,
А сейбіт твой, дасюль самотны,
Абцёршы сонцам воблік потны,
Пад крыж не пойдзе енчыць квола.

Твае трухлявыя калёсы
Аўто бензінаю спапеліць,
А твой касец проставалосы
Мазольныя паломіць косы,
Гнуць плеч не будзе ля аселіц.

Твая дзяўчына пры кудзелі
Сляпіць не будзе ясных вочак:
З жалеза прасніца надзеліць
Сукном і шоўкавым кужэлем
Сваіх сялян, сваіх рабочых.

Твае сівыя забабоны
Усмерціць радыёвы гоман,
І ў тон зайграюць зорнатонны,
Забыўшы крыўды і прыгоны,
Адвечны бор, адвечны Нёман.

Лясун з русалкаю пакіне
Палохаць сонныя сялібы,
І вадзянік загіне ў ціне,
Спадзе з хацінаў павуцінне,
Заскача сонца ў срэбных шыбах.

Над вежамі тваіх бажніцаў
Фабрычны комін возьме ўладу,
А звон збянтэжаных званіцаў
Гудка жывучая крыніца
Заглушыць гулкім гудам-ладам.

І будуць ладзіцца год кожны
На новы лад, на новы звычай
Дзяды Кастрычнікавы збожна,
А кожны год больш пераможна
Для свята волі бунтаўнічай.

Так сыйдзеш, вёска, з яснай явы,
Як сон маркотны, нежаданы,
Бо твой народ вернападданы
Ідзе ўжо, скінуўшы кайданы,
Да лепшай долі, лепшай славы.

*1929*

# Вершы невядомых гадоў



## БЕЛАРУСЫ НЕ БУДУЦЬ РАБАМІ...

Нас не здушыць нуда,
Не сагне нас бяда,
І не будзе ўладаць доля намі.
Гэй, ніколі, нідзе,
Гэй, ніколі, нідзе
Беларусы не будуць рабамі!

Чырван славай наш род,
Жыве вольны народ,—
Пад сцягі ўсе імкнуцца Камуны.
Вораг, бач, ля варот...
Беларусы, ўпярод!
Нам не страшны віхуры, пяруны.

Вораг дуж. Ну і што ж?
Ён загіне, бы смоўж,
Як захоча ўладарства над намі.
Гэй, ніколі, нідзе,
Гэй, ніколі, нідзе
Беларусы не будуць рабамі!

Як не хопіць салдат,
Старцы势 стануць у рад,
Стануць дзеці і жонкі да бою:
Кожны годны ў баі
Сын працоўнай сям'і,—
Кожны, ў кім сэрца б'ецца жывое.

Нас не здушыць нуда,
Не сагне нас бяда
І не будзе ўладаць доля намі.
Гэй, ніколі, нідзе,
Гэй, ніколі, нідзе
Беларусы не будуць рабамі!

## НУ, ТАВАРЫШЫ, Ў ПАХОД!

Ну, таварышы, ў паход
Выступайце жвава,
За працоўны за народ!
Не чакае справа...

Нашы рукі ў мазалях,
Ногі, як са сталі,
За рабочых і сялян
Біцца не прысталі.

Верна стрэльбы служаць нам,
Метк<а> ў цэль страляем,
І ў падаркі мы ўрагам,
Кулі пасылаем.

Кропіць густа кулямёт,
Ворага не шкода;
Знай, чырвоным ваяком
Няма загародак.

Ярка зорка зіхаціць,
Шлях нам асвятляе
І за вольнай працы сцяг
Біцца заклікае.

Зорка, ты гары ясней,
Нам святлей з табою;
Гукнем, хлопцы, весялей:
Будзь гатоў да бою!

Хоць змагання трудны шлях,
Нам не страшна гэта,
Мы ў Чырвоныя ўвесь свет
Прыбяром Саветы.

## ШАГ У ШАГ...

Шаг у шаг, ваякі-хлопцы! —
Весялей жа, малайцы!
Весялей жа, удалыя
Беларускія байцы!

Узніміся, Сцяг Чырвоны!
І ты, зорка, чырваней!
Пралетарская пяхота
Не ўстыдзіць сабой людзей!

Адступаць назад не ўмеем,
А йдзём горда мы ўпярод,
Уміраючы за волю,
За працоўны ўвесь народ.
Узніміся, Сцяг Чырвоны! і г. д.

І сваіх чырвоных дзетак,
Сказам аб былом жыццю
Мы навучым, як змагацца
За Рэспубліку сваю.
Узніміся, Сцяг Чырвоны! і г. д.

Шаг у шаг, ваякі-хлопцы!
Ды вышэй Сцяг Акцябра!
Паланее над зямлёю
Пралетарская Зара.
Узніміся, Сцяг Чырвоны! і г. д.

Як вучылі камунары,
Мы вядзём з нявольнай цьмы,
З-пад запораў капіталу
Ўсіх такіх жа, як і мы.
Узніміся, Сцяг Чырвоны! і г.д.

У ваякаў непабедных
Дух адважнага байца,—
Давядзём свабоды справу
Да пабеднага канца.
Узніміся, Сцяг Чырвоны! і г. д.

На зару чырвонай волі,
Што ў мільён гарыць агнёў,
Узіраюцца з надзеяй
Пралетары ўсіх краёў.
Узніміся, Сцяг Чырвоны! і г. д.

Шаг у шаг, ваякі-хлопцы!
Весялей жа, малайцы!
Весялей жа, удалыя
Беларускія байцы!

Узніміся, Сцяг Чырвоны!
І ты, зорка, чырваней!
Пралетарская пяхота
Не ўстыдзіць сабой людзей!

## УЗНІМІСЯ, СЦЯГ ЧЫРВОНЫ!..

Узніміся, Сцяг Чырвоны!
Першай, конніца, ўпярод!
Пала царская карона,
Беларускі ўстаў народ.

Смела ўсе на барыкады!
Не для нас астрог і страх;
Мы памерці будзем рады
З сцягам вольнасці ў руках.

Беларусы мы, не зломкі,
Моцны ўсе ў паходзе мы,
Не вядуць нас камандзіры,
А жалезныя арлы.
Смела ўсе на барыкады! і г. д.

Мы Пілсудскага разбілі
І ўсе межы разаб'ём
Ды мазолістай рукою
Капітал з зямлі змяцём.
Смела ўсе на барыкады! і г. д.

Мінск наш быў захоплен панам,
Але ўцёк пан, як мага...
За свабоду Беларусі
Гукнем громкае «Ура!».
Смела ўсе на барыкады! і г. д.

Беларусы дружна ўстануць
За савецкія правы,
Пралетары ўсе пачуюць,
Як змагацца ўмеем мы.
Смела ўсе на барыкады! і г. д.

Узніміся, Сцяг Чырвоны!
Першай, конніца, ўпярод!
Пала царская карона,
Беларускі ўстаў народ!

Смела ўсе на барыкады!
Не для нас астрог і страх;
Мы памерці будзем рады
З сцягам вольнасці ў руках.

## НА ШТЫХІ!

На штыхі, пад званы і пажар,
Мы ўзрухнулі зямлі ўсёй абшар.

Фабрык мы грахатлівых сыны,
Мы ў крыві, мы ў агні, не адны.

Расплаўляем зямлю, як чыгун,
На вагнішчы ўсялюдных Камун.

Пад нагамі сусветны банкір,
На штыхах каранованы мір.

Мы, народы ўсіх нацый, краін,
Б'ём пабеду ў бубны, як адзін.

На змаганне з заўзятым ўрагом
Усясветна, ўсялюдна ідзём.

Падае голас Захаду Ўсход:
Гэй, пад сцягі, паўсталы народ!

Ад сусветных народных трыбун
Трубяць трубы злучоных Камун.

Крывёй пеніць пабедны бакал,
Згінь, згары, людаед-капітал!

Бой апошні — памерці, ці жыць,
На ўсясветным абшары гарыць.

На штыхах перакулены трон,
Руйнавальны трасе небам звон,

Руйнавальны той молат, чыгун
Нашых вольных працоўных Камун.

## САЎКА ДЫ ГРЫШКА

Саўка ды Грышка ладзілі дуду,
Ду-ду-ду-ду, ду-ду-ду-ду, ладзілі дуду,
Сільна хацелі весяліць нуду,
Ду-ду-ду-ду, ду-ду-ду-ду, ладзілі дуду.

Як разышліся музыкі, гу-га!
Гу-га-га-га, гу-га-га-га, згінула туга.
Згінула гора, згінула туга,
Гу-га-га-га, гу-га-га-га, згінула туга.

Дзедка старэнькі, ўзяўшы ёмкі жмут,
Ту-ту-ту-ту, ту-ту-ту-ту, ўзяўшы ёмкі жмут,
Кіем на дзверы паказаў ім тут.
Ту-ту-ту-ту, ту-ту-ту-ту, ўзяўшы ёмкі жмут.

Вы сабе дуйце сваё гоцаца,
Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, сваё гоцаца.
Толькі пачнеце з другога канца,
Го-ца-ца-ца, го-ца-ца-ца, сваё гоцаца.

* * *

Працаваў я ў полі
Ды першае лета,
Меў я заработку
Курачку за гэта.

Мая курка-златапёрка
Ад усходу да вячорка
Па дварэ ходзіць,
Піскляняткі водзіць,
Хахол падымае,
Піскляткі збірае
І сакоча: ко-ко-ко!

Працаваў я ў полі
Ды другое лета,
Меў я заработку
Гусачка за гэта.

Мая курка-златапёрка,
Мой гусак-гагатунчык
Па дварэ гуляе,
Галаву ўздымае
Ды гусак збірае,
Крычучы: га-га-га!
А курачка: ко-ко-ко!

Працаваў я ў полі
Ды трэцяе лета,
Меў я заработку
Качачку за гэта.

Мая курка-златапёрка,
Мой гусак-гагатунчык,
Мая качка-небарачка
Па рацэ плывае,
Качанят купае,
Клічучы: ква-ква-ква!
А гусак: га-га-га!
А курачка: ко-ко-ко!

Працаваў я ў полі
Чацвёртае лета,
Меў я заработку
Індыка за гэта.

Мая курка-златапёрка,
Мой гусак-гагатунчык,
Мая качк<а>-небарачка,
Мой індык но<с> спускае,
Індычак склікае,
Крычучы: кулдык-булдык!
А гусак: га-га-га!
А качачка: ква-ква-ква!
А курачка: ко-ко-ко!

## ШТО МЫ БАЧЫМ НА ВУЛІЦЫ

Вот жаўнерыкі ідуць,
Вот ідуць, ідуць,
Стрэльбы на плячах нясуць,
Вот нясуць, нясуць.

Тра-та-та, тра-та-та,
Тра-та-та, та-та-та-та,
Тра-та-та, та-та-та-та,
Тра-та-та, та-та!

Яздок едзе на кані,
На кані, на кані,
Ён трымае біч даўгі,
Біч даўгі, даўгі.

Гіпі-гоп, гіпі-гоп,
Гіпі-гіпі, гіпі-гоп,
Гіпі-гоп, гіпі-гоп,
Гіпі-гіпі-гоп!

Паляўнічы ў лес ідзе,
Ён ідзе, ідзе,
Хутка зайчыка заб'е!
Ён заб'е, заб'е!
Піф-піф-паф і г. д.

Дворнік вуліцу мяце,
Ён мяце, мяце,
Громка песенькі пяе,
Ён пяе, пяе.
Ой, люлі, ой, люлі і г. д.

Ён тапор сабе прыдбаў,
Ён прыдбаў, прыдбаў,
Многа дроў ён нарубаў,
Дроў ён нарубаў.
Хрась, хрась і г. д.

Ночкай дом вартуе ён,
Дом вартуе ён

І ў трашчотку б'е, бы ў звон.
    Як у звон, як у звон.
Тук, тук і г. д.

З крамы дзеўчына прыйшла,
    Вот прыйшла, прыйшла,
Курам корму прынясла,
    Корму прынясла.
Ціп, ціп і г. д.

### ЗАГАДКА

Я не розга і не пуга,
Не бізун, хоць не даўгая,
А такі ўсё ж паганяю.
Ну, згадай, хто я такая? *(Нагайка)*



## ДОЛЯ НАША

*З польскай — М. Канапніцкай*

Пад якой ідзеш зарою,
Ой, ты, доля наша —
Ці пад хмарнай, пад бурлівай,
Што віхрамі страша,

Што над сумнаю зямелькай
Ходзіць, ды не свеціць,
І сумліва пазірае,
І крывёй свет квеціць?

Ці ідзеш ты, наша доля,
Пад той зоркай яснай,
Што варожыць нам дзянёчак
Сонечны і шчасны,

Што ў красу загон аздобіць,
Ў суме засяваны,
Пазалоціць хатаў чорных
Стрэхі саламяны?

Ці ідзеш ты, наша доля,
Пад той зоркай яснай,
Што варожыць нам дзянёчак
Сонечны і шчасны?

*1919*

## ЦІ ТЫ ЗНАЕШ СТАРОНКУ?

*З польскай — Ю. Крашэўскага*

Ці ты знаеш старонку,
Край магілаў, курганаў,
Дзе па небе ўдагонку
Ходзяць хмары, туманы;

Дзе крывёю, слязамі
Рэчка рэчаньку гоніць;
Поле ўкрыта касцямі,
Лес магільна гамоніць?

Край бяды, край напасцяў
Вабіць люд свой бадзячы;
Ён мілей нам ад шчасця,
Мы з ім, ён з намі плача.

*1919*

## СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ, ІГАРА, СЫНА СВЯТАСЛАЎЛЕВА, УНУКА АЛЕГАВА

I

Ці не лепей было б, каб нам, брацця, пачаць старадаўнымі словы тужліву аповесць аб паходзе Ігаравым, Ігара Святаслаўліча?

Дый пачаціся песні той сягачасным ладам, а не складам Баянавым.

Баян бо чарадзейны, калі каму песню хацеў утварыці, то расцякаўся мысляй па дзераву, воўкам шэрым па полі, арлом сізым пад воблакі.

Помнячы бо, скажам, даўных часаў разруху, выпушчаў дзесяць сокалаў на лебедзяў стада, а якую з іх

дагоніваў сокал, тая першая песню пяяла старому Яраславу ці харобраму Імсціславу, што зарэзаў Радзедзю перад войскам касожынскім, або краснаму Раману Святаслаўлічу.

Але, брацця, Баян жа не сокалаў дзесяць пускаў на лябяжае стада,— ён свае чарадзіўныя пальцы на струны жывыя ускладываў, а тыя князям самі славу галосілі.

Дык пачанем жа гэтую, брацця, аповесць ад старага Уладзіміра да Ігара сягачаснага, што скаваў розум сілай сваёй і навастрыў сваё мужнасцю сэрца; напоўніўся духу барацьбянага і павёў сваё войска адважнае на землі Палавецкія за Рускія землі.

## II

Тады азірнуўся на светлае сонца Ігар і бачыць пакрытымі цемрай ад сонца ўсіх сваіх вояў. І скажа Ігар тут дружыне сваёй:

«О брацця й дружына! лепей жа быці пацятаму, чым быці ў палоне. Пасядзем жа, брацця, на быстрыя коні свае зірнуці на Дон сінявокі».

На вум князю ўспала жаданне, не гледзячы з неба варожбаў, паспытываць Дону вялікага.

«Хачу бо,— кажа,— дзіду заламаці аб поля канец Палавецкага; з вамі, русіны, хачу сваю голаў злажыці або напіціся шоламам Дону».

О Баяне, часінаў старых салавейча! Апяяў бы ты гэты паход, імкнучы салоўкай па дрэву выдумнаму, духам сягаючы воблакаў, славай звіваючы гэтага часу абедзве паловы. Траянавы сочачы след, цераз поле на горы! Песню спяяў бы тады для Ігара, унука таго:

«Не сокалаў бура занесла праз поле шырокае,
Галіцаў стады каціліся к Дону вялікаму...»

Або апяяці было, чарадзейны Баяне, Велеса ўнуча:

«Коні іржуць за Сулаю,
Слава звініць у Кіеве,
Трубы трубяць у Ноўгарадзе...»

Сцягі стаяць у Пуціўле, жджэ Ігар мілага брата Ўсевалада. І скажа яму буй-тур Усевалад:

«Адзін брат, адзін свет светлы ты, мой Ігару! Абодва з табой Святаслаўлевы дзеці. Сядлай, браце, быстрыя коні свае, а мае для цябе нагатове ўжо

асядланы ўперад ля Курска. А куршчане мае табе ведамы кметы: пад гудамі трубаў радзіліся, пад шоламамі ўзгадаваліся, канцом дзіды ўскормлены; ім шляхі вядомы, ім рыцьвы знаёмы, лукі ў іх нацягнуты, сто стрэл нарыхтована, шаблі навостраны, самі яны імчацца, як шэрыя ваўкі па полі, шукаючы чэсці сабе, а князю славы».

Тады князь Ігар уступіў у залатыя страмёны й паехаў па чыстаму полю. Сонца яму цемнатой заступіла дарогу: ноч, стогнучы грозьбы яму, разбудзіла птушшо, а выцце звярынае ў стады іх збіла; Дзіў кліча паверх лесу, слухаць наказвае зямлі незнаёмай — Волзе, і Памор'ю, і Пасуллю, і Суражу, і Карсуню, і табе, тмутараканскі балване!

А полаўцы нецярэбленымі шляхамі к Дону пабеглі вялікаму; толькі калёсы скрыпяць іх апоўначы, маўляў тыя лебедзі спуджаны.

Ігар к Дону войска вядзе.

А ўжо бяда яго пасець птаха па дзераву; ваўкі па ярах нядобрае варожаць; арлы клекатам звяр'ё завуць косці збіраць; лісіцы брэшуць на шчыты бліскучыя.

О зямля Руская, ты ўжо за рубеж перасягнула!

Доўга ноч танула ў мроку; зараніца досвіт набліжала; імгла поле засланіла; заснуў свергат салавейчы; гоман галічы ўзбудзіўся.

Русіны поле шырокае загарадзілі шчытамі бліскучымі, шукаючы чэсці сабе, а князю славы.

## III

Спазаранку ў пятніцу, патаптаўшы паганае войска палавецкае і рассыпаўшыся стрэламі па полі, паімчалі прыгожых дзяўчат палавецкіх, а з імі золата і папоны, і аксаміты дарагія; плашчамі, апоньчамі і кажухамі ды ўсялякімі палавецкімі тканінамі ўзорнымі пачалі масты масціць па балотах і гразкіх мясцах.

Сцяг чырвоны, харугвя белая, чырвоны бунчук, сярэбраная дзіда — Святаслаўлічу Хmajбраму!

Дрэмле ў полі Алегава гняздо харобрае. Далёка заляцела! Не было яно зроджана ў крыўду ні сокалу, ні крэчату, ні табе, чорны гругане, паганы палаўчаніне!

Гза бяжыць шэрым воўкам, Канчак яму знача след к Дону вялікаму.

На другі дзень вельмі рана крывавыя зоры світ узнімаюць, чорныя хмары з мора ідуць, хочуць прыкрыці два сонцы, а ў хмарах маланкі мігаюцца сінія. Быці вялікаму грому! Ісці дажджу стрэламі з Дону вялікага! Тут паламаціся дзідам, тут пашчарбаціцца шаблям аб шоламы палавецкія на рэчцы Каяле, ля Дону вялікага.

О Руская зямля, ты ўжо за рубеж перасягнула!

Вось ветры, Стрыбожыя ўнукі, павеялі стрэламі з мора на храбрае войска Ігарава. Дудніць зямля; рэкі мутна цякуць; порась поле пакрывае; сцягі гамоняць.

Ідуць полаўцы ад Дона і ад мора, і ад усіх старон рускае войска абступілі. Дзеці нячысцікавы клікам поле перагарадзілі, а русіны храбрыя загарадзілі яго шчытамі чырвонымі.

Яр-тур Усеваладзе! Стаіш у барацьбе й засыпаеш ты вояў варожых стрэламі, грыміш ты аб шоламы мячамі сталёвымі. Дзе толькі даскочыш, сваім залатым, тур, свецячы шоламам, ляжаць там паганыя галовы палавецкія. Пашчапаны гартоўнымі шаблямі й шоламы аварскія ад цябе, яр-тур Усеваладзе!

Якая цана ранам, брацця, таму, хто забыўся пачоту, й жыцця, й Чарнігава-горада, забыўся на бацькаўскі стол-пасад залаты, на сваю мілую пяшчоту, ясную Глебаўну, на звычай і абычай!

## IV

Былі векі Траянавы, прамінуліся леты Яраслаўля. Былі паходы Алегавы, Алега Святаслаўліча: той бо Алег мечам разруху каваў і стрэлы сеяў па зямлі. Ступае са звонам у стрэмя злачонае ў горадзе Тмутаракані, той звон даўны чуе вялікі Яраслаўлін сын Усевалад, а Уладзімір кожну раніцу затыкаў вушы ў Чарнігаве. Барыса ж Вячаслаўліча нядобрая слава на суд прывяла на апошні і ў зялёным зацінні каяльным божую пасцель паслала за крыўду Алегаву, маладога і храбрага князя. З таей жа Каял-ракі Яраполк палялеяў між угорскімі інаходамі бацьку свайго да Сафіі святое да Кіева.

Тады пры Алегу Гарыслаўлічу рассяваліся й раслі міжусобіцы. Гібнула жыццё Дажджбожага ўнука; у калатнінах князевых людзі свой век скарачалі.

Тады на Рускай зямлі рэдка пяяў аратай, але вараннё пакрумквала часта, дзелячы труп'ё між сабою, а галіцы гоман заводзілі свой, на ежу ляцеці збіраючыся.

Было гэта ў бітвы і ў тыя паходы, а гэтакіх бітваў і слухам не чулі!

## V

Ад рання да вечара, ад вечара да світу лятуць стрэлы гартоўныя, грымяць шаблі аб шоламы, трашчаць дзіды сталёвыя ў полі незнаёмым, сярод зямлі Паладзецкае. Чорная зямля пад капытамі касцьмі была пасеяна, а крывёю палітая,— туга абышла па Рускай зямлі.

Што там шуміць? Што там звініць далёка рана перад зарою?

Ігар палкі заварочвае: жаль бо яму міла брата Усевалада.

Біліся дзень, біліся другі, трэцяга дня к палудню рухнулі сцягі Ігаравы. Тут два браты разлучыліся на беразе быстрай Каялы. Тут віна крывавага не хапіла, тут баль дакончылі храбрыя русіны: сватоў напаілі, а самі параглі за Рускую зямлю.

Нікне трава ад жаласці, а дзерава пад тугою к зямлі прыхілілася.

## VI

Ужо вось, брацця, невясёлая гадзіна наступіла, ужо пустыня сілу прыкрыла.

Крыўда паўстала ў сілах Дажджбожага ўнука, дзевай узышла на зямлю Траянаву, успляснула крыллем лябяжым на сінім моры, а, плюскаючы ў Доне, спудзіла часіны шчаслівыя.

Князевы міжусобіцы — згуба для нас ад паганых. Казаць стаў брат брату: «гэта маё і тое ж маё!» І пачалі князі аб малым «гэта вялікае» казаці і самі на сябе загубства каваці. А паганцы з усіх старон набягалі з перамогай на Рускую зямлю.

О! далёка сокал заляцеў, птушак збіваючы,— к мору!

А Ігараву храбраму войску не ўваскроснуці. Па ім загаласіла Карына, і Жэля паняслася па Рускай зям-

лі, наводзячы смагу людзям у полымі рогу. Заплакалі жоны рускія, галосячы:

«Ужо нам сваіх мужоў мілых ні мысляй памысліць, ні думай падумаць, ні вочмі сваймі азіраці, а золата й срэбра таго й пагатове не бачыць ніколі!»

І застагнаў жа, брацця, Кіеў тугою, а Чарнігаў напасцямі! Нуда разлілася па Рускай зямлі; няўцешная жальба пацякла сярод Рускай зямлі. А князі сабе самі праступства кавалі; а паганыя самі адны, з перамогамі наваліўшыся на Рускую зямлю, дань вымагалі па белцы з двара.

Тыя бо два храбрыя Святаслаўлічы, Ігар і Усевалад, ужо няпраўду збудзілі, якую тут прыспаў быў іх бацька, Святаслаў грозны, вялікі кіеўскі. Быў ён гразою: верх браў сваім войскам магутным і мячамі сталёвымі. Наступіўшы на зямлю Палавецкую, патаптаў узгоры і долы; замуціў і азёры, і рэкі; засушыў балоты й крыніцы. А паганага Кабяка з узлучыны морскай ад жалезных вялікіх палкоў палавецкіх, як віхрышча, выхапіў. І зваліўся Кабяк у горадзе Кіеве, у замку Святаслаўлевым.

Тут немцы і венедыйцы, тут грэкі і маравы пяюць славу Святаслаўлю, выдумляюць на князя Ігара, што патапіў багацце на донні Каялы, ракі палавецкай, насыпаўшы рускага золата там. Там Ігар-князь ссядаў з залатога сядла і садзіўся ў сядло нявольніка.

Занылі сцены гарадоў, завяла вясёласць.

## VII

А Святаслаў сумны сон сніў у Кіеве на горах у гэтую ноч.

«З вечара адзявалі мяне, кажа, у чорную пасцілку на цісовай краваці; чэрпалі мне сіняе віно, змешанае з зеллем; сыпалі мне з пустых калчанаў паганых полаўцаў буйныя пэрлы на грудзі, ды песцяць мяне. Ужо дошкі без скрэпаў на маіх залатаверхіх харомах. Усю ноч з вечара дзікае груганнё гракала; пабыло каля Плеснеску на балоні, каля нетраў Кісані, і к сіняму мору няслося».

І сказалі баяры князю:

«Ужо, княжа, туга розум твой замуціла: гэта вось два сокалы зляцелі з бацькавага залатога пасаду, каб горад Тмутаракань пашукаці або напіціся шоламам

Дону. І ўжо сокалам крыллі падсечаны шаблямі погані, а саміх іх павуцінай жалезнай апуталі. Цёмна было ўжо на трэці дзень: два сонцы патухлі, абодва чырвоныя згаслі слупы, а з імі і месяцы два маладыя. Алег і Святаслаў завалакліся цямрыцай, і ў моры яны патанулі, і гордасці хану дадалі вялікай. На рэчцы на Каяле святло цьма пакрыла; па Рускай зямлі, як рысяў племя, распасцерліся полаўцы. Ужо ўзнялася над хвалай пахула, ужо ўссела насілле над воляй і ўжо ўрэзаўся Дзіў на зямлю. Вось бо гоцкія красныя дзевы запелі на беразе сіняга мора, золатам звонячы рускім: пяюць яны Бусавы часы, і помсту лялеюць Шараканаву... А мы ўжо, дружына твая, не знаем вясёласці».

Тады вялікі Святаслаў абазваўся слаўцом залатым, са слязамі змешаным, і сказаў:

«О мае сыноўцы, Ігару і Усеваладзе! Рана пачалі вы зямлю Палавецкую рэзаць мячамі, а славы шукаці пасабе. Але не з чэсцяю ўходалі, бо не з чэсцяй паганскую кроў пралілі. Вашы адважныя сэрцы ў сталі нязломнай закованы і згартаваны адвагай. Дый што вы стварылі маёй сярэбранай сівізне! Не дажджаліся вы сільнага й багатага брата майго Яраслава з яго мнагавоямі, з чарнігаўскімі ваякамі — з магутамі і з татранамі, і з шальберамі, і з тапчакамі, і з рэвугамі, і з альберамі. Яны ж, бывала, без шчытоў, з захаляўнымі нажамі, клікам палкі пабяджаюць, звонячы прадзедняй славай. Але вы сказалі:

«Храбрымося самі! Самі пярэднюю славу захопім і з задняю самі падзелімся».

«А ці ж дзіва тут, браццяі старому памаладзеці? Калі сокал у годах, высока ўзбівае ён птушак, свайго не папусціць у крыўды гнязда! Але ў тым гора, што князі ўжо мне ў непадмогу. У нішто абярнуліся тыя часіны! Вось у Рымаве крычаць пад шаблямі палавецкімі, а Уладзімір пад ранамі. Туга і нудота Глебаву сыну!»

## VIII

Княжа вялікі, Усеваладзе! Ці не мысляй табе б прыляцеці, каб бацькаў пасад убярэгчы! Ты бо можаш распырскаці вёсламі Волгу, а шоламам вычарпаць Дон. Каб ты быў, то была бы па нагаце нявольніца, а па рэзане нявольнік. Ты бо можаш насуха жывымі страляць самастрэламі, удалымі Глеба сынамі.

Ты, буй-Рурыча, й Давідзе! Ці ж не вашыя гэта ў крыві пазлачоныя шоламы плавалі? Ці ж не ваша дружына адважная рыкае, як туры, гартоўнымі ранена шаблямі ў полі незнаёмым? Уступіце, сябры, ў залатыя страмёны за крыўду гэтага часу, за Рускую зямлю, за раны Ігаравы, смелага Святаслаўліча!

Галіцкі Асмамысле Яраслаўле! Высока сядзіш ты на пасадзе сваім златкованым; падпёр угорскія горы сваімі палкамі жалезнымі, шлях заступіў каралю, зачыніў Дунаю вароты, шыбаючы бярэмі цераз воблакі, да Дуная суды судзячы. Грозьбы твае па землях цякуць; адчыняеш Кіеву вароты; страляеш з бацькавага пасада залатога султанаў па-за землямі. Страляй, княжа, Канчака, паганага раба, за Рускую зямлю, за раны Ігаравы, адважнага Святаслаўліча!

А ты, буй-Рамане, і Мсціслаўле! Храбрая мысль носіць розум ваш на дзела. Высока плывіцё на дзела, з адвагай, як сокал на ветрах лунаючы, хочачы сходаці птаха у бітве. Ёсць бо ў вас жалезныя наперснікі пад шоламамі лацінскімі. Ад іх затрасліся ўжо землі і шмат якіх краеў: Хінова, Літва, Дарамела, Яцвягі і полаўцы, кінуўшы дзіды свае й галовы свае накланіўшы пад тыя стальныя мячы.

Але ўжо, княжа Ігару, аслабела сонца святло, а дзерава лісць не на добрае скінула! Па Росі і Суле гарады падзялілі, а Ігарава храбрага войска не ўваскрасіці. Дон цябе, княжа, кліча і іншых князёў заве на пабеду.

Альговічы, храбрыя князі, утаміліся ў барацьбе. Інгвар і Усевалад і ўсе тры Імсціслаўлічы — не благога гнязда птахі шасцікрылыя! Не жэрабем пабедным сабе ўладу прыдбалі! Што ж вашы шоламы залатыя і ляцкія шчыты? Загарадзіце полю вароты сваймі вострымі стрэламі за зямлю Рускую, за раны Ігаравы, буйнага Святаслаўліча!

## IX

Ужо бо Сула не цячэ ручаямі срабрыстымі к гораду Пераяслаўлю, ужо Дзвіна балотам цячэ к тым грозным палачанам, пад воклік паганых. Адзін толькі Ізяслаў, сын Васількавы, пазваніў сваймі вострымі мячамі аб шоламы літоўскія. Перабіў славу дзеду свайму Усяславу, а сам пад чырвонымі шчытамі на

крывавай траве, пабіты літоўскімі мячамі, з Хоціем лёг, а той кажа:

«Дружыну тваю, княжа, птахі крыллем апранулі, а звяры кроў палізалі!»

Не было тут брата Брачыслава, ні другога Усевалада: адзін ён выпусціў жамчужную душу з храбрага цела цераз залатое ажарэлле.

Занылі песні, зачахла вясёласць, трубяць трубы гарадзенскія.

Яраслаўле і ўсе ўнукі Усяслаўлевы! Апусціце ўжо сцягі свае! Пахавайце мячы свае пашчарбаныя, бо ўжо збыліся дзедавай славы! Вы бо сваімі нязгодамі пачалі наводзіць паганых на Рускую зямлю, на надзел Усяслава, ад чаго і насілле пайшло ад зямлі Палавецкай.

У сёмы Траянавы век жэрабя кінуў Усяслаў аб дзяўчыне, мілай сабе. Падпёршыся клюкамі, ён на кані паімчаўся да горада Кіева і дакнуўся дзідай да кіеўскага залатога пасада. Ад іх скочыў зверам дзікім. Апоўначы з Белгарада ахутаўся сіняй імглой, а на раніцу, узняўшыся, браму стракалам адчыніў Ноўгараду, разбіў Яраслаўлеву славу і скочыў ваўком да Нямігі з Дудутак.

На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць цапамі сталёвымі, жыццё кладуць на таку, душу веюць ад цела.

Нямігі крывавыя берагі не дабром былі засеяны, засеяны былі касцямі сыноў рускіх.

Усяслаў-князь людзям суд судзіў, гарадамі князёў надзяляў, а сам поначы воўкам гуляў. З Кіева да петухоў дасцігаў Тмутаракані; вялікаму Хорсу ваўком шлях перабягаў. Таму ў Полацку рана званы пазванілі к завутрані ў Сафіі святой, а ён у Кіеве звон чуе. Хоць і вешчая душа ў дзёрзкім целе была, але часта бяды нацярпеўся. Яму першаму вешчы Баян і прыпеўку зложыў дасціпную:

«Ні хітраму, ні быстраму,
Ні шпаркаму птаху
Не мінуці Божага суда».

О! стагнаці Рускай зямлі, успомніўшы быўшу часіну і быўшых князёў!

Старога таго Ўладзіміра немагчыма было прыкаваці да кіеўскіх гораў! Цяпер бо яго сцягі сталі — адны Рурыкавы, а другія — Давідавы, але хобаты іх паасобку калышуцца.

## X

Пяюць дзіды на Дунаі. Яраслаўны голас чуецца. Беспрыпыннаю зязюляй раным-рана галосіць:

«Паляту, кажа так, па Дунаю зязюляй, абмачу рукаво бабровае ў Каяле-рацэ, абатру князю раны яго на магутным на целе яго».

Яраслаўна зрання плача ў Пуціўлі на сцяне, наракаючы:

«О вецер, вятрыска! Чаму ты насільна так вееш? Чаму імчыш ханскія стрэлы на лёганькім крыллі сваім ды на вояў мужа майго? Ці ж веяць мала табе ўгары пад аблокі, лялеючы ў моры сінім караблі? Чаму ты вясёласць маю па кавыллі развеяў?»

Яраслаўна зрання плача ў Пуціўлі-горадзе на сцяне, наракаючы:

«О Днепру Славуцічу! Горы каменныя ты перасек скрозь зямлі Палавецкае; чоўны лялеяў ты на сабе Святаслаўлевы к войску Кабякаву. Прылялей жа й мужа майго да мяне, каб рана я слёз не ссылала на мора к яму!»

Яраслаўна зрання плача ў Пуціўлі на сцяне, наракаючы:

«О светлае сонца, прасветлае! Усім ты нясеш і цяпло, і красу. Нашто ж нанясло ты свой промень гарачы на вояў тых мужа майго? На полі бязводным ім смагаю лукі звяло, а ўтулы тугой ім заткала!»

## XI

Прыснула мора з поўначы, смерчы імгламі ідуць. Князю Ігару Бог знача дарогу з зямлі Палавецкай на Рускую зямлю, дзе бацькаў пасад яго жджэ.

Патухла вячэрняя зорка.

Ігар спіць, Ігар вока не зводзіць, Ігар думкаю мерае поле ад Дона вялікага к малому Данцу.

Апоўначы свіснуў Аўлур за ракою каню, разумеці загадвае князю.

А князя Ігара няма!

Клікнуў — дрыгнула зямля, зашумела трава, палавецкія вежы ўспужаліся.

А князь Ігар к трыснягу гарнастаем панёсся і гогалем белым паймчаўся к вадзе. На быстрага рынуў каня, саскочыў з яго босым воўкам, к логу Данца пака-

ціўся й паляцеў сокалам пад імгламі, забіваючы гусі і лебедзі к снеданню, полудню й вячэры.

Як Ігар паляцеў сокалам, тады воўкам Аўлур пакаціўся, абіваючы росы сабою сцюдзёныя: падарвалі бо коней сваіх быстраногіх.

І кажа рака Данец:

«Княжа Ігару! Не мала вялічча табе, Канчаку дакукі, а радасці Рускай зямлі!»

А князь Ігар кажа:

«О Доньча! Не мала вялічча табе, што лялееў ты князя на хвалях і зялёную траву яму падсцілаў на сваіх берагах срэбраных, адзяваючы цёплымі ймгламі яго пад ценем зялёнага дзерава, і сцярог на вадзе яго гогалем, чайкамі на ручаях, чарнедзямі на ветрах. Не такая, кажа, рака Стугна. Маючы вузкі працёк, праглынуўшы чужыя ручаі й распасцёршы хвалі к утоку, князю Расціславу маладому берагам цёмным Дняпро зачыніла. Плачацца маці Расціслаўля па сваім маладым князю Расціслаўлю. Кветкі жальбою панылі, а дрэва з тугою к зямлі нахілілася».

Не сарокі так застракаталі: гэта едзе Ігаравым следам Гза з Канчаком. І тады груганы не закрумкалі, галкі замоўклі, сарокі не стракаталі, па лозах паўзлі толькі. А дзятлы тукатам к рэчцы шлях паказваюць, салавейкі вясёлымі песнямі раніцу згадваюць.

І гаворыць Гза Канчаку:

«Калі сокал ляціць да гнязда, мы застрэлім саколіча стрэламі сваймі залатымі!»

А Канчак Гзе адказвае:

«Калі сокал ляціць да гнязда, мы сакольца апутаем краснаю дзевай!»

А Гза кажа Канчаку:

«Калі мы яго дзеваю краснай апутаем, мець не будзема мы ні саколіча, ані краснае дзевы, ды пачнуць нас тады біці птахі ў полі Палавецкім!»

## XII

І сказаў Баян аб днях Святаслаўлевых, Баян-песнятворац далёкага часу, Яраслаўлева, Алегава:

«Княжа! Хоць і цяжка табе, галаве, без плячэй, але трудна табе, целу, без галавы!»

Так і Рускай зямлі без Ігара. Сонца свеціцца на небе, Ігар-князь — на Рускай зямлі. Пяюць дзевы на Дунаі, галасы плывуць праз мора і да Кіева. Ігар едзе па Барычаву да святое багародзіцы Пірагошчай. Рады староны, весялы гарады.

Спяяўшы песню старым князям, а пасля маладым пяяці:

«Слава Ігару Святаслаўлічу, буй-туру Усеваладу, Уладзіміру Ігаравічу! Здароўя князям і дружыне, выступаючым за хрысціян на войска паганых! Слава князям і дружыне!» Амінь.

*1919*

## ХАЎТУРНЫ МАРШ

*З польскай — К. Уейскага*

Гэтак звоняць! А так звоны
Рвуць мазгі балесне!
А ксяндзы — куды пруць роем
З груганавай песняй?
Тут жа блізка, прада мною
Чорны воз туркоча...
Як мне цёмна! Воз той чорны
Зацямніў мне вочы.

Недзе ў высі крыж яснее.
Мігаюць паходні...
А мяне вядуць пад рукі,
Так іду выгодне:
Самі ногі йдуць, здаецца,
Скачанеўшы ногі,
Добра, што вядуць мяне так,—
Не зблуджу з дарогі.

Так іду, плыву, як спячы,
Без чуцця, без волі;

Галаву ды сэрца толькі
Страшна мучаць болі,
Капцюры іх рвуць якіясь,
Вострыя, крывыя;
А званы тут цягам звоняць,
Варанне ўсцяж вые.

Чую музыку якуюсь,
Водгулле нясецца;
Б'е з вачэй жар, а па твары
Штось зімное льецца.
На мяне глядзяць, а блізка
Падысці не смеюць;
Мабыць, ё ў маім штось твары —
Што так страхам вееець.

А воз цягне дзве пар коні
У жалобным строю,
А мяне якаясь сіла
Цягне за сабою.
Ах, мой Божа! Ка мне пхнецца
Дамавіна-скрыня!
Там майго загадка быту,
Там — у дамавіне.

За што так мяне скараў ты,
Богам называны?
Ах за што, за што?
Уладар зямлі і неба,
Сонцаў і курганаў,
Згнёў мяне ў нішто?!
Дзе той Бог,
Што так змог?

Ці яго звон гэты весціць
І той крык варон?
Хай тут стане прада мною
Ў постаці смяячай,
Ён страшней за ўсё!..
Бо вялікшы я цярпеннем —
Хоць нішто не значу —
Чымся моц яго!
Ой, злы ён!
Ой, злы ён!

Гэтым словам б'е звон, вые...
    Як вароны тыя!
Як жа мучыць гэты звон,
    Гэты звон! Звон!

*

На атласе заламала
    Ручанькі накрыж,
Усміхаецца спрасоння...
    Ах, ты ўжо не сніш!

Не ўздыхнеш па белых ружах
    На вянку ў жальбе,
Пацалункамі ў галоўку
    Не збуджу цябе.

Не глядзіш, што за табою
    Йду я — труп бляды,
Што вяду туды з жалобай,
    Скуль не прыйдзеш ты.

Ці ж на то хавала маці
    Не адну вясну
І кахаў я да астатку,
    Каб клаў у труну?

Вось якое мне вяселле?
    І я ў гэткі дзень
Жыці мушу? — Божа! Божа!
    Што пачну я, цень?

*

Дабраты была анельскай,
    А любіла як!..
Быццам песняй, быццам казкай
    Дні плылі нам так.

І пры ёй не знаў я грэху,—
    Дабрату я знаў,
Бо з яе вачэй і ўсмешкі
    Бласлаўленне браў.

Для мяне была скарбніцай
Творчых дум і цнот,
Вёў мяне яе стан гібкі
Да святых яснот.

Дзе ж мяне завёў, урэшце,
После цяжкіх спроб?
К апраметнай шоў я ў сонцы.
Праз надзею — ў гроб!

Вось якое мне вяселле?!
І я ў гэткі дзень
Жыці мушу? Божа! Божа!
Што пачну я, цень?

*

Паднялі труну на плечы,
Паняслі паспешна;
Мяне ўдзержаць хочуць сілай —
Ха, ха! Вось пацешна!
Прэч з дарогі, разявякі,
З хлысцьбаю дасужай!
Бо я молад і сярдзіты,
А кулак мой дужы...

Я адзін к ёй маю права,
А вы прэч, насланне!
Чорны збродзе! Толькі роўны
Хай да бойкі стане.
З вас ніхто майго цярпення
У грудзях не змесце!..
І ўцяклі ўсе — сам іду я,
Грозны цар балесці!

Сярод гоману і звону
Ўсіх званоў без ладу,
Сам іду я к дамавіне —
Да свайго пасаду.
Ты, грабар, на гэтым наспе
Ўспёрты на лапаце,
За дол для цара такога
Колькі хочаш, браце?

А капай мне дол глыбока,
Бо свет мне — горш нетраў;
Ад тваёй цяжэй зямлі тут
Гнець мяне паветра.
Прэч з крапілам! І святая
Яе капля спляме;
Я адзін тут маю права —
Пакраплю слязамі.

Здань-рука ка мне вылазе
З-пад манашых полаў,
Ясна-моцная такая!
Дух гняце мой кволы.
І мяне яна кранула!
Пахіліўся, ўпаў я...
І ўзялі мяне й панеслі,
А куды — не знаю.

Ах, за колькі капляў шчасця
Плацяць людзі свету
Цэлым морам слёз!
Ой, дурны свет, і нашто ты
Створаны ў цьму гэту?
Дзе твой скон? Дзе ўзрос? —
Яго рух,—
То ж мой дух!

Я ж — як сэрца, што ў ім б'ецца,
Ён — пусты, як звон!
Ці каго аб тым прасіў я?
Без маёй хто волі!
Мне сказаў прыйсці?
Хоць бы там мяне сквалі —
Не сяджу ў нявoлі:
Маю моц пайсці.
Ой, злы ён!
Ой, злы ён!

Гэтым словам б'е звон, вые...
Як вароны тыя!
Як жа мучыць гэты звон,
Гэты звон! Звон!

*1920*

## МІЖНАРОДНЫ ГІМН

*(«Інтэрнацыянал»)*

*З французскай — Эжэна Пацье*

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у лучнасці братняй
Узняўся людскі род.

1

Паўстань, пракляццем катаваны!
Паўстань, хто з голаду век пух!
Бурліць наш розум ўзбунтаваны,
Няволі кліча рваць ланцуг!

Стары парадак мы зруйнуем
Магутным выбухам сваім
І свет на новы лад збудуем:
Хто быў нічым — той будзе ўсім!

2

Ніхто не дасць самохаць волі —
Ні Бог, ні цар, ні багатыр,
Даб'емся самі лепшай долі...
Дабро для ўсіх — наш правадыр!

Каб не згібаці плеч пакорных,
Каб волі дух лунаў у нас,—
Адважна плаўма сталь у горнах,
Пакуль у кузні жар не згас!

3

Уласць гняце, закон хітруе,
Кроў з бедных ссуць падаткі, чынш.
Нішто багатых не турбуе,
Правы гаротных — смех адзін!

Даволі жыць чужою ласкай,
Закон аб роўнасці давёў:
«Няма правоў без абавязкаў
І абавязкаў без правоў!»

4

Нікчэмны ў торжышчы ўсеўладным,
Капальняў, фабрыкаў паны,
Чужую працу толькі складны
Па-зверску рабаваць яны.

У скрыні-склады сытай банды
Дабро працоўнае пайшло,
Хай жа бядак даб'ецца праўды:
Каб што здабыў — яго было!

5

Цары паілі нас манаю.
Дык нам спакой, а ім вайна.
Супроць вайны пайдзём вайною:
Душа ў салдаты — ні адна.

Калі ж уладзяць з намі гулі —
Пагоняць нас на бой за іх,—
То будуць знаць, што нашы кулі
Пачнуць страляць па іх саміх.

6

Мы ўсе работнікі, сяляне —
Сусветны рой працаўнікоў —
Мець будзем на зямлі ўладанне —
А дармаеды прэч! Далоў!

Жывіцца целам нашым годзе
Усім трутнём і груганом!
Для нас, паўстаўшых, сонца ўсходзе,
Свяціць нам будзе век вяком!

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ,
Каб у лучнасці братняй
Узняўся людскі род!

*1921*

## САСОНКА

*З польскай — М. Канапніцкай*

А хто ж, хто сасонку
Гэту ў лесе сеяў?
Ой, засеяў яе ветрык,
Што над хатай вее.

А хто ж, хто сасонку
Напаіў вадзіцай?
Ой, паілі яе сытна
Росы і крыніцы.

А хто ж, хто сасонку
Грэў у сонным боры?
Аграваладне сонца
З паднебных прастораў.

А хто ж, хто сасонку
Выхаваў з зярняці?
Выхавала яе гэта
Наша зямля-маці.

[*1921*]

## ПАЖАРНІКІ

*З польскай — Л. Ягалкоўскай-Кашуцкай*

Гэй, пажарнікі, браць жвава
Коні да язды,
Бо там з краю дом палае,
Трэ спяшаць туды!

Хваць паходні, помпы, ўсходні,
Едуць,— дзьме дуда.
Ноччу к хаце ратаваці
Мчацца — тра-та-та!

Б'е агнішча, вецер свішча,
Іскраў клуб ляціць.
Гэй, пажарнікі, гэй, жвава
Полымя гасіць!

Мы рубаем, паліваем —
Колькі сілы тэй!
Гэй, працуем і ратуем
Ад бяды людзей!

*[1921]*

## СЛОВА АБ ПАЛКУ ІГАРАВЫМ

### I

Ці не добра было бы нам, брацці,
Старадаўнымі словы пачаці

Сказ аб Ігара трудным паходзе,
Святаславіча-князя прыгодзе?

А пачацца сягачасным ладам
Песні той,— не Баянавым складам!

Бо Баян чарадзейны, як песняй
Захацеў каму пеці пачэсне,

Расцякаўся ён мысляй па дрэву,
Шэрым воўкам па полі-пасеву,

Сізакрылым арлом пад аблокі,—
Так захопліваў свет ён далёкі!

Помніў ён бо, як кажуць, старыны
І разрухі ўсе даўных часінаў.

Выпушчаў дзесяць сокалаў радам
Ды на белае лебедзяў стада,

А якая з іх сокалу ўпала,
Тая першая песню пяяла

Ці старому тады Яраславу,
Ці харобраму князю Мсціславу,

Што у борцы зарэзаў, як згледзеў,
Перад войскам касожскім Радзедзю,

Або краснаму пела Раману
Святаславічу ў хвалу й пашану.

Але, брацці, не сокалаў дзесяць
Выпушчаў ў свет Баян з пералесіц

На лябяжае стада, бы ў байцы,—
А ён клаў свае вешчыя пальцы

На пявучыя струны, а тыя
Пелі славу князям, як жывыя.

Дык пачнем жа мы, брацці, сказ гэты
Ад старога Ўладзіміра летаў

Да сучаснага Ігара-воя,
Што скуў розум свой сілаю ўдвое,

Навастрыў свае сэрца адвагай,
Барацьбянай напоўніў дух смагай

І павёў цераз сёлы і вёскі
Свае дужыя, храбрыя войскі

На зямлю палаўчан, на змаганне
Ды за Рускай зямлі бытаванне!

## II

Як зірнуў тады Ігар на сонца,
Бачыць — цемра зацмення бясконца

Яго войска пакрыла, як сажай.
Тут дружыне сваей ён і кажа:

«Ой вы, брацці мае і дружына!
Лепей будзе, каб кожны з нас згінуў,

Чымся быць усім нам у палоне.
Сядзьма ж, брацці, на быстрыя коні

Ды на Дон сінявокі паглянем!»
На вум князю залегла жаданне:

Не зважаючы з неба варожбаў,
Сягнуць Дона вялікага ложбаў.

«Вось хачу,— кажа,— вострую дзіду
Заламаць за бяду і абіду

Аб канец Палавецкага поля;
Хачу з вамі, русіны, за волю

Палажыць сваю голаў да скону
Ці напіціся шоламам Дону».

О Баяне, часінаў мінулых
Салавейка! На струнах бы чулых

Ты апеў бы паход слаўны гэны,
Імкнучы, салавейча нязменны,

Па выдумнаму дрэву далёка,
Дасягаючы духам аблокаў,

Часаў даўных звіваючы й новых
Сваёй славай абедзве паловы,

След Траянавы сочачы, скоры,
Цераз поле, даліны, на горы!

Ты бы песню тады аб набегах
Спеў для Ігара, ўнука Алега:

«Ой, не сокалаў несла віхурай
Цераз поле шырокае бура!

А каціліся галіцы стадам
Да вялікага Дона з нападам...»

Ці запець было, вешчы Баяне,
Ўнуча Велеса, гэта пяянне:

«Коні рзуць за Сулою-ракою,—
Слава ў Кіеве звоніць з зарою!

Чутны трубы з Навагрода,
Стаяць сцягі у Пуціўлі;
Ігар брата Ўсевалода
Жджэ прыходу кожнай хвілі».

І прыйшоў брат, і казаці
Стане буй-тур Усяволад:
«Ты ў мяне адзін, мой браце,
Свет мой светлы, Ігар-волат!

Мы з табой абодва сённі
Святаслававыя дзеці,
Дык сядлай свае, брат, коні,
Коні быстрыя, бы ўспеці.

А мае напагатове
Ўжо, як знаеш, асядланы
Яшчэ ўперад у дуброве,
Каля Курска, раным-рана.

А мае ж куршчане любы
Табе ведамыя кметы:
Пад гудамі гулкіх трубаў
Спарадзіліся ў дасветы.

Гадавалі іх шаломы,
А канцом дзіды ўскармлёны,
Шляхі ім усе вядомы
І знаёмы яры, склоны.

Ў іх нацягнутыя лукі,
Нарыхтаваныя стрэлы;
Шаблі вострыя у рукі
Пахапалі, дзержаць смела.

Як ваўкі сівыя ў полю,
Самі мчацца ў бой крывавы,
Каб здабыць сабе чэсць, волю,
Каб прыдбаці князю славы!»

Князь Ігар тады ў залатое сядло
Сеў і паехаў па чыстым разлогу,
А сонца на небе, згасіўшы святло,
Цемрай яму заступіла дарогу.

Ноч, стогнучы жудкія грозьбы яму,
У полі маркотным птушшо разбудзіла,
А выцце звярынае ў гэтую цьму
У стада пужлівае птахаў тых збіла.

Паверх лесу кліча ўжо чарамі Дзіў,
Слухаці кажа зямлі незнаёмай —
Корсунь, Памор'е і Сураж зацьміў,
Волзе, Пасуллю папутаў заломы.

Кажа й табе яго слухаць, балване,
Што разбаярыўся ў Тмутаракане!

А полаўцы шляхам пабеглі нябітым
К вялікаму Дону, як зверы, жудосна;
Калёсы у поўнач крычаць іх адны там,
Маўляў, тыя лебедзі, спуджаны сосну.

Вось Ігар-князь к Дону вядзе сваіх вояў,
А птахаў яго бяда сочыць па суччы;
Ваўкі па бярлогах варожаць благое,
І брэшуць лісіцы на шчыты бліскучы.

Арлы заклікаюць звяр'ё клекатаннем
Збіраць на пабоішчы косці людскія...

— О рускае племя! Далёкім сяганнем
Ты ўжо перайшло рубяжы палаўцкія.

Доўга ў мроку ноч танула,
Заранiца світ зблiжала,
Поле мглою зацягнула,
Ранне жнiва сваё жала.

Сцiхнуў свергат салаўiны,
Узбудзiўся гоман галчы...
— О харобрыя русіны!
Прад навалаю паганчай

Загародзілі шчытамі
Вялікае тое поле,
Здабываючы чэсць самі,
А для князя славы болей!

III

А во ў пятніцу рана стаптали
Палавецкае войска паганае;
Ў полі стрэламі там засвісталі,
Загулялі пабеду праслаўную.

Ўзялі красных дзяўчат палавецкіх
І папоны, аксаміты, золата —
Ўсё, што ўпала да рук удалецкіх,
Што бітвой не было ў попел змолата.

Палавецкім багаццем — плашчамі,
Кажухамі, тканінай залотнаю
Памасцілі масты пад нагамі,
Загацілі праходы балотныя.

Сцяг чырвоны, дзіда серабрана
І бунчук па абычаю добраму
Ў нагароду за славу, за раны
Святаславічу, князю хахобраму!

Дрэмле Алега харобрае
Ў полі на шчытах гняздо.
Ой, заляцела, адважнае,
Дужа далёка яно!

А не было ж яно зроджана
Ў крыўду нікому нідзе —
Ні быстракрыламу крэчату,
Ні сакалу, ні бядзе

І ні табе, палаўчаніне,
Чорны паганы груган.
Крыўдзе тваёй не спакорыцца
Вольны Алегавы стан.

Гза бяжыць шэрым воўкам
Там па полі па дзікаму,
А Канчак яму сцежку
Значыць к Дону вялікаму.

На другі дзень вельмі рана
Над зямлёй крывавы зоры
Світ усходні абвяшчаюць,
Хмары чорныя йдуць з мора.

Сонцы два прыкрыці хочуць,
Як дзве ясныя заранкі,
А во ў хмарах гэных чорных
Ззяюць сінія маланкі.

Быці вялікаму грому
Над каласамі паспелымі;
Дожджу ісці каляному
З Дона вялікага стрэламі.

Тут паламаціся дзідам
Па-над Каял-ракі доламі,
Тут пашчарбаціцца шаблям
Аб палавецкія шоламы.

О зямля Руская! З славай
Воі тваe маладзецкія
Перасягнулі далёка
Ўжо рубяжы палавецкія.

Вось ветры, Стрыбожыя ўнукі,
Павеялі стрэламі з мора
На храбрае Ігара войска,
Ўзгадована ў долі і ў горы.

Зямля і дудніць, і трасецца,
Цякуць памутнеўшыя рэкі;
Туман пакрывае ўсё поле,
А сцягі гамоняць: на векі!

Ідуць полаўцы ад Дона
    І ад мора ўсплылі,
Войска рускае навокал
    Нетрай абступілі.

Перагарадзілі поле
    Шатанята клікам,
А харобрыя русіны —
    Шчытамі і пікай.

Ой ты, яр-тур Усяволад!
    Стаў у бoi забіякай:
Засыпаеш ты варожых
    Стрэламі ваякаў.

    І грыміш аб іх шаломы
        Стальнымі мячамі;
    Дзе ўпадзеш, тур, залатымі
        Свецячы шчытамі,

    Там кладуцца ў рад галовы
        Полаўцаў паганых,
    І аварскія шаломы
        Шабляй пашчапаны.

Якая цана ранам, брацці, таму,
Хто забыўся жыцця яснаты,
На горад Чарнігаў хто ў боях забыў
І на бацькаў пасад залаты?

На мілую любу, Глябоўну сваю,
Яснавокую краску-жану,
На звычай, абычай прадзедаў стары,—
Хто ўсё гэта забыў у вайну?..

## IV

Былі слаўныя, дзеяў Траяна, вякі,
Прамінулі гады Яраслава,
І паходы Алега былі-працяклі —
Ўсё Алега з сыноў Святаслава.

Той Алег бо мячамі разруху каваў,
Па зямлі сеяў стрэлы разгонам.
Калі ў горадзе Тмутаракані ступаў
Ў залатое страмя ён са звонам,

Чуў здалёку той даўны трывожлівы звон
Яраслававы сын, Усяволад.
А Ўладзімір шторання, пакінуўшы сон,
Зачыняўся ў Чарнігава-горад.

А Барыса таго Вячаславіча,
Маладога і храбрага князя,
На апошні суд слава паклікала,
За якою ганяўся ў адвазе.

І навекі пасцелю зялёную
У каяльным заценні паслала —
Ўсё за крыўды, абіды Алегавы,
Што загубства разводзіў нядбала.

З той Каялы-ракі між угорскімі
Іnaходцамі сам палялеяў
Яраполк свайго бацьку да Кіева,
Да сялібы святое Сафеі.

Пры Алегу тады Гарыславічу
Моц было міжусобіц, няладаў;
Жыццё гінула ўнука Дажджбожага,
Люд свой век скарачаў ў княжых звадах.

На зямлі тады Рускай узбуранай
Рэдка пеў аратай за сахою,
Груганнё зато часта пагрумквала,
Ў полі дзелячы труп між сабою.

А на ежу ляцелі збіраючысь,
Галкі гоман заводзілі й гулі.
Так было ў тыя войны й пабоішчы,
А такіх бітваў слухам не чулі!

V

Ад раніцы да вечара,
Ад вечара да раніцы
Лятуць стрэлы гартоўныя,
Грымяць мячы аб шоламы,

Трашчаць дзіды сталёвыя,
Шумяць харугві стужкамі
Сярод палёў няведамых,
Сярод зямель палоўцавых.

Зямля тая ўчарнелая,
Пабітая капытамі,
Касцямі ўся пасеяна,
Крывёю ўся палітая.

Вялікай абхапілася
Зямля тугою Руская.

Што там шуміць, што там звініць
Рана йшчэ перад зарою? —
Ігар палкі ўводзіць свае:
Жаль яму Ўсеўлада-брата.

Біліся дзень, дзень і другі,
Трэцяга дня пад палудня
Сіла змагла, сіла лягла,
Рухнулі Ігара сцягі.

Тут два браты разлучыліся
На беразе быстрай Каялы,
Тут не хапіла крывавага
Віна ды ў гульні небывалай.

Тут пір дакончылі храбрыя
Русіны — не дарма набеглі,—
Сватоў спаілі, а самі там
За Рускую зямлю палеглі.

Ў полі далёкім ад жаласці
Маркотна ные травіца,
А пад тугой цяжкай дзерава
К зямлі сірацінай хіліцца.

## VI

Во, невясёлая, брацці, гадзіна настала!
Сілу пустыня прыкрыла ўжо грознай навалай:

Крыўда паўстала у ўнука Дажджбожага сілах,
Дзевай яна на Траянаву землю ўступіла,

Крыллем лябяжым па моры ўсплясиула, а ў Доне
Плюскатам спудзіла шчасныя часы ў бяздонні.

Князевы споркі — людзям ад паганых загуба;
Стаў гаварыць брат да брата са злосці, нялюба:

«Гэта і гэна маё!» Ды пачалі казаці
Князі аб малым: «Во гэта вялікае, браце!»

А на сябе самі згубства каваці няўстанне...
Скрозь жа на Русь набягалі з пабедай пагане.

О, як далёка сакол заляцеў ў гэну пору,
Птушак пужлівых збіваючы,— к сіняму мору!

А ўжо адважнага Ігара войска не ўскрэсіць!
Па ім Карына заклікала, гледзя на месяц.

Жэля па Рускай зямлі паняслася з трывогай,
Смагу наводзячы людзям у полымя рогу.

Жоны заплакалі рускія ў жальбах нябылых:
«Ўжо нам ні мысляй памысліць мужоў сваіх мілых,

Ані падумаці думай, ні вочмі сваімі
Іх азіраць на пуховай пасцелі жывымі.

Срэбрам і золатам тым пагатове ніколі
Нам не пацешыцца ў долі, самотнае долі!»

І застагнаў жа, о брацці, грод Кіеў тугою,
А той багаты Чарнігаў — напасцю благою!

Журба па Рускай зямлі разлілася разводдзем,
Ды пацякла ненасытная жальба ў народзе.

А на сябе самі князі загубства кавалі,
А тут паганыя самі адны не чакалі,

Панаваліўшысь на Рускую зямлю з пабедай,
Дань вымагалі па белцы з двара даўным следам.

Тыя бо два Святаславічы, храбрыя воі —
Ігар, Ўсяволад — няпраўду збудзілі сабою,

Што быў прыспаў іхні бацька, той грозны, вялікі
Кіеўскі князь Святаслаў. Ён жа не для прылікі

Грозьбаю быў над варожымі сіламі злымі
З войскам харобрым сваім і мячамі стальнымі.

На Палавецкія землі нагой наступіўшы,
Узгоры і яры пакуль не стаптаў, стуль не выйшаў.

І замуціў там азёры і рэкі ў чаротах,
І засушыў там крыніцы і дрыгвы-балоты.

А паганага Кабяка з узлучыны морскай,
Як бураломнае віхрышча, выхапіў дзёрзка

Ад тых палкоў палавецкіх, жалезных, агромных,
Ажно зваліўся Кабяк ў Святаслава харомах!

Тут венедыйцы і немцы, тут грэкі й маравы
Славу вялікую дружна пяюць Святаславу.

Ігара каюць, нашто патапіў ён багацце —
Ў донні Каялы-ракі палавецкай загаціў,—

Золата рускага ўсыпаўшы там вельмі многа.
Там жа князь Ігар ссаджаўся з сядла залатога

Ды на сядло ўжо нявольніка ціха садзіўся.
Ў горадах сцены занылі, шум-гоман спыніўся.

VII

А на горах у Кіеве гэтае ночы
Святаславу прысніўся сон смутны, прарочы:

«Адзявалі мяне,— кажа,— з вечара зморна
На цісовай краваці пасцілкаю чорнай;

Віно сіняе чэрпалі мне, бы ў вяселлі,
А ў віне тым благое намешана зелле.

А з пустых палавецкіх каўчанавых жэрлаў
Мне на грудзі там сыпалі буйныя пэрлы,

Ды так песцяць мяне. А ўжо дошкі ў праломах
І без скрэп на маіх златаверхіх харомах.

Усю з вечара ноч груганнё грумкацела,
На балонь каля Плеснеска ўжо даляцела,

Пабыло на балоцістых нетрах Кісані
І да сіняга мора няслося на ранні!»

І казалі на гэты сон князю баяры:
«Ўжо туга, княжа, розум адзела твой хмарай!

Гэта з бацькава так залатога пасаду
Сакалы два зляцелі сачыці прынаду —

Горад Тмутаракань пашукаці з разгону
Або ўдоваль напіціся шоламам Дону.

І ўжо сокалам гэным шаблямі паганых
Пападсечана крылле на дзікіх палянах,

А саміх у жалезныя спуталі путы.
Ў трэці дзень патануў свет у цемрадзі лютай:

«Сонцы два пацямнелі, слупы агнявыя
Згаслі два, з імі месяцы два маладыя.

Святаслаў і Алег апрануліся цьмою,
І на моры яны патанулі абое,

І вялікай буянасці хану дадалі.
Цьма пакрыла святло на рацэ на Каяле,

А па Рускай зямлі, як гняздо тое рысяў,
Чарадою скрозь полаўцы параспаўзліся.

Ўжо ўзнялася над хвалай благая пахула,
Ўжо насілле над воляй уссела-сагнула,

І ўжо рынуўся Дзіў на зямлю на прыселлі.
Вось бо гоцкія красныя дзевы запелі

На пахілістым беразе сіняга мора,
Рускім звонячы золатам, сочачы зоры.

Ўсё пяюць яны Бусавы часы і справы
Й Шараканавай помсты лялеюць праявы.

А ўжо мы во, твая маладая дружына,
Больш не знаем з табою вясёлых часінаў».

Тады вялікі Святаслаў
Азваўся словам залатым,
Змяшаным з горкімі слязьмі,
І так сказаў баярам тым:

«О сыны мае, Ігар і Ўсевалад!
Рана пачалі крышыці
Мячамі зямлю Палавецкую,
А сабе славу сачыці.

Але толькі не з чэсцяй уходалі,
Бо вы не ў чэсці і хвале
На тым полі далёкім паганскую
Кроў на зямлю вылівалі.

Вашы сэрцы ў сталь крэпка закованы —
Ўзброены гартам адвагі,
Але што ж натварылі сівізне вы
Тамка маёй без развагі?

Не даждалі багатага й сільнага
Брата майго Яраслава
На падмогу з яго мнагавоямі,
З войскам чарнігаўскім бравым.

А ваякі яны ўсе сусветныя:
Там і магуты, й шальберы,
І татраны упобач з равугамі;
Там тапчакі і альберы.

А яны бо з нажмі захаляўнымі
І без шчытоў б'юцца жвава —
Пабяджаюць палкі толькі клікамі,
Звонячы прадзеднай славай.

Але вы там сказалі: мужаймася
Самі з сваімі мячамі!
Славу самі захопім пярэднюю
Й з задняй падзелімся самі.

А ці ж дзіва тут, брацці, вялікае
Памаладзеці й старому!
Калі сокал у годах — ён высака
Птушку ўзбівае ад дому;

Не папусце гнязда свайго роднага
Ў крыўду, як бача трывогу.
Але гора ўсё ў тым, што во буйныя
Князі ўжо мне ў непадмогу:

Тыя часы ў нішто абярнуліся.
Вось бо ля Рымава зрана
Пад шаблямі крычаць палавецкімі,
А Ўладзімір — у ранах!

І туга, і нуда сыну Глебаву,
А ўсё з таго, што крышыцы
Не ў час шлі зямлю Палавецкую,
А сабе славу сачыці!..»

## VIII

О княжа вялікі, Ўсяволадзе!
Ці не думкай табе б прыляцеці
Здалёку, каб трон-пасад бацькавы
Залаты ўберагчы ў ліхалецці?

Распырскаць бо можаш ты вёсламі
Мнагаводную Волгу на бокі
І можаш сваімі шаломамі
Да дна вычарпаць Дон сінявокі.

Каб быў ты, была бы нявольніца
Па адным, а не болей, нагаце,

А з ёй і нявольніка кожнага
Па разане маглі бы купляці.

Ты можаш бо зводдалі, насуха,
Над шырокімі бітваў палямі
Жывымі страляць самастрэламі,
Тымі ўдалымі Глеба сынамі.

Ты, Давід, і буй-Рурык! Не вашыя ж гэта
Пазалочаны шоламы гэнага лета

У крыві, бы ў рацэ рыбы, плавалі цінай?
Ці ж не ваша адважная колісь дружына,

Маўляў, туры, рыкае ў няведамым полі,
Гартаванымі шаблямі ранена ў волю?

Уступіце, сябры, ў залатыя страмёны
За ўсю крыўду вялікую часаў сягонных

І за Рускую землю, за Ігара раны,
Святаславіча буйнага — здзекі ў паганых.

Яраславе Асмомысле Галіцкі! Кутам
На пасадзе высока сядзіш златакутым.

Ты сваімі палкамі жалезнымі ўвышы
Падпёр горы угорскія, шлях заступіўшы

Каралю, й, зачыніўшы вароты Дунаю,
Цераз воблак шыбаючы берамы з краю,

Да Дуная суды свае судзячы спраўна!
Твае грозьбы па землях цякуць мнагаслаўна!

Адчыняеш ты Кіеву насцеж вароты
Ды з свайго залатога пасаду адно ты

Султаноў за зямлямі страляеш няслаба.
О, страляй, княжа, ў сэрца паганага раба

Канчака за зямлю Русь, за Ігара раны,
Святаславіча буйнага — здзекі ў паганых!



Уладзіслава Станкевіч
і Янка Купала. 1916 г.



Янка Купала, Уладзіслава Луцэвіч
і Сямён Жывапісцаў. 1916 г.



Янка Купала. 1923 г.



Янка Купала сярод удзельнікаў Пленума цэнтральнага бюро Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк». 1925 г.



Янка Купала. 1919 г.



Янка Купала сярод беларускіх пісьменнікаў —
членаў літаратурнага аб'яднання «Полымя». 1928 г.



Янка Купала, Міхась Зарэцкі, Міхась Чарот
і Цішка Гартны. Прага, 1927 г.



Янка Купала і Уладзіслава Луцэвіч
з беларускімі пісьменнікамі на беразе Чорнага мора.
1929 г.



Янка Купала з маці
Бянігнай Іванаўнай. 1929 г.



Янка Купала і Якуб Колас сярод беларускіх
і ўкраінскіх пісьменнікаў. Харкаў, 1928 г.



Сястра Янкі Купалы Леакадзія Дамінікаўна Раманоўская з мужам Юльянам Феліксавічам. 1916 г.



Малыя Раманоўскія — пляменнікі Янкі Купалы.
*Злева направа:* Уладзіслава, Яніна, Ядвіга і Уладзіслаў. 1925 г.

А ты, буйны Рамане, і ты, Імсціславе!
Думка храбрая носіць ваш розум па справе,

Плывіцё вы на справу з адвагай, высока,
Быццам сокал на ветрах, лунаючы лёгка.

Птаха хочучы сходаць у бітвах з вятрамі,
Ёсць бо ў вас пад лацінскімі йшчэ шаламамі

І з жалеза наперснікі, з іхняга звону
Ўжо затрэсліся землі й шмат розных старонаў —

Палаўчане, Хінова, Літва, Дарамела, Яцвягі,—
Свае кінулі ў полі і дзіды, і сцягі

І галовы свае нахілілі пад тыя
Вашы, князі, магутныя мечы стальныя.

Але ўжо, княжа Ігар, бліск сонца сцямніла,
Не на добрае й дзерава лісць свой згубіла!

Во па Росі й Суле гарады падзялілі.
А ўжо Ігара войска не ўскрэсіць у сіле!

Дон цябе, княжа, кліча, ждучы твайго следу,
І князёў заве іншых к сабе на пабеду.

Во харобрыя князі Альговічы,— ў бойцы
Непамернай таей утаміліся малойцы.

Усяволад, Інгвар, Імсціславічы ўсе тры!
Не благога гнязда птахі хованы ў ветры,—

Сабе ўладу не ў шчасці ж пабедным прыдбалі?
Залатыя ў вас шоламы што заняпалі?

Што замоўклі ў вас ляцкія дзіды з шчытамі?
Полю загарадзіце вароты стралами

Вы за Рускую землю, за Ігара раны,
Святаславіча буйнага — здзекі ў паганых!

## IX

Ўжо бо Сула не цячэ ручаінай
Қ Пераяслаўлю быстрай, срабранай;
Дзвіна ўжо балотам цячэ без упыну
Да палаўчан, пад воклік паганаў.

Адзін Ізяслаў толькі, сын Васільковы,
Сам пазваніў мячамі сваімі
Аб шлемаў літоўскіх стальныя аковы,
Ускалыхнуўшы днямі былымі.

Свайму пераняў славу дзеду Ўсяславу,
Сам пад чырвоным шчытам пабіты
Мячамі літоўскімі, лёг на крывавай
З Хоццем траве. А кажа тады той:

«Дружыну тваю апранулі, князь, крыллем
Птахі, а зверы кроў палізалі!»
Не быў тут брат Брачыслаў, над кавыллем,
Ані другі — Ўсяволад. У жалі

Адзін ён жамчужную з храбрага цела
Выпусціў душу праз ажарэлле.
Заныла гамонка, вясёласць знямела,
Трубы ў Гародні смутна запелі:

«Яраславе і ўнукі вы ўсе Усяслава!
Апусціце ўжо сцягі свае,
Пахавайце мячы пашчарбаны, бо слава
Ужо дзедава вас не спаўе!

Вы бо сваркай сваёй напусцілі
Скрозь паганых па Рускай зямлі,
Па надзеле Ўсяслава, з чаго і насіллі
Ад зямлі Палавецкай пайшлі».

У сёмы Траянавы век
Уздумаў Ўсяслаў варажыць
Аб мілай дзяўчыне сабе,
Што з славай яго заручыць.

Пусціўшыся ў хітрыкі, ён
На борздага ўсеўся каня

І скочыў, памчаўся чым свет
Да Кіева-грода, да дня.

І кіеўскі дзідаю там
Пасад дакрануў залаты;
Ад іх скочыў зверам лютым
З Белгорада ў поўнач; тады

Ахутаўся сіняю мглой,
А раннем, узняўшысь да зор,
Навограду браму лязом
Сякераю насцеж адпёр.

Разбіў Яраслававу там
Прыдбаную славу мячом
І скочыў праз поле і лог
К Нямізе з Дудутак ваўком.

На Нямізе снапы сцелюць
Галавамі,
А малоцяць жа стальнымі
Іх цапамі.

На таку жыццё кладзецца
Неспадзейна,
І душу ад цела веюць
Безнадзейна.

Берагі ў крыві Нямігі
Па калені;
Не дабро на іх пасеяў
Сейбіт жменяй.

А былі яны гусценька
Ў працьмах вузкіх
Там засеяны касцямі
Сыноў рускіх.

Усяслаў-князь людзям суд судзіў,
Гарадамі князёў надзяляў,
А сам поначы, свету на здзіў,
Ваўкалакам ці воўкам гуляў,

Ён бо з Кіева да петухоў
Горад Тмутаракань дасцігаў

І вялікаму Хорсу без слоў
Воўкам шлях борзда перабягаў.

Таму ў Полацку рана званы
Пазванілі ў Сафеі святой
Да завутрані,— ён жа праз сны
Ужо ў Кіеве звон чуе той.

Хоць і вешчая, кажуць, душа
Ў дзёрзкім целе ягоным была,
Але часта бяды без нажа
Нацярпеўся, што доля дала.

Яму першаму вешчы Баян
І прыпеўку дасціпна злажыў:
«Хітры, быстры, ні птах той быстран
Суду Божага не пераажыў!»

О, стагнаці ўжо Рускай зямлі,
Як успомніць князёў з былых пор!
Ўладзіміра таго не маглі
Прыкаваці да кіеўскіх гор.

А цяпер яго сцягі нішто:
Адны Рурыку славу шумяць,
А другія — Давідавы ўжо...
Але стужкі іх розна вісяць.

X

Пяюць дзіды на Дунаі,
А ў Пуціўлі Яраслаўна
Безуцешнаю зязюляй
Наракае раным-рана:

«Паляту я ўдаль зязюляй
Па Дунаю за дубровы,
Памачу ў рацэ Каяле
Рукавок я свой бабровы.

І зляту да князя ў полі,
Дзе ў зялёнай лёг пасцелі,
Ды крывавыя ўтру раны
На яго магутным целе».

Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

«О вецер, вятрыска!
Чаму, ўладар, лётам
Сваім гэтак вееш
У вочы сіротам?

Чаму ты на крыллях —
І вольны, і смелы —
На мужніх ваякаў
Мчыш ханскія стрэлы?

Ці ж веяці мала
Табе пад аблокі —
Ўгары, ў паднябессі
Шырокім, далёкім?

Або ў сінім моры
Лялеяць, гайдаці
Чаўны з караблямі
Да ціхае гаці?

Чаму ты, ўладару,
Мне радасць асіліў,
Вясёласць развеяў
Па дзікім кавыллі?»

Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

«О Днепра Славуціч!
Ты ў каменных горах
Праз полаўцаў землі
Дол высек у мора.

Кабякаву войску
Чаўны Святаслава
Сабой ты лялееў,
Акрылены славай.

О, мне прылялей жа,
Ўладару, ў харомы
Саколіка-мужа
З зямлі незнаёмай!

Каб слёзаў я рана
Ў тузе небывалай
К яму цераз поле
На мора не слала!»

Яраслаўна рана плача
У Пуціўлі на сцяне,
Наракаючы зязюлькай,
Долю горкую кляне:

«О светлае сонца,
Трысветлае! Ўсюды
Цяплом і красою
Яснееш, як цуды.

Чаму ж, уладару,
Свой промень пякучы
На мужняе войска
Нанесла, не ждучы?

На полі бязводным
Ты смагай пагнула
Ім лукі, а тугай
Заткала утулы?!»

## XI

Пырснула мора на поўнач,
Смерчы ідуць чарадой;
Ігару-князю дарогу
Знача Бог чорнаю мглой.

Знача з зямлі Палавецкай
Шляхі да Рускай зямлі,
Дзе жджэ на Ігара доўга
Бацькаў пасад дарагі.

Патухла вячэрняя зорка.
Князь Ігар і спіць, і не спіць —
Ад Дона вялікага думкай
Да Донца малога бяжыць.

Апоўначы свіснуў савою
Аўлур на каня за ракой,
Уцяміць загадвае князю,
А Ігар-князь знікнуў як стой.

Той клікнуў — зямля загручэла;
Трава зашумела быллём;
Упуд палавецкія вежы
Спалохаў, зварушыў жыллём.

А князь Ігар ужо гарнастаем
Паскакаў па траве к трыснягу,
На вадзе выплыў гогалем белым,
На каня узваліўся ў бягу.

І саскочыў з яго босым воўкам,
Пакаціўся да логу Данца,
Й паляцеў сакалом пад імгламі,
Забіваючы там без канца.

На сняданне, абед і вячэру
Белых лебедзяў, шэрых гусей.
Як ляцеў сакалом гэтак Ігар,
Тады воўкам Аўлур з сілы ўсей

Пакаціўся, сцюдзёныя росы
Абтрасаючы вокал сабой.
Коні быстрых сваіх падарвалі,
Летучы пуцявінай пустой.

І кажа рака Донец: «Ігару-княжа!
Нямала во бітвы далі
Вялічча табе, а Канчаку дакукі,
А радасці Рускай зямлі!»

А Ігар-князь кажа: «О Донча! Нямала
Вялічча сабе ты прыдбаў,
Што князя на хвалях лялеяў і шчыра
Зялёну траву падсцілаў

Яму на сваіх берагах серабраных
І цёплай атуліваў мглой
Пад ценем зялёнага буйнага дрэва,
Ды пільна сцярог з цемнатой

Яго на вадзе сваёй гогалем белым,
А чайкай паверх ручаёў,
Ды качкай-чарнедзяй на ветрах шумлівых
Паказываў сцежку і вёў.

А Стугна, рака ўжо куды не такая,
Худы бо ў яе перацёк;
Чужыя папіўшы, глынуўшы крыніцы
І хвалі разліўшы, дзе ўток,

Яна маладому князю Расціславу —
Без часу і не на дабро —
Пры беразе цёмным наскрозь зачыніла
Дарогу сабой на Дняпро.

Тужыць Расціславава маці і плача
Па князі сваім маладым...
А кветкі занылі, а дрэва са смуткам
К зямлі пахілілась благім...»

Ой, не сарокі ўстракаталі!
А гэта Ігаравым следам
Гза з Канчаком упобач едзе,
Як па жніво сусед з суседам.

Тады ўжо груганы над косцьмі
Не грумкалі, і галкі змоўклі,
Не сакаталі і сарокі,
Па лозах распаўзліся, моклі...

Па лесе тукатам няўтомным
След дзятлы к рэчцы адбіваюць,
А салаўі вясёлай песняй
Блізкое ранне выйгрываюць.

І гаворыць так Гза Канчаку:
«Калі сокал ляціць у гняздо,
Залатымі страламі сваймі
Мы застрэлім сакольца яго!»

А Канчак жа адказвае Гзе:
«Калі сокал ляціць да гнязда,
Краснай дзевай сакольца тады
Мы апутаем,— што за наўда!»

А Гза кажа на то Канчаку:
«Калі дзеваю краснай яго
Мы апутаем, то ўжо тады
Мець не будзема мы ні таго

Маладога сакольца ў сябе,
Ані краснае дзевы, ды нас
На палях палавецкіх пачнуць
Кляваць птахі ў нявеселы час!»

## XII

І сказаў жа аб днях Святаслава
Той Баян-песнятворца старын
І далёкай пары Яраслава,
І Алегавых даўных часін:

«Хоць і цяжка табе, мнагасмелай
Галаве, без плячэй у людзях,
Але трудна й табе жыці, целу,
Без сваёй галавы на грудзях!»

Так і Рускай зямлі ненарокам
Цяжка мерацць без Ігара дні.
Сонца свеціць на небе высокім,
А князь Ігар на Рускай зямлі.

Красны дзевы пяюць на Дунаю,
Галасы іх плывуць і лятуць
Неўгамонна ад краю да краю,
Цераз мора да Кіева йдуць.

Ігар едзе праз спуск Барычоўскі
К абразу Пірагошчы святой.
Рады князю староны і вёскі,
Гарады весяляцца з сабой.

Пеўшы песню старым князям, справам,
Потым пець маладым песняй бур:

«Святаславічу Ігару слава!
Слаўся, храбры Ўсяволад буй-тур!

І Ўладзімір, сын Ігара-воя,
Малады князь — на страх палаўчан!
І князям, і дружыне здароўя,
Выступаючым за хрысціян,

У няведамай дзікай краіне,
Пашматаўшым паганых палкі,
Слава буйным князям і дружыне
На далёкія векаў-вякі!»

*5 верасня 1921*

## ДЗЕД І БАБА

*З польскай — Ю. Крашэўскага*

Быў сабе дзед і баба —
Ўжо старыя абое;
Яна мелася слаба,
Ён сагнуўся удвое.

Жылі ў хатцы збуцвелай,
Непачэснай з паглёду;
Адну шыбіну мела,
Адны дзверцы для ўходу.

Жылі згодна, шчасліва,
Як не жыці нам гэтак!
А чаму? — няма дзіва:
Бо прывыклі к сабе так.

Толькі сумна было ім,
Што памерці ўсё ж мелі,
Што халодным спакоем
Іх магіла раздзеліць.

Дык маліліся ў згодзе,
Каб за Божым прыказам,
Калі смерць к ім надойдзе,
Абаіх брала разам.

Але так быць не можа!
Хтось ды ўперад сканае...
— Каб не ён, мой нябожа...
— Каб хаця не старая...

Гэтак баба маяча:
— Штодзень чуць валачуся,
Па мне «ваша» заплача —
З ног я ўперад звалюся.

— Ўперад я, мая міла,—
Дзед бабулі гавора:
— Немагота ў магілу
Мяне ўгоне ўжо скора.

— Мяне ўперад,— кажу я!
— Вота ж гэтак не будзе!
— Вашаць хай пабядуе!
— А ты што? — ці не людзі?!

І так далей і далей
Пайшлі ў спрэчку самдзеле;
Той таму прытыкалі,
Ісці ў прочкі хацелі.

Ажно стук нехта ў дзверы.
— Хто там? — Тут ім на тое:
— Я — смерць; даўшы вам веры,
Ўзяць іду вас абое.

Дзед сваёй і ківае:
— Адчыні ідзі, баба!
— Не магу,— кажа тая,—
Вельмі чуюся слаба.

От лепш ты патурбуйся
За мяне ўжо сягоння.
— Не, лепш ты йдзі, Кастуся,—
Дзед зноў бабе гамоне.

Баба сюд-туд ды жвава
Чмых за печку без мукі...
Дзед зашыўся пад лаву...
А смерць стукі ды стукі.

І так стукала б доўга,
Лет чакала б са дзвесце,
Каб праз комін дарогу
Не найшла к ім нарэшце.

[*1921*]

## ЗІМКА

*З польскай*

Ой, зімка благая,
Не страшна ты!
Нашто ж у нас печка
І лес густы?..

На полі снег сцежку
Беліць услед;
Мы коніка ў санкі —
Ды ў поле, ў свет!

Застыла, замёрзла
Паверхня вод,
Гэй, хлопцы, дзяўчаткі,
Жывей на лёд!

Як зоркі заблыснуць
На небе там,—
Пачуем мы казку,
Раскажуць нам.

Аб дзеду-марозе,
Аб долі злой,
Аб беднай сіротцы
Сказ будзе той.

[*1921*]

## КАВАЛЬ

*З польскай*

Звонам звоніць, іскры гоніць
Молат мой агністым змеем;
Рук я ў працы не жалею,
Бо гультайства сіле шкодзіць,
Толькі праца шчасце родзіць.
Я люблю свой дар,
Я ў ім гаспадар!

Каб папала на кавадла
Гультаёў сто, дык каваў бы
І зусім не шкадаваў бы,
Бо гультайства сіле шкодзіць,
Толькі праца шчасце родзіць.
Я люблю свой дар,
Я ў ім гаспадар!

Гляньце, дзеці, як сталь свеціць...
Малаты б'юць па кавадле:
Будуць колы і вухналі,
Для сяляніна — плуг новы,
А для коніка — падковы.
Я люблю свой дар,
Я ў ім гаспадар!

*[1922]*

## ЁЛАЧКА

*З рускай — Р. Кудрашавай*

Ўзышла у лесе ёлачка,
У лесе і расла,
Узімку, ўлетку стройная,
Зялёная была.

Мяцеліца ёй песеньку
Пяяла: баю-бай,
Мароз сняжком атуліваў:
Глядзі, не замярзай!
Пужлівы зайчык шэранькі
Пад ёлачкай скакаў,
Падчас і воўк, сярдзіты воўк,
Ускоч перабягаў.
Вось снег у лесе дрэмлючым
Пад полаззем скрыпіць,
І конік жвавы, сівенькі
Спяшаецца, бяжыць.
Вязе той конік саначкі,
А ў санках селянін,
Пад'ехаў ён пад ёлачку
І ссек у міг адзін.
Цяпер яна прыбраная
На свята к нам прыйшла
І шмат пацехі, радасці
Для дзетак прынясла.

[*1921*]

## У МГЛЕ

*(Адзінота)*

*З нямецкай — Гесэ*

Маркотна хаджу па зямлі ў тумане.
Расліны й каменні так смутна далёкі,
І дрэвы не бачаць друг дружкі ў імгле,
І ўсе адзінокі.

Калісьці шмат другаў, шмат другаў я меў.
П'янеў я ад сонца ясноты гарачай,
Сягоння скрозь ночак асенніх туман
Другаў не бачу.

Хоць раз хто спаткаўся ў жыцці з цемнатой,
Папраўдзе той мудр, той ведаў, той знае,
Як цемра ад свету бязмежнай сцяной
Яго аддзяляе.

Маркотна хаджу я у мгле ў тумане.
Ўсе людзі так дзіўна маркотна далёкі,
Не знае друг дружкі ніводзін нідзе,
І ўсе адзінокі.

*[1923]*

## СЕЙБІТ

*З рускай*

Сей жа, сей, сейбіток,
Сей ды песеньку пей,—
Праца пойдзе спарней!
Сей ды песеньку пей,
Праца пойдзе спарней!

Стала жыта ўжо спець,
Час на поле з сярпом!
Будзем жаць, песні пець,
Час на поле з сярпом,
Будзем жаць, песні пець.

Ужо час малаціць,
Дык цапамі жытцо
Будзем дружна мы біць,
Па снапах, каласах
Мы цапамі так біць!

А цяпер жа чарга
Прыйшла мельніка ўжо.
Намалоў ён мукі
У край поўны мяхі,
Намалоў ён мукі!

Будзем хлеб рашчыняць,
Цеста ў дзежцы мясіць
Дый у печку садзіць,
Хай пячэцца хлябок,
Што прыдбаў сейбіток.

*1924*

## ПАВУК І МУХА

*З польскай*

Муха лётае па хаце
І шукае стравы,
А павук снуе ўжо сетку,
У куце над лавай.

Малачка ці крошку хлеба
Знайсці муха хоча,
І вось беленькага цукру
Ўбачыла кусочак.

Села, хобацік уткнула,
Цукар ссе паволі,
А наеўшыся, ўзнялася,
Лётае уволю.

Муха лётае навокал,
У куток імкнецца,
І не ўспела азірнуцца,
Як ужо у сетцы.

Дарма тузаецца муха,
Парваць сетку хоча,
Ўжо нічога не паможа,
Ўжо павук засмокча.

*1924*

## ЛЕТА ЦЁПЛАЕ МІНАЕ

*З польскай*

Лета цёплае мінае
З сваім сонцам, з сваёй сушай,
Толькі ў садзе на галінах
Спеюць яблыкі ды йгрушы.

З назублёнымі сярпамі
Шчыра ў полі гнуцца жнеі;
Селянін збірае збожжа
Ды зноў зерне сее, сее.

Во і скончана ўсё жніва,
Ўжо дабро ўсё пад страхою,—
Ажно міла паглядзеці
На багацце на такое!

*1924*

## ЛІСЦЕ

*З рускай — Ф. Цютчава*

Мы, лісце, лісточкі,
Цвіцём і блішчым,
Да часу дні, ночкі
На суччы вісім.

Праз цёплае лета
Былі мы ў красе,
Гулялі з праменнем,
Яснелі ў расе.

Дый знікнуў час ласкі.
Птушыны сціх спеў,
Пасохнулі краскі,
Луг зелен счарнеў.

Ну, што ж нам дарэмна
Вісець і жаўцець,—
Ляпей жа з вятрамі
І нам паляцець!

О буйныя ветры,
Хутчэй к нам з вышын!
Хутчэй нас сарвіце
З санлівых галін.

Сарвіце, памчыце,
На крыллі сваім;
Ляціце, ляціце,
Мы з вамі ляцім!

*1925*

## ПЕРШАМАЙСКАЯ ПЕСНЯ

*З рускай*

Вось ідзе наш май вясёлы,
Свята светлае дзяцей,
У прасторы звоняць пчолы,
Мкнуцца з мёдам у вулей.

Звонка песню заспяваем,
Дружна стрэнем весялей
Першы дзень вясёлы мая,
Свята светлае дзяцей!

Зелянеюць сенажаці,
Сонца ясна зіхаціць,
Сталі птушкі шчабятаці,
З лесам, з сонцам гаманіць.

Звонка песню заспяваем і г. д.

Пад чырвоны сцяг народы
Выйсці з хат павінны ўсе,

Ўспомніць майскі дзень свабоды,
Свята згоды, гімн вясне.

Звонка песню заспяваем і г. д.

І бацькі, і нашы брацці,
Ўвесь працоўны люд пяе:
«Згіне цёмны свет пракляцця,
Праца ў волі зацвіце!»

Звонка песню заспяваем і г. д.

Так пад сцягам пад чырвоным
Пралетары ўсіх краёў
Спатыкаюць май зялёны,
Што на радасць к нам прыйшоў.

Звонка песню заспяваем,
Спольна стрэнем весялей
Першы дзень вясёлы мая,
Свята светлае дзяцей!

[*1928*]

## КАВАЛІ

*З рускай — П. Шкулёва*

Мы — кавалі, куём мы шчасце
Для ясных будучых часін.
Для нас не страшны бяда, напасці,
Да сонца клічам мы з нізін.

Звінім, куём мы безустання,
Імчацца іскры на ўвесь свет,
У сэрцах сеюць агні змагання,
Шлях асвятляюць да пабед.

Мы — кавалі, не знаем змогі,
Стагнаці нам няма калі,
К камуне слаўнай кладзём дарогі,—
Куём жыццё: мы — кавалі!

Дружней, званчэй грымі, наш молат,
Пад абцугамі гніся, сталь.
Сагрэем холад, насыцім голад
І развяселім смутны жаль.

*[1928]*

## ПРАЛЕТАРСКАЯ КАЛЫХАНКА

*З рускай — М. Красільнікава*

Спі, дзіцё! У змроку ночы
Дай і мне паспаці.
Бацька твой чорнарабочы,
Парабчанка маці.

Шмат цярпелі гора, бедаў
Мы ў сваім жыцці.
Спі, дзіцё, бяды не ведай!
Люлі, люлі, спі!

*

Цяжка жыць было народу,
Путы, здзек вакол,
І змагацца за свабоду
Бацька твой пайшоў.

Каб у бойцы неспынянай
Уладу здабылі
І рабочы, і сялянін.
Люлі, люлі, спі!

*

Бітвы будуць мо йсці годы,
Каб пазбыцца пут,
Але будзе мець свабоду
Ўвесь працоўны люд.

Прамінуцца ўсе нягоды
У людскім жыцці,
Будзе воля ўсім народам.
Люлі, люлі, спі.

*1929*

# Чарнавыя накіды



* * *

Вас браты і вас сястрыцы
Прызываю сказам дрэваў
Вас падсуседзі мае вы
Вас закутнікі
Падпечнікі, запечнікі
⟨нрзб⟩ і вечнікі
Сабірайцеся агулам
Покі поўнач не мінула
Покі ўзвіжэнне сягонне
Ўсіх збярэ і ўсіх пагоне
Я чэкаю

## Я

Прыдыбаў я
Здадалёку праз канаўе
Да цябе мая пустыня
А такой глухой часіне
Каб паслухаць каб пабачыць
Што тваe прык ⟨нрзб⟩ значуць

## МАЛАЦЬБІТ

Валіць цэпам малацьбіт
Па насушэным калоссі
Збіліся людзі з пуці
Сцежкі сцежкі ⟨нрзб⟩ не найці

## ПУШЧА

Гэтай цемрай гэтай ночай
Шэптам шэлестам лісточкаў
Трэскам ліскатам галінаў
Шумам гулам на даліну
⟨нрзб⟩ над крыламі

## НА УЗВІЖЭННЕ

Хто ў жыцці жыцця не зведаў
Хто ў пуці не бачыў следу
Хто з мінуўшчыну ⟨нрзб⟩
Глянуць будучыне ў вочы
Хай на ўзвіжэнне у пушчу
Лезе смела ў ⟨нрзб⟩
Толькі ў поўнач хай ідзе ⟨нрзб⟩
Неадзетым ⟨нрзб⟩
Там пачуе там ⟨нрзб⟩
З'явы дзе вы смехі плачы
Зразумела што ў чым ⟨нрзб⟩
Што было незразумела
Што было сном стала явай
Пачынаецца праява.

## УСПАМІНЫ

*(Замест каляднага апавядання)*

Я быў малым хлопцам. Навучыўся чытаць сам праз сябе. Гэта значыцца, што мяне вучылі, а я сам вучыў вучыцяляў. Вучыўся ■ расійскай граматы з календара з слоў: «дазволена цэнзураю». Гэткая была мая навука. Пасля пайшоў у свет. Кнігі мне стварылі пэўныя ⟨нрзб⟩ жыцця. У гэтых кнігах ■ вычытаў, што людзі ⟨нрзб⟩, т. е. людзі не тыя, якіх я сустрэну, а тыя, што мяне сустрэнуць ў будучыне. І я веры ў песню казку, што мне прарочыла дзіўныя казкі сны для будучыны. Я пасціг гэту будучыну.

* * *

Хто паліў нам хаты
Хто крыўляў нам праўду,
Застаўляў ў прыгоне гінуць
Бежанцамі
Нас на нашых гонях.

* * *

Вясна прыйшла зноў. Цёплы май шчыра
Убірае ў зелень лес і лог
Птушкі што ў восень ляцелі ў вырай,
К нам пpыляцелі здалёк
У гай спяшымо ўсе за раз,
Вясна і кветкі вабяць нас.
Там злучыцца ўкруг не замарудзім
І пець весела так будзем.

* * *

Яснае сонца позненька ўстала
Хмаркі разсеяць часу не мела

* * *

Позненька ўстала сонца сягонне
Хмары не ўспела выгнаць за гоні.

* * *

Позненька сонца сягонне ўстала,
Хмарак па небе не разагнала

* * *

Гэй скропле дождж палетак
І вясёлка выплывае ⟨нрзб⟩
Я ў вянку з жывых пралесак
Па лужку сабе гуляю
Там скачу, там не ў спадзеўку
Запяю што для пачатку
Падцінаю салавейку
З жаўруком пайду у спрэчку
Бо жаўрук і салавейка
І вяночак ⟨нрзб⟩
І крынічка дабрадзейка
Усё маё, усе з давен даўна
Дык сабраліся скрозь грамады
Хутка і дожджык цуркне вадою,
Дрэў асвежэ у лесе і ў садзі

Звяўшыя кветкі росамі ўкрэсе
Краскі ўзрастаці ⟨нрзб⟩ прынадзе
Пучкі распусце кветкаружовы
Зазелянее траўка ашаўкова
б нанова
Дык хоць мне дома сядзеці трэба
Дзякуй за дожджык, што льецца з неба

* * *

О, як ⟨нрзб⟩ ў цяністым гаі
Пяе салоўка ў цені дрэў
Ку-ку зязюлі не заціхае
Драздоў чырыканне чуваць на пні

* * *

Пастушок я санавіты, санавіты
Да касьбы ахвочы
Пасвю гусак на папары } двойчы
Ад рання да ночы
У ручонках маю пугу, маю пугу
Дратавану прутка
Як грымну ёй з цэлай сілы } двойчы
То аж гусакам усутка
Як грымну ёй з цэлай сілы з цэлай сілы
Аж водгулле грае
А людзям тады здаецца
Што нехта страляе.

# Dubia



* * *

У часе, калі пан над намі
Уладу меў як над рабамі
У сваіх скрываўленых руках.
Цяпер даволі... устань!

А Каін схіляў пакорна на грудзях...
Ты галаву тады селяніна
Бізуном біў па плячах.
Збівай няволю з плеч далоў.

Бо слухай, кліч чуваць нам новы
Ксяндзоў, жандараў і паноў!
Устань, прачніся, скінь аковы
Няхай і сам гарыць у палёх.

[*1919*]

# ЯШЧЭ ВІСЕЎ НА БЛІЗКІМ ЛІХТАРЫ...

## I

Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары
Яўрэй апошні, й азвярэлыя вятры
Ад жудасці, ад сораму і дыму
Яшчэ зрывалі тэлеграму з тыну,
Што ад Растова ўсе чырвоныя далёка
Й няма што трасцай кідацца нялёгкай,—

А паміж тым, у прадчуванні рымскіх ласк,
Свой разрахунак меркантыльна знізіў
І, як жанчына, ўвесь дрыжэў Новачаркаск
Ад наступу дэнікінскіх дывізій.

Яны з абозам на усход цяклі,
Сузор'ямі апошні мерачы свой шлях,
У прадчуванні, але йшчэ не верачы ані,
Што гэта ўжо сапраўды эпілог дасяг,
Што ўжо няма каму тут спадчынныя іскі
Цяпер чыніць, і што ў гэты год
Пашоў на дно ўвесь цяжкі пакебот,
Што звалі мы імперыяй расійскай...

## II

— Глыток вады.— Нельга, запёрта будка.
— Глыток вады.— Нам на сям'ю вядро,
Ды во чарга ад раніцы ўжо тутка...
— А нашая чарга во ў гэты чорны роў?
Глыток вады, а за яго вазьмеце
Вось гэты шаль — цяпер ўжо ўсё адно...
І чэрпае, пакуль не гляне дно,
І ўсё не можа смагі адалеці.
І потым, адыходзячы ў глухую ночку,
Назад сумысля азірнецца ён у мгле,
Але яго свідруюць праз «цапочку»
Палохлівыя шэранькія вочы...

Два словы так сабе — аб гуннах, аб Атылле
(На акяніцах — шруб, а на дзвярах — замок)

І хціва мерыць шаль перад трумо
Пры цмяным блізку дымлівых капцілак.

О, абываталь, белая за каўняром ты гніда!
Як страшны аб табе сказ-абурэнне:
Жыццё за камізэльку аддаеш ты без агіды,
На соль мяняючы сваё сумленне.

Як вымераны ўтоптаныя сцежкі!
Бо дарага яйцо к Хрыстосаваму дню,
Бліны к Калядам, к Сёмусе адзежка,
Ды тое, што хаціна ўстала на краю.

Хай час ідзе, хістаючыся ў дыме,
І хай ляжыць стары ў абломках свет,—
Ў грызні за іх і з гэтымі і з тымі
Ты скарыстаеш іх на свой клёзэт.

III

Дзе ж, ой, матулькі, вашы дзеці?
Рукі слабы, вецер — дуж ён,—
Відаць, здзьмуў іх вясёлы вецер,
Скіфскі вецер з сямі старон.

Як ён свішча і як гамоніць
Ў гэты страшны, значаны год!
Было двое іх — двое — помніш?
А не стала ні аднаго.

У кажусе і ў куртцы новай
Сінявокі хлопчык кадэт
У канаве злажыў пад Растовам
За цара свае дзевяць лет.

Вецер блытаў валасы ночкай
І нейкія словы спяваў,
Палатнянай яго сарочкай
Выцірала вочы трава.

І пакуль шукалі ў трупярні
Паміж штабаляў сініх цел,—
У прамежак ад смерці к спальні
Скіфскі вецер з смехам ляцеў.

А другі — ты прыпамінаеш?
Над брывёю шрам на услонь,
І ў вачах яго сінь такая ж,
І сухая таксама скронь.

Як няведаннем мы багаты,—
Гэта маці і неўнамёк,—
Можа быць, гэта ён для брата
У стрэльбе націснуў курок.

І цяпер у гарадской бальніцы,
Грудзі прабіты штыхом —
І яму нічога не сніцца,
Ані ты, ні бацька, ні дом.

Як стаяла яна над гэтым —
Над пасцеллю з чырвані тэй!
Быў з ёй добрым вясёлы ветрык —
Загасіў, як свечку яе.

І над сэрцам яе замёрлым
Як мяккай і лёгкай зямля!
Вецер, вецер — такі вясёлы,
Так абшырна воля твая!

IV

Далі волю любіць Колю,
Цяпер хочуць яе ўняць;
Камень кінулі ў палонку,
А цяпер цяжка падняць.

Колю знаю па хадзе я —
Вось к вакенцу падышоў.
Мы цяпер тавар не ходкі —
Збыт на дзецюкоў пашоў.

Ой, сяброўка з вечарынкі,
Нам з табою не дружыць,—
Радасць, гора мы дзялілі,
А любоў не падзяліць.

Ох, ты сіняя, ты сцюжная зіма,
Сярод лета прышла к дзеванькцы сама.

Белай шэраняй пасцель залягла,
Ці ж мая мне прастата памагла?!

Круціць вецер пласконны падол.
Вецер весел ды цёмен дол.
Ой, і рэдкі ў палетку лён!
Дзе ж то бачана да нашых дзён,
Каб дзяўчына лезла ў рукі сама,
Абы поўнай была дзеўчая машна.

Цяпер бабія ў развяз вузелкі,
Усе з вайной у расходзе мужыкі;
На бязмужжы і дурань муж,
Ды і дораг стаў дурань к таму ж.
Думкі бабскія ў мяне ўсё адны:
Хай бы хоць і ад дурняў, ды сыны...

Ах, вы грудзі мае,
Двохфунтовыя!
Цяпер ходзяць у нас
Дзеўкі ўдовамі.

Надаелі адны,
Будуць новыя,
Ах, вы грудзі мае,
Двохфунтовыя!

[*1926*]

**АДЧУВАННЯЎ РАЗЛІЎ**

Светларусая гладзь расхвалёваных ніў
Уліла мне ў душу адчуванняў разліў.

І навеяла шмат абунтараных дум...
Ніва! Як не любіць мне таемны твой шум?

У ім — і ціхая па пражытым журба.
У ім — і бунт, ў ім — жыццё,
у ім — людзей барацьба.

Гэты шум, з пераборaў махрыстых вятроў.
Апалымвае сонечна — светлую кроў.

Песні рвуцца з трывожных, бунтарскіх грудзей,
Поўны мары ружовых і светлых надзей,

У шаўковую гладзь расхвалёваных ніў,
Што ўліла мне ў душу адчуванняў разліў.

[*1928*]

# Іншыя рэдакцыі і варыянты



## ВЕРШЫ

### 1915

*Быў гэта сон...*

*Аўтограф; газ. «Наша ніва», 1915, № 5, 6 лют.:*

*Пасля 4: страфа, якая адсутнічае ва ўсіх іншых прыжыццёвых і пасмяротных выданнях твораў паэта:*

Быў гэта толькі сумны сон,
Што быў я чымсьці для яе,
Што мілы мне у яе палон
Мой быт у шчасце абаўе.

*Часоп. «Полымя», 1995, № 5 (рэдакцыя верша, якая падаецца ва ўспамінах П. Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця»):*

*Парадак строф наступны: першая, чацвёртая, трэцяя, пятая. Другая страфа адсутнічае.*

[3] што сярод будніх цяжкіх ⟨бледных⟩ дзён
[4] і свята меў, глядзеў ясней...
[15] што пад яе напевы звон
[17] Быў гэта толькі сумны сон...

*Не судзіла доля*

*Аўтограф:*

[18a] Хоць маленькай зоркай быці
[6] *Як у асноўным тэксце*

*Таей даўгажданай*

*Часоп. «Полымя», 1929, № 3:*

[14] Мне не скупіць сваёй апекі

*Вечар*

*Аўтограф:*

[1a] Мой вечар, блізка, блізка, недалёка
[6] Мой вечар, змрок мой, блізка, недалёка

4а Дзень, вечар, ноч, а трэба, трэба жыць
б Дзень, вечар, ноч, а буду, трэба жыць
8 Я — ветру, вецер мне ліш друг адзін
15а Асветлю хорам дум сваіх яснотай
б *Як у асноўным тэксце*
17а Душы дам волю, з песняй заручуся
б *Як у асноўным тэксце*
*Аўтограф; газ. «Наша ніва», 1915, № 7, 21 лют.:*
2 Ёсць раніца — павінны й вечар быць.

## *Ўвесь да дна...*

*Аўтограф:*
2 Ці з вадой жыватворнай, ці з ядам,
9а Днём з агнём мо задумаў ты праўду знайсці
б *Як у асноўным тэксце*
11а Дый што зробіш, як знойдзеш ты з ёю ў жыцці? —
б *Як у асноўным тэксце*
15а Будзь жа цернем ты сам, будзь сын верны зямлі
б *Як у асноўным тэксце*
21а Хочаш братняга сэрца, кахання, пяшчот...
б *Як у асноўным тэксце*
22 Плюй, бо йнакш аплеваюць самога!
25а Хочаш з сонцам, з зоркамі збратацца, жыць
б *Як у асноўным тэксце*
34 Ці з вадой жыватворнай ці з ядам

## *Нашто?*

*Аўтограф:*
12а Што жабранінай гоніць дзень за днём
б *Як у асноўным тэксце*

## *Ідзе вясна*

*Аўтограф:*
5 А будзе толькі з гэтага ўсяей карысці

## *Чаму?*

*Газ. «Наша ніва», 1915, № 16, 24 крас.; зб. «Спадчына», 1922:*
9 Магучы, векавечны, створан з сонц мільёнаў

## *Вясна 1915-ая*

*Газ. «Наша ніва», 1915, № 23, 12 чэрв.:*
27 Ні то падладжываючыся пад хаўтурны тон

*Пахаванне*

*Аўтограф:*

31а Аж дадуцца дзіву людзі
б *Як у асноўным тэксце*

*Ночцы*

*Аўтограф:*

17а Што мне шмат мілей яна сонейка
б Мілей яна мне і ад сонейка
■ *Як у асноўным тэксце*
22а Ты, ветру, маіх душ патомча
б *Як у асноўным тэксце*
24а І кінь ёй пад ногі — хай стопча
б *Як у асноўным тэксце*

*Плача восень*

*Чарнавы аўтограф:*

14а Мучыць душу ў сваіх сетках
б *Як у асноўным тэксце*
16 Дум аб сонцы і аб кветках

*Белавы аўтограф:*

1—4 *Адсутнічаюць*
13 Гэта ходзіць, лазіць сум
14 Дух палоніць ў сваіх сетках
15 І трывожыць шэпты дум
16 Дум аб сонцы і аб кветках

## 1918

*Для Бацькаўшчыны*

*Чарнавы аўтограф:*

1 Я ўзноў заснуўшую было жалейку
3 Ці хопіць светлых, ясных думак-слоў
8—9а {Калыша думкамі, няпетымі ад веку
А ўсё ж трывожыць, як там сваякі-суседзі
б *Як у асноўным тэксце*

*Белавы аўтограф:*

1 Я ўзноў заснуўшую было жалейку

*Газ. «Грамадзянін», 1919, № 8, 10 лют.:*

6 Хоць песня як з даўных б'е часоў,—

## *Песня*

(«Як крыніца, льецца, рвецца...»)

*Чарнавы аўтограф:*

5 Скрозь гамоне звоне звонка
11—13 К яснаму месячыку скоча,
Затужыць тугой тужлівай.
Стрэце зорку на дарозе

*Пасля 18: закрэслены, неразборлівы радок*

20 Пабурчыць аб непагодзе

## *Сваймy народу*

*Чарнавы аўтограф:*

1а Табе, народ мой слаўны беларускі
б Табе, народ мой згібнуўшы ў кайданах
в *Як у асноўным тэксце*
3а І аддаючы дань часіне даўнай
б *Як у асноўным тэксце*
5а Зірні, народ, у мінуўшыя сталецці
б Зірні ў даўно заснуўшыя сталецці
9—12, 25—28 *Перастаўлены месцамі*
9 Дняпро і Сож, Дзвіна і Нёман
10а Аб гэтым шмат што могуць расказаць
б Шмат могуць што у памяці збудзіці
14а Скрозь зарастаюць горкім палыном
б Ужо глянь зарастаюць горкім палыном
15а Па сцен астатках вецер вельмі свішча
б *Як у асноўным тэксце*
17а А быў жа час, што гэтыя байніцы
б Як бы пяе аб тым, як гэтыя байніцы
19 І з поўначы разбойны чужаніцы
21а Сабе сам права й законы укладаў
б *Як у асноўным тэксце*
27а Адно чужак раз'юшаны пахмеллем
б Званы вячовы счэзлі, анямелі
37а Нябожчыкаў знаходзяць. А жывыя...
б *Як у асноўным тэксце*
43—44 Адно ярмо цягаць не адвучыўся
Ніжэй паклоны біць і спіну гнуць
45а Паўстань, народ! Збудзіся беларусе
б *Як у асноўным тэксце*
48 Як поўнач, захад, ўсход твой скарб грабе
49—50а Зірні, як з'яюць скрозь маланкі
Усясветных бур, усясветных змен віхры
б *Як у асноўным тэксце*

54а Сабе і бацькаўшчыне адбудуй
б Сваёй бацькаўшчыне адбудуй
в *Як у асноўным тэксце*
57а Сваю магутнасць пакажы ты злыдням
б *Як у асноўным тэксце*
58а Сваю зямлю ў пашане мець прымусь
б *Як у асноўным тэксце*

*Газ. «Грамадзянін», 1919, № 7, 7 лют.:*
1 Табе народ, згібнуты ў аковах,
15 Па сцен астатках вецер свішча,
23 Звон вечавы сход склікаў народны
25 Сягоння ўсё спіць, зарастае зеллем,
27 Званы вячовы замоўклі, анямелі
28 У думе сагнулі людзі плечы ў крук.
39 Праклёны шэпчуць векавыя

*На сход!*

*Аўтограф:*
9а Як кроў тваю пілі паны і каралі,
б *Як у асноўным тэксце*
11—12 Як раскаваныя крывавілі рабы,
Як падаў ты ад непасільнай барацьбы.
14 Як гібнеш ты ад катняе рукі
15а За ўсё на ўсенародны грозны бурны сход
б *Як у асноўным тэксце*

*На прызбе*

*Аўтограф:*
2 І пазірае сумна ў свет

*Пасля 10:*
Не лёгкі быў той доўгі шлях
І, што астаўся, плодзіць жах
12—13 І двор, і пан, і «кнут», і цар,
Бадзянні тыя, што з ім шлі
19а Адно ад сумных, горкіх дум
б *Як у асноўным тэксце*
20 Што раз то большы цісне сум

*Газ. «Беларусь», 1919, № 28, 21 лістап.:*
3 Старэча думка ўдаль бяжыць

*Час!*

*Аўтограф:*
6 Скажыць хай народ
9. Які весці лад

12а Новы ўвесці лад...
б Новы ўзвесць пасад...
19 Ходзе ходырам свет цэлы
20 Смела ў бой ідзе нясмелы
22—23а Час і нам цапы і косы
Браць у рукі, покі росы
б *Як у асноўным тэксце*
27 Знай, устаў народ!
28а За сябе знай пастаяці
б *Як у асноўным тэксце*
29—30а Маці-бацькаўшчына кліча
На вялікі сход
б *Як у асноўным тэксце*

## *У вырай*

(«Зашумела нудна восень...»)

*Аўтограф:*

1а Зашумела сконам восень
б *Як у асноўным тэксце*
4а З сонных гоняў Беларусі
б *Як у асноўным тэксце*
12 Ў суме патанулі...
15а Зноў к нам прыляціце
б *Як у асноўным тэксце*
18—19 Як вясна засвеце
Ой вы, гусі-дабрадзейкі,
22 Дзе вы сонейка страчалі
24 Лётали, хадзілі
28а Йшчэ не ўмееце сягоння
б Вы не выўчыліся, гусі,
29а Выракацца родных гоняў
б *Як у асноўным тэксце*

*Перад варыянтам радка 28 «Вы не выўчыліся, гусі» — закрэслены радок «Йшчэ не наўчылісь», перад варыянтам радка 28 «Йшчэ не ўмееце сягоння» — закрэслены неразборлівы радок.*

*Зб. «Спадчына», 1922:*

13 Ой, вы, гусі — вырайніцы,

## *Наша гаспадарка*

*Чарнавы аўтограф (адз. зах. 151):*

Ды толькі праца наша ўся гібее дарам
а Так мы жылі пад каралямі і пад царам
б Так мы жывём пад пан⟨амі⟩ і пад царам

Хадзілі, ходзім на вайну і ласкаю чужой
а Мы кормімся як збэшчаны прыблуда⟨й⟩ тост
б Вось кормімся як збэшчаны прыблуда⟨й⟩ тост
І без пары ў зямлі халоднай косці парым
в Як цені блукаемся ці то ў полі ці мо ў ⟨нрзб⟩
Як цені блукаемся дома і за домам
Ці нас вясною ўзвесяліць вясёлая зялёная трава
А ні нам шчырай тэй пацехі з севу і жніва
а Усё наша і не наша
б Глядзім і не ўгледзім дзе наша дзе не наша
Гадуем свой хлеб ⟨нрзб⟩
І запытаць баімся ці доўга будзе нам залом ⟨ам⟩
Мы пчол гадуем
А мёд суседзі падбіраюць
А рой улей свой забываюць

*Чарнавы аўтограф (адз. зах. 130):*

5а За векам шоў нам век пад панамі і пад царам
б Ад веку ў век мы йшлі пад панамі і пад царам
в *Як у асноўным тэксце*
7а І нам было падзякаю адной
б *Як у асноўным тэксце*
10а Ні веселяць у лузе кветкі, мурава
б Ні ўсцешаць нас у лузе кветкі, мурава
в Ні нам пацехі светлай з севу і жніва
г *Як у асноўным тэксце*
14 Варшава панская і рабская Масква

*Газ. «Звон», 1919, № 26, 18 кастр.:*

5 Спрадвеку ходзім пад панамі, пад царамі,
14 Варшава панская і рабская Масква?!

*Пчолы*

*Чарнавы аўтограф (адз. зах. 131):*

5 Вуллі я даглядаю вокал — навокал
12а Ці як пайду мёд свежы падглядаць у кадку
б Ці як пайду мёд-соты падглядаць у кадку
13 І тут гляджу, не ўсё ў парадку і даглядку
14а Як рой, і мёд падгледзеў ці забраў сусед
б Як рой, і мёд падгледзеў мой добры мой сваяк-сусед
в Як рой і мёд падгледзеў мой добры ўжо сваяк-сусед

*Чарнавы аўтограф (адз. зах. 132):*

2а Яны шумяць, а пчолы гаманяць як неўгамонныя музыкі
5а Вуллі я даглядаю вокал-навакол
б *Як у асноўным тэксце*
8 Вясною падчышчаю падмяраю верх і дол

9 А як надойдзе час выходзіць рою ў свет
10а Ён не садзіцца дзе яму назначу я мясціну
б Ён не садзіцца дзе яму назначу я пасадку
11 А коціцца туды, чужы дзе зацвітае цвет
12а Ці як надойдзе час збіраці мёд у кадку
б Ці як збяруся салодкі мёд збіраць у кадку
13 І тут гляджу не ўсё ў парадку і даглядку:
14а Як рой, і мёд забраў і не спытаў сусед
б Як рой і мёд забраў і скарыстаў сусед

*Белавы аўтограф:*

*Радок 5 мае закрэслены варыянт: «Вуллі краплю святой вадою навакол».*

*Зб. «Творы 1918—1928», 1930:*

7 Сачу зімою, каб чарвяк не ўбіўся дзікі,

## *Сон*

(«Заглянь, сынок, у соннік...»)

*Чарнавы аўтограф:*

1а Вазьмі сыночак соннік
б *Як у асноўным тэксце*
5 Па ім ішла я ночай
11а І пасыпалі пухам
б Абматывалі пухам
17а І павялі адтуля
б *Як у асноўным тэксце*
21а Магілку паказалі
б Кіўнулі на магілку
в *Як у асноўным тэксце*
22а І паказалі крыж,
б І на зялёны крыж,
в *Як у асноўным тэксце*
23 Захіхаталі хітра
24а І падняліся ўзвыш
б *Як у асноўным тэксце*
26 Захіхатаў дзікі
28 Што знача гэты сон

*Перабелены аўтограф:*

5 Па ім ішла я ночай
23а Захіхаталі хрыпла
б *Як у асноўным тэксце*
26а Захіхатаў дзікі
б *Як у асноўным тэксце*
28 Што значэ сон такі?

*Часоп. «Беларускае жыццё», 1920, № 5, 29 лют.:*

12 Сасоннічных ігліц
22 Спляснеўшы мохам крыж,

*Званы*

*Накід:*

2а У свет рэха-водгулле плыве
б У свет рэха-водгулле гучыць
в У свет рэха-водгулле гудзе
г У свет рэха-водгулле пяе
д У свет рэха-водгулле заводзе
3а Дрыжыць званіцы мур-склеп цагляны
б Дрыжыць званіцы мур-склеп сцюдзёны
4а Дрыжыць званар б'ючы ў званы зубы
б Дрыжыць званар рвучы надорваныя грудзі
5а І родзіць гэта музыка звадзячы звод нуды
б Наводзіць гэта музыка звадзячы звод нуды
7 Па сэрцу б'е як дождж па шкле ў васенні халады
8а Заводзе ў думах сказ адвечны забабонны
б Заводзе ў думах сказ бадучы забабонны
9а У мазгі залазе жах, што вечны звон званоў
б У мазгі залазе жах, што гэты звон званоў
в У мазгі залазе жах, што буйны звон званоў
10 Хаўтурны гэта звон спакон вякоў
11 Што гэтая званіца схоў нябошчыкаў
12 Званар-грабар што косці засыпае па ўсім свеце

*Накід першай страфы:*

2а У свет рэха водгулле бяжыць па цвёрдай грудзе
б У свет рэха водгулле гучыць па цвёрдай грудзе

*Чарнавы аўтограф:*

1 Гудуць званы, з дня ў дзень мядзяныя гудуць званы
2а У свет рэха-водгулле гучыць па цвёрдай грудзе
б *Як у асноўным тэксце*
5а Наводзіць гэта музыка звадзячы зводаў нуды
б *Як у асноўным тэксце*
8 Заводзе ў думах сказ бадучы забабонны
9 У мазгі залазе жах, што гэты буйны звон званоў
12а Званар-грабар, што косці горне па ўсім свеце
б Званар-грабар, што косці рые па ўсім свеце

*Перабелены аўтограф:*

8а Заводзе ў думах сказ бадучы, забабонны
б *Як у асноўным тэксце*
9 У мазгі залазе жах, што гэты буйны звон званоў —

12а Званар-грабар, што косці рые па ўсім свеце
6 *Як у асноўным тэксце*

## *У хорамах*

*Чарнавы аўтограф № 1:*
3 Ім пелі гусляры,
4 Цвіла трава-мурог
9—11 Хадзілі хадыром,
Свет цэлы быў ім рай;
А рысакі віхром
*Чарнавы аўтограф № 2:*
3 Жылі ў іх жыхары
4 Не гавары да трох

## *Млечны Шлях*

*Чарнавы аўтограф:*
1а Лёг па небе шлях млечны шлях ⟨нрзб⟩ зорак
6 *Як у асноўным тэксце*
2 Паясом залатым без канца і пачатку
4 Пахаджае пад ім над зямелькаю-маткай
5а Млечны шлях цэлы свет абымае, галубе
6 Млечны шлях туліць свет яснавіцай
7а То ясней, то блядней зацвітае, іскрыцца
6 То святлей, то блядней зацвітае, мігціцца
8а Сее скрозь як бы сон, быццам сказку такую
6 *Як у асноўным тэксце*
*Перабелены аўтограф:*
1 Лёг на небе шлях млечны, шлях злеплены з зорак,
4а Пахаджае пад ім, мяняючы што-ноч апратку
6 *Як у асноўным тэксце*
5а І галубіць свет цэлы, матулю-зямлю яснавіцай
6 *Як у асноўным тэксце*
7а То святлей, то блядней зацвітае, мігціцца,
6 *Як у асноўным тэксце*
*Часоп. «Беларускае жыццё», 1920, № 4, 16 лют.:*
1 Лёг на небе шлях млечны, шлях злеплены з зорак
11—12 Яшчэ кажуць, што гэта слязіны сірочы
Замяніліся ў зоркі і свецяць там шчыра

## *Удосвітак*

*Чарнавы аўтограф:*
Перад першай страфой закрэслена:
Пад ліпай ля плоту ў балоце
Стаіць сірацінай хаціна
Страхою віхура калоце

Па шыбах б'е дождж — халадзіна
1 Яшчэ пеці певень баіцца
3 У хаце лучына дыміцца
6 Сядзіць папрадуха пры сценцы
9 Хоць вочы сон лепіць ⟨нрзб⟩
11 Рукі не спускае мазольнай
16 Сцюдзёны дождж хвошча па шыбах
20 Пуціну ў балоцістай гаці
23а Мо бліснe агеньчык дзе з хаты
*б Як у асноўным тэксце*
24а Мо найдзе прытулак начлег дзе
*б Як у асноўным тэксце*
35—36 Ды хто там згадае як ⟨нрзб⟩
Што ⟨нрзб⟩ сніцца дзяўчыне

*Перабелены аўтограф:*

*Перад першай страфой закрэслена:*

Пад ліпай ля плоту ў балоці
Стаіць сірацінай хаціна,—
Страхою віхура калоце,
Па шыбах б'е дождж — халадзіна
1а Яшчэ пеці певень баіцца,
*б Як у асноўным тэксце*
3а У хаце лучына дыміцца
*б Як у асноўным тэксце*
6а Сядзіць папрадуха пры сценцы,
*б Як у асноўным тэксце*
11 Дзяўчына сон гоне на ўцекі
15 Страхою калоце віхура
25а Папрадуху ночка стаміла,
*б Як у асноўным тэксце*
27а Папрадуха рукі спусціла
*б Як у асноўным тэксце*
29а Ёй сніцца, што недзе далёка
*б Як у асноўным тэксце*
30а Спяшыць падарожны на шляху
*б Як у асноўным тэксце*
32 Што ён малады і багаты
33а На губы ўсмешка ўзбягае,
б І ўсмешка ўсплыла маладая,
34а Штось соладка ў сэрцы шчыміцца
*б Як у асноўным тэксце*

*Белавы аўтограф:*

11 Дзяўчына сон гоне наўцекі
15 Страхою калоце віхура

## *Забытая карчма*
(«Павыбіты вокны, сарвана страха...»)

*Чарнавы аўтограф (адз. зах. 139):*

2—4 Ў зямлю паўпаўзалі вуглы,
Абкураны комін тарчыць, як вяха,
Як здань, выпаўзае з імглы.
5*а* Стаіць, як звяр'ём абарваны шкілет,
*б* Стаіць, як звяр'ём абскубаны шкілет,
8 Галубіць праклящце і цьма.
9*а* Над ёй адзінока асіна шуміць,
*б* Над ёю асіна калыша галлём,
*в* *Як у асноўным тэксце*
11*а* Калыша, махае атрутным галлём,
*б* Калыша, махае кастыльным галлём.
14 Калоце як цэп аб камель
15 І сведчыць як некалі вельмі здаўна
17 Гудзела шумела карчма дзень і ноч
18 Музыка рваў струны, рваў смык
19 За чаркаю чарка нуду слала проч

*Пасля 20 (закрэслена):*

Сядзелі пры злітым атрутай стале
Ўжо п'яныя бацька і сын.
Іх знала як згодных людзей у сяле
21*а* Вось поўнач... А там пры абслізлым стале
*б* Вось поўнач... Звон чарак, смех, крыкі, выццё
*в* *Як у асноўным тэксце*
23*а* Грымнула сякера... Міг, сціхла гульба...
*б* Гах! Цвякнуў тапор... Міг, замёрла гульба.
24*а* Ляжаў ужо адзін без душы
*б* *Як у асноўным тэксце*
25*а* Мярцвяк... загудзеў ашалелы народ
*б* Мярцвяк... завыў ашалелы народ
*в* Мярцвяк... загудзеў ўзбушавалы народ

*Пасля 25 (закрэслена):*

Ратунку! Агню! — загудзела таў⟨па⟩
26 І рынуў на двор як адзін
27*а* Дзе ўбіўца? На горкай асіне разінуўшы рот,
*б* Дзе ўбіўца? На горкай асіне як кнот
28*а* Вісіць мярцвяк подлы...
*б* *Як у асноўным тэксце*
30 У бурнай калісьці карчме
31*а* Разносіцца толькі варонне выццё,
*б* Абдзёртай страхі тарчыць рагаццё,
*в* Савінае толькі пануе выццё,

32 Ды вецер па шчэлінах дзьме.
36 Звініць за кяліхам кяліх.
39а Йдзе бацька стары з тапаром у грудзях,
б З сякераю бацька ў кастлявых грудзях,
40а За ім малады сын з пятлёй
б *Як у асноўным тэксце*

*Чарнавы аўтограф (адз. зах. 138):*

2—4 У зямлю папаўзалі вуглы;
Абкураны комін тарчыць, як вяха,
Як здань выпаўзае з імглы
5 Стаіць, як звяр'ём абскубаны шкілет,
19а За чаркаю чарка нуду гнала проч
б *Як у асноўным тэксце*
23а Гах! цвякнуў тапор... Міг, замёрла гульба
б *Як у асноўным тэксце*
26а І рынуў на двор як адзін
б *Як у асноўным тэксце*
28а Вісеў мерцвяка родны сын...
б *Як у асноўным тэксце*
31а Абдзёртай страхі тарчыць рагаццё
б *Як у асноўным тэксце*
36а Звініць за кяліхам кяліх
б *Як у асноўным тэксце*

*Зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937:*

14 Бы цэпам, калоце ў камель,

## *Буслы*

*Чарнавы аўтограф:*

1а Падчысціла восень загонікі шчыра
б Падчысціў кастрычнік загоны і луг
в Падчысціў кастрычнік паля і лугі
2а Звёў лісце і лес закарусьлы
б Звёў лісце гушчар закарусьлы
в Звёў лісце хмызняк закарусьлы
4а На сходку злятаюцца буслы
б *Як у асноўным тэксце*
5а На выгане пло
б Дзе плоту на выгане сцелюцца праслы
в Дзе плотам граніцу правёў сабе выган
6 За прасла чапляецца прасла
б *Як у асноўным тэксце*
9 Хто млечны шлях ночай дагледзе, не зблудзе,
10а Над морам адмера крыламі
б *Як у асноўным тэксце*

11а Той толькі у вырай ляцеці з іх будзе,
б *Як у асноўным тэксце*
13а Клякочуць, лапочуць. І сучыць брат брата
б Клякочуць, лапочуць. І крыллі і скабы
16а Сур'ёзна вядучы бяседу
б *Як у асноўным тэксце*
21 Ўжо маюць ляцеці, ўжо хлопаюць крыллі...
32а Смерць буслу, няздатнаму к лёту
б *Як у асноўным тэксце*
33а Смерць! Смерць! Паляцела пуховае пер'е,
б *Як у асноўным тэксце*
37а Шнур доўгі, жывы павалокся пад небам вячыстым,
б *Як у асноўным тэксце*
41а А там сіратою за выганам поле,
б А там, а за выганам поле чарнее,
в *Як у асноўным тэксце*
47—48а Калі бусел вернецца з выраю гэты,
Ка мне ўзноў вернецца мілы
б *Як у асноўным тэксце*

*Газ. «Беларусь», 1919, № 11, 1 лістап.:*
1—2 Падчысціў кастрычнік зямлю ўсю шчыра,
Звёў лісце хмызняк заскарузлы...
8—9 Пакуль дня лучына не згасла.
Хто Млечны Шлях ночай дагледзе, не зблудзе,

*Зб. «Творы 1918—1928», 1930:*
12 Той вылеце ў вырай з бусламі.

### *Буралом*

*Аўтограф:*
2 І шуміць, гамоне
4а Загуляў удагонку
б *Як у асноўным тэксце*
6а Там трашчаць галіны
б *Як у асноўным тэксце*
9 Вунь, глядзі, старуха-хвойка
15а Аж мяне сягоння ў дрожкі
б *Як у асноўным тэксце*
19 Ой зірні ужо захліпаў
21а Ой зірні ўжо праз узгоркі...
б *Як у асноўным тэксце*
22а Няўжо к нам... Ой, ой ногі!
б *Як у асноўным тэксце*
23 Не дакончыў дуб гаворкі
24 Рынуўся як доўгі

*Спадчына*

*Чарнавы аўтограф (адз. зах. 141):*

3а Якой не згрызла йржа вякоў
б Паміж чужых і сваякоў
5—8, 17—20 *Перастаўлены месцамі*
9—16, 21—28 *Перастаўлены месцамі*
13 Блеянне нуднае ягнят
14 За хатамі на пасьбішчы
15 І віск вароніных грамад
21—22 Я гэту спадчыну ў душы
Нашу, як светач-полымя
24а Мне свеціць між заломамі
б *Як у асноўным тэксце*
25—26 Жыве з ёй дум маіх сям'я
І сніць з ёй сны нязводныя

*Чарнавы аўтограф (адз. зах. 143):*

13а Бляянне нуднае ягнят
б *Як у асноўным тэксце*
14а За хатамі на пасьбішчы
б Бляянне там на пасьбішчы
15 І віск вароніных грамад
21а Нашу я спадчыну ў душы
б *Як у асноўным тэксце*
25а Жыве з ёй дум маіх сям'я
б *Як у асноўным тэксце*

*Сявец*

*Чарнавы аўтограф:*

*Парадак строф, пачынаючы з трэцяй, парушаны.*

16 Парадак вяду
19—20 Бо кепскі знак гэта,
Як вестка ідзе.
25—28 Ляціце, зярняты,
Садзіцеся ў рад,
Каб быў усход багаты,
Сявец каб быў рад.
35а Маланка-агніца
б Маланкай-вясноўкай
36а Не блыскай у красу
б *Як у асноўным тэксце*
37—38а А ты Градавіца,
Пастрымываў град
б *Як у асноўным тэксце*

*Перабелены аўтограф:*

16а Парадак вяду
б *Як у асноўным тэксце*
27—28а {Каб быў усход багаты
Сявец каб быў рад}
б *Як у асноўным тэксце*

*Шостая і сёмая страфы перастаўлены месцамі*

*Рунь*

*Накіды асобных страф (адз. зах. 140, л. 1):*

10 Плыве плыўнём палае йскрыцца
16а Пры ёй трывожачы кусты
б *Як у асноўным тэксце*
12 Бурліць сцюдзёная крыніца
14а На ўзмежку скінуўшы кару
б *Як у асноўным тэксце*
14а Тарчыць засохшая ігруша
б Тарчыць ігруша, як смяротнік
15а Над ёй то ў ніз то ў гару
б Над ёй ястраб у гару
16а Лунае ястрэб жыр-дабычу
б Лунае сочыць жыр-дабычу
в *Як у асноўным тэксце*

*Закрэслена страфа:*

Не ждаў гаротны гаспадар
Ад руні гэткага адказу,
Што атрымае дар за дар,
Не схамянуўшыся ні разу.
29—31 Устаў з зямлі. Благі дурман
Старыя раны разварушыў
І зняўшы пояс-саматкан

*Накіды асобных страф (адз. зах. 144):*

1 Абходзе важна гаспадар
3а Глядзіць ці варта божы дар
б Глядзіць ці добры божы дар
4а На свет ⟨нрзб⟩ з зямліцы свежай
б На свет зірнуў з зямліцы свежай
8 Ляжыць рунее рунь багата

*Закрэслена страфа:*

І сэрца б'е ў гаспадара
Душа расце ⟨нрзб⟩ пацехай
Рунь выйшла з зімкі як іскра
*Радок* ⟨нрзб⟩
26а Адзін паменшала к ядзе

б *Як у асноўным тэксце*
27 Сягоння твой прышоў чарод
30 Жывыя раны разварушыў
31 І зняўшы пояс-саматкан

*Чарнавы аўтограф:*

8а ⟨нрзб⟩ рунее рунь багата
б *Як у асноўным тэксце*

*Пасля 8 (закрэслена):*

І сэрца б'е ў гаспадара,
Душа расце святой пацехай.
Рунь выйшла з снегу, як іскра,
Ажно бярэць адна уцеха.

14а Тарчыць ігрушка, як смяротнік,
б *Як у асноўным тэксце*
17а Як здаўна йдзе варожбаў лунь
б Як вуча свет варожбаў лунь
29а Устаў з зямлі. Благі дурман
б Ўстаў гаспадар з зямлі. Як п'ян,
30а Старыя раны разварушыў...
б *Як у асноўным тэксце*

*Белавы аўтограф:*

17а Як вучэ свет варожбаў лунь
б *Як у асноўным тэксце*

*Першы снег*

*Чарнавы аўтограф:*

1—2а Хаўтурнай пабелай снег белы залёг
На чорнае поле, на скошаны луг
б *Як у асноўным тэксце*
3—4 *Перастаўлены месцамі*
5а Так бледна бязрадасна сцелецца снег
б Так высыпаў бледна бязрадасна снег
6—7а У гэты свой першы папас і начлег
Ад стада адбіўшыся птушка квіліць
б *Як у асноўным тэксце*
10а Снег бледны і там кінуў свой загавор
б На полі на снежным ні груд, ні разор
13 За хатай, над хатай махнаціцца бель
14 На белі за плотам як нітка з кудзель
15 Чырвоная стужка скрозь снег зіхаціць
17 Ад рання лунае, шыпіць варажба
19а Хто смеў першы снег апаганіць крывёй
б *Як у асноўным тэксце*

20—21 Паганай ён веры — чужы ён ці свой
Дагадкі-дадумкі лунаюць у снежнай імгле
23—24 Па полі па бледным цень бледны снуе
А птушка квіліць ўсё жальбамі, жаліцца
ў снезе
26 І ў сажалку труп завалок утапіў
*Перабелены аўтограф:*
5а Так высыпаў бледна безрадасна снег
б *Як у асноўным тэксце*
15а Чырвоная стужка скрозь снег зіхаціцца
б *Як у асноўным тэксце*
17а Ад рання лунае бурліць варажба
б *Як у асноўным тэксце*
21а Дагадка лунае ў сцюдзёнай імгле
б *Як у асноўным тэксце*
24а А птушка квіліць усё жальбы свае
б *Як у асноўным тэксце*

### *Паязджане*

*Чарнавы аўтограф:*
1—2, 3—4 *Перастаўлены месцамі*
1а Распаўзлася па прыселлі
б *Як у асноўным тэксце*
2а Белым пухам сцежкі сцеле.
б Белым пухам, белай сцеляй.
в Белым пухам, белай марай.
3—4 Неўгамонная старуха,
Папаўзуха-завіруха.
7а Ні пуціны, ні прыпыння,
б Як у белай дамавіне
8 Хто не згінуў, той загіне.
9—10, 11—12 *Перастаўлены месцамі*
13—16 Замахначаныя коні
У снежнай кошкаюцца тоні.
На вясельнікаў находзе
Злая думка аб прыгодзе
18 Штось шапочэ ім да вуха
21—24, 25—28 *Перастаўлены месцамі*
21—22 *Перастаўлены месцамі*
21а Снежным вабіць іх начлегам,
б Снежным песціць іх начлегам,
23 Шляхі белыя вароце
24 У гэтай снежнай ⟨нрзб⟩
26а Свата к сваццi — збеядухі,

б Свата к сваццi — сакатусе,
29 Прыгалубiлiсь, як дзецi,
31а А вясельнiкi ўсё едуць
б I ўсё едуць, едуць, едуць
32а Цi даедуць — нi нам ведаць
б А куды — iм толькi ведаць
33—36 *Адсутнiчаюць*

### *Крыўда*

(«Цягалася Крыўда па свеце...»)

*Аўтограф:*

11 Аж блiснула пламя на ўсходзе
12 I дрогнулi сковы нячуты
13а Ды дрогнула крыўды ўсяўлада
б Так дрогнула крыўды ўсяўлада
15а Рухнулi кароны, пасады
б *Як у асноўным тэксце*
17 Так мiлай пацехай зазззяла

### *Мая вера*

*Аўтограф:*

7 I сочаць прагавiтным вокам

*Альманах «Зажынкi», 1918:*

14 У людской асвечаны крывi
17 Нi за якую плату й меру

## 1919

### *Сын i мацi*

(«Мамка, мамка! Што так плачаш?..»)

*Кн. «Паўлюк Жук: Яго жыццё i творчасць», Мн., 1925:*

1 Мамка, мамка! Што ты плачаш?
11 Нашу хатку i збажынку

### *Лясное возера*

*Аўтограф:*

4а Шэпча куст з кустам нудныя казкi
б Шэпча куст з кустам цiхiя казкi
16 Гусi запелi. Узвiжанне недзе.

### *З павяўшай славы...*

*Чарнавы аўтограф:*

1 З патухшай славы звяўшых дзён

16—18а { І акрыліцца барацьбой,
Каб аж магіла ажыла
І жывым голас падала }
б *Як у асноўным тэксце*

### *Беларускія сыны*

*Чарнавы аўтограф:*
2а На Беларусь ку⟨ю⟩ць кайданы
б *Як у асноўным тэксце*
7а З няволі збрыўшы старany
б *Як у асноўным тэксце*
8а Царыць чужынец, а за служак
б Царыць чужынец, яму служаць
в *Як у асноўным тэксце*
11—15, 16—20 *Перастаўлены месцамі*
13а Вісіць чужы сцяг, а павесіў
б *Як у асноўным тэксце*
16 У беларускім божым доме
21а На беларускім чорным полі
б *Як у асноўным тэксце*

### *Над калыскай*
(«Калыхала маці сына...»)

*Белавы аўтограф:*
22 Сынок вырас, на лес глядзя

### *Груган*
(«Кожнай вясны, як выходжу...»)

*Аўтограф:*
5а Крылле, як вёслы, разняўшы,
б *Як у асноўным тэксце*
19—20 Косці пасеяны лічыць
Лічыць людзей і крыжы

### *Восень*
(«Села пад пушчаю Восень...»)

*Чарнавы аўтограф:*
2 Вочы ўставіўшы ўдаль,
3—4а { Шчырыя пацеры шэпча,
Буйных дажынак ёй жаль }
б *Як у асноўным тэксце*
14 Лесам, як кустам, трасе
16 Круце саломy ў страсе
19—20 Плача нязведаным горам,
Лезе ў душу, як з нажом.

24 Хмара лье ў вокны вадой.
25—26 У коміне свіст не сціхае,
Моліць, варожыць, кляне.
27а Курыцца сажа сухая
б Як бы душа ўздыхае
28 Ў жудкай паўяве, паўсне.
29а Буйныя каплі на шыбах
б *Як у аснойным тэксце*
31а Як смык яловы па скібах,
б *Як у аснойным тэксце*
34а Што не даеце заснуць
б Хто вас паклікаў такіх
в *Як у аснойным тэксце*
36а Ветру і хмары дзікі
б *Як у аснойным тэксце*
37—39 Восень сюды нас паслала
Восень дала нам наказ.
Мы яе слухаем стала
40а Слухаць прывучым і вас.
б Ёй мы дамо і адказ
41а І засвістаў вецер дзіка
б І засвістаў вецер жудка
42а Сцёбаць пачаў дождж ямчэй
б *Як у аснойным тэксце*

*Перабелены аўтограф:*

16 Круце салому ў страсе
20а Лезу ў душу, як нажом
б Мучыць душу, як нажом
в Раніць душу, як нажом.
25а У коміне свіст не сціхае
б *Як у аснойным тэксце*
30а Плюскаюць, ⟨нрзб⟩, бубняць
б *Як у аснойным тэксце*
37а Восень сюды нас паслала
б *Як у аснойным тэксце*
38а Восень дала нам наказ
б *Як у аснойным тэксце*
39а Мы яе слухаем смела
б *Як у аснойным тэксце*
40а Ёй мы дамо і адказ
б Кінулі хаці адказ
41а І засвістаў вецер жудка
б *Як у аснойным тэксце*

*Зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937:*

29 Мокрыя каплі на шыбах

*Перабелены аўтограф:*

5а Праз цэлае лета
б Усё яснае лета
10 Сціх птушчыны спеў,
11а Пажоўклі ўсе краскі
б *Як у асноўным тэксце*
13а Дык, што ж нам дарэмна
б *Як у асноўным тэксце*
18а Хутчэй к нам, хутчэй
б *Як у асноўным тэксце*

### *Першамайская песня*

*Чарнавы аўтограф:*

6 Спольна стрэнем весялей
17 Свята дружбы, гімн вясне
22 Праца ў волі зажыве
26 Сустракаюць май зялёны,

*Перабелены аўтограф:*

6 Спольна стрэнем весялей
26а Сустракаюць май зялёны
б *Як у асноўным тэксце*

*Зб. «Дашкольны спеўнік», Мн., 1928:*

26 Спатыкаюць май цудоўны,
29 Дружна стрэнем весялей

### *Кавалі*

*Чарнавы аўтограф:*

3а Не страшаць нас благія напасці,
б *Як у асноўным тэксце*
5а Куём мы звонка, безустання,
б *Як у асноўным тэксце*
7а Усюды сеючы агні змагання,
б Ў працоўны люд нясуць агні змагання
в *Як у асноўным тэксце*
11а Камуне буйнай цярэбім дарогі,
б К Камуне буйнай чысцім дарогі,
в *Як у асноўным тэксце*
13—14а Смялей, званчэй грымі, наш молат,
Пад абцугамі плаўся, сталь
б *Як у асноўным тэксце*

*Зб. «Дашкольны спеўнік», Мн., 1928:*

2 Для лепшых будучых часін
13 Дружней, смялей грымі, наш молат,
14 Пад молатамі гніся, сталь,

# КАМЕНТАРЫ [1]



У чацвёрты том уключаны вершы і пераклады 1915—1929 гг., вершы невядомых гадоў, чарнавыя накіды і раздзел «Dubia».

За асноўны тэкст многіх вершаў, змешчаных у чацвёртым томе, прыняты Збор твораў у шасці тамах (Мн., 1925—1932) як найбольш аўтарытэтнае, у падрыхтоўцы якога прымаў удзел аўтар. Творы, якія не ўвайшлі ў названы Збор твораў, напісаны пазней ці перапрацаваны паэтам (напр., вершаваны пераклад «Слова аб палку Ігаравым»), друкуюцца па апошніх прыжыццёвых выданнях.

Тэксты твораў нанова зверaны з усімі друкаванымі і рукапіснымі крыніцамі, вывучаны архіў паэта, выверaны і ўдакладнены варыянты аўтарскага тэксту, якія прыводзяцца ў раздзеле «Іншыя рэдакцыі і варыянты». У выніку праведзенай аналітычнай зверкі тэкстаў выпраўлены памылкі, скажэнні і недакладнасці, якія былі ў ранейшых публікацыях асобных твораў паэта.

Удакладнены даты напісання некаторых вершаў, напрыклад, «Першамайская песня», «Кавалі» і інш.

У параўнанні з папярэднім Зборам твораў на падставе друкаваных крыніц і вывучанага крытычнага матэрыялу ў вершах «Паўстань...», «Гэй, паехаў сын Даніла...», «Па Даўгінаўскім гасцінцы», «У лесе», «Каб...» узноўлены строфы, якія па розных прычынах адсутнічалі ў асноўным тэксце. Узноўленыя строфы ў названых вершах падаюцца па першадруку.

У вершах «У вырай» («Зашумела нудна восень...»), «Паязджане», «Груган» («Кожнай вясны, як выходжу...»), «Ад мінскіх дзяцей», «Арлянятам», «Па Даўгінаўскім гасцінцы», «За ўсё...», «Летапіснае», «Слова аб палку Ігаравым», «Хаўтурны марш» захаваны папраўкі, якія былі ўнесены рэдкалегіямі Збору твораў у шасці тамах (1961—1963) і Збору твораў у сямі тамах (1972—1976).

Асноўная колькасць аўтографаў захоўваецца ў Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы (ДзЛМЯнК, ф. А, воп. 1). Таму ў далей-

[1] Падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі:
Вершы 1915 г., а таксама вершы «Мая вера», «З дня ў дзень...», «З думак жабрака», «Як цені», «Дзве долі», «Бяспутнасць», «Дрэмле Юрка», «Не ўсе дома», «З песень мужычых», «Можам часта мы плакаць», «Песня» («Гнаны Янка доляй...»), «Няма грошы», «Душачка, шынкарка», «Загадка» — *Мазанік Л. М.*
Вершы 1918—1929 гг., вершы невядомых гадоў, пераклады, чарнавыя накіды, раздзел «Dubia» — *Шамякіна А. І.*

шым спасылка робіцца толькі на адзінку захавання і ліст. Іншыя месцы захоўвання аўтографаў агаворваюцца непасрэдна ў каментарыях.

Крыніцамі для ўстанаўлення дакладнага аўтарскага тэксту і датавання твораў з'яўляюцца: *а*) Збор твораў, т. V («Спадчына»), Мн., 1928; *б*) Збор твораў, т. VI, Мн., 1932; *в*) зб. «Творы 1918—1928», Мн., 1930, *г*) зб. «Спадчына», Мн., 1922; *д*) аўтографы паэта; *е*) штотыднёвая беларуская газета «Наша ніва», Вільня, 1915; *ж*) часоп. «Полымя», 1924, 1926, 1929, 1930; *з*) газ. «Беларусь», 1919, 1920; *і*) часоп. «Беларускае жыццё», 1919, 1920; *к*) газ. «Грамадзянін», 1919; *л*) газ. «Звон», 1919; *м*) часоп. «Чырвоны шлях», 1918; *н*) зб. «Зажынкі», М., 1918; *о*) газ. «Беларуская думка», 1919; *п*) часоп. «Рунь», 1919, 1920; *р*) часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1933, 1935; *с*) часоп. «Зоркі», 1921, 1922; *т*) газ. «Савецкая Беларусь», 1921, 1923, 1925, 1926; *у*) зб. «Безназоўнае», Мн., 1925, 1928; *ф*) часоп. «Вольны сцяг», 1922; *х*) часоп. «Адраджэнне», 1922; *ц*) кн. «Слова аб палку Ігаравым», Мн., 1938; *ч*) кн. «Пажарнікі», Мн., 1928 і іншыя прыжыццёвыя зборнікі і перыядычныя выданні.

У каментарыях прыводзяцца шматлікія вытрымкі з артыкулаў вядомага на той час крытыка Л. Бэндэ. Рэдкалегія палічыла неабходным прывесці падобныя выказванні вульгарызатарска-сацыялагічнага зместу, каб узнавіць рэальную грамадска-палітычную атмасферу, у якой давялося працаваць Янку Купалу. Неаб'ектыўнасць і тэндэнцыйнасць бэндаўскіх ацэнак, беспадстаўныя абвінавачванні ў так званай нацдэмаўшчыне негатыўна ўплывалі на творчы і маральна-псіхалагічны стан паэта і лёс многіх беларускіх пісьменнікаў.

## 1915

*Маё цярпенне* (с. 7)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 2, 16 студз., дзе надрукаваны без загалоўка, з датай: 3/I-15 г.

Назва «Маё цярпенне» з'явілася ў зб. «Спадчына», 1922.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, Б. Чалы, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Смейся!..* (с. 8)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 26, 2 ліп., дзе датуецца 3/I-15 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Выпісы з беларускай літаратуры, Мн., 1923.

У пасмяротных выданнях твораў паэта верш не друкаваўся.

Аўтограф верша з 1917-га па 1920 г. захоўваўся ў П. Мядзёлкі. Я. Купала перадаў яго разам з іншымі творамі П. Мядзёлцы ў пачатку 1917 г. у Полацку. А ў 1920 г. аўтограф быў вернуты паэту, але да нашага часу аўтограф не захаваўся.

Верш пераклаў на рускую мову М. Галодны.

*...ў пекла Дантава...* — Дантэ Аліг'еры (1265—1321), італьянскі паэт, аўтар «Боскай камедыі», дзе «Пекла» з'яўляецца адным з яе раздзелаў.

*Быў гэта сон...* (с. 9)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе недакладна датуецца 3.I-13 г.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 5, 6 лют. з датай: 3/I-15 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927.

Захаваўся белавы аўтограф (адз. зах. 110, л. 1, с. 1) з датай 3/I-15 г. на адным лісце з вершам «Не судзіла доля».

Гэты верш з такімі творамі, як «Таей даўгажданай», «Сыйду...», «Вечар», «Ўвесь да дна...», «На вуліцы», «Таварыш мой», «Нашто?», «А яна...», «Пахаванне», «Ночцы» складаюць своеасаблівы цыкл, прысвечаны Паўліне Вікенцьеўне Мядзёлцы (1893—1974), дзеячу беларускай культуры.

У сваіх успамінах «Сцежкамі жыцця» П. Мядзёлка прыводзіць гэты верш у невядомай дасюль рэдакцыі: другая страфа адсутнічае, а астатнія прыводзяцца ў іншым парадку, чым у асноўным тэксце: 1, 4, 3, 5 («Полымя», 1993, № 5, с. 206—207).

П. Мядзёлка там жа зазначае, што ў Вільні ў 1914 г. Я. Купала ёй зрабіў прапанову выйсці за яго замуж, але яна яму адмовіла. А ноччу Купала напісаў гэты твор і назаўтра даў ёй прачытаць. А ў гады Вялікай Айчыннай вайны Уладзіслава Францаўна Луцэвіч паказвала П. Мядзёлцы выразку з «Нашай нівы» з гэтым вершам з надрукаваным прысвячэннем Уладзіславе Станкевічанцы. П. Мядзёлка мяркуе, што яно з'явілася ў «Нашай ніве», калі Уладзіслава Францаўна стала жонкай паэта. Але верш у «Нашай ніве» з'явіўся раней.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на балгарскую — Я. Дзімаў, на польскую — Э. Карпук.

*Не судзіла доля* (с. 9)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.
Упершыню — зб. «Спадчына», 1922, дзе датуецца 3/I-15 г.
У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.
Захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 110, л. 1, с. 1) з датай 3/I-15 г. на адным лісце разам з вершам «Быў гэта сон...».
Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Навіцкая, В. Наседкін, на малдаўскую — А. Бусуёк, П. Дарые, на балгарскую — Я. Дзімаў.
На музыку паклаў Р. Пукст.

*Таварыш мой* (с. 10)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.
Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 4, 31 студз., дзе датуецца 20/I-15 г.
Твор уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.
Верш пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі («Мой товарищ»), на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на польскую — Ф. Няўважны.

*На суд* (с. 11)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.
Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 12—13, 2 крас., дзе надрукаваны з падзагалоўкам «Пасвячаю лжэязычнікам», з датай: 20/I-15 г.
Твор уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.
Верш пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, В. Шэфнер, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, Б. Чалы, на літоўскую — І. Грайчунас, на польскую — Ф. Няўважны.
*Мінаў я вашу фарысейскую сям'ю, // Мяне не збэсціў вашым ідалам паклон* — тут маюцца на ўвазе браты Луцкевічы і В. Ластоўскі, з якімі ў Я. Купалы былі складаныя адносіны.

*Таей даўгажданай* (с. 11)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.
Упершыню — «Полымя», 1929, № 3, дзе датуецца 20/I-15 г.
У «Выбраных творах», 1935, т. І змешчаны пад назвай «Той даўгажданай», дзве апошнія страфы адсутнічаюць.
Верш пераклаў на рускую мову У. Мікушэвіч.

*Сыйду...* (с. 12)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны з датай: 20-I-15 г.
У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.
Верш пераклалі: на рускую мову У. Раждзественскі, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Вечар* (с. 14)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.
Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 7, 21 лют., дзе датуецца 4/II-15 г.
Чарнавы аўтограф (адз. зах. 109, л. 1) мае назву «Мой вечар». Пад тэкстам памета: Янка Купала. 4/II-15 г. На вершы размашыстым почыркам па касой зроблены надпіс «Надрукавана».
У зб. «Спадчына», 1922 друкуецца двухрадковай страфой.
Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, Г. Сямёнаў, на

яўрэйскую — З. Аксельрод, на балгарскую — Я. Дзімаў, на французскую — Ж. Гаш.

*Ўвесь да дна...* (с. 14)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе памылкова датуецца 4/II-13 г.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 75, 7 крас. з датай: 4/II-15 г.

Верш уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Чарнавы аўтограф (адз. зах. 114) датуецца 4/II-15 г.

Верш пераклаў на рускую мову Н. Кіслік.

*На вуліцы* (с. 16)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 8, 27 лют., дзе надрукаваны з паметай: Вільня. 15/II-15 г.

Твор уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Выбр. тв., 1935, т. I.

Верш пераклалі на рускую мову Б. Турганаў, Н. Кіслік.

*...нехта наймілейшы...* — Паўліна Мядзёлка.

*...Іду і чую: тут з-за муру, ў сутарэнні, // Рагоча музыка, як сумашэдшая ў кляцьбе.* — Гаворка ідзе пра віленскую кавярню «Зялёны штраль», дзе ў тыя часы, паводле ўспамінаў сучаснікаў паэта, збіралася тэатральная моладзь, літаратары і дзе любіў пасядзець за столікам і сам Купала.

*Візья* — прывід.

*Сярод магіл* (с. 17)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 10, 14 сак., дзе датуецца 15/II-15 г.

Верш друкаваўся ў зб. «Спадчына», 1922.

У пасмяротныя выданні твораў паэта не ўключаўся. У 1988 г. быў надрукаваны ў газ. «Літаратура і мастацтва» за 7 кастр. (публікацыя Б. Сачанкі).

*Нашто?* (с. 18)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1920, № 6, 11 сак., дзе датуецца 15/II-15 г.

Верш уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 113) з паметай: Янка Купала. 15/II-15 г.

Верш пераклаў на рускую мову Г. Сямёнаў.

*Ідзе вясна* (с. 18)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 74, 4 крас., дзе датуецца 1/III-15 г.

Верш уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 115) з датай 1/III-15 г.

Верш пераклаў на рускую мову П. Кустоў.

*Чаму?* (с. 19)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 16, 24 крас., дзе надрукаваны разам з вершам «Бацькаўшчына» пад агульным загалоўкам «Санеты». У канцы падборкі памета: Вільня, 1915 г.

Датуецца паводле першадруку.

Твор уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Верш пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, Н. Кіслік, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на польскую — Ф. Няўважны, на французскую — Ж. Гаш.

*Фенікс* — у старажытнай грэчаскай міфалогіі — птушка, якая мае здольнасць спальваць сябе і зноў адраджацца з попелу. Ужываецца як сімвал адвечнага аднаўлення і нараджэння.

*Бацькаўшчына* (с. 19)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 16, 24 крас., дзе надрукаваны разам з вершам «Чаму?» пад агульным загалоўкам «Санеты». У канцы падборкі памета: Вільня, 1915 г.

Верш уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Блізкі да публіцыстычнай лірыкі Купалы, звязанай з этапамі нацыянальна-вызваленчага руху («Родныя песні», «А хто там ідзе?», «Ворагам Беларушчыны» і інш.) (Энцыклапедычны даведнік «Янка Купала». Мн., 1986. С. 67)[1].

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, Н. Кіслік, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на асецінскую — А. Пухаеў, на казахскую — С. Асанаў, на карачаеўскую — Х. Байрамукава, на латышскую — Х. Галіньш, на літоўскую — І. Грайчунас, на малдаўскую — П. Дарые, на таджыкскую — М. Фархат, на чувашскую — П. Хузангай і М. Яўстаф'еў, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман, на польскую — Я. Гушча, на сербахарвацкую — С. Раічкавіч.

*Вясна 1915-ая* (с. 20)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 23, 12 чэрв., дзе надрукаваны з паметай: Вільня, 7/VI-15 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Беларускі дэкламатар, Мн., 1924; Выбр. тв., 1935, т. І.

Тэматычна звязаны з цыклам 1914 г. «Песні вайны», а таксама з вершам «1914-ты», у якіх асуджаецца імперыялістычная вайна.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, В. Қолычаў, А. Чывіліхін, на казахскую — С. Асанаў, на літоўскую — І. Грайчунас, на эстонскую — Х. Юрысан.

*Мусіць, трэба было* (с. 21)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе апублікаваны з прысвячэннем: «Вл. Станкевічанцы».

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 24, 19 чэрв., дзе надрукаваны з такім жа прысвячэннем.

Датуецца годам апублікавання.

Твор уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Верш пераклала на рускую мову М. Камісарава.

*А яна...* (с. 22)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V, дзе памылкова датуецца 7.V.1925 г.

Упершыню — «Наша ніва», 1915, № 28, 17 ліп., дзе надрукаваны з паметай: Вільня. 7/VII-15 г.

Твор уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Беларускі дэкламатар, Мн., 1924.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, В. Наседкін, У. Мікушэвіч, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман.

---

[1] У далейшым — ЭД.

*Пахаванне* (с. 23)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1920, № 7, 18 сак., дзе надрукаваны з паметай: Вільня. 13-VII-15 г.

Верш уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 108) з паметай: Вільня. 13.VII-15 г.

«Пахаванне» і «Ночцы», напісаныя ў адзін дзень, 13 ліпеня,— апошнія вершы, прысвечаныя Паўліне Мядзёлцы. (Гл. таксама каментарый да твора «Быў гэта сон...», с. 357).

*Ночцы* (с. 24)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Спадчына», 1922, дзе датуецца 13/VII-15 г.

Верш уключаўся ў зб. «Выпісы з беларускай літаратуры», Мн., 1923.

Белавы аўтограф (адз. зах. 112) таксама датуецца 13/VII-15 г.

Верш пераклалі на рускую мову М. Камісарава, Л. Хаўстаў.

*«Арліныя крыллі...»* (с. 25)

Друкуецца па белавым аўтографе (адз. зах. 117, л. 1), дзе пад тэкстам памета: Янка Купала. 12/IX-15 г. Арол. (На л. 2 змешчаны аўтограф верша «З асенніх напеваў» — «Плача восень».)

Упершыню — «Беларусь», 1963, № 3 (публікацыя А. Панятоўскага і Я. Раманоўскай).

Прысвячаецца Таццяне Сямёнаўне Жывапісцавай (1896—1942), дзевятнаццацігадовай прыгажуні, дачцэ С. К. Жывапісцава (?—1919), грамадскага дзеяча, мецэната літаратуры і мастацтва ў г. Арле, па запрашэнню якога Я. Купала ў пачатку верасня 1915 г. прыехаў у г. Арол.

У папярэднім Зборы твораў (1972—1976) верш быў змешчаны ў каментарыях.

*Плача восень* (с. 26)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 17, 13 кастр., дзе надрукаваны пад назвай «Плача восень...».

Верш уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Захавалася два аўтографы. У чарнавым аўтографе (адз. зах. 111) адсутнічае першая страфа. Пад тэкстам: Янка Купала. 1915 г. Белавы аўтограф (адз. зах. 117) мае загаловак «З асенніх напеваў» і памету: Янка Купала. 12/IX-15 г. Арол.

Верш пераклалі: на рускую мову — Э. Багрыцкі, І. Васілеўскі, Л. Хаўстаў, на таджыкскую — М. Фархат, на польскую — Ю. Бурсевіч.

На музыку паклаў А. Багатыроў.

## 1918

За апошнія месяцы 1918 г., калі паэт жыў і працаваў у Смаленску (раз'язным агентам па нарыхтоўцы сельскагаспадарчых прадуктаў), напісана звыш дваццаці вершаў. Смаленск у той час з'яўляўся цэнтрам Заходняй вобласці (з верасня 1918 г.— Заходняй Камуны), у якую ўваходзіла Смаленшчына і вольныя ад нямецкай акупацыі ўсходнебеларускія землі. Безумоўна, Я. Купала добра ведаў пра ўсе гістарычныя падзеі, што адбываліся ў краіне. І не мог не адлюстраваць іх у сваёй

творчасці (вершы, драматургія, публіцыстыка, лісты). Так Я. Купала пасля працяглага перапынку зноў вярнуўся да актыўнай творчай дзейнасці.

*Для Бацькаўшчыны* (с. 27)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Грамадзянін», 1919, № 8, 10 лют., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 29.X-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы без загалоўка, з датай 1918 г. на адным лісце разам з чарнавым аўтографам верша «Наша гаспадарка» (адз. зах. 151, л. 1) і белавы з паметай: Янка Купала. Смаленск. 1918 г. (адз. зах. 152, л. 1).

Л. Бэндэ, не ўлічыўшы дату пад першай публікацыяй верша «Для Бацькаўшчыны», у арт. «Творчы шлях Янкі Купалы» пісаў: «Праўда, такія вершы як «Для Бацькаўшчыны» і «Крыўда» датаваны проста 1918 годам без указання месяца і дня іх напісання, магчыма, што яны напісаны альбо ў пачатку, альбо ў першай палове 1918 года» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935. № 10. С. 120).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, на ўкраінскую — Дз. Паўлычка, на польскую — М. Ваўжкевіч.

*У дарозе* (с. 28)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 17, 13 кастр., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 29.X.18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; «Беларусь», 1926, 1 ліп.; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Верш пераклаў на рускую мову В. Наседкін.

*Песня* (с. 28)
(«Як крыніца, льецца, рвецца...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 78, 15 крас., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 29.X.18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; «Беларускі дэкламатар», Мн., 1924; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Адцвітанне», Мн., 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», Мн., 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваецца чарнавы аўтограф з датай 29.X на адным лісце разам з вершамі «На сход», «У вырай», «Час», «На прызбе» (адз. зах. 148, л. 2).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на армянскую — Г. Камуні, на башкірскую — Х. Бікулаў, на грузінскую — Н. Гурашыдзе, В. Лаперашвілі, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на малдаўскую — А. Чыбатару, на таджыкскую — М. Фархат, на ўзбекскую — Тулкун, на албанскую — Г. Джэй, на румынскую — С. Дэлчу.

На музыку паклаў А. Туранкоў (у БДАМЛіМ захоўваецца аўтограф, ф. 206, воп. 1, спр. 220, л. 9—10).

*Дзермяза* — паўзучая трава.

*Танок (нар.)* — танец.

*Сваіму народу* (с. 29)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Грамадзянін», 1919, № 7, 7 лют., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 29.10.18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваецца чарнавы аўтограф з датай 29.X.18 г. (адз. зах. 147, л. 1—2).

У кн. «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе: Бібліяграфія» (Нью-Йорк, 1985. С. 122) адзначаецца наступнае: на ўкраінскую мову верш пераклалі Левко Роман (апублікаваны ў Таронта ў 1954) і Л. Палтава (Нью-Йорк, 1980, машынапіс у БІНіМ), на музыку паклаў М. Куліковіч, верш у СССР быў забаронены.

Звесткі пра забарону верша недакладныя. Ён друкаваўся ў прыжыццёвых і пасмяротных выданнях твораў паэта.

Цікавую думку выказаў У. Гніламёдаў: «Неўзабаве пасля абвяшчэння БССР пад кіраўніцтвам бальшавікоў быў скліканы І з'езд Саветаў Беларусі, які «подтвердил, что потуги белорусской националистической интеллигенции к созданию «своего» белорусского языка, «своей» национальной культуры напрасны... Пусть примут это к сведению белорусские писатели» («Звязда». 1919, 5 лютага). Гэта, вядома, было адрасавана ўсім беларускім пісьменнікам, але, можа, найперш Янку Купалу, які тут жа адказаў на ганебны выпад бальшавікоў надрукаваннем 7 лютага 1919 года ў газеце «Грамадзянін» верша «Свайму народу», напісанага ў стылі палемічнага купалаўскага прамоўніцтва» (часоп. «Полымя», 1994. № 7. С. 229).

Верш пераклалі: на ўкраінскую мову — Р. Лубкіўскі, на англійскую — У. Мэй.

Верш цытуецца ў працы М. Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры» (М.— Л., 1924).

*На сход!* (с. 31)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 14, 24 верас., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск, 29/X-1918 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Сялянская доля, 1921, № 2; зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930; Бюлетэнь «Хаўрусу беларускіх рабочых Францыі», Парыж, 1937, № 2.

Захоўваецца аўтограф з паметай: Янка Купала. Смаленск. 29.X.18 г. на адным лісце разам з вершамі «У вырай», «Песня», «Час», «На прызбе» (адз. зах. 148, л. 1).

А. Навіна (А. Луцкевіч), аналізуючы творчасць Янкі Купалы, прывёў такую паралель: «Купала мамэнт рэалізацыі адраджэнскіх ідэалаў уяўляе сабе, як і пачатак беларускага руху ў рэвалюцыйным 1905 годзе, у абразе «Вялікага Сходу», усенароднага, масавага руху. На гэты «Вялікі Сход» ужо ў 1913 г. вёў маладых Зяблікаў у «Раскіданым гняздзе» — Незнаёмы. Аб гэтым жа «Вялікім Сходзе» гаворыць Купала і пазней, калі словы яго пачынаюць ператварацца ў дзела: у 1917—1918 гадах» (А. Навіна (А. Луцкевіч). «Янка Купала як прарок адраджэння». Вільня. 1932. С. 15). Гаворачы пра 1917—1918 гг., А. Навіна, напэўна, меў на ўвазе верш «На сход!».

«Па сваёй эпічнай значнасці, манументальнасці ідэй і вобразаў верш непасрэдна пераклікаецца з вершам «А хто там ідзе?», з'яўляецца па сутнасці разгорнутай паэтычнай інтэрпрэтацыяй яго другой страфы («А што яны нясуць на худых плячах, на руках у крыві, на нагах у лапцях? — Сваю крыўду»)» (ЭД. С. 421).

У кн. «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе: Бібліяграфія» (Нью-Йорк, 1985. С. 121—122) адзначаецца, што на ўкраінскую мову верш перакладзены Л. Палтавам і апублікаваны ў 1982 г. у Чыкага з наступным каментарыем: «Верш напісаны ў перыяд барацьбы Бела-

рускай Народнай Рэспублікі супроць маскоўска-бальшавіцкай навалы. Твор забаронены ў СССР».

Звесткі пра забарону верша недакладныя. Ён друкаваўся ў прыжыццёвых і пасмяротных выданнях твораў паэта.

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Абрадовіч (у ЦДАЛіМ Расіі (г. Масква) захоўваецца аўтограф перакладу (ф. 1874, воп. 1, адз. зах. 34), В. Наседкін, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на польскую — Я. Гушча, на англійскую — В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане), Люба У. Тэрпак, на нямецкую — перакладчык невядомы.

Верш ілюстраваны Л. Асецкім (серыя афортаў «Паўстаў пракляцем катаваны»).

*На прызбе* (с. 32)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1919, № 28, 21 лістап., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 30.X.18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваецца аўтограф з паметай: Янка Купала. 30.X. на адным лісце разам з вершамі «У вырай», «Песня», «Час», «На сход!» (адз. зах. 148, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Гарадзецкі, на англійскую — В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане), на польскую — Я. Гушча.

*Час!* (с. 33)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 13, 22 верас.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930; Бюлетэнь «Хаўрусу беларускіх рабочых Францыі», Парыж, 1937, № 2.

Захоўваецца аўтограф з паметай: Янка Купала. Смаленск. 30.X.18 г. на адным лісце разам з вершамі «У вырай», «Песня», «На сход», «На прызбе» (адз. зах. 148, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, на ўкраінскую — А. Малышка, на французскую — у анталогіі беларускай паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982; перакладчык не названы).

На музыку паклаў Дз. Смольскі (араторыя «Паэт»).

*У вырай* (с. 34)
(«Зашумела нудна восень...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 21, 10 кастр., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 31.X.18 г.

Радок 13 рэдкалегіяй Зб. тв. 1961—1963 слушна выпраўлены па аўтографе і першадруку. У асноўным тэксце было: *Ой, вы, гусі — вырайніцы*.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Адцвітанне», 1930.

Захоўваецца аўтограф з двума загалоўкамі «З асенніх матываў», «У вырай», з датай: 31.X.18 г. на адным лісце разам з вершамі «Песня», «На сход!», «Час», «На прызбе» (адз. зах. 148, л. 2).

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, П. Арэшын, М. Камісарава, Н. Кіслік, Я. Мазалькоў, на ўкраінскую — Дз. Паламарчук, на таджыкскую — М. Фархат, на англійскую — В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане).

*Наша гаспадарка* (с. 35)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 26, 18 кастр., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 7/XI-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

У зб. «Спадчына» ў радку 14 замест слоў *царская Масква* стаіць шматкроп'е.

На думку У. Гніламёдава, гэты радок скарочаны напалавіну цэнзарам (часоп. «Полымя», 1994. № 7. С. 240).

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь». Мн., 1993).

Захоўваюцца два чарнавых аўтографа (адз. зах. 130, л. 1; адз. зах. 151). Аўтограф (адз. зах. 130) мае дату: 7/XI-18 г.; аўтограф (адз. зах. 151) змешчаны на адным лісце разам з вершам «Для Бацькаўшчыны».

Верш пераклаў на рускую мову А. Гідоні (надрукаваны ў Таронта ў 1979 г.).

*Пчолы* (с. 35)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 74, 4 крас., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 7/XI-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваюцца тры аўтографы: два чарнавыя (адз. зах. 131, л. 1; адз. зах. 132, л. 1); белавы з паметай: Янка Купала. Смаленск. 7.XI.18 г. на адным лісце разам з вершамі «Званы», «Сон» (адз. зах. 134, л. 1). У чарнавым аўтографе (адз. зах. 131) памета: Янка Купала. 7/XI-18 г.

Зместам падобны да напісанага паэтам у той жа дзень верша «Наша гаспадарка» (ЭД. С. 512).

У чарнавым аўтографе верша «Наша гаспадарка» (адз. зах. 151) ёсць наступныя словы: *Мы пчол гадуем; А мёд суседзі падбіраюць; А рой улей свой забываюць*, якія, відаць, і ляглі ў аснову верша «Пчолы».

Тэму верша «Пчолы» Купала развіў і ў вершы «Бай».

Словы «Мой сад калодамі абведзен мёдных пчол, што гаманяць, як неўгамонныя музыкі...» узяты эпіграфам да апавядання М. Гарэцкага «Багатая пчэльня».

М. Гарэцкі не толькі ўзяў радкі з верша эпіграфам да свайго апавядання, а таксама ў «Гісторыі беларускай літаратуры» (М.— Л., 1924), цытуючы купалаўскі верш, выказаў наступнае меркаванне: «У гэтым вершы паэт алегарычна кажа аб сваёй творчасці і аб долі свайго народа».

Верш пераклалі: на ўкраінскую мову — Дз. Паўлычка, на англійскую — В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане), на нямецкую — Фердынанд Нерайтэр.

*Сон* (с. 36)
(«Заглянь, сынок, у соннік...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1920, № 5, 29 лют., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 8/XI-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы на адным лісце разам з вершамі «Званы», «Млечны Шлях», «Удосвітак» (адз. зах. 133,

л. 1—2); перабелены з паметай: Янка Купала. Смаленск. 8.XI-18 г. на адным лісце разам з вершамі «Званы», «Пчолы» (адз. зах. 134, л. 2).

Верш пераклаў на рускую мову М. Галодны.

*Бадыль* — тое, што і бадыліна, сцябліна аднагадовай расліны.

*Званы* (с. 37)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 33, 15 лют., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 8/XI-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры, Вільня, 1927; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Адцвітанне», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваюцца наступныя аўтографы: чарнавы з паметай: Янка Купала. 8/XI-18 г. на адным лісце разам з накідам першай страфы і вершамі «Сон», «Удосвітак», «Млечны Шлях» (адз. зах. 133, л. 1—2); накід на адным лісце разам з чарнавымі аўтографамі верша «У хорамах» (адз. зах. 135, л. 1); перабелены з паметай: Янка Купала. Смаленск. 8.XI.18 г. на адным лісце разам з вершамі «Пчолы», «Сон» («Заглянь, сынок, у соннік...») (адз. зах. 134, л. 1).

Верш атрымаў ацэнку тагачаснай крытыкі.

І калі П. Любецкі ў рэцэнзіі на зб. «Спадчына» пісаў толькі, што «Другі верш з гэтага раздзелу «Званы» вельмі цікавы з тэхнічнага боку: даведзенай да найвышэйшай ступені інструментоўкай гукаў» (часоп. «Адраджэнне». 1922. № 1. С. 308), то значна пазней, у 30-я гг., Л. Бэндэ ў арт. «Творчы шлях Янкі Купалы» разглядаў гэты верш ужо з іншага боку: «Нельга сказаць, што творчасць Купалы за 1918 г. разгортвае якія-небудзь перспектывы для яго бацькаўшчыны. Настроі паэта цяжкія і бадай што бесперспектыўныя. Верш «Званы», «Удосвітак», «Паязджане», «Рунь» і рад іншых напоўнены песімізмам» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935. № 10. С. 124). Безумоўна, 1918 г. не быў лёгкім для Я. Купалы, але ці варта ў пералічаных Л. Бэндэ вершах бачыць адзін толькі песімізм і бесперспектыўнасць.

Верш пераклаў на рускую мову В. Наседкін.

*У хорамах* (с. 37)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 6, 11 студз.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваюцца тры аўтографы: два чарнавыя на адным лісце разам з накідам верша «Званы» (адз. зах. 135, л. 1); белавы з паметай: Янка Купала. Смаленск. 9.XI-18 г. на адным лісце разам з вершамі «Млечны Шлях», «Удосвітак» (адз. зах. 136, л. 1). Пад чарнавым аўтографам № 2 памета: 9/XI-18. Смаленск.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, на польскую — Ф. Няўважны.

*Адылі (нар.)* — а далей, а пасля.

*Млечны Шлях* (с. 38)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1920, № 4, 16 лют.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы з паметай: Янка Купала. 9.XI.18 г. на адным лісце разам з вершамі «Званы», «Сон», «Удосвітак» (адз. зах. 133, л. 1) і перабелены з паметай: Янка Купала. Смаленск.

9.XI.18 г. на адным лісце разам з вершамі «У харамах», «Удосвітак» (адз. зах. 136, л. 1).

У 1922 г. П. Любецкі, рэцэнзіруючы зб. «Спадчына», палічыў, што: «Верш чыніць на нас дваякі ўплыў — і эстэтычны і грамадзянскі, і быць можа, справу можна разглядаць так, што грамадзянскія ўчуцці бываюць галоўным, апісанне прыроды — толькі фонам, аправаю» (часоп. «Адраджэнне», 1922. № 1. С. 307—308).

Верш пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі, В. Наседкін, Л. Хаўстаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на армянскую — Г. Камуні, на англійскую — А. Պракоф'ева, В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане), на в'етнамскую — Данг Бай.

*Удосвітак* (с. 38)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1920, № 6, 11 сак., дзе надрукаваны пад назвай «Удосвітак» і з паметай: Смаленск. 10/XI-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Песня-байка», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваюцца тры аўтографы: чарнавы на адным лісце разам з вершамі «Сон», «Званы», «Млечны Шлях» (адз. зах. 133, л. 1—2); перабелены без загалоўка, з датай 10/XI.18 г. (адз. зах. 137, л. 1); белавы з двума закрэсленымі загалоўкамі «З асенніх напеваў», «Папрадуха», з незакрэсленай назвай «Удосвітак» і з паметай: Янка Купала. Смаленск. 10.XI.18 г. на адным лісце разам з вершамі «У харамах», «Млечны Шлях» (адз. зах. 136, л. 2).

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, Э. Багрыцкі (у ЦДАЛіМ Расіі (г. Масква) у фондзе рэдакцыі часоп. «30 дней» захоўваецца аўтограф перакладу (ф. 620, воп. 1, адз. зах. 435), Н. Кіслік, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Г. Цэцхладзе, на малдаўскую — А. Бусуёк, П. Дарые, на англійскую — В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане), на польскую — Б. Гагалеўская.

*Пачынак* — некалькі ручаек пражы, звітай на верацяно для прасушкі.

*Забытая карчма* (с. 39)

(«Павыбіты вокны, сарвана страха...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1919, № 24, 16 лістап., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 13.XI.18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Адцвітанне», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваюцца два чарнавыя аўтографы: адзін з паметай: Янка Купала. 13.XI.18 г. (адз. зах. 138, л. 1—2); другі — без загалоўка (адз. зах. 139, л. 1).

У зб. «Спадчына», 1922 і Зб. тв., 1928, т. V верш «Забытая карчма» папярэднічае аднайменнаму вершу 1907 г., з якім аб'яднаны ў дыпціх. Некаторыя матывы і вобразы дыпціха, а таксама радкі з яго — 2-я страфа верша «Забытая карчма» («Павыбіты вокны, сарвана страха...») у якасці эпіграфа М. Чарот выкарыстаў у паэме «Карчма» (1925), якую прысвяціў Я. Купалу.

П. Любецкі ў рэцэнзіі на зб. «Спадчына» пісаў: «Таксама вельмі добрымі з'яўляюцца вырасшая на грунце народных вераванняў «Рунь» (стар. 177) і «Забытая карчма» (стар. 178) у пазнейшай пераробцы» (часоп. «Адраджэнне», 1922. № 1. С. 309).

Невядома якую пазнейшую пераробку меў на ўвазе аўтар рэцэнзіі. Безумоўна, вершы вельмі блізкія паміж сабой. Але ці наўрад стаў бы Я. Купала аб'ядноўваць у дыпціх верш у розных варыянтах. У дыпціх аб'яднаны два вершы, але, як ужо адзначалася, вельмі блізкія паміж сабой.

Верш пераклалі на рускую мову М. Галодны, В. Карчагін.

*Буслы* (с. 41)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1919, № 11, 1 лістап., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 14.XI.18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваецца чарнавы аўтограф з паметай: Янка Купала. 14.XI.18 г. (адз. зах. 138, л. 1—2).

У 1922 г. П. Любецкі, рэцэнзіруючы зб. «Спадчына», слушна заўважыў: «Высока паэтычны замысел у вершы «Буслы». Не разбіраючы яго падразбягова, можна ўказаць на адну непрыемную драбностку: «жабры», папаўшыя дзеля рыфмы к слову «сябры». Гаварыць аб птушках і ўжываць слова «жабры» ніяк не можна, а то хто-небудзь прачытае ды стане яшчэ вінаваціць паэту ў нязнанні аб прыродзе таго, што «ведае кожны» (часоп. «Адраджэнне», 1922. № 1. С. 309).

Сюжэтны верш-балада заснаваны на народным павер'і аб адборы буслоў перад адлётам у вырай (ЭД. С. 98).

У ЭД, с. 98 таксама адзначаецца, што ў агульнай мінорнай настраёвасці верша прыкметны аўтабіяграфічныя элементы: знаходзячыся за межамі Беларусі (у гэты час жыве ў Смаленску.— *А. Ш.*), паэт сумуе па родных мясцінах, ён поўны прадчування гістарычных змен і пераўтварэнняў.

Верш пераклаў на рускую мову М. Галодны.

*Узвіжанне* — хрысціянскае свята, звязанае з ушанаваннем крыжа. Адзначалася 14 верасня ст.ст. Называлася таксама звіжанне. Паводле падання, крыж, на якім быў распяты Ісус Хрыстос, згубіўся пасля разгрому Іерусаліма і знайшла яго Алена — маці рымскага імператара Канстанціна. Каб крыж бачылі ўсе, яго высока ўздымалі («воздвигали») над натоўпам веруючых. У хрысціянскім свяце Узвіжання перапляліся і язычніцкія восеньскія вераванні. Народнае тлумачэнне назвы свята: «К узвіжанню ўсё мае быць здзвінута», гэта значыць — усё прыбіралася з поля, птушкі адляталі ў цёплыя краі, змеі хаваліся па норах.

*Буралом* (с. 42)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1919, № 40, 7 снеж., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 14.XI.18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Адцвітанне», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Захоўваецца аўтограф без загалоўка, подпісу і даты (адз. зах. 138, л. 2).

Па настроі прымыкае да вершаў «Званы», «Спадчына» і інш.

Сваёй сімволікай верш пераклікаецца з творамі рускіх і беларускіх пісьменнікаў, дзе паказаны веліч і стыхійная магутнасць перамен («Дванаццаць» А. Блока) (ЭД. С. 97).

Уплыў купалаўскай сімволікі адчуваецца ў паэме М. Чарота «Босыя на вогнішчы», у творчасці паэтаў-маладнякоўцаў, якія таксама выкарыстоўвалі вобраз буры для паказу рэвалюцыйных змен.

Верш пераклалі на рускую мову А. Андрэеў, В. Казін.

*Спадчына* (с. 43)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Спадчына», 1922, дзе датуецца 19/IX-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Беларускі ілюстраваны каляндар на 1928 год. Вільня, 1927; З роднай нівы. Вільня, 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; Выпісы з беларускай літаратуры XIX і XX ст. (1926); зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Усе прыжыццёвыя выданні, відаць, з-за друкарскай памылкі не зусім дакладна датуюць верш 19.IX.18 г. Напісаны 19.XI.18 г., калі паэт прыязджаў у Оршу.

Захоўваюцца тры аўтографы: два чарнавыя (адз. зах. 141, л. 1; адз. зах. 143, л. 1); белавы з паметай: Янка Купала. Орша. 19.XI.18 г. на адным лісце разам з вершамі «Сявец», «Рунь», «Першы снег» (адз. зах. 142, л. 1). Чарнавы аўтограф (адз. зах. 141) на адным лісце разам з вершам «Сявец». А чарнавы аўтограф (адз. зах. 143) з паметай 19/XI-18 г. Орша змешчаны на адным лісце разам з вершамі «Сявец», «Першы снег», «Рунь».

У 1922 г. П. Любецкі, рэцэнзіруючы зб. «Спадчына», неяк супярэчліва і невысока ацаніў купалаўскі твор: «Тэма верша старая, тыпічная для Купалы — каханне да роднай старонкі,— але тут мы бачым такую апрацоўку тэмы, што яна адцясняе на задні план самую тэму. Тут мы бачым нават зухаванне багатымі рыфмамі. Ранейшымі вершамі паэт ставіў сваім заданнем будзіць у нас тыя ці іншыя ўчуцці, адпавядаючыя яго ўласным; тут апрача гэтага і нават перш за гэта,— даецца эстэтычна-гастранамічнае задавальненне. Мы не столькі наядаемся, сколькі па-гурманску смакуем страву» (часоп. «Адраджэнне», 1922, № 1. С. 305).

С. Грахоўскі, успамінаючы, як адзначалася 30-годдзе творчай дзейнасці Я. Купалы ў Купалавым доме, піша: «На сярэдзіну пакоя выйшла маладая статная Вольга Галіна... А калі закончыла чытаць «Спадчыну», з поўнымі вачыма слёз падышоў да яе Купала і пацалаваў руку» («Іскрынкі памяці»: чарнавы аўтограф. БДАМЛіМ, ф. 201, воп. 2, спр. 281, л. 10).

А Я. Мазалькоў, рыхтуючы кнігу пра творчасць Я. Купалы, выказаў меркаванне, што: «Его стихотворение «Наследство» прозвучало как клятва верности родному краю в момент, когда нависла угроза со стороны империалистических хищников Германии и Польши» (Е. Мозольков. Янка Купала: Жизнь и творчество. Мн., 1952. С. 113).

Верш «Спадчына» напісаны ў перыяд, калі Беларусь была акупіравана нямецкімі войскамі.

Радкі *Ад прадзедаў спакон вякоў // Мне засталася спадчына* выкарыстаны ў якасці эпіграфа ў рамане М. Гарэцкага «Віленскія камунары».

Словы *Ад прадзедаў спакон вякоў // Мне засталася спадчына* пасвойму паўтарае Р. Барадулін *Ад сівых гадоў, // ад дзядоў // Для мяне // ашчаджона спадчына...* («Ад сівых гадоў...»).

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Абрадовіч (у ЦДАЛіМ Расіі (г. Масква) захоўваецца пераклад верша (ф. 1874, воп. 1, адз. зах. 34), А. Андрэеў, П. Арэшын, І. Васілеўскі, Н. Кіслік, С. Спаскі, на ўкраінскую — М. Львовіч, Дз. Паламарчук, на армянскую — Г. Камуні, на

асецінскую — Х.-М. Дзуццаці, А. Пухаеў, на башкірскую — Х. Бікулаў, на грузінскую — Т. Джангулашвілі, Ш. Нішніянідзе, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на літоўскую — З. Праткеленас, В. Рэймерыс, на малдаўскую — П. Дарые, А. Чыбатару, на мардоўскую (эрзя) — А. Мартынаў, на таджыкскую — М. Фархат, на туркменскую — А. Агабаеў, на чувашскую — А. Алга, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч, на балгарскую — Н. Вылчаў, на в'етнамскую — Нгуен Ван Лаў, на іспанскую — К. Шэрман, на нямецкую — З. Эстэррайхер, на польскую — А. Баршчэўскі, А. Тум, на сербскахарвацкую — С. Раічкавіч, на французскую — Ж. Гаш.

На музыку паклаў І. Лучанок.

Песня выконваецца Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлай Беларусі і ансамблем «Песняры».

Верш ілюстраваў М. Басалыга.

А. Зіменка паводле матываў твора стварыў серыю дэкаратыўных ваз.

В. Маркавец стварыў трыпціх «Спакон вякоў» (уласнасць мастака), у цэнтральнай частцы якога на фоне беларускага краявіду змясціў пачатак верша «Спадчына»: *Ад прадзедаў спакон вякоў // Мне засталася спадчына; // Паміж сваіх і чужакоў // Яна мне ласкай матчынай.*

У. Савіч выкарыстаў радкі з верша ў кампазіцыі экслібрыса (1976) на гістарычную тэму.

*Мне свеціць між вандоламі. Вандол* — роў, вузкая глыбокая даліна. Выраз ужыты ў значэнні: асвятляе шлях, дапамагае пераадольваць на шляху перашкоды.

*Нязводныя* — тут у значэнні: неадступныя.

*Сявец* (с. 44)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 16, 6 кастр., дзе датуецца 20/XI-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Беларускі каляндар на 1920 год «Наша хата», Вільня, 1920; зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930 без страфы: *Абходзь ты наўкола // Рунь, Юр'я святы! // Ты, добры Мікола, // Пільнуй ад слаты.*

Захоўваюцца тры аўтографы: чарнавы на адным лісце разам з вершам «Спадчына» (адз. зах. 141, л. 1); перабелены з паметай: Смаленск. 20/XI-18 г. на адным лісце разам з вершамі «Спадчына», «Рунь», «Першы снег» (адз. зах. 143, л. 1); белавы з паметай: Янка Купала. Смаленск. 20.XI.18 г. на адным лісце разам з вершамі «Спадчына», «Рунь», «Першы снег» (адз. зах. 142, л. 1).

Верш пераклалі на рускую мову Л. Васільева, Н. Кіслік, Р. Куранёў.

*Залом* — заломленыя каласы жыта. Па народных павер'ях, заломы робяць чарадзеі, каб наклікаць бяду на гаспадара поля.

*Юр'я* — старадаўняе веснавое землеробчае свята, адзначаецца 23 красавіка ст.ст.

*Мікола* — старадаўняе каляндарна-абрадавае свята. Вядомы два Міколы: веснавы, або цёплы (9 мая ст.ст.) і зімовы (6 снежня ст.ст.), т. зв. мікольшчына. Паводле народных вераванняў, Мікола выступае заступнікам земляроба, клапоціцца пра ўраджай.

*Градавіца* — міфічны вобраз, вынік адухаўлення жывых і нежывых аб'ектаў і з'яў прыроды. Уяўлялася ў выглядзе хмары, што нясе град.

*Пярун* — вобраз старажытнай міфалогіі ўсходніх і іншых славянскіх народаў, вярхоўнае язычніцкае бажаство ўсходніх славян, бог грому і маланкі.

*Грамавіца* — міфічны вобраз, адухаўленне жывых і нежывых аб'ектаў і з'яў прыроды. Уяўлялася, як і Градавіца, у выглядзе хмары, што нясе, аднак, не град, а гром, навальніцу.

*Рунь* (с. 45)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1919, № 10, 31 кастр., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 21/XI-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Ва ўсіх прыжыццёвых выданнях дата 21.XI-18 г.

Захоўваюцца аўтографы: чарнавы на адным лісце разам з вершамі «Першы снег», «Спадчына», «Сявец» (адз. зах. 143, л. 2); накіды асобных строф (адз. зах. 140, л. 1; адз. зах. 144, л. 1); белавы з паметай: Янка Купала. Смаленск. 20.XI.18 г. на адным лісце разам з вершамі «Спадчына», «Сявец», «Першы снег» (адз. зах. 142, л. 2). Разам з накідамі асобных строф верша «Рунь» (адз. зах. 140) змешчаны накіды «Вас браты і вас сястрыцы» і «Я» («Прыдыбаў я...»), а разам з накідамі асобных строф верша «Рунь» (адз. зах. 144, л. 1) накіды «Малацьбіт», «Пушча», «На ўзвіжэнне».

Верш пераклалі на рускую мову М. Галодны, Н. Кіслік.

*Першы снег* (с. 46)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1919, № 18, 9 лістап., дзе надрукаваны з паметай: Смаленск. 20/XI-18 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Адцвітанне», 1930.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы на адным лісце разам з вершамі «Спадчына», «Сявец», «Рунь» (адз. зах. 143, л. 2) і перабелены з паметай: Янка Купала. Смаленск. 20.XI.18 г. на адным лісце разам з вершамі «Спадчына», «Сявец», «Рунь» (адз. зах. 142, л. 2).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Галодны, У. Мікушэвіч, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Радно* — тоўстае палатно з пянькі або грубай ільняной пражы, а таксама выраб з такога палатна.

*З дня ў дзень...* (с. 47)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Чырвоны шлях», 1918, № 7—8, 30 лістап., дзе змешчаны разам з вершамі «Як цені», «Крыўда» («З'ядае крыўда нас ад векаў...»), «З думак жабрака», «Матцы» пад агульным загалоўкам «Забраны край».

Датуецца годам апублікавання.

Твор уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Верш пераклала на рускую мову М. Камісарава.

*Прызьмо* — частка запрэжкі для вала; невялікая вяроўка, якой прымацоўваюць аглоблі да ярма; тут — у пераносным сэнсе.

*З думак жабрака* (с. 48)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Чырвоны шлях», 1918, № 7—8, 30 лістап. (гл. таксама каментарый да верша «З дня ў дзень...»).

Датуецца годам апублікавання.

Твор уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Верш пераклалі: на рускую мову Н. Кіслік, на асецінскую — А. Пухаеў.

*Як цені* (с. 49)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Чырвоны шлях», 1918, № 7—8, 30 лістап. (гл. таксама каментарый да верша «З дня ў дзень...», с. 371).

Датуецца годам апублікавання.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927.

Верш пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*Матцы* (с. 50)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Чырвоны шлях» (Пецярбург), 1918, № 7—8, 30 лістап. (гл. таксама каментарый да верша «З дня ў дзень...», с. 371).

Датуецца годам апублікавання.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: газ. «Грамадзянін», 1919, № 9, 15 лют.; зб. «Спадчына», 1922.

З 1958-га да 1993 г. у пасмяротныя выданні твораў не ўключаўся.

У зб. «Жыве Беларусь», 1993 верш датуецца 1908 г., а ў зб. «Антагогія беларускай паэзіі», т. І, 1993 пад творам — 1911—1913 гг. Але гэтыя даты ў названых зборніках не аргументуюцца.

Верш пераклалі: на рускую мову — Я. Мазалькоў, на татарскую — Б. Іскакаў.

*Паязджане* (с. 52)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Спадчына», 1922, дзе датуецца 27/XII-18 г.

Радок 35 рэдкалегіяй Зб. тв. 1972—1976 слушна выпраўлены па аўтографе і першадруку. У асноўным тэксце было: *Снежнай хістаючы вехай.*

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 146, л. 1); белавы з паметай: Янка Купала. Смаленск. 27.XII.18 г. (адз. зах. 145, л. 1).

«Верш «Паязджане» выявіў настроі 1915—1918 гг., калі Я. Купала не пісаў» (ЭД. С. 52).

Верш атрымаў наступную ацэнку тагачаснай крытыкі.

Так, Р. Краснеўскі ў арт. «50-гадовы шлях Янкі Купалы» пісаў: «У той самы момант (снежань 1918 г.) Купала мог толькі даць сваіх «Паязджан», у якіх падзеі часу ўяўляліся ім «па-блокаўску» («Чырвоная Беларусь». 1932, № 17. С. 12).

Л. Бэндэ ў арт. «Творчы шлях Янкі Купалы» адзначаў, што: «Другі перыяд існавання савецкай улады на Беларусі (ад 12 снежня 1918 г. да сярэдзіны жніўня 1919 г.) зноў не пакідае слядоў у творах Купалы. Апрача сумнага элегічнага верша «Паязджане» (27/XII-1918 г.) ... Верш «Паязджане» не выходзіць сваімі ідэямі з кола раней ужо ахарактарызаваных намі вершаў» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 10. С. 125).

Паязджане, паводле беларускай міфалогіі,— удзельнікі вясельнай дружыны, што, зачараваныя, не могуць вярнуцца ў дом, адкуль паехалі да шлюбу, а таму блудзяць і гойсаюць у полі. У вершы ў вобразе

паязджан абагульнены драматычны лёс шматмільённых бежанцаў з Беларусі пасля 1-й сусветнай вайны, якія ніяк не маглі вярнуцца ў пакінутыя гняздоўі (ЭД. С. 470).

Уплыў Я. Купалы адчуваецца ў вершы Ул. Жылкі «Экспрэс» — задуманы як перыфраза і травестацыя «Паязджан» (ЭД. С. 220).

Верш пераклалі: на рускую мову — Э. Багрыцкі (у ЦДАЛіМ Расіі (г. Масква) у фондзе часоп. «30 дней» захоўваецца аўтограф перакладу (ф. 620, воп. 1, адз. зах. 435), Н. Кіслік, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — Я. Дзімаў, на іспанскую — К. Шэрман, на польскую — Т. Хрусцялеўскі.

*Крыўда* (с. 53)
(«Цягалася Крыўда па свеце...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 15, 29 верас., дзе апублікаваны з датай: 1918 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Беларускі каляндар на 1920 год «Наша хата», Вільня, 1920; зб. «Спадчына», 1922.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Захоўваецца аўтограф з датай 1918 г. (адз. зах. 150, л. 1).

М. Піятуховіч у арт. «Асноўныя этапы ў развіцці беларускай літаратуры паслякастрычніцкага перыяду» палічыў, што:

«Купала не зразумеў сутнасці Кастрычніка. Для яго пралетарская рэвалюцыя была паўстаннем нявольнікаў, якія, знішчыўшы адну крыўду, на яе месцы нібыта паставілі другую («Крыўда»)» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1933, № 1. С. 132).

*Мая вера* (с. 53)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Зажынкі: Першы збор твораў беларускіх песняроў і пісьменнікаў, выйшаўшых з сям'і працоўнага народу», М., 1918.

Датуецца годам апублікавання.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Дварчанін І. Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры. Вільня, 1927.

Захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 124) з подпісам: Янка Купала.

Верш пераклалі: на рускую мову — П. Кустоў, Р. Куранёў, Н. Кіслік, на ўкраінскую — А. Кацнельсон, Р. Лубкіўскі, на літоўскую — П. Кейдошус, на малдаўскую — П. Дарые, А. Чакану, на чувашскую — А. Алга, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман, на чэшскую — Ю. Рубін.

## 1919

*Світае* (с. 55)

Друкуецца па газ. «Беларуская думка», 1919, № 15, 31 мая, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У Зб. тв., 1974, т. IV, с. 497 слушна адзначаецца, што, мяркуючы па

зместу, верш напісаны ў пачатку 1919 г., пасля вызвалення Беларусі ад нямецкіх акупантаў, да акупацыі яе буржуазнай Польшчай.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на асецінскую — А. Пухаеў, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман.

*Сын і маці* (с. 55)
(«Мамка, мамка! Што так плачаш?..»)

Друкуецца па газ. «Беларуская думка», 1919, № 18, 7 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: кн. «Паўлюк Жук: Яго жыццё і творчасць», Мн., 1925.

Верш пераклалі: на рускую мову — У. Мікушэвіч, Г. Сямёнаў, на англійскую — А. Пракоф'ева.

*«Калі часам табе сэрца ные, баліць...»* (с. 56)

Друкуецца па газ. «Беларуская думка», 1919, № 18, 7 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У пазнейшыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротных выданнях твораў Я. Купалы друкуецца з 1962 г.

У вершы ўдала абыгрываецца спрадвечнае народнае выслоўе пра людскую чэрствасць («Каб лепей ты каменем нарадзіўся») (ЭД. С. 277).

Верш пераклалі на рускую мову В. Карчагін, Н. Кіслік.

*Лясное возера* (с. 57)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Радавая рунь» (дадатак да газ. «Савецкая Беларусь»), 1924, № 2, 18 мая.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Іскра. Вільня, 1925, 27 чэрв.; зб. «Безназоўнае», 1925; Досвіткі. Вільня, 1927, № 1; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваецца аўтограф з паметай: Янка Купала. Акопы. 10.VIII. 19 г. (адз. зах. 169, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, Н. Кіслік, Р. Куранёў, А. Пракоф'еў, Б. Турганаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на грузінскую — Т. Джангулашвілі, на казахскую — С. Асанаў, на чувашскую — А. Кляменцьеў, на балгарскую — Я. Дзімаў, на кітайскую — Чжу Цзі, на англійскую — В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане).

На музыку паклалі С. Палонскі (у БДАМЛіМ захоўваецца аўтограф песні (ф. 30, воп. 1, спр. 200), В. Салманаў, Р. Фрыд.

Г. Зелянкова (беларускі харавы дырыжор) інтэрпрэтавала хор «Лясное возера» В. Салманава.

*З павяўшай славы...* (с. 58)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе апублікаваны пад назвай «З павяўшай славай...».

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 10, 15 верас., дзе надрукаваны пад назвай «З павяўшай славы...» і з паметай: Калісберг, 21/VIII.1919 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; Беларускі ілюстраваны каляндар на 1928 год. Вільня, 1927;

З роднай нівы. Вільня, 1928; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Невядома, чаму ў Зб. тв., 1932, т. VI на с. 168 даецца назва «З паваўшай славай...», калі ва ўсіх іншых прыжыццёвых публікацыях ды і ў змесце таго ж Зб. тв., 1932, т. 6 ідзе «З паваўшай славы...». Можа, друкарская памылка, на якую не звярнуў увагу сам Я. Купала ці якая з'явілася пры канчатковым наборы.

Захоўваецца чарнавы аўтограф пад загалоўкам «З патухшай славы...» і з паметай: Калісберг. 21.VIII.19 г. (адз. зах. 164, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Наседкін, на ўкраінскую — М. Хмарка.

*Беларускія сыны* (с. 58)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1919 г.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, 10 верас. (без адной страфы); № 9, 12 верас. (цалкам).

Датуецца 22 жніўня 1919 г. на падставе аўтографа і Зб. тв., 1932, т. VI.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Дэкламатар. Вільня, 1921; Беларускія ведамасці, 1921, 31 кастр.; Беларускі дэкламатар. Вільня, 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; Беларускія сыны: Верш — Казань, 1942 (асобнае выданне).

Захоўваецца чарнавы аўтограф з паметай: Гайдукоўка. 22.VIII. (адз. зах. 164, л. 1).

М. Гарэцкі ў «Гісторыі беларускай літаратуры» (М.— Л., 1924) так ацаніў купалаўскі верш: «Часам ён гоіць больку свае ўсеаб'емлючае нацыянальнае душы бічаваннем саміх жа «беларускіх сыноў» у вострай і пякучай сатыры («Беларускія сыны», 1919 г.), аб якіх ён кажа:

Па беларускім бітым шляху,
Б'ючы ў кайданавы званы,
Брыдзе чужынец, а з ім побач
Хто?
— Беларускія сыны!»

Верш пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на латышскую — А. Сілабрыедэ.

*Над калыскай* (с. 59)
(«Калыхала маці сына...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 24, 16 кастр.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваецца белавы аўтограф з паметай: Акопы. 23.VIII.19 г. (адз. зах. 157, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Дз. Паламарчук, на малдаўскую — П. Дарые, на асецінскую — А. Пухаеў, на балгарскую — Н. Вылчаў, на польскую — Б. Гагалеўская.

Верш ілюстраваў М. Басалыга.

*Груган* (с. 60)
(«Кожнай вясны, як выходжу...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1919, № 32, 27 лістап., дзе надрукаваны з паметай: Гайдукоўка. 23/VIII-19 г.

Радок 6 рэдкалегіяй Зб. тв. 1972—1976 слушна выпраўлены па аўтографе. У асноўным тэксце было: *Страшны заточвае круг.*

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваецца аўтограф з паметай: Гайдукоўка. 23.VIII.19 г. (адз. зах. 158, л. 1—2).

Верш пераклалі на рускую мову Н. Кіслік, М. Святлоў.

### *Восень* (с. 61)
(«Села пад пушчаю Восень...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 12, 19 верас.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Песня-байка», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 162, л. 1) і перабелены з паметай: Акопы. 24.VIII.19 г. (адз. зах. 159, л. 1—3).

Твор прыводзіцца ва ўспамінах пра Я. Купалу С. Грахоўскага «Іскрынкі памяці» (чарнавы аўтограф, БДАМЛіМ, ф. 201, воп. 2, спр. 281, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, У. Раждзественскі, на грузінскую — К. Бабахідзе.

На музыку паклалі А. Багатыроў, І. Любан, А. Туранкоў.

*Дакосіны (абл.)* — тое, што і дакоскі (завяршэнне касьбы).

*Дажынкі* — абрадавае свята ў дзень заканчэння жніва.

*Пацеры* — малітвы.

### *Ваяк* (с. 63)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 18, 21 кастр., дзе надрукаваны з паметай: Акопы. 24/VIII-19 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928.

Захоўваюцца аўтографы: чарнавы з паметай: Акопы. 24/VIII-19 г. (адз. зах. 174, л. 1); накід (адз. зах. 162, л. 1); белавы з паметай: Я. Купала. Акопы. 24.VIII. 19 г. (адз. зах. 175, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — У. Мікушэвіч, на балгарскую — Я. Дзімаў.

На музыку паклаў У. Тэраўскі.

### *Князь* (с. 64)

Друкуецца па часоп. «Полымя», 1930, № 5—6, дзе апублікаваны з памылковай датай: 1915 г.

Упершыню — часоп. «Рунь», 1920, № 7—8, дзе надрукаваны з паметай: Янка Купала. Акопы. 24.VIII.19 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — У. Мікушэвіч, на балгарскую — Я. Дзімаў.

### *Паўстань...* (с. 65)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930 з узнаўленнем 2-х апошніх строф, якія, на думку тагачаснай крытыкі, былі зняты самім Я. Купалам.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 11, 17 верас., дзе надрукаваны з паметай: Калісберг. 28/VIII-1919 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

На думку У. Гніламёдава, верш быў зняты са зб. «Спадчына» (1922) па цэнзурных меркаваннях (часоп. «Полымя», 1994, № 7. С. 240).

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Захоўваюцца аўтографы: чарнавы з паметай: 24/VIII Акопы на адным лісце разам з накідам верша «Мая навука» (адз. зах. 161, л. 1—2); накід асобных строф на адным лісце разам з накідамі вершаў «Восень», «Ваяк» (адз. зах. 162, л. 1), белавы з паметай: 24/VIII Акопы; 28/VIII Калісберг (адз. зах. 163, л. 1).

У каментарыях да зб. Я. Купалы «Жыве Беларусь» В. Рагойша адзначае: «У вершы, напісаным 28 жніўня 1919 г. у Калісбергу (фальварак непадалёку ад Радашковічаў), пад час польскай акупацыі, выявілася імкненне паэта да дзяржаўнай незалежнасці Беларусі. У творы выказаны прадумовы такой незалежнасці — наяўнасць уласна беларускіх ідэолагаў («прарокаў»), песняроў, воінаў і дзяржаўных дзеячаў («уладароў»), якія б вывелі Беларусь на самастойны шлях сацыяльнага і нацыянальнага развіцця. Так здарылася, што верш быў надрукаваны ў газеце «Звон» 17 верасня 1919 года, перад самым прыездам у Мінск Юзэфа Пілсудскага. Якраз гэта і выклікала пасля, ужо ў савецкі час, нападкі на Янку Купалу. Неабгрунтавана сцвярджалася, што твор гэты быў прысвечаны менавіта Пілсудскаму (ён паходзіў з засцянковай шляхты Віленшчыны)» (Жыве Беларусь. Мн., 1993. С. 467).

22 лістапада 1930 г. Я. Купала перад спробай пакончыць жыццё самагубствам пісаў старшыні ЦВК СССР і БССР Чарвякову:

«Верш мой «Паўстань» справакавалі:

1. Лёсік, надрукаваўшы яго побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму, аб чым я не ведаў, бо быў у вёсцы.

2. Шыла, які асвятляў Дзям'яну Беднаму гэты верш у правакацыйным сэнсе.

3. Я сам, змясціўшы яго ў зборніку, не прыдаўшы гэтаму палітычнага значэння.

Я вельмі прасіў бы рэабілітаваць мяне перад працоўнымі Сав. Беларусі. Гэта можна лёгка зрабіць. Верш, змешчаны ў зборніку, мной выпраўлены. Прасіў бы вырваць гэты верш і кніжку выпусціць» (цыт. па кн.: Я. Купала. Жыве Беларусь. Мн., 1993. С. 432—433).

Пры арышце Язэпа Лёсіка ў яго рэчавых доказах, якіх нагрузілі цэлую падводу, знаходзяць і газ. «Звон» ад 17 верасня 1919 г., дзе побач з артыкулам, прысвечаным Пілсудскаму, быў змешчаны і верш Я. Купалы «Паўстань...». Я. Купала сцвярджаў, што ён у гэтым не вінаваты, верш быў напісаны 28.VIII.1919 г. на хутары Карлсберг, ні пра які прыезд Пілсудскага ў Мінск амаль за тры тыдні наперад ён не чуў, ды і чуць не мог, знаходзячыся на хутары. Ліст да Чарвякова ад 22.XI.1930 і спроба самагубства былі выкліканы неаднаразовымі допытамі ў органах ГПУ (Б. Сачанка. Сняцца сны аб Беларусі. Мн., 1990. С. 163—164)*.

Гэтымі допытамі ў ГПУ быў выкліканы, відаць, і другі адкрыты ліст Я. Купалы ў газ. «Звязда» ад 10/XII-1930 г.:

«...Гэтае захапленне дробнабуржуазнымі нацыянал-дэмакратычнымі ідэаламі прычынілася таму, што я і ў першыя гады Кастрычніцкай рэвалюцыі не змог ад іх пазбавіцца ды зразумець і ўсвядоміць усю

---

* Больш падрабязна аб тым, з якой нагоды выклікалі Я. Купалу ў органы ГПУ, гл. згаданую ўжо кн. Б. Сачанкі «Сняцца сны аб Беларусі». Мн., 1990.

веліч і гістарычную немінучасць пралетарскай рэвалюцыі, якая адна несла сапраўднае сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне працоўным былой царскай Расіі, у тым ліку і Беларусі. Дзякуючы гэтаму свайму асляпленню, з'явіліся мае такія творы з ярка нацыянал-дэмакратычнымі настроямі, як, напрыклад, «Паўстань», «Перад будучыняй», п'еса «Тутэйшыя» і інш.» (газ. «Звязда», 1930, № 291. 14 снежня).

Адразу пасля выхаду ў свет зб. «Творы 1918—1928», 1930 верш «Паўстань» атрымаў рэзка адмоўную ацэнку тагачасных крытыкаў і грамадскіх дзеячаў.

Так, А. Альшэўскі ў арт. «Беларуская агентура інтэрвентаў» пісаў: «Трэба, дарэчы, адзначыць, што ў тым жа нумары «Звону», які мы вышэй цытавалі, дзе з такім патосам шчаняты беларускай контррэвалюцыі віталі свайго пана (Пілсудскага.— *А. Ш.*), змясціў свой верш і Янка Купала пад назвай «Паўстань». Мы лічым патрэбным і магчымым напомніць аб гэтым гістарычным факце («з песні слова не выкінеш») таму, што шырокія масы БССР у праве патрабаваць ад народнага паэта — з кім ён зараз. Працоўныя масы БССР у праве патрабаваць ад Купалы такога ж яснага адказу, які яны пачулі ад Якуба Коласа, які заяўляе аб сваім рашучым разрыве з беларускім нацыянал-дэмакратызмам» (цыт. па кн.: Супраць контррэвалюцыйнага беларускага нацыянал-дэмакратызму. Мн., 1931. С. 102—103).

Такой жа думкі прытрымліваўся і А. Канакоцін:

«Не так даўно Янка Купала, юбілей якога святкаваўся ў Беларусі і Комакадэміяй, пускаецца на адкрытую нацыянал-дэмакратычную правакацыю, змяшчаючы ў сваім зборніку*, прысвечаным яго юбілею, верш, які быў напісаны ў гонар Пілсудскага на Беларусь і змешчаны ў буржуазна-нацыяналістычнай газеце «Звон» 17 верасня 1919 году ў № 11. Купала з тэксту 19 г. выпускае толькі наступныя радкі:

Паўстань з народу нашага, уладар,
Адбудаваць свой збураны пасад,
Бо твой народ забыў, хто гаспадар,
І хто яго абдзёр з каронных шат,
На ўладара жджэ Беларусь даўно,
І жджэ цябе ўладарства божы дар,
Вялікае, магутнае яно...
Пад беларускі сцяг прыйдзі, уладар.

Выкінуўшы гэтыя радкі, Купала, зразумела, не мяняе сэнсу вершу, затым што ў ім больш яркія месцы ў параўнанні з пададзенымі. Мы прывядзем поўны тэкст...

Не без цікавасці і такая дэталь, што верш змешчаны ў зборніку пасля «Інтэрнацыяналу», перакладзенага Купалай на беларускую мову.

Такой правакацыі ў 1930 г. мы не чакалі, нават ведаючы ўсё цёмнае мінулае паэта» (у кн.: А. Канакоцін. Літаратура — зброя класавай барацьбы. Мн., 1931. С. 77—78 і ў арт. А. Канакоціна «Абвастрэнне класавай барацьбы ў беларускай літаратуры ў перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі» (часоп. «Бальшавік Беларусі», 1930. № 8—9. С. 43—44; «Маладняк», 1930. № 12. С. 114).

А. Платун жа ў дакладзе на X Усебеларускім з'ездзе Саветаў «Становішча культурнага сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР» адзначаў: «Адзін верш напісаны ў час прыезду Пілсудскага ў Мінск і ў час акупацыі БССР белапалякамі. Гэты верш Купалы прысвечаны Піл-

* Зб. Творы 1918—1928. Мн., 1930.

судскаму, і называецца ён «Паўстань». Я гэтага вершу чытаць не буду, вы яго ведаеце. Скажу толькі тое, што паводле вершу Янкі Купалы Пілсудскі з'яўляецца беларускім пракорам, якога гісторыя заклікала стаць на варце межаў беларускага краю» (часоп. «Камуністычнае выхаванне», 1931. № 2. С. 10).

Л. Бэндэ ў арт. «Аб класавай барацьбе на культурным участку» пісаў: «А між тым перыяд 1918—28 гг. характарызуецца шматлікай колькасцю не нашых, нерэвалюцыйных, несавецкіх твораў Купалы. Твораў, якія не могуць быць і не будуць залічаны ў актыў рэвалюцыйнай і савецкай літаратуры. Сюды адносяцца і такія творы, як «Паўстань», «Перад будучыняй», «Тутэйшыя», «На вайсковыя матывы» і шэраг іншых. Праўда, за перыяд 1922—28 гг. Купала даў шэраг твораў, якія ўваходзяць у жалезны фонд савецкай рэвалюцыйнай літаратуры — «Арлянятам», «На смерць Сцяпана Булата», «Дзве сястры», «Летапіснае» і інш.» (газ. «Савецкая Беларусь», 1932. № 280. 20/XII).

Такая адмоўная ацэнка купалаўскага твора ажыццяўлялася на працягу ўсіх 30-х гадоў.

Так, у жніўні 1937 г. намеснік начальніка следчага аддзела УДБ НКУС Завадскі ў даведцы на Купалу пісаў: «В 1920 г. во время белопольской оккупации и приезда Пилсудского в г. Минск, написал ему приветственное стихотворение «Паўстань», которое было напечатано в нацфашистской газете «Звон». В стихотворении воспевал Пилсудского как героя — освободителя Белоруссии от большевиков. В 1922 г. выступает с произведениями, где говорит об ограблении белоруссов и изгнании их из своей родины «чужеземцами». В произведении «Перад будучыняй» от 24/I-1922 г. рисует Белоруссию как гибнущую под чужой опекой, т. е. под опекой большевиков» (НА РБ, ф. 4, воп. 21, спр. 1394, л. 117—118).

А народны камісар унутраных спраў Беларусі Наседкін у дакуменце на імя П. К. Панамарэнкі «Об имеющихся компрометирующих материалов на членов Союза советских писателей БССР» ад 23/X-38 г.: «Во время белопольской оккупации в Белоруссии, Купала редактировал белогвардейскую газету «Звон» и во время приезда в 1920 г. (1919.— *А. Ш.*) Пилсудского в г. Минск, в этой газете написал приветственную статью Пилсудскому под названием «Повстань» (верш «Паўстань».— *А. Ш.*), в которой изобразил Пилсудского, как «освободителя» Белоруссии от большевиков и призывал его помочь белоруссам в борьбе с Советской властью» (НА РБ, ф. 4, воп. 21, спр. 1394, л. 103).

Зусім іншай думкі прытрымліваюцца сучасныя даследчыкі. Так, В. Рагойшу цытавалі ўжо трохі вышэй, а зараз звернемся да У. Гніламёдава, які ў арт. «Апантаны беларускім лёсам» адзначае: «На чале дзяржавы, на думку Купалы, павінен стаяць гаспадар, што адпавядала б нацыянальным традыцыям і ўяўленням народа. Гэты заклік на ўсю сілу гучыць у вершы «Паўстань, Прарок». ... Што датычыцца «Паўстань, Прарок», то сама думка аб нацыянальным лідэру бальшавікам была глыбока варожай...» (часоп. «Полымя», 1994, № 7. С. 231, 240).

Верш пераклалі: на англійскую мову — Люба У. Тэрпак, на рускую — А. Гідоні (апублікаваны ў Таронта ў 1979 г.).

*На нашым...* (с. 66)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе надрукаваны з паметай: 28-VIII.1919 г. Карльсберг.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваюцца два чарнавыя аўтографы без загалоўкаў (адз. зах. 171, л. 1; адз. зах. 173, л. 1) і накід (адз. зах. 172, л. 1). Чарнавы аўтограф (адз. зах. 171) мае памету: Калісберг. 28.VIII.1919 г.

У. Гніламёдаў лічыць, што «гэты верш, калі б ён быў надрукаваны адразу ж пасля напісання, стаў бы, напэўна, выклікам акупацыйным уладам, аднак ён з'явіўся ў друку пазней...» (часоп. «Полымя», 1994. № 7. С. 232).

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, У. Раждзественскі, на асецінскую — А. Пухаеў, на азербайджанскую — Г. Беюкага.

*Мая навука* (с. 67)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 18, 3 кастр.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; «Маладняк Янку Купалу», Мн., 1925; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваюцца чарнавы аўтограф з паметай: Калісберг 29/VIII (адз. зах. 170, л. 1); накід з паметай: Калісберг. 29.VIII.19 г. (адз. зах. 161, л. 1—2); накід апошняй страфы на адным лісце разам з накідам верша «На нашым» (адз. зах. 172).

У 1922 г. П. Любецкі, рэцэнзіруючы зб. «Спадчына», адзначыў наступнае: «Прыгожы верш «Мая навука» ў канцы III раздзелу мае аўтабіяграфічны характар» (часоп. «Адраджэнне», 1922, № 1. С. 309).

М. Ісакоўскі ў арт. «Слова аб юбіляру» пісаў: «У гэтым вершы, як і ў многіх іншых, выражана тая нязменная сувязь з народам, якая заўсёды была ў паэта, якая і зараз застаецца такой жа моцнай і глыбокай, як і раней» (ЛіМ. 1940, № 40, 8 снежня).

Я. Колас жа, як бы працягваючы думку М. Ісакоўскага, але больш шырока ў арт. «Янка Купала і яго паэзія: Да гадавіны з дня смерці» пісаў: «Паэзія Янкі Купалы сваімі вытокамі выходзіць з глыбіні народнай творчасці. Яна насычае яго музу, дае ёй сапраўдную сілу народнага песняра-баяна і выводзіць яго на вяршыню паэтычнага майстэрства. Не з тэорыі паэзіі, не з кніжных крыніц чэрпае Купала чары сваёй паэзіі, а непасрэдна бярэ іх з самога жыцця, з назірання над ім, з чыстых крыніц народнай мудрасці, з светапогляду свайго народа, з прывабнага харастава беларускай прыроды. Гэтыя чары ён чуе ў песнях сваёй маці ў дні маленства, у шуме родных лясоў і гаёў. Аб гэтым сведчыць сам паэт у вершы «Мая навука» (Я. Колас. Зб. тв.: У 14 т. Мн., 1976. Т. 11. С. 313.).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — М. Рыльскі, на грузінскую — Т. Бекішвілі, М. Патарыдзе, на кабардзінскую — З. Тхагазітаў, на казахскую — А. Асылбекаў, Ж. Кашкінаў, на літоўскую — В. Бложа, на таджыкскую — М. Фархат, на татарскую — Нуры Закі, на ўзбекскую — Х. Гулям, на чувашскую — М. Уйп, на эстонскую — М. Вээтам, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — А. Германаў, Я. Дзімаў, на карэйскую — Лі Хё Ун, на нямецкую — М. Маскалік, на румынскую — С. Дэлчу, на французскую — у анталогіі беларускай паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982, перакладчык не названы), на чэшскую — К. Беднарж.

Ілюстрацыі паводле верша зрабіў Я. Чарняцін (у кн. Я. Купалы «Вершы і паэмы», М., 1982).

На музыку паклаў С. Картэс (араторыя-паэма «Памяці паэта»).

Першая страфа верша цытуецца ў працы Я. Карскага «Белорусы» (т. 3, вып. 3, Пг., 1922).

*Дзве долі* (с. 69)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 16, 6 кастр. Датуецца годам апублікавання.

Твор уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; «Дэкламатар», Мн., 1928; «Беларускі дэкламатар», Мн., 1924.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, М. Камісарава, на ўкраінскую — М. Прыгара, на малдаўскую — П. Дарые, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на чувашскую — С. Паўлаў, на асецінскую — А. Пухаеў, на англійскую — А. Пракоф'ева.

На музыку паклаў І. Любан.

*Жыды* (с. 69)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1919, № 16, 7 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Мінск, 10/Х-19 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

На думку У. Гніламёдава, верш быў зняты са зб. «Спадчына» (1922) па цэнзурных меркаваннях (часоп. «Полымя», 1994, № 7. С. 240).

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Захавалася некалькі аўтографаў: чарнавы аўтограф першых шасці строф (адз. зах. 168, л. 1), чарнавы аўтограф (адз. зах. 166, л. 1), накід (адз. зах. 165), перабелены з паметай: Янка Купала. Мінск. 10/Х-19 г. (адз. зах. 167, л. 1).

У. Гніламёдаў у арт. «Апантаны беларускім лёсам» лічыць, што: «Ён (Купала.— *А. Ш.*) звяртаецца да іншых нацый і канфесій на Беларусі з заклікам падтрымаць яе рух да дзяржаўнасці (верш «Жыды»), але, як пісаў рускі паэт Восіп Мандэльштам крыху пазней і з іншай нагоды, «ни один мессианствующий и витийствующий народ никогда не был услышан другим» (часоп. «Полымя», 1994, № 7. С. 233).

У кн. «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе: Бібліяграфія» (Нью-Йорк — Мюнхен, 1985) адзначаецца: «Верш «Жыды», які Купала пачынае рэзкім дысанансам — антысавецкім клічам расейскай чорнай сотні ў Беларусі,— вельмі мала каму ведамы, бо ён быў забаронены ў БССР. Друкаваўся ён першы раз у менскім штодзённіку «Беларусь» у 1919 годзе». Звесткі пра забарону верша слушныя. Ён, сапраўды, друкаваўся толькі ў газ. «Беларусь» і больш у прыжыццёвыя і пасмяротныя выданні твораў паэта не ўключаўся.

Верш пераклала на англійскую мову В. Рыч, таксама пераклад урыўкаў з верша змешчаны ў кн. А. Адамовіча «Opposition to Sovietization in Belorussian Literature» (Нью-Йорк, 1958. С. 43—44).

*...мудрага Хрыста...* — Паводле евангельскай міфалогіі, Хрыстос нарадзіўся ад «святога духа» ў Віфлееме (Палесціна) у Марыі, жонкі Іосіфа; міфічны заснавальнік хрысціянства, «богачалавек». Прапаведаваў новае рэлігійнае вучэнне ў Іудзеі, Галілеі, Самарыі і інш.; зрабіў шмат цудаў.

*Таго ж Хрыста прыбілі вы да крыжа* — у Іерусаліме Іуда выдаў Хрыста за 30 срэбранікаў. На пасхальным тыдні Хрыстос быў асуджаны рымскім намеснікам Понціем Пілатам на смяротную кару разам з двума разбойнікамі, распяты на крыжы і затым пахаваны, але па «сканчэнні суботы» ўваскрос.

*Але вам край ваш выдзерлі народы / На вечнае бадзянне ў прочкі згналі вас* — У 1-м тыс. да н. э. існавалі дзве старажытнаяўрэйскія дзяржавы — Ізраільскае царства і Іудзейскае царства, якія былі завая-

ваны: першае — Асірыяй (722 г. да н. э.), другое — Вавілоніяй (586 г. да н. э.), што палажыла пачатак рассяленню яўрэяў па краінах свету, асабліва ўзмацнілася гэта пасля захопу Іудзеі Рымам (63 г. да н. э.). Значныя групы яўрэяў аселі ў краінах Блізкага Усходу, Паўночнай Афрыкі і Паўднёвай Еўропы. У сярэднія вякі яўрэі рассяліліся па многіх іншых краінах Еўропы і Азіі.

*Калі ў Гішпаны ўзбунтаваны людзі / З сваёй краіны выгналі вас напасмех...* — У 1492 г. вялікая колькасць яўрэяў была выгнана з Іспаніі...

*Паэта і цэнзар* (с. 71)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Звон», 1919, № 25, 17 кастр., дзе надрукаваны з паметай: Мінск. 14/X-19 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Жыццё беларуса», 1925, № 7, 9 верас.; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваецца чарнавы аўтограф першых 32 радкоў з падзагалоўкам «Маленькі фельетон» (адз. зах. 155, л. 1) і перабелены без загалоўка і прысвячэння, з пропускам радкоў 17—32 і з паметай: Мінск. 14.X.19 г. (адз. зах. 154, л. 1—3).

Верш непасрэдна прадаўжае, развівае выкрывальны пафас дарэвалюцыйных твораў паэта («Я не для вас...», «Адповедзь», «Курган») (ЭД. С. 470).

Тагачасны крытык І. Ляндрэс у арт. «У кіпцюрах цэнзуры» пісаў: «Ёсць у Янкі Купалы цікавы верш «Паэт і цэнзар», які ён назваў «Крыху балада». Гэта вельмі войстрая і едкая сатыра на царскую цэнзуру. Паэт расказвае аб тым, як цэнзары «гладзілі» творы пісьменнікаў, вытраўляючы з іх усю сутнасць. Купала падае нават самы працэс «абясшкоджвання», барацьбы з «крамолай», якую вялі бязлітасныя цэнзары, узброіўшыся чырвоным алоўкам... Купала выліў у гэтым вершы ўвесь той гнеў, злосць і горыч, што накіпелі ў яго сэрцы за годы цэнзурнага тэрору. Гэты верш выклікае думкі аб няспынных цэнзурных цкаваннях, якім падвяргалася ўся беларуская дакастрычніцкая літаратура... Калі гаварыць аб адносінах царскай цэнзуры да асобных беларускіх пісьменнікаў, то трэба падкрэсліць, што яна асабліва не ладзіла з буйнейшым прадстаўніком беларускай літаратуры — Купалай. Самыя натхнёныя песні паэта не пазбеглі знаёмства з цэнзурным алоўкам. Вось чаму такім гневам і абурэннем поўніцца верш «Паэт і цэнзар» (ЛіМ. 1941. 1 лют.).

Але, можа, у вершы Купала мае на ўвазе не толькі царскую цэнзуру?

Так, напрыклад, У. Гніламёдаў у арт. «Апантаны беларускім лёсам» лічыць, што: «Польская цэнзура (перыяд акупацыі Беларусі белапалякамі.— *А. Ш.*) перашкаджала беларускаму тэатру ў фарміраванні нацыянальнага рэпертуару (пра вастрыню ідэалагічнай барацьбы гэтага часу сведчыць верш «Паэта і цэнзар»)» (часоп. «Полымя», 1994. № 7. С. 230).

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на ўкраінскую — А. Юшчанка, на эстонскую — Х. Юрысан, на англійскую — В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане).

На музыку паклаў Дз. Смольскі (10-я частка араторыі «Паэт»).

*Згарусціў* — тут: зрабіў, прыдбаў што-небудзь з вялікай цяжкасцю.

*Дэмас (грэч.)* — народ.

*Патульны (абл.)* — ціхі, лагодны, ласкавы.

*Мой цень* (с. 75)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — часоп. «Беларускае жыццё», 1919, № 20, 7 лістап. Датуецца годам апублікавання.

Верш уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Захоўваецца белавы аўтограф (адз. зах. 116, л. 1).

Жонка паэта У.Ф. Луцэвіч выказвала меркаванне, што верш напісаны ў 1915 г. (Зб. тв. 1973. Т. 3. С. 403).

*Новы год* (с. 76)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 1, 1 студз., дзе надрукаваны з паметай: Мінск. 30/XII-19 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Беларускае слова», 1921, 1 студз.; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Аўтограф пад назвай «На новы 1920 год» з подпісам Я. К. (адз. зах. 176, л. 1) змешчаны на адным лісце разам з накідам «Успаміны» (Замест каляднага апавядання).

## 1920

*Бяспутнасць* (с. 77)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 40, 24 лют.

Датуецца годам апублікавання.

Верш уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 121) і белавы (адз. зах. 120). Чарнавы аўтограф складаецца з дзвюх частак: першая пад назвай «Жыццё», другая — «Бяспутнасць».

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік.

На музыку паклаў М. Аладаў.

*25.III.1918 — 25.III.1920*
*Гадаўшчына-памінкі* (с. 77)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: 24-III.1920 г. Мінск.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Захоўваюцца аўтографы: чарнавы пад назвай «25/III-1918 — 25/III-1920» (адз. зах. 177); перабелены пад назвай «Гадаўшчына 25/III-18 — 25/III-20» (адз. зах. 178); белавы з паметай: Янка Купала. Мінск. 24/III-20 г. (адз. зах. 179).

У студзені — сакавіку 1920 г. Я. Купала цяжка хварэе (гнойны перытаніт), але ўжо 24 сакавіка 1920 г., напярэдадні другой гадавіны абвяшчэння БНР, быў напісаны верш «25.III.1918—25.III.1920. Гадаўшчына-памінкі».

У свой час Л. Бэндэ ў арт. «Творчы шлях Янкі Купалы» такім чынам ацаніў купалаўскі верш: «Наіўна верачы ў ідэю Бэнэраўскай «незалежнасці», паэт усё ж не бачыў яе на справе. Ад гэтага на яго

часамі находзіць жаль і смутак. Вось ён піша верш «Гадаўшчына-памінкі», адзначаючы другую гадавіну абвяшчэння «БНР»... Становішча працоўных мас Беларусі на савецкіх землях ён паказвае такім жа, як і на землях,акупаваных белапалякамі. У яго жалабная канстатацыя факта, што замест «незалежнасці» — «падняволле», не вядзе паэта да разрыву з прадажнымі халуямі польскага імперыялізма — беларускімі нацыяналістамі, да вызвалення ад фальшывай, хімернай ідэі Бэнээраўскай «незалежнасці» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935. № 10. С. 126).

А ўжо ў сучасных даследчыкаў купалаўскі твор выклікаў наступныя разважанні.

Так, У. Гніламёдаў лічыць, што: «24 сакавіка 1920 года, напярэдадні другой гадавіны абвяшчэння БНР, быў напісаны верш «25.III.1918—25.III.1920. Гадаўшчына-памінкі», у якім аўтар як бы падводзіць вынік гэтым двум цяжка пражытым гадам... У вершы «25.III.1918—25.III.1920. Гадаўшчына-памінкі» ён (Купала.— *А. Ш.*) асуджае і савецкую, і польскую акупацыю, не шкадуючы фарбаў для праўдзівага паказу карціны нацыянальнай трагедыі» (часоп. «Полымя», 1994. № 7. С. 235).

Б. Сачанка ж адзначае: «І не «гадаўшчыне» БНР прысвячаў паэт свой верш «25.III.1918 — 25.III.1920», а менавіта «памінкам», бо БНР здыскрэдытавала сябе, нічога не дала беларускаму народу, хоць шмат абяцала» (Б. Сачанка. Сняцца сны аб Беларусі... Мн., 1990. С. 274).

А В. Рагойша мяркуе, што: «Верш напісаны 24 сакавіка 1920 года і прысвечаны другой гадавіне абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі, самастойнасць і незалежнасць якой засталіся толькі на паперы. Гэта — смелы выклік паэта тагачасным белапольскім захопнікам, якія вуснамі Пілсудскага аб'яўлялі аб збаўленні беларускага народа ад «бальшавіцкай акупацыі», аб разуменні імкнення беларусаў да дзяржаўнай незалежнасці, а самі, захапіўшы беларускія землі, устанавілі на іх «падняволле» і «рабства» (у кн.: Янка Купала. Жыве Беларусь. Мн., 1993. С. 467—468).

Верш перакладзены на англійскую мову (у кн. А. Адамовіча «Opposition to Sovietization Belorussion Literature» (New-York, 1958).

*Усяночная* (с. 79)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1920, № 74, 4 крас., дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Мінск. 1.IV.20 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца чарнавы аўтограф на адным лісце разам з вершамі «Дзе ты, хмелю, зімаваў?», «Едзе Янка ў поле» (адз. зах. 186, л. 1).

Прэтэкстам верша з'яўляецца культавая ноч перад міфічным уваскрасеннем Хрыста, а ў цэлым твор стылізаваны пад народны псалом (ЭД. С. 618).

Верш пераклалі: на рускую мову — У. Мікушэвіч, на польскую — Я. Гушча.

На музыку паклаў А. Мдывані (увайшоў у цыкл хораў a'cappella, 1981).

*Пяць сенатараў* (с. 79)

Друкуецца па часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1933, № 2—3, дзе ўпершыню апублікаваны з датай: 7/IV-20 г.

Да твора ёсць наступная заўвага Я. Купалы: «Верш напісаны ў часы існавання «Беларускай Рады», калі там адбыўся раскол і ў выніку арганізавалася так званая «Найвышэйшая Рада» (правае кры-

ло). Пяцёрка, якая ўвайшла ў склад «Найвышэйшай Рады», называла сябе «сенатарамі», гэтым жа імем называлі іх у гістарычным сэнсе і іншыя».

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Верш пераклаў на рускую мову У. Раждзественскі.

*Пачушак (польск.)* — падачка, падарунак.

*«Касцюшкі»* — папяровыя грошы часоў Касцюшкі (1794 і 1795 гады).

*На вайсковыя матывы*
(Песні на ваяцкі лад)

Цыкл складаюць творы, якія былі напісаны ў 1919—1920 гг. Яны друкаваліся ў часоп. «Рунь» пад рубрыкай «Песні на ваяцкі лад» (паводле народных мелодый), і ў зб. «Творы 1918—1928», 1930 склалі цыкл «На вайсковыя матывы» (з народнага). Таму рэдкалегія данага Збору твораў палічыла неабходным захаваць гэты цыкл, але размясціла творы ў храналагічнай паслядоўнасці: спачатку вершы 1919 г. (па меры таго як яны друкаваліся ў часоп. «Рунь»), затым 1920 г. У часоп. «Рунь» пад назвай рубрыкі ўсюды ідзе: «Перадрук забараняецца», але некаторыя вершы з цыкла ўвайшлі ў іншыя прыжыццёвыя выданні твораў паэта.

*Дзе ты, хмелю, зімаваў?* (с. 81)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе датуецца 1919 г.

Упершыню — часоп. «Рунь», 1920, № 1, 2 мая.

У 1921 і 1930 гг. было асобнае выданне верша з нотамі.

Захоўваецца чарнавы аўтограф на адным лісце разам з вершамі «Усяночная», «Едзе Янка ў поле» (адз. зах. 186, л.1).

Без аўтарскай падказкі можна здагадацца, што тэкст верша варта спяваць на матыў аднайменнай украінскай народнай песні.

Амаль адразу пасля апублікавання цыкл вершаў атрымаў слушную ацэнку Я. Карскага: «К злободневным следует отнести и «Песні на ваяцкі лад» («Рунь», 1920, № 1 и след.). Они интересны по своему содержанию — идейны и патриотичны, а по форме похожи на народные...» (Я. Карскі, Белорусы. Т. 3. Вып. 3. Пг., 1922. С. 273).

Рускі кампазітар і фалькларыст Галіна Канстанцінаўна Смірнова (1910—1980) наконт верша пісала Я. Мазалькову наступнае:

«...Очень благодарю Вас за белорусский текст «Хмеля», он очень хорошо уложился в музыку. После 5-го я пошлю его Григорию Романовичу (они сейчас в Литве на гастролях). Марта 16-го буду его показывать в союзе на хоровой секции вместе с хором «Голос мира» Танка, который я показывала в прошлую пятницу и который я должна теперь спешно доделывать (это выдержки из «Пражского дневника»)... «Хмель» хочу также показать хору нар. русс. песни Радиокомитета, которому я большей частью адресую свою работу. И очень боюсь за текст вот с какой стороны: военную тематику — там где пушки, война, грохот орудий и т. д. с трудом, а то и совсем не пропускает Главрепертком — режет... «Хмелинушку» от подобного разгрома может только спасти последний куплет. Кроме «Хмеля» я бы хотела сделать ряд хоров на стихи Купалы и после Вашего возвращения из санатория я попрошу у Вас консультацию — думаю, что к этому времени я уже материал подберу и приду к Вам не с пустыми руками, да и Григорий Романович к этому времени тоже поможет. За эту неделю я в сборнике стихов Я. Купалы под Вашей редакцией (1948 г. изд.) нашла стих-е «Мороз», сделала эскиз для детского хора и вот теперь думаю (с Вашей помощью)

сделать целую хоровую сюиту (детский хор) возможно «Времена года»?.. (фотакопія аўтографа, БДАМЛіМ РБ, ф. 259, воп. 1, спр. 387, л. 17—19); «...Прошу извинить, что так задержала «Хмель» — все ждала, пока смогу отдать переписчику, в итоге переписала сама, некрасиво, но понятно... У меня к Вам громадная просьба: не сможете ли Вы мне дать стихи Купалы — ту маленькую книжечку, откуда взят «Хмель». Я очень хочу написать еще хоры на его стихи...» (аўтограф, БДАМЛіМ, ф. 259, воп. 1, спр. 387, л. 25).

Гэтыя лісты без дат, яны маглі быць напісаны ў 60-я гг. Да лістоў (хутчэй усяго да другога) прыкладаліся ноты песні на верш Я. Купалы «Где ты, хмель мой, зимовал...» у перакладзе Я. Мазалькова (БДАМЛіМ, ф. 259, воп. 1, спр. 387, л. 20—23).

У каментарыях Зб. тв., 1953, т. IV, с. 382 адзначаецца наступнае: Друкуецца па асобнаму выданню «Дзе ты, хмелю, зімаваў?», БДзВ. Мінск, 1930, у якім верш надрукаваны з нотамі.

А ў каментарыях Зб. тв., 1962, т. V не зусім дакладна адзначаецца, што ўпершыню верш апублікаваны ў зб.: У. Тэраўскі. Беларускі спеўнік з нотамі на тры галасы. Паводле народных мелодый. Мінск, 1921 г. Ёсць ранейшая публікацыя — часоп. «Рунь», 1920, № 1.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, Я. Мазалькоў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, Т. Малдагаліеў, на татарскую — А. Ісхак, на туркменскую — А. Агабаеў, на чувашскую — С. Паўлаў, на эстонскую — Х. Юрысан, на англійскую — У. Мэй, на іспанскую — К. Шэрман, на польскую — Я. Гушча, на славацкую — Ю. Андрычык.

На музыку паклалі У. Тэраўскі, Г. Смірнова.

*Габруся ў жаўнерку ўзялі...* (с. 82)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе датуецца 1919 г.

Упершыню — часоп. «Рунь», 1920, № 2, 9 мая.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 185, л. 1).

Верш паклаў на музыку У. Тэраўскі (назва «Габруська»).

*Гэй, паехаў сын Даніла...* (с. 83)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе апублікаваны з датай 1919 г. і без апошняй страфы, якая зараз узнаўляецца.

Упершыню — часоп. «Рунь», 1920, № 3, 16 мая.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Камсамольскі спеўнік, Мн., 1924 у III-м раздзеле «Вайскова-маладняцкія спевы»; Маладыя араты, 1925, № 16.

З 1945 па 1993 г. у пасмяротныя выданні твораў не ўключаўся (зб. «Жыве Беларусь»).

Захоўваецца чарнавы аўтограф на адным лісце разам з вершамі «А ў бары, бары...», «Ой, вяду бяду...», «Будзь здаровы, бацька, маці...» (адз. зах. 184, л. 1—2).

Верш паклаў на музыку А. Туранкоў (у БДАМЛіМ (г. Мінск) захоўваецца аўтограф песні, ф. 206, воп. 1, спр. 220, л. 1—2; 3—4).

Гарманізацыю мелодыі зрабілі У. Тэраўскі, М. Равенскі.

*Будзь здаровы, бацька, маці...* (с. 84)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе датуецца 1919 г.

Упершыню — часоп. «Рунь», 1920, № 4, 23 мая (першыя пяць строф) з паметай: Мінск, красавік 1920 г.; № 5—6, 6 чэрв. (поўнасцю).

Пад назвай верша ў № 4 стаіць: На мелодыю: «У печы палю, бульбу жару...», а ў № 5—6 наступная заўвага рэдакцыі: «Праз недагляд карэктара, у № 4 «Руні» гэтая песня выдрукавана не ўся».

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Захоўваецца чарнавы аўтограф на адным лісце разам з вершамі «Ой, вяду бяду...», «А ў бары, бары...», «Гэй, паехаў сын Даніла...» (адз. зах. 184, л. 1—2).

Верш паклаў на музыку У. Тэраўскі (гарманізацыя).

*А ў бары, бары...* (с. 85)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе датуецца 1920 г.

Упершыню — часоп. «Рунь», 1920, № 1, 2 мая.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Беларуская доля, 1925, 26 крас.; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца ўпершыню.

Захоўваецца чарнавы аўтограф на адным лісце разам з вершамі «Ой, вяду бяду», «Гэй, паехаў сын Даніла...», «Будзь здаровы, бацька, маці...». Уверсе дата: 29/III-20 г. (адз. зах. 184, л. 1—2).

Верш паклаў на музыку М. Аладаў.

Гарманізацыю мелодыі зрабіў У. Тэраўскі.

*Ой, вяду бяду...* (с. 87)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе датуецца 1920 г.

Упершыню — часоп. «Рунь», 1920, № 3, 16 мая.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Беларуская доля», 1925, 26 крас.; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца ўпершыню.

Захоўваецца чарнавы аўтограф на адным лісце разам з вершамі «А ў бары, бары...», «Будзь здаровы, бацька, маці...», «Гэй, паехаў сын Даніла...» (адз. зах. 184, л. 1—2).

Я. Купала пісаў Т. Г. Масэнку 19.IV. 1937 г.: «Верш «Ой, веду біду...» абавязкова выкіньце. У беларускіх зборніках ён выкінуты» (Купала Я. Зб. тв.: У 7-мі т. Мн., 1976. Т. 7. С. 499). Маецца на ўвазе зб. Я. Купалы «Выбрані твори» (на ўкр. мове), Кіеў, 1937 пад рэд. Т. Масэнкі. А якія беларускія зборнікі меў на ўвазе Я. Купала — невядома. Можа, выданні 30-х гг.? Але гэты верш, як наогул і ўсе астатнія творы з цыкла, пасля 1930 г. у прыжыццёвых выданнях не друкаваўся.

На музыку паклаў У. Тэраўскі (гарманізацыя).

*Едзе Янка ў поле...* (с. 88)

Друкуецца па часоп. «Рунь», 1920, № 4, 23 мая, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Мінск, красавік 1920 г. Пад назвай верша ў дужках: На мелодыю: Едзе мужык з поля, валы падганяе.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца ўпершыню.

Захоўваецца чарнавы аўтограф на адным лісце разам з вершамі «Дзе ты, хмелю, зімаваў?», «Усяночная» (адз. зах. 186, л. 1—2).

На музыку паклаў У. Тэраўскі (гарманізацыя).

*Гэй, у лесе, пры даліне...* (с. 89)

Друкуецца па часоп. «Рунь», 1920, № 4, 23 мая, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Янка Купала. Мінск, красавік 1920 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Камсамольскі спеўнік, Мн., 1924 у III раздзеле «Вайскова-маладняцкія спевы».

Створаны ў стылі народнай песні (ЭД. С. 180).
Верш пераклаў на англійскую мову У. Мэй.
На музыку паклаў У. Тэраўскі (гарманізацыя).

*У вырай!* (с. 91)
(«Гэй, вольныя птахі, саколія дзеці...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1920 г.

Упершыню — часоп. «Рунь», 1920, № 1, 2 мая.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Выпісы з беларускай літаратуры. Мн., 1923; Беларускі дэкламатар. Мн., 1924; Беларускі народны каляндар на 1927 год. Вільня, 1926; Беларускі народны каляндар. Вільня, 1927; Беларускі народна-гаспадарскі каляндар на 1935 год. Вільня, 1935; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

У каментарыях Зб. тв., 1953, т. IV, с. 382 памылкова датуецца 1919 г.

Захоўваюцца чарнавы аўтограф без загалоўка (адз. зах. 182, л. 1) і два аўтографы асобных строф (адз. зах. 181, л. 1; адз. зах. 183, л. 1).

З'яўляецца прадвеснікам верша «Арлянятам».

Народна-міфалагічны вобраз выраю ўспрымаецца ў кантэксце твора як вышыня, як паэтычны сінонім неба і высокай духоўнасці (ЭД. С. 605).

Верш атрымаў ацэнку тагачаснай крытыкі.

Так, З. Жылуновіч (Ц. Гартны) у арт. «Беларускае пісьменства» пісаў: «Паступова Янка Купала пераходзіць усё больш да нацыянальных матываў, часта ўваскрашаючы малюнкі мінулага, і робіцца звястуном нацыянальных беларускіх ідэалаў і імкненняў, якія вельмі вобразна вылажаны ў наступным вершы «У вырай!» (у кн.: «Беларусь: нарысы гісторыі, эканомікі, культуры і рэвалюцыйнага руху». Мн., 1924. С. 300).

А. Навіна (А. Луцкевіч) у арт. «Напевы ліры Янкі Купалы» адзначыў: «І ўжо не аб хлебе будным лятуціць Купала для свайго працоўнага народу: у вырай ён кліча «саколіх дзяцей» — «да сонца вясёлкавым шляхам». Бо ўжо настаў час дзеля магутнага размаху ў тварэнні красы, хараства, бо ўжо «час сонца схапіці і сонцам ірдзеці». І заклікае наш поэта дружыну пясьнярскую — «уладарнікаў песні» — «на шляхі пад сцягі красы і свабоды»: Час выляцець к славе з пагібельнай плесні // І песняй агністай дзівіці народы! («У вырай!»)» (у кн.: А. Навіна. Адбітае жыццё. Кн. І. Вільня, 1920. С. 56).

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Андрэеў, Я. Мазалькоў (у БДАМЛіМ (ф. 259, воп. 1, спр. 96, л. 1, 5) захоўваюцца: машынапіс перакладу пад назвай «В полет» і з датай 1920 і рукапіс перакладу пад назвай «В полёт» і з паметай: 1920. С белорусского перевел Евг. Мозольков), В. Шэфнер, на грузінскую — Т. Джангулашвілі, на казахскую — С. Асанаў, Г. Урманаў, С. Сеітаў, на літоўскую — Э. Матузявічус, на малдаўскую — П. Дарые, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане).

*Крывічы* — усходнеславянскае племянное аб'яднанне VI — X стст., якое займала тэрыторыю верхняга цячэння Дняпра, Волгі, Заходняй Дзвіны, паўднёвую частку басейна Чудскога возера.

*На біблейныя матывы* (с. 91)

Друкуецца па газ. «Беларусь», 1920, № 129, 18 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Мінск. 30.V.20 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 180, л. 1).

Верш напісаны 30 мая 1920 г. у Мінску, акупіраваным войскамі буржуазнай Польшчы, у хуткім часе пасля выпіскі з бальніцы, дзе паэт доўга ляжаў пасля складанай аперацыі (гнойны перытаніт). Пры яго ложку ў крытычны момант дзяжурыў знаёмы ксёндз Абрантовіч.

Усё перажытае, відаць, і падказала пісьменніку задуму: пакласці патрыятычную ідэю на канву 78-га псалма. Польская літаратура, напрыклад, з гэтай мэтай выкарыстоўвала псалмы з часоў Я. Кахаdebugоўскага — перакладчыка «Псалтыра», аўтара патрыятычнай песні — малітвы «Чаго чакаеш ад нас, пане».

У творы Я. Купалы відаць уплыў верша М. Канапніцкай «З кніг прароцкіх» (1883) (ЭД. С. 414).

У 19-м радку кананічнага тэксту захавана паланізаваная форма «пагане», якая была ўжыта ў чарнавым аўтографе. Узнёслы стыль біблейна-псалмавага іншасказання вытрымліваецца ўсюды паслядоўна, толькі ў пераломным радку выступае размоўнае «докуль» і ў апошняй страфе прарываецца варварызм ці прастамоўе «хэўрай», асімілюванае беларускай мовай з яўрэйскага жаргону. Задума ўвасоблена ў выглядзе псалма-малітвы да Бога як суддзі і ахоўніка гістарычнай справядлівасці. Спасылка на псалм і вольная інтэрпрэтацыя 78-га псалма былі разлічаны і на тое, каб ашукаць цэнзуру, якая ва ўмовах вайны была асабліва жорсткай (ЭД. С. 414).

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Цакуноў, на англійскую — У. Мэй.

*Дрэмле Юрка* (с. 92)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 139, 30 чэрв.

Датуецца годам апублікавання.

Твор уключаўся ў зб. «Спадчына», 1922.

Верш пераклаў на рускую мову Б. Цімафееў.

*«Не ўсе дома»* (с. 93)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. 5.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 143, 4 ліп.

Датуецца годам апублікавання.

Твор уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Спадчына», 1922; Беларускі дэкламатар, Мн., 1924; часоп. «Маланка», 1928, № 7.

Верш пераклаў на рускую мову Б. Цімафееў.

## 1921

*Песня і казка* (с. 95)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1921 г.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1921, № 1, дзе надрукаваны з прысвячэннем: «Для Налі С.».

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваецца няпоўны чарнавы аўтограф на адным лісце разам з чарнавым аўтографам верша «Бай» (адз. зах. 194, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Браўн, Н. Кіслік, на украінскую — Т. Масэнка, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую —

Г. Хухашвілі, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на латышскую — Ю. Ванаг, на чувашскую — Г. Яфімаў, на ўзбекскую — Тулкун, на англійскую — А. Пракоф'ева, В. Рыч (рукапіс у бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лондане), на нямецкую — М. Маскалік.

На музыку паклаў П. Падкавыраў.

*Наля С.* — па сведчанню Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, дачка мінскага ўрача Серады.

*Бай* (с. 96)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1921, № 2, 15 мая, дзе надрукаваны з паметай: Мінск, 6/III-21 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Зорка беларуса», 1925, 25 ліп.; «Маланка», 1926, № 1; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Для дзяцей», 1940.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы на адным лісце разам з вершам «Песня і казка» (адз. зах. 194, л. 1) і белавы з паметай: Я. Купала. Мінск. 6.III.21 г. (адз. зах. 189, л. 1).

Я. Купала выкарыстаў для гэтага верша ланцужковы прынцып пабудовы, характэрны для народных «баяў» (ЭД. С. 59).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, А. Някрасаў, на англійскую — У. Мэй.

На музыку паклаў П. Падкавыраў. На словы верша У. Кандрусевіч напісаў раманс.

*Бай* — казачны персанаж або казачнік; апавядальнік (звычайна дзед з барадой), які займальна расказвае байкі, казкі. Лакальныя назвы бар, баяшнік, бахар. У забаўлянках з «Баем» абыгрываюцца словы «баіць«, «бай» — апавядай.

*«Вяртаюцца з выраю жоравы, гусі... »* (с. 97)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе памылкова датуецца 1922 г.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1922, № 2—3.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; літаратурны альманах на ўкраінскай мове «Нова Білорусь», Харкаў, 1929 (перакл. Т. Масэнка), «Культура і побыт» (дадатак да ўкр. газеты «Вісті ВУ ЦВК), 1928, 10 сак. (перакл. Т. Масэнка); зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы без загалоўка (адз. зах. 197, л. 1) і белавы з прысвячэннем «У альбом п. Люсі Полазавай» і паметай: Янка Купала. Мінск. 29.IV.21 г. (адз. зах. 196, л.1).

Адносіцца да альбомных вершаў Я. Купалы (верш быў напісаны ў альбом А. Дз. Бурсікавай (дзявочае прозвішча — Полазава).

Напісаны рэдкай у паэзіі Купалы паслярэвалюцыйнага часу формай — двухрадковай страфой (дыстыхам) (ЭД. С. 142).

Верш пераклалі: на рускую мову — Л. Васільева, Н. Кіслік, на ўкраінскую — Т. Масэнка, на асецінскую — А. Пухаеў.

Ілюстрацыі да твора зрабіў А. Жываткоў (кн. Я. Купалы «Выбраныя творы». Кіеў, 1970).

*Бурсікава Алена Дзмітрыеўна* (нар. 1906) — дачка мастака Д. М. Полазава, аўтара некалькіх партрэтаў Я. Купалы. З сям'ёй Полазавых Я. Купала быў добра знаёмы з 1917 г.

*Сын і маці* (с. 98)
(«Мамка, мамка, нам сягоння...»)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1921, № 3, 15 жн., дзе надрукаваны з паметай: Мінск. 2.VI.21 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Дэкламатар. Мн., 1928; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; Жыццё беларуса, 1925, № 4, 27 жн.; Беларускі народны каляндар на 1927 год. Вільня, 1926; Беларускі народна-гаспадарскі каляндар на 1935 год, Вільня, 1935; Беларускі народны каляндар. Вільня, 1927; «Пралескі», 1935, № 5.

Захоўваецца чарнавы аўтограф без назвы, без абазначэння дзейных асоб (адз. зах. 195, л. 1—2).

Верш пераклалі на рускую мову У. Мікушэвіч, Г. Сямёнаў.

*Белавежа, Налібока* — Белавежская і Налібоцкая пушчы.

*Прусы* — група балтыйскіх плямён, якія насялялі паўднёвае ўзбярэжжа Балтыйскага мора паміж ніжнім цячэннем Віслы і Нёмана, былі заваяваны ў XIII ст. нямецкімі рыцарамі.

*«На шырокім, на далёкім...»* (с. 101)

Друкуецца па аўтографе.

Верш у прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1974 г. (Зб. тв., 1974, т. IV).

Захоўваюцца тры аўтографы: чарнавы (адз. зах. 204, л. 1), перабелены з паметай Я. Купала. 9.VI.21 г. (адз. зах. 204, л. 1) і белавы дзвюх першых строф (адз. зах. 205, л. 1).

Верш пераклаў на рускую мову В. Карчагін.

*На смерць Сцяпана Булата* (с. 101)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1921, № 173, 14 жн., дзе надрукаваны з паметай: Акопы. 9.VIII.21 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Выпісы з беларускае літаратуры. Мн., 1923; Беларускі дэкламатар. Мн., 1924; Дэкламатар. Мн., 1928; Звязда, 1928, № 171, 26 ліп.; Беларуская вёска, 1930, 24 мая; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Песня-байка», 1930.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы без загалоўка (адз. зах. 329, л. 1) і перабелены (адз. зах. 329, л. 2).

У адкрытым лісце ў рэдакцыю газ. «Звязда» ад 10.XII.1930* Я. Купала пісаў: «І ў апошнія гады я ўсімі сіламі намагаўся далучыцца сваёй творчасцю да вялікага сацыялістычнага будаўніцтва, якое так магутна разгортваецца ў нашай краіне, прыкладам, творы: пераклад «Інтэрнацыяналу», «На смерць С. Булата», «Безназоўнае», «Арлянятам», «Дзве сястры» (аб работніцы і сялянцы), «Шляхам гадоў», «З угодкавых настрояў» (на дзесяцігоддзе Кастрычніцкай рэвалюцыі), «На магілах ваякаў» (да дзесяцігоддзя БССР), «Дыктатура працы», «Працай дружнай, калектыўнай» (аб выстаўцы) і інш. Але ўсё ж такі ў гэтым напрамку я зрабіў вельмі мала, не зважаючы на тыя магчымасці, якія мне давала партыя і савецкая ўлада» (газ. «Звязда», 1930, № 291, 14 снежня).

Верш атрымаў ацэнку тагачаснай крытыкі.

Так, А. Сянкевіч у арт. «Класавая барацьба ў беларускай літаратуры» пісаў: «Купала даў пару твораў, якія сапраўды адказваюць савецкаму сёння — «На смерць Сцяпана Булата» і «Арлянятам» (часоп. «Бальшавік Беларусі», 1930, № 8—9. С. 22).

---

* Гл. таксама каментарый да верша «Паўстань...», с. 376.

А. Кучар жа ў арт. «Янка Купала» адзначаў: «Але і другая тэндэнцыя фармуецца ў творчасці Янкі Купалы пасля рэвалюцыі 1917 году — тэндэнцыя правільнага асэнсоўвання задач пралетарскай рэвалюцыі, тэндэнцыя набліжэння да пазіцый сацыялістычнага пралетарыяту. Яскрава гэта выяўляецца ў вершы Купалы за 1921 год «На смерць Сцяпана Булата» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1932. № 3. С. 142).

Л. Бэндэ ў арт. «Творчы шлях Янкі Купалы» пісаў: «У 1921 г. з'яўляецца верш паэта «На смерць Сцяпана Булата» — адзін з лепшых яго савецкіх вершаў аднаўленчага перыяда. Нягледзячы на нацыянальную абмежаванасць уяўлення паэта аб мэтах барацьбы пралетарыята, з верша дыхае заклік прадаўжаць барацьбу пад сцягам Камуны» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 10. С. 135).

Наш сучаснік Г. Колас, працуючы ў архівах з дакументамі па жыццёваму і творчаму шляху Я. Купалы, у арт. «Лёс Купалы — міфы і рэальнасць» выказаў наступную думку: «Першы факт — Купалаў верш на смерць Булата быў надрукаваны ў «Савецкай Беларусі» 14 жніўня 1921 года, а Сцяпан Булат памёр 24 ліпеня. Купала жыў тады, як нам вядома ўжо ад Лойкі, у Акопах. 27 ліпеня ў «Звяздзе» была надрукавана нататка сакратара ЦК КП(б) Беларусі Вільгельма Кнорына «Памяти тов. Степана Булата». Ці то некралог, ці то партыйная характарыстыка-рэкамендацыя... Калі б Сцяпан Булат у некралогу В. Кнорына быў «вытрыманым да канца марксістам», не было б Купалавага верша. Верш толькі ў назве — нібы водгук на падзею, ■ ў астатнім (без тае страфы) (у аўтографах адсутнічаюць радкі 17—20.— *А. Ш.*) гэта адзін з шэдэўраў рамантычна-філасофскай лірыкі. Калі ж шэдэўр з'явіўся ў друку ў выглядзе пачварнага кентаўра — што было рабіць Купалу? Абурацца? Заяўляць пратэсты? Ён зрабіў інакш: пакінуў нам свае аўтографы, каб мы пра нешта здагадаліся. Чамусьці мне здаецца, што Купала, прачытаўшы ў сваім вершы тую «воўчую» страфу, не ўзлаваўся, ■ ўсміхнуўся. Мо яму прыгадвалася нешта смешнавата-гаркаватае, з не вельмі даўняга мінулага — пра цэнзара, які паэту крышачку «пагладзіў» вершык, бо той быў — «слабы» (верш «Паэт і цэнзар».— *А. Ш.*)... Так яно было ці не, але Купала робіць хітры, нават зухаваты ход. Каб мы не блыталі ягонага Булата з кнорынскім, ён піша эпітафію сабе самому — «А зязюлька кукавала». Піша так, што тут нічога не паправіш і не дадасі: вы са сваім Булатам (ён жа болей ваш: што ні кажы, а быў сакратаром ЦК),— з ім, калі ласка, грайце сваё гоцаца як хочаце, а тут «нябожчык» — я, каго хачу, таго і клічу на сваю магілку: не камуну, а зязюльку! ...Купала і Сцяпан Булат былі знаёмыя даволі блізка пры жыцці Булата, і што іхняе кароткае знаёмства мела пэўныя падставы перайсці ў сяброўства, але неўзабаве адбылося нешта прыкрае,— Купала *страціў* (а не «ўбачыў») у Булаце «новага героя»!.. ...Купала напісаў не «новага героя», а — няздзейсненага, перахопленага кнорынскім загадам: «Сні, таварыш, аб Камуне!» (часоп. «Полымя», 1994. № 10. С. 211, 213, 214).

6 лістапада 1922 г. на вечары ў Беларускім рабочым клубе (дзейнічаў у Мінску ў 1920—1922 гг.) Я. Купала прачытаў верш «На смерць Сцяпана Булата».

Драма В. Гарбацэвіча «Чырвоныя кветкі Беларусі» пра дукорскіх партызан ідэйна і тэматычна пераклікаецца з творам «На смерць Сцяпана Булата» (ЭД. С. 74).

Верш пераклалі: на рускую мову — С. Абрадовіч (у ЦДАЛіМ Расіі (г. Масква), захоўваецца пераклад верша (ф. 1874, воп. 1, адз. зах. 34), на ўкраінскую — В. Бычок, М. Зысман, А. Малышка, У. Свідзінскі, на

грузінскую — Н. Гурашыдзе, на таджыкскую — М. Фархат, на ўзбекскую — М. Шэйх-задэ, на балгарскую — Я. Дзімаў, на англійскую — У. Мэй.

Верш цытуецца ў працы М. Гарэцкага «Гісторыя беларускай літаратуры» (М.— Л., 1924).

*Булат Сцяпан Герасімавіч* (1894—1921), беларускі савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, журналіст, адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў часы белапольскай акупацыі.

*Голад* (с. 102)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — зб. «Безназоўнае», 1925, дзе датуецца 1 кастр. 1921 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Іскра», 1925, 24 чэрв.; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Усе прыжыццёвыя выданні датуюць верш 1.X.1921 г.

Захоўваюцца чарнавы аўтограф з паметай: Мінск. 1.IX.21 г. на адным лісце разам з накідам апошняй страфы (адз. зах. 192) і накід верша (адз. зах. 193, л. 1—2).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Берэндгоф, В. Карчагін, на латышскую — Я. Чавар.

*А зязюлька кукавала...* (с. 103)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1921, № 4, 1 лістап., дзе надрукаваны з паметай: Акопы. 8.IX.1921 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Беларускі дэкламатар», Мн., 1924; «Маланка», 1926, № 7; «Дэкламатар», Мн., 1928; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Адцвітанне», 1930.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 188, л. 1) і белавы першай страфы (адз. зах. 187, л. 1).

Да гэтага верша падыходзяць словы А. Твардоўскага, якія прагучалі на II з'ездзе пісьменнікаў Беларусі (1949): «Купала сапраўды з поўнай праматой мог сам пра сябе пры жыцці скласці песню, як на свет радзіўся Янка. Гэта праўда вялікага сапраўднага паэта, які сваім уласна існаваннем ужо быў чымсьці аб'ектыўным, чымсьці неад'емным ад духоўнага жыцця народа» («Аб літаратуры». М., 1973. С. 259—260).

У газ. «Літаратура і мастацтва», 1959, № 53, 8 ліп. змешчана фотакопія аўтографа верша.

Словы «Як на свет радзіўся Янка...» узяты эпіграфам да верша М. Браўна «Янка Купала».

Радкі «Як на свет радзіўся Янка...», «А зязюлька кукавала...» прыводзяцца ў вершы А. Бачылы «Несмяротнаму Янку Купалу».

Да верша «А зязюлька кукавала...» Сымон Баранавых падабраў народную мелодыю.

Па творы названы паўнаметражны дакументальны фільм «А зязюлька кукавала» (1972, рэжысёр В. Дашук), у якім раскрыты вобраз Я. Купалы.

У БДАМЛіМ захоўваецца аўтограф нот П. П. Падкавырава на верш Я. Купалы «А зязюлька кукавала...» з наступным дарчым надпісам: «Замечательной певице и артистке нашего времени Ларисе Помпеевне Александровской от автора 3/X.45 г. Подковыров» (ф. 316, воп. 1, спр. 493, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — А. Жалдак, А. Малышка, на казахскую — Ж. Кашкінаў,

на літоўскую — В. Бложа, на ўзбекскую — Тулкун, М. Шэйхзадэ, на чувашскую — М. Сандроў, Г. Яфімаў, на эстонскую — Х. Юрысан, на англійскую — У. Мэй, на балгарскую — Н. Вылчаў, на чэшскую — К. Беднарж, на французскую — у анталогіі беларускай паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982, перакладчык не названы), на нямецкую — М. Маскалік.

На музыку паклалі А. Валынчык, П. Падкавыраў, А. Туранкоў (у БДАМЛіМ аўтограф ф. 206, воп. 1, спр. 220, л. 5—6 з датай 26/IV-56, л. 7 і з паметай: Взяла у Ларисы Помпеевны Александровской. 25/III-1966 г.); Б. Кавалеўскі (у БДАМЛіМ ф. 316, воп. 1, спр. 32, л. 1—5 — рукапіс); У. Тэраўскі, М. Чуркін, А. Клумаў (пад назвай «Як на свет радзіўся Янка»).

П. Сергіевіч стварыў трыпціх на тэму верша «А зязюлька кукавала...»: «Калыханка», «Ясевы універсітэты», «Сейбіт» (захоўваецца ў сям'і мастака).

*Мароз* (с. 104)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1921 г.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1922, № 1.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Беларускі піянер», 1927, № 23; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Хлопчык і лётчык», 1937; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; зб. «Для дзяцей», 1940 (надрукаваны 1, 3 і 4-я страфы).

У вершы трансфармаваны матывы народных казак пра жывёл і чарадзейных казак, героі якіх увайшлі ў дзіцячы паэтычны свет (ЭД. С. 380).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Ісакоўскі, на ўкраінскую — М. Рыльскі, на асецінскую — А. Пухаеў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на кітайскую — Чжу Цзі.

На музыку паклаў А. Туранкоў.

*З Новым годам!* (с. 105)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе апублікаваны з датай: 1922 г.

Упершыню — часоп. «Вольны сцяг», 1922, № 1, 1 студз.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Беларускі дэкламатар, Мн., 1924; Беларускі народны каляндар на 1927 год, Вільня, 1926; Беларускі народны каляндар, Вільня, 1927; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Песнябайка», 1930.

Часопіс выйшаў у свет 1 студзеня 1922 г. На гэтай падставе нельга датаваць верш 1922 г. Хутчэй за ўсё верш быў напісаны ў снежні 1921 г.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 191, л. 1); белавы з подпісам: Янка Купала (адз. зах. 190, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Святлоў, на армянскую — М. Херанян, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на чувашскую — А. Кляменцьеў, на польскую — М. Ваўжкевіч.

## 1922

*Перад будучыняй* (с. 106)

Друкуецца па часоп. «Адраджэнне», 1922, № 1, с. 81—82, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Мінск. 24/I-22 г.

Тыраж гэтага нумара быў амаль увесь канфіскаваны.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Захоўваюцца тры аўтографы: два чарнавыя (адз. зах. 219, л. 1—2; адз. зах. 221, л. 1—2); белавы з паметай: Янка Купала. Мінск. 24/I-22 г. (НА РБ, ф. 4, воп. 21, спр. 23, л. 19—21). Чарнавы аўтограф (адз. зах. 219) мае памету: Янка Купала. Мінск, 24/1-22 г. Другі чарнавы аўтограф (адз. зах. 221) без назвы.

Сучасныя крытыкі, напрыклад, У. Гніламёдаў, лічаць, што: «...напісаны 24 студзеня 1922 года славуты верш «Перад будучыняй», у якім ва ўмовах савецкай рэчаіснасці знайшла працяг і развіццё даўняя тэма лёсу народнага, распачатая яшчэ ў «А хто там ідзе?». На гэты раз паэт бачыць, што гістарычны поступ народа прыпыніўся, што яго чакае невядомасць. ...Былая ўпэўненасць у тым, што за рэвалюцыяй, у якой народныя масы атрымаюць перамогу, павінен наступіць перыяд духоўнага адраджэння, знікла.

У вершы праўдзіва адлюстравалася асабістае самаадчуванне аўтара, яго заклапочанасць тым, што адбывалася навокал. Слова вырастала з непасрэдна ім перажываемага. Становішча выглядае горш, чым у «А хто там ідзе?» ... Паэт бачыць, што нацыянальны дух народа застаецца па-ранейшаму скаваны, і думкай яго авалодваюць горкае расчараванне і роспач. ... Вострае адчуванне нацыянальнай абдзеленасці і ўшчамлення зноў становіцца ў Купалы галоўнай рухаючай сілай паэтычнага перажывання і лірычнай рэфлексіі... Вядома, такія творы не маглі спадабацца савецкай уладзе, верш быў забаронены, аднак бальшавікі не трацілі надзею перавыхаваць аблуднага аўтара» (часоп. «Полымя», 1994. № 7. С. 241—242).

Тагачасная крытыка па-іншаму ацэньвала верш.

Так, на пасяджэнні літаратурнай камісіі ЦК КПБ 21—22 снежня 1926 г. на тэму «Аб палітыцы партыі ў галіне мастацкай літаратуры» А. Адамовіч адзначыў, што «дзеля таго, каб ведаць беларускую літаратуру, трэба ведаць гісторыю яе развіцця. Інакш, што нават нядаўна да 20 году была вялікая знявага з боку адпаведных працаўнікоў да беларускае мовы (факты дас.). І вось чаму былі (па нашаму) контррэвалюцыйныя матывы Янкі Купалы як «Перад будучыняй» і інш. пісьменнікаў» (НАРБ, ф. 4, воп. 16, спр. 25, л. 45).

Чарвякоў жа ў сваім выступленні на пасяджэнні Мінскага гарадскога партактыва аб выніках кастрычніцкага пленума ЦК КП(б)Б 30—31 кастрычніка 1930 г. гаварыў: «Нам усім памятны ідэі беларускай нацыянальнай рэспублікі. Такі часопіс «Адраджэнне» (1921—1922 гг.), што ён сабою ўяўляў? Ён уяўляў сабою адкрытае выступленне нацыянал-дэмакратаў сваёй платформай, з сваёй праграмай, з адкрытай праграмай супраць лініі КП(б)Б у нацыянальным пытанні і, наогул, у справе сацыялістычнага будаўніцтва. Гэты часопіс быў канфіскаваны. Хто ўдзельнічаў у гэтым часопісу? Рэдактарам быў Лёсік і іжэ з імі» (НА РБ, ф. 4, воп. 21, спр. 237, л. 106—107).

А Л. Бэндэ ў арт. «Матар'ялы да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» пісаў: «У першыя гады мірнага будаўніцтва Купала, асьлеплены буржуазным нацыяналізмам, усё яшчэ актыўна супроцьстаўляецца ў сваёй творчасці пралетарскай дыктатуры. Найбольш характэрным і буйным творам для гэтага часу з'яўляецца яго п'еса «Тутэйшыя» 1922 г., а таксама вершаваны твор «Перад будучыняй». «Тутэйшыя», «Перад будучыняй» і іншыя творы Купалы з'явіліся нацыяналістычнай рэакцыяй на пралетарскую дыктатуру ва ўмовах пераходу да мірнага будаўніцтва, калі надзеі буржуазных і дробна-

буржуазных нацыяналістычных элементаў на рэстаўрацыю БНР узброеным шляхам былі перавернуты фактам перамогі рабочага класа» (часоп. «Маладняк», 1931. № 5. С. 106, 107).

19 сакавіка 1922 г. на пасяджэнні ў Белдзяржуніверсітэце, прысвечанаму творчасці паэта, Я. Купала прачытаў свой верш «Перад будучыняй».

Верш пераклалі: на англійскую мову ў кн. Антона Адамовіча «Opposition to Sovietization in Belorussian Literature» (Нью-Йорк, 1958), на нямецкую — М. Маскалік, на польскую — Соф'я Баградановічава.

*«Паўстань, праклящцем...»* — словы з «Інтэрнацыянала».

*Кароль* (с. 108)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1922 г.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1922, № 4, чэрвень, дзе надрукаваны з памылковай датай: 15.V.21 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Дашкольны спеўнік», 1928 пад назвай «Пастушок»; зб. «Творы 1918—1928», 1930; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 225, л. 1); перабелены з паметай: Янка Купала. Мінск, 15.V.22 г. (адз. зах. 224, л. 1—2).

Верш пераклалі на рускую мову Н. Кіслік, Г. Сямёнаў.

Ілюстрацыі да твора зрабіў М. Бельскі (да кнігі Я. Купалы «Вершы. Паэмы», 1958).

У зб. «Дашкольны спеўнік», 1928 кампазітар пазначаны ініцыяламі М. Т. М. (магчыма, гэта М. Мацісон).

*«Піць-піць! Піць-піць! — каня кліча»,*— каня, або канюх, птушка, якая ў сухую пагоду, калі доўга няма дажджу, высока лётае і крычыць жаласліва. Людзі тады кажуць, што «каня піць просіць, каня дажджу просіць». Па народнай легендзе, гэта птушка была праклята Богам і назначана вечна прагнуць за тое, што з гультайства і себялюбства адмовілася ад агульнай работы — «дабывання вады».

*Ад мінскіх дзяцей* (с. 110)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе надрукаваны з паметай: Мінск, 1923 г.

Радок 32 рэдкалегіяй Зб. тв. 1961—1963 слушна выпраўлены па аўтографе і першадруку. У асноўным тэксце было: *Жыць хочам на свеце.*

У прыжыццёвых выданнях 1923 годам датуецца памылкова.

Захоўваюцца наступныя аўтографы: чарнавы № 1 з паметай: Я. Купала. 7.XII.22 г. (адз. зах. 235, л. 1), чарнавы № 2 (адз. зах. 236, л. 1), белавы (адз. зах. 234, л. 1—2). У белавым аўтографе пад кожнай часткай подпіс: Янка Купала.

Верш пераклаў на рускую мову А. Андрэеў.

*На прывітанне IV Усебеларускага з'езда Саветаў* — IV Усебеларускі з'езд Саветаў, на якім была прынята дэкларацыя аб неабходнасці ўтварэння Саюза ССР, адбыўся 14—18 снежня 1922 г. у Мінску. У каментарыях Зб. тв., 1953, т. 4, с. 385 памылкова адзначаецца, што IV Усебеларускі з'езд Саветаў пачаўся 14 снежня 1921 г.

*Пазвалі вас* (с. 111)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе датуецца 1922 г.

Упершыню — зб. «Безназоўнае», 1925.

Верш уключаўся ў зб. «Безназоўнае», 1928.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Верш напісаны ў сувязі з запрашэннем У. І. Леніна на міжнародную Генуэзскую канферэнцыю, 1922.

Напісаны класічнай квінцілай — пяцірадковай страфой з арыгінальнай рыфмоўкай: аббаа. Такую форму страфы Я. Купала выкарыстаў толькі ў гэтым вершы (ЭД. С. 452—453).

Верш атрымаў ацэнку тагачаснай крытыкі.

Так, Ц. Гартны (З. Жылуновіч) у крытыка-біяграфічным нарысе «Янка Купала — пясняр вызвалення» пісаў: «Гэтак Янка Купала кажа пра Леніна працоўным гушчам, ад якіх т. Леніна заклікалі буржуазныя ўладары Еўропы на Генуэзскую нараду ў 1921 годзе. І ў вершы «Пазвалі вас», які прысвечаны гэтаму здарэнню, пыхае полымем уся многахварбоўнасць вобразу перамогі Кастрычніка. Поўная ўрачыстасць стану запанаваўшай рэвалюцыі» (зб. «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы», Мн., 1928. С. 38).

А. Платун у дакладзе «Становішча культурнага сацыялістычнага будаўніцтва ў БССР», зробленым на X Усебеларускім з'ездзе Саветаў, гаварыў: «У 1921 годзе на Генуэзскую канферэнцыю быў запрошаны т. Ленін. І вось на гэтыя запросіны Янка Купала ў 1922—23 гг. напісаў верш пад назвай «Пазвалі вас». З гэтага вершу відаць, што Янка Купала не агітуе за савецкую ўладу, за бальшавікоў, а агітуе супроць пралетарскай дыктатуры. Такіх вершаў у Янкі Купалы можна знайсці шмат» (часоп. «Камуністычнае выхаванне», 1931. № 2. С. 10).

А. Сянкевіч жа ў арт. «Класавая барацьба ў беларускай літаратуры» пісаў: «Тайная ўсмешка адчуваецца і ў вершы Купалы, напісаным з прычыны запрашэння тав. Леніна на Генуэзскую канферэнцыю ў 1921 г.» (часоп. «Бальшавік Беларусі», 1930. № 8—9. С. 22).

А Л. Бэндэ ў арт. «Творчы шлях Янкі Купалы» адзначаў: «У 1922 г. паэт выступае з вершам «Пазвалі вас», да якога дае эпіграф: «Еўрапейскія дзяржавы пастанавілі запрасіць на міжнародную нараду ў Геную тав. Леніна (з газет 1921 г.)». У гэтым вершы паэт ярка выяўляе саваё па сутнасці зменавехаўскае разуменне пралетарскай дыктатуры і свае адносіны да яе... Гэты верш надзвычай характэрны. У ім выказаны думкі, разуменні і настроі не толькі аднаго паэта, а і настроі цэлай групы буржуазнай інтэлігенцыі. Настроі і думкі, выяўленыя ў вершы «Пазвалі вас», цалкам і поўнасцю супадаюць з тымі думкамі, якія выказаў Устралаў, якія абнадзейвалі капіталістычныя элементы» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935. № 10. С. 130—131).

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на англійскую — кн. А. Адамовіча «Opposition to Sovietization to Belorussian Literature» (Нью-Йорк, 1958).

*...на міжнародную нараду ў Геную...* — Генуэзская канферэнцыя, 1922, міжнародная канферэнцыя па эканамічных і фінансавых пытаннях, якая праходзіла ў Генуі 10.IV—19.V.1922 г. Удзельнічалі прадстаўнікі 29 краін, у т. л. Сав. дзяржавы. Сав. дэлегацыю ўзначальваў Г. В. Чычэрын.

*Пад рогат піравых пабед* — Пір (319—273 гг. да н. э.), цар Эпіра (з 307 г. да н. э.), найбольш вядомы палкаводзец эліністычнай эпохі. У 280 г. разбіў войска рымлян каля Гераклеі. У 279 г. зноў перамог рымлян цаной вялікіх страт (адсюль выраз — пірава перамога).

*З песень мужычых* (с. 113)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Спадчына», 1922.

Датуецца годам апублікавання.

У зб. «Выпісы з беларускае літаратуры», Мн., 1923 друкаваўся пад назвай «З песняў мужыцкіх». Таксама змешчаны: Беларускі дэкламатар, Мн., 1924; Выбр. тв., 1935, т. 2.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Браўн і М. Сідарэнка, на ўкраінскую — М. Лешчанка, на таджыкскую — М. Фархат, на чэшскую — К. Беднарж.

*«Можам часта мы плакаць...»* (с. 113)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Спадчына», 1922.

Датуецца годам апублікавання.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Песня* (с. 114)

(«Гнаны Янка доляй...»)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Спадчына», 1922.

Датуецца годам апублікавання.

Твор уключаўся ў Выбр. тв., 1935, т. II.

Верш пераклалі: на ўкраінскую мову — С. Крыжаніўскі, на казахскую — К. Жумагаліеў.

*Няма грошы* (с. 114)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Спадчына», 1922.

Датуецца годам апублікавання.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Белавы аўтограф (адз. зах. 119) не падзелены зорачкамі і не ва ўсім супадае з асноўным тэкстам.

Верш пераклаў на рускую мову Б. Цімафееў.

*Душачка, шынкарка...* (с. 116)

Друкуецца па Зб. тв., 1928, т. V.

Упершыню — зб. «Спадчына», 1922.

Датуецца годам апублікавання.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Машынапіс з праўкамі аўтара (адз. зах. 122) і белавы аўтограф (адз. зах. 123) не ва ўсім супадаюць з асноўным тэкстам.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на польскую — Э. Карпук.

## 1923

*Крым* (с. 117)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Радавая рунь» (дадатак да газ. «Савецкая Беларусь»), 1924, № 1, 13 крас., два першыя раздзелы з паметай: Крым — Гаспра 16-IX-1923 г.; цалкам — зб. «Творы 1918—1928», 1930 з паметай: 16.IX-1923 г. Крым. Гаспра.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928 (першыя два раздзелы); зб. «Адцвітанне», 1930 (1-я частка верша); зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937 (цалкам).

У прыжыццёвых выданнях, мабыць, з-за друкарскай памылкі верш датуецца 16 верасня 1923 г. На самой справе твор напісаны 16.XI.23 г., калі Я. Купала лячыўся ў санаторыі «Гаспра».

Захоўваюцца аўтографы: чарнавы (адз. зах. 233, л. 1); чарнавы першага раздзела (адз. зах. 230, л. 1), чарнавы другога і трэцяга раздзелаў (адз. зах. 231, л. 1); белавыя з паметай: Янка Купала. Крым. Гаспра. 16.XI.23 г. (першы раздзел адз. зах. 229, л. 1; другі раздзел адз. зах. 228, л. 1; трэці раздзел адз. зах. 232, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — Э. Багрыцкі, Д. Бродскі, А. Пракоф'еў, на ўкраінскую — М. Нагнібеда, А. Юшчанка, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на туркменскую — А. Ніязаў, на чувашскую — А. Эсхель, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Цішку Гартнаму* (с. 118)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1923, № 286, 14 снеж.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: кн.: Цішка Гартны: На дзень пятнаццацёх гадовага юбілею яго літаратурнай працы (1908—1923). Мн., 1923; зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; Дэкламатар, 1928; Заря Запада, 1928, 15/XII; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

У прыжыццёвых выданнях, мабыць, з-за друкарскай памылкі верш датуецца 21/IX-1923 г. На самой справе твор напісаны 21/XI-1923 г.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы без загалоўка і прысвячэння (адз. зах. 227, л. 1) і перабелены з прысвячэннем і з паметай: Янка Купала. Мінск. 21.XI.23 г. (адз. зах. 226, л. 1).

14 снежня 1923 г. твор быў прачытаны Я. Купалам на юбілейным вечары Ц. Гартнага (15-годдзе літаратурнай дзейнасці).

Верш пераклалі: на рускую мову — Г. Сямёнаў, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Гартны Цішка* (сапр. Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; 1887—1937), беларускі пісьменнік, грамадскі і дзяржаўны дзеяч. Акадэмік АН Беларусі. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1908 г.

*Арлянятам* (с. 119)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — першы раздзел пад загалоўкам «Арлянятам» у часоп. «Маладняк», 1923, № 1; другі пад загалоўкам «Вам...» у часоп. «Маладняк», 1924, № 2—3; упершыню цалкам — зб. «Безназоўнае», 1925.

Радок 7 рэдкалегіяй Зб. тв. 1961—1963 гг. слушна выпраўлены па аўтографе і першадруку. У асноўным тэксце было: *Для вякоў дыктуйце новых.*

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Маладняк» Янку Купалу, Мн., 1925; Малады араты, 1925, № 5; кн. «Камсамолія», Мн., 1927; Дэкламатар, Мн., 1928; Беларуская вёска, 1930, 22 мая; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937, дзе ў радку 69, відаць, друкарская памылка: замест «неспыняны» надрукавана «няспынны»; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Песня-байка», 1930; зб. «Песня будаўніцтву», 1936; зб. «Дашкольны спеўнік», 1928 (2 страфы 2-й часткі пад назвай «Серп і молат»; пазначаны кампазітар М. Т. М. (мабыць, Мацісон); літаратурны альманах на ўкр. мове «Нова Білорусь» (Харкаў), 1929, 1-я частка (перакл. В. Палішчук); газ. «Вечерняя Москва», 1930, 14 мая (перакл. У. Раждзественскі).

Захоўваюцца аўтографы: чарнавы аўтограф першага і другога раздзелаў (адз. зах. 239, л. 1; адз. зах. 238, л. 1—2), белавы другога

раздзела пад загалоўкам «Вам» і з паметай: Янка Купала. 1923 г. (адз. зах. 237, л. 1—3), пятай (адз. зах. 241, л. 1) і шостай (адз. зах. 240, л. 1) строф першага раздзела.

Верш прысвечаны стварэнню масавай літаратурнай арганізацыі «Маладняк» (1923).

18 снежня 1923 г. Я. Купала чытаў свой верш на вечары «Маладняка», арганізаваным ЦК ЛКСМБ у гонар часоп. «Маладняк».

П. Броўка ў вершы «Янку Купалу» (1932) пісаў: «Вы клікалі нас, маладых арлянят, па песню, па сонца, па шчасце камуны».

Верш атрымаў станоўчую ацэнку пісьменнікаў і крытыкаў розных літаратурных поглядаў.

Так, паводле слоў А. Луначарскага, у творы цалкам адлюстравалася «сучасная рэвалюцыйная радасць» паэта (газ. «Известия», 1930, № 132, 15 мая).

А Л. Бэндэ ў арт. «Творчы шлях Янкі Купалы» пісаў: «Аднак самым выдатным і самым моцным творам Купалы не толькі 1923 г., але ўсяго аднаўленчага перыяду, з'яўляецца верш «Арлянятам»... Талант Купалы ў гэтым вершы зноў блішчыць ва ўсёй сваёй красе. Верш «Арляняты» цалкам сугучны настроям шырокіх працоўных мас Беларусі, ён у сапраўды мастацкіх вобразах адлюстроўвае іх пачуцці і імкненні» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 10. С. 135—136).

З. Жылуновіч (Ц. Гартны) у артыкуле «Рэвалюцыйным шляхам» адзначаў: «У той жа час Янка Купала ў сваім памятным вершы «Арлянятам» выказаў ім сваё братэрскае ўшанаванне. Ён як бы блаславіў іх на ўдзячную адказную працу. М. Чарот захапіўся настроем гэтае працы, дакрануўшыся яе маладых купінкаў, пушыстае руні...» (часоп. «Полымя», 1928. № 3. С. 161).

А. Кучар у арт. «Янка Купала» пісаў: «Здаровая тэндэнцыя ідзе праз вершы «Арлянятам», «Дзве сястры» і інш.» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1932. № 3. С. 142).

Л. Бэндэ ў «Матар'ялах да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» пісаў: «Твор «Арлянятам» са здаровым зместам паслабіўся ў свой час творам «Безназоўнае», а твор «Дзве сястры» — глыбока ўпадніцкімі вершамі «У лесе», «Па Даўгінаўскім шляху», «Каб» (часоп. «Маладняк», 1931. № 5. С. 110).

У гэтых жа «Матар'ялах...» Л. Бэндэ адзначаў і наступнае: «Творчасць Купалы за аднаўленчы перыяд характарызуецца не толькі творам «Безназоўнае» ... але і творам «Арлянятам», які з'яўляецца выяўленнем уплыву пралетарыяту на Купалу...» (часоп. «Маладняк», 1931. № 5. С. 109).

Л. М. Клейнбарт: «И он пишет на смерть Булата, приветствует Тишку Гартного, в своем стихотворении «Арлянятам» воспевает коммунистическую молодёжь. «Вам серпы и косы в руки далі буры, что бушевали здесь над вами»,— обращается поэт к этим орленятам. Так смотрите ж, «цень мінуўшчыны праклятай, дзе бізун гуляў з нагайкай, змяціце вы, арляняты, сваёй новай сілай, байкай». Он держится, видимо, того мнения, что революция разрешила белорусскую проблему, слив национальный момент с социальным» (Л. М. Клейнборт. Молодая Белоруссия: Очерк современной белорусской литературы 1905—1928 гг. Мн., 1928. С. 202).

Верш «Арлянятам» А. Якімовіч назваў «папулярным рэвалюцыйным гімнам усёй нашай савецкай моладзі» (асабісты архіў А. Якімовіча).

Я. Колас у арт. «Янка Купала і яго паэзія: Да гадавіны з дня смерці» пісаў: «Горача і любоўна вітае ён маладое, камсамольскае пакаленне і прысвячае яму цудоўны верш «Арлянятам» (Я. Колас. Зб. тв.: У 14 т. Мн., 1976. Т. 11. С. 316).

П. Пестрак: «І таму, якія б ветры ні дзьмулі над нашай Радзімай, творчасць Янкі Купалы заўсёды будзе на ўзбраенні народа, каб не аддаць ворагу вялікіх заваяванняў нашай сонечнай свабоды. Аб гэтым зноў-такі па-народнаму паклапаціўся наш незабыўны пясняр у вершы «Арлянятам» (П. Пестрак. Зб. тв.: У 5 т. Мн., 1986. Т. 5. С. 212).

А. Вялюгін: «Тым, хто нарадзіўся пасля Кастрычніка, з калыскі вядомы радасныя, нібы першыя вясновыя грымоты, словы з верша «Арлянятам»...» (цыт. па кн.: Янка Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта. Мн., 1955. С. 278).

У дакуменце бюро ЦК «О белорусской художественной литературе» (НА РБ, ф. 4, воп. 7, спр. 156, л. 66—69) і ў службовай запісцы на бланку Народнага камісарыята асветы (НА РБ, ф. 4, воп. 7, спр. 156, л. 37—51) канца 1928—1929 гг. адзначаецца: «Янка Купала (нар. поэт БССР). Принял Октябрь после окончательного утверждения Советской власти, после этого он дал ряд высокохудожественных боевых современных стихотворений («Арлянятам» и др.). В последние 2 года занят подготовкой к изданию своих произведений и нового почти ничего не пишет».

У каментарыях Зб. тв., 1953, т. 4, с. 385 адзначаецца, што раздзелы верша, відаць, пісаліся ў розныя часы і друкаваліся спачатку як асобныя творы. Гэта меркаванне зроблена на падставе таго, што раздзелы верша друкаваліся ўпершыню ў розных нумарах часоп. «Маладняк» і за розныя гады пад асобнымі назвамі (гл. рубрыку — Упершыню...).

«Гэй, узвейце сваім крыллем, // Арляняты, буйна, бурна // Над мінулых дзён магілай // Над санлівасцю хаўтурнай!» — гэтыя словы ўзяты эпіграфам да арт. С. Ліхадзіеўскага пра Я. Купалу «Любоў арлянят» (БДАМЛіМ, ф. 12, воп. 1, спр. 752, л. 10).

Верш цытуецца ў тэлеспектаклі пра Купалу «Песня сонцу» да 75-годдзя з дня нараджэння паэта (ліпень 1957 г.) (БДАМЛіМ, ф. 129, воп. 2, спр. 141, л. 13).

У 1952 г. А. Якімовіч выдаў кн. «Арлянятам», узяўшы назву і эпіграф з купалаўскага твора.

З вершам «Арлянятам» пераклікаюцца творы В. Маракова «Белае зімняе поле», «Жыццё за нас», «На дарозе», П. Труса «Ой, не явар у соннай даліне» (у многіх выданнях стаіць «Прысвячаецца Я. Купале»), М. Чарота «Маладняк».

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Гольдберг, Н. Кіслік, У. Раждзественскі, на ўкраінскую — М. Нагнібеда, В. Палішчук (ч. 1), на армянскую — Н. Зар'ян, на асецінскую — А. Пухаеў, на грузінскую — Іасамані, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, на латышскую — Ю. Ванаг, М. Рудзіціс, на літоўскую — А. Венцлава, на таджыкскую — М. Фархат, на ўзбекскую — Міртэмір, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч, на балгарскую — Л. Любенаў, на венгерскую — Л. Кардаш, на польскую — Р. Гажэльскі, на французскую — Ж. Гаш.

На музыку паклалі М. Анцаў (хор «Серп і молат»), М. Мацісон (пад назвай «Серп і молат»), І. Троска, М. Чуркін.

Верш ілюстравалі: Л. Прагін, С. Раманаў (зб. Я. Купалы «Славуты домік», 1948), Я. Чарняцкі (зб. Я. Купалы «Вершы і паэмы», М., 1982).

*Дзве сястры* (с. 122)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — часоп. «Беларуская работніца і сялянка», 1924, № 1, дзе надрукаваны з паметай: Мінск. 6.X.24 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Беларуская вёска», 1925, 3 сак.; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Песня-байка», 1930; зб. «Песня будаўніцтву», 1936; «Советская Белоруссия», 1936, 8.III (перакл. В. Наседкін); зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. 3.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы без загалоўка (адз. зах. 251, л. 1) і перабелены з подпісам: Янка Купала (адз. зах. 250, л. 1—2).

Л. Бэндэ ў «Матар'ялах да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» наступным чынам ацаніў купалаўскі твор:

«Верш выяўляе ідэю саюзу рабочага класа з сялянствам, ускрываючы ўмовы жыцця работніцы і сялянкі ў старыя часы... Калі ён бярэ работніцу і сялянку, заклікае іх у саюзе будаваць новую гаспадарку, дык з поля зроку паэта знікае кіруючая сіла ў гэтым саюзе (рабочы клас, у тым ліку і работніца). Работніца і сялянка паводле паэта ёсць проста дзве сястры. Як тая,так і другая раней жылі ў дрэнных умовах, а каб стварыць лепшыя ўмовы, трэба будаваць лепшую гаспадарку. А тое, што работніца ёсць член кіруючай сацыялістычным будаўніцтвам рабочага класа, гэта паэт адчуў недастаткова» (часоп. «Маладняк», 1931. № 5. С. 109—110).

Верш пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі, А. Пракоф'еў, В. Наседкін, на ўкраінскую — М. Цярэшчанка, на грузінскую — Г. Квеліяшвілі, на казахскую — К. Жумагаліеў, Ж. Кашкінаў, Т. Малдагаліеў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на таджыкскую — М. Фархат, на балгарскую — Л. Любенаў.

Ілюстраваў твор М. Бельскі (кн. Я. Купалы «Вершы. Паэмы», 1958).

*Наш летапісец* (с. 123)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе апублікаваны з прысвячэннем У. М. Ігнатоўскаму і з паметай: 12-XI-1924 г. Мінск.

Упершыню — «Полымя», 1924, № 4, дзе надрукаваны з тымі ж прысвячэннем і паметай.

У пасмяротных выданнях прысвячэнне адсутнічала. Зараз яно ўзнаўляецца.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваюцца аўтографы: чарнавы без чацвёртай і шостай строф (адз. зах. 247, л. 1); чарнавы першых дзвюх строф (адз. зах. 248, л. 1); чарнавы чацвёртай і шостай строф (адз. зах. 249, л. 1); перабелены з прысвячэннем: Пасвячаю У. Ігнатоўскаму і з паметай: Янка Купала. Мінск. 10/XI.24 г. (адз. зах. 246, л. 1).

Верш пераклаў на рускую мову В. Карчагін.

*Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч* (1881—1931), беларускі гісторык і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН Беларусі і АН Украіны. У 1929—1931 гг. прэзідэнт АН Беларусі. Быў знаёмы з Купалам у пачатку 1920-х гг. Друкаваўся ў часоп. «Рунь», які рэдагаваў паэт.

*«...О так! Я — пралетар!..»* (с. 124)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе датуецца 1924 г.

Упершыню — зб. «Безназоўнае», 1925.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1928; літаратурны альманах на ўкр. мове «Нова Білорусь» (Харкаў, 1929; перакл. Т. Масэнка); «Калоссе», Вільня, 1935, кн. 4; «Культура і побут», 1928, № 10 (на ўкр. мове, перакл. Т. Масэнка).

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 242, л. 1), белавы аўтограф з датай 1923 г. і подпісам: Янка Купала.

Вельмі цікавую ацэнку, на наш погляд, атрымаў верш у тагачасных крытыкаў.

Так, А. Навіна (А. Луцкевіч) у арт. «Напевы ліры Янкі Купалы» пісаў: «Сіла — усюды пануе ў роднай старонцы збуджаная сіла працоўных. І ў захапленні гэтай сілай Купала — гэты сын зямлі, сын беларускай вёскі, які распачаў сваю песнярскую працу сумаваннем па сваёй зямлі — сваім загоне ўласным,— узыходзе на шлях пралетарскі і з вялічэзнай гордасцяй абвяшчае сваё найнавейшае «Credo»:

...О так! Я — пралетар!..
Яшчэ учорах раб пакутны —
Сягоння я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!
Мне бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі.

«Сны аб Беларусі...» — Што за сны, аб якой Беларусі? Чаму яны залічаны Купалай да бед? — Бо парэзана Беларусь гранічнымі межамі, бо ёсць сягоння не адна суцэльная вольная Беларусь, ▪ дзве розныя Беларусі — з такой рознай доляй...» (у кн.: А. Навіна. Адбітае жыццё. Кн. 1. Вільня, 1929. С. 57).

Той жа А. Навіна ў працы «Янка Купала як прарок адраджэння» адзначаў: «О, не! Дасягнуўшы здзяйснення ідэалу сацыяльнага вызвалення для часткі Беларусі, прыждаўшы і частковае рэалізацыі ідэалу нацыянальнага, Купала бачыць, што барацьба яшчэ не скончана, а праца над будаваннем новага жыцця толькі пачалася. І гэту думку ў зборніку «Безназоўнае» пясняр наш выказвае ў пачатковым вершы «Я пралетар»... Як жа красамоўныя гэтыя «сны аб Беларусі»! Купала — сябра інтэрнацыянальнага грамадзянства, якое творыцца на нашых вачах,— не лічыць сваёй нацыянальнай місіі закончанай. Пасля чвэрцьвяковае бязупыннае творчае працы ён яшчэ не можа спакойна супачыць на заслужаных лаўрах. Яго трывожаць «сны аб Беларусі», якая і ў гэтым новым грамадзянстве Інтэрнацыяналу астаецца нейкім пасынкам сярод родных дзяцей. Дык і мусяць сніцца Купале абразы поўнага здзяйснення яго ідэалу Адраджэння,— здзяйснення да канца. Але — на паперу яны ўжо не выліваюцца і — здаецца, не выллюцца. Іх даспявае хіба новае, маладое пакаленне песняроў беларускіх, аб якіх маем поўнае права сказаць, што яны ўсе — у большай ці меншай меры — духоўныя дзеці Янкі Купалы. Слова за імі!» (Вільня, 1932. С. 15—16).

А ўжо А. Сянкевіч у арт. «Класавая барацьба ў беларускай літаратуры» паглядзеў на верш крыху з іншага боку: «У 1925 г. выдадзен зборнік твораў Купалы пад назвай «Безназоўнае». Возьмем хоць бы першы верш («...О так! Я — пралетар!..» — *А. Ш.*), якім пачынаецца гэты зборнік... А. Бабарэкам у той час, калі ён стаяў яшчэ на пазіцыях «Маладняка», зусім правільна заўважана, што ў гэтым вершы гучыць тайная ўсмешка» (часоп. «Бальшавік Беларусі», 1930. № 8—9. С. 21—22).

Сучаснік Я. Купалы, паэт і перакладчык А. Пракоф'еў у арт. «Слова пра веліч таленту» пісаў: «Калі б ад Янкі Купалы астаўся адзін радок «Мне сняцца сны аб Беларусі», то я ўсё роўна сцвярджаў бы, што гэта паэт магутны, народны» («Литературная газета». 1962. 5 ліп.). Гэта ўжо пасмяротная ацэнка цікава тым, што разглядаецца не ўвесь верш, а толькі адзін яго радок, і не з палітычнага, а з паэтычнага пункту гледжання.

А Б. Сачанка яўна ж не без уліку ўсіх вядомых яму папярэдніх ацэнак твора ўбачыў, што: «У ім, гэтым вершы,— глыбокі, не ўсімі яшчэ і сёння зразуметы сэнс, веліч, боль і трагедыя многіх, уключаючы і самога нашага вялікага песняра...» (Б. Сачанка. Сняцца сны аб Беларусі... Мн., 1990. С. 157).

У зб. «Янка Купала і Якуб Колас на Захадзе: Бібліяграфія» (Нью-Йорк, 1985. С. 137) адзначаецца пра верш наступнае: «І балонка малога памеру. Падпісаны: Янка Купала і датаваны 1923 годам. Упершыню верш быў надрукаваны ў зборніку «Безназоўнае», 1925 г. у крыху змененай версіі. Рукапіс перахоўваецца ў архіве Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Йорку». Восенню 1986 г. Я. Запруднік перадаў у Літаратурны музей Янкі Купалы белавы аўтограф верша з подпісам: Янка Купала і датай: 1923 г. Крыху змененая версія датычыцца 7-га радка (гл. раздзел «Іншыя варыянты і рэдакцыі»).

А Г. Колас, працуючы з дакументамі па творчаму і жыццёваму лёсу Я. Купалы, у артыкуле «Лёс Купалы — міфы і рэальнасць» наогул выказаў наступнае меркаванне: «...Перакладчык Ванкарэм Нікіфаровіч неяк, напярэдадні свайго ад'езду ў ЗША, пачаў даводзіць мне, што быццам у аўтографе Купалавага «Пралетара» ўся галоўная ідэя выяўляецца не праз парадак слоў, ■ перш за ўсё праз інтанацыю, і што яна трымаецца ў аўтографе не на шматкроп'ях з клічнікамі, да якіх прывык наш зрок (маўляў, іх нехта ўвёў пазней), а на Купалавых пытальніках: «О так? Я — пралетар? Яшчэ ўчорах — раб пакутны?»,— і так далей. Не верачы сваім вушам, я кінуўся адразу ж у Купалаўскі музей, каб пазнаёміцца з аўтографам на свае вочы. Зжоўклы аркуш з абсалютна выцвілымі літарамі. Знакі не чытаюцца зусім (са знакамі прыпынку абыходзіўся Купала, мякка кажучы, увогуле без лішніх піетэтаў).

Сёння нам нічога іншага не застаецца, як паверыць першай прыжыццёвай публікацыі — у зборніку пад назвай «Безназоўнае» (1925). Там знакі ўсе стаяць па сваіх месцах, пачынаючы з уступнага шматкроп'я, з клічнікамі і працяжнікамі,— як і ў сённяшніх выданнях. Перакладчыку — «прымроілася»? Мабыць, так. Аднак чамусьці той «прымройны» пераклад «на ванкарэмаўскую» пунктуацыю засеў у маёй памяці. Мо з-за таго, што ён нацэльвае на палемічны пафас верша,— толькі трэба ўсе пытальнікі, якія Ванкарэму мроіліся нездарма, перамясціць ва ўступнае Купалава шматкроп'е: вершу папярэднічае шматпакутная палеміка Купалы з Кнорыным, Фрунзе ды Мясніковым, і вось, нарэшце, вылілася,— добра, хай па-вашаму, дапусцім, наце, вось я — янычар, але ж, шаноўныя, ведайце: мне сняцца сны аб Беларусі!» (часоп. «Полымя», 1994. № 10. С. 216).

У фондзе 726 А. А. Пракоф'ева (Інстытут рускай літаратуры (Пушкінскі дом) захоўваецца чарнавы аўтограф верша А. Пракоф'ева «Беларусі», у эпіграфе да якога — радок з верша Я. Купалы.

Словамі «Мне сняцца сны аб Беларусі» з купалаўскага твора заканчваецца верш А. Вольскага «Пасля вахты», прысвечаны Я. Купалу.

Верш пераклалі: на рускую мову — Р. Куранёў, Г. Сямёнаў, на ўкраінскую — Р. Лубкіўскі, Т. Масэнка, на асецінскую — А. Пухаеў, на малдаўскую — П. Дарые, на англійскую — У. Мэй, на польскую — А. Баршчэўскі, Ю. Ленарт.

На музыку паклаў Дз. Смольскі (араторыя «Паэт»).

Б. Цітовіч зрабіў застаўку да верша (у кн.: Я. Купала. «Песня ў імя свабоды». Кішынёў, 1982, на малд. мове).

*Для насценнай газеты БДзВ* (с. 125)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — зб. «Творы 1918—1928», 1930, дзе датуецца 1924 г. У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Верш прысвечаны Беларускаму дзяржаўнаму выдавецтву, дзе працаваў рэдактарам паэт.

Захоўваюцца аўтографы: чарнавы першай часткі без загалоўка (адз. зах. 247, л. 1), чарнавы другой часткі з загалоўкам «Безнадзейнае маленне да нашага праўлення» (адз. зах. 245, л. 1); белавы першай часткі з закрэсленым подпісам «Помсценкор» (адз. зах. 243, л. 1) і машынапісны тэкст другой часткі з закрэсленым подпісам «Каб на сцяну хоць выліць гора, падаў у газету помсценкора» (адз. зах. 5-д, л. 1).

Вытрыманы ў інтанацыйнай і рытміка-стылявой манеры рускага паэта А. В. Кальцова (у прыватнасці, верша А. В. Кальцова «Што ты спіш, мужычок?»).

## 1925

*Шляхам гадоў* (с. 127)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1925, № 117, 28 мая, дзе надрукаваны з прысвячэннем: «Ад шчырага сэрца пасвячаю ўсім, хто добрым словам успомніў мяне ў дзень юбілею» і з паметай: Мінск, май 1925 г.

Твор напісаны з нагоды 20-годдзя літаратурнай дзейнасці паэта.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Маладняк» Янку Купалу. Мн., 1925; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваюцца два чарнавыя аўтографы: адзін з падзагалоўкам «На свой юбілей», напісаны на бланках тэлефанаграмы (адз. зах. 252, л. 1—6), другі без падзагалоўка (адз. зах. 253, л. 1—5).

Янка Купала чытаў верш 28 мая 1925 г. у Інбелкульце на пасяджэнні секцыі беларускай мовы і літаратуры і 23 чэрвеня 1925 г. на агульнагарадскім вечары ў БДТ, якія былі прысвечаны 20-годдзю літаратурнай дзейнасці паэта.

Захаваліся цікавыя ўспаміны П. Глебкі: «У тым жа годзе ўлетку я меў шчасце ўпершыню слухаць выступленне паэта. Гэта было ў час яго дваццацігадовага юбілею, у зале Дома прафсаюзаў. Іван Дамінікавіч быў моцна ўсхваляваны павіншаваннямі і гаварыў вельмі мала, а прачытаў сваім пявучым голасам вялікі верш «Шляхам гадоў» (у кн.: Янка Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта. Мн., 1955. С. 238—239).

Верш пераклалі: на рускую мову — А. Чывіліхін, на марыйскую — М. Казакоў (урывак з верша).

Твор цытуецца ў артыкуле Ц. Гартнага «20 год літаратурнай дзейнасці» (часоп. «Молодняк», Харкаў, 1928. № 12. С. 67) і ў рэдак-

цыйным артыкуле да 20-годдзя творчай дзейнасці Я. Купалы ў газ. «Крыніца», 1925. № 26, 14 чэрв.

*Перш-наперш дзевяцьсоты пяты год, калі законы Расійскага цара на вісельню вялі // Дзяцей скаваных Беларускае зямлі* — з «крывавай нядзелі» (9 студзеня) у Пецярбурзе пачалася першая рэвалюцыя ў Расіі. На працягу ўсяго 1905 г. праходзілі забастоўкі, стачкі рабочых, хваляванні сялян і на Беларусі. Царскімі войскамі разганяліся дэманстрацыі і мітынгі ў Віцебску, Полацку, Смаргоні, расстрэльваліся сяляне ў вёсцы Кішчыцы (Шклоўскі р-н), у вёсках Опаль і Лядавічы (Іванаўскі р-н) і г. д. А 31 кастрычніка ў Мінску адбыўся курлоўскі расстрэл, у выніку чаго больш за 80 чалавек забіта і некалькі соцень паранена.

*А там — рэакцыя, чарнейшая ад ночы* — панаванне рэакцыі (1908—1910) пасля паражэння рэвалюцыі 1905—1907 гг.

*Што людзі «лепшыя», як зблукшая айца, // Той за маскоўскім, іншы за варшаўскім раем...* — паэт мае на ўвазе людзей, якія ў гады цяжкага сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту (пасля рэвалюцыі 1905—1907 гг.) Беларусі сваёй дзейнасцю дапамагалі рускаму самаўладству ці польскаму панству праводзіць палітыку нацыянальнага прыгнечання.

*Год чатырнаццаты абліў крывёй зямлю* — 1 жніўня 1914 г. Германія аб'явіла вайну Расіі, пачалася 1-я сусветная вайна.

*І рухнула вайна цароў за царскія кароны ∞ чырвоны сцяг узняўся над Масквой* — 1917 г.— адбыліся Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі. 2(15) лістапада 1917 г. у Маскве была ўсталявана савецкая ўлада. А з 12 сакавіка 1918 г. Масква стала сталіцай.

*«Паўстань, пракляццем катаваны!»* — словы з «Інтэрнацыянала».

*Ад трэціх жа гранічны слуп нас аддзяляе* — маецца на ўвазе Рыжскі дагавор 1921 г., калі Заходняя Беларусь адышла да Польшчы.

*Адшчапенцам (заходнім)* (с. 129)

Друкуецца па зб. «Безназоўнае», 1928.

Упершыню — зб. «Безназоўнае», 1925.

Датуецца годам апублікавання.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

## 1926

*Сей, вольны сейбіт!* (с. 132)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1926 г.

Упершыню — газ. «Беларуская вёска», 1926, № 27, 21 сак. Нумар прысвечаны 5-гадоваму юбілею газеты.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: «Беларуская вёска», 1930, 24 мая; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Напісаны ў сувязі з пяцігадовым юбілеем газеты «Беларуская вёска» (сялянская газета; з 1921 па 1924 г. выходзіла пад загалоўкам «Белорусская деревня», з 1925 па 1930 г. на беларускай мове пад назвай «Беларуская вёска»; у газеце былі надрукаваны некаторыя творы Янкі Купалы.

Верш пераклалі на рускую мову М. Камісарава, І. Шклярэўскі.

*Акоў паломаных жандар...* (с. 133)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1926, № 134, 16 чэрв., дзе надрукаваны пад рубрыкай: «Ці мае беларускі народ сваю мову і культуру», з паметай: Акопы 5.VI-1926 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: кн. «Наддзвінне», Полацк, 1926; «Наш працаўнік», 1926, 20 чэрв.; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь», 1993).

Захоўваецца аўтограф з паметай: Янка Купала. Акопы, 5/VI-26 г. (адз. зах. 155, л. 1—2), які пачынаецца з шостай страфы.

У газ. «Савецкая Беларусь», 1926, № 134, 16 чэрв. адразу пасля верша ідуць наступныя радкі: «У № 109 нашай газеты ад 16 мая г. г. быў змешчаны артыкул «Вражда из-за языка», у якім аўтар «Белорусс» адмоўна адказваў на вышэй памянёнае пытанне — не згаджаўся з нацпалітыкай кампартыі і савецкай улады, пратэставаў проці яе. На гэты артыкул быў дадзены адказ у тым самым нумары газеты. Цяпер рэдакцыя атрымоўвае многа водгукаў на яго ад беларускай інтэлігенцыі ў выглядзе рэзалюцыяў сходаў працаўнікоў асветы, артыкулаў і г. д. Не маючы магчымасці змясціць увесь гэты матэрыял, мы час ад часу друкуем частку яго ў скарачэнні». Пасля гэтых радкоў ідуць водгукі на артыкул «Белорусса» настаўніцы Р., настаўніка Я. Цвіркі, агульнага сходу настаўнікаў Полацка.

В. Рагойша ў каментарыі да верша лічыць, што артыкул «Вражда из-за языка» напісаны двума полацкімі вялікадзяржаўнымі шавіністамі — царскім палкоўнікам Пігулеўскім і «беларускім» пісьменнікам Пшчолкам (зб. «Жыве Беларусь», 1993. С. 468—469).

У Нацыянальным архіве РБ захоўваюцца наступныя дакументы па дыскусіі аб беларускай мове:

1) дакладная ад 26.VI-1926 г. у бюро полацкага акруговага камітэта, у якой гаворыцца аб артыкуле «Вражда из-за языка» і водгуках на яго. У дакладной таксама адзначаецца, што пакідаць настаўнікаў, напісаўшых гэты артыкул, на працы ў школах Полацка немэтазгодна. Да дакладной дадатак: 6 рэзалюцый розных канферэнцый супраць артыкула «Вражда из-за языка» (ф. 4, воп. 16, спр. 33, л. 65—71);

2) наступны дакумент сакратару Бабруйскага акруговага камітэта КП(б)Б ад намесніка загадчыка аддзела друку ЦК КП(б)Б Сербента ад 24 чэрвеня 1926 г.: «По поводу присланной в ЦК статьи В. Баронова, Отдел печати сообщает, что дальнейшую дискуссию по этому вопросу считает нецелесообразной. Ни статьи, ни ответа печатать не следует. Автору статьи можно дать от редакции ответ о том, что его статья получена, но она не содержит ни одной новой мысли по сравнению со статьей «Белорусса» и редакция считает дискуссию уже законченной» (ф. 4, воп. 16, спр. 33, л. 46);

3) артыкул В. Баронава супраць беларускай мовы і ў абарону «Белорусса» (ф. 4, воп. 16, спр. 33, л. 52—54, 55—56);

4) дакументы А. Пігулеўскага (ліст, абвяржэнні, дасланыя ў газеты, і г. д.) на імя Чарвякова, у якіх А. Пігулеўскі абвяргае сваё аўтарства артыкула «Вражда из-за языка» (ф. 4, воп. 16, спр. 33, л. 118, 119, 120, 121, 123, 124, 126, 127). Усе гэтыя дакументы напісаны ў жніўні 1926 г.

1 ліпеня 1926 г. у газ. «Савецкая Беларусь» быў надрукаваны артыкул А. Адамовіча, А. Аніхоўскага і І. Барашкі «Якая глеба, такое

і насенне», у якім сярод аўтараў артыкула «Вражда из-за языка» называецца і Пігулеўскі.

*І што я ёй зрабіў такое?* (с. 134)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Беларуская вёска», 1926, № 68, 4 ліп., дзе надрукаваны з паметай: Акопы. 24 чэрв. 1926 г.

Верш таксама ўключаўся ў зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Чарнавы аўтограф радкоў 53—56, 61—64 змешчаны на адным лісце разам з вершам «У лесе» (адз. зах. 257, л. 1).

Некаторыя радкі ў пачатку верша блізкія да паэмы «Яна і я» (ЭД. С. 255).

*Матавіла* — тут: прыстасаванне для змотвання нітак у маткі.

*Жычка (абл.)* — чырвоная істужка.

*Празэнт* — падарунак.

*Па Даўгінаўскім гасцінцы* (с. 137)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI з узнаўленнем перадапошняй страфы, якая магла быць знята і самім Купалам, бо паэт баяўся «наклікаць напасць», паколькі ў сталінскія часы іншадумства (на думку В. Рагойшы, гэты верш — непасрэдны водгук паэта на становішча Беларусі пасля Рыжскага дагавора 1921 г.) строга забаранялася, жорстка выкаранялася (В. Рагойша. Вяршыні. Мн., 1991. С. 13).

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1926, № 146, 1 ліп., дзе надрукаваны пад назвай «У дарозе» і паметай: Акопы. 26.VI.1926 г.

Радок 63 рэдкалегіяй Зб. тв. 1961—1963 слушна выпраўлены па першадруку. У асноўным тэксце было: *Як бы воўк адгэтуль вёскі.*

Верш таксама ўключаўся ў зб. «Творы 1918—1928», 1930.

У свой час Л. Бэндэ наступным чынам ацаніў як гэты, так і некаторыя іншыя вершы паэта: «Твор «Арлянятам» са здаровым зместам аслабіўся ў свой час творам «Безназоўнае», ■ твор «Дзве сястры» — глыбока ўпадніцкім вершам «У лесе», «Па Даўгінаўскім шляху», «Каб» і гэтак далей. Вершы «У лесе», «Па Даўгінаўскім шляху», «Каб» і рад іншых, напісаных пераважна ў 1926 г., носяць на сабе глыбокія сляды буржуазна-нацыяналістычнай ідэалогіі, якая фармавала ў асноўным гэтыя творы, у барацьбе супроць пралетарскай ідэалогіі, уплыў якой вызначае здаровую тэндэнцыю» (Янка Купала. Крытычны нарыс. Мн., 1932. С. 89; часоп. «Маладняк», 1931. № 5. С. 110).

Адметны від метаніміі выкарыстаў Я. Купала ў гэтым вершы: «Ты не спаткаеш *стуль* суседа, // А мо й матулі з вас які... // Адно пачуеш, як зязюля // Кукуе *там*, як і даўней». Словы «стуль», «там» значаць: у Заходняй Беларусі (ЭД. С. 393).

Верш узрушыў В. Таўлая, падказаў задуму твора «Падарожны», прысвечанага Я. Купалу.

Верш пераклалі: на рускую мову — М. Камісарава, Н. Кіслік, на польскую — Соф'я Багдановічава.

*Даўгінаўскі гасцінец* — маецца на ўвазе шлях Мінск — Даўгінава. У 1921 г., пасля Рыжскага дагавора, шлях перасекла граніца, якая падзяліла на дзве часткі беларускія і ўкраінскія землі.

*Пікет* — невялікі вартавы атрад, ваенны дазор.

*«Пшэпустка» (польск.)* — пропуск.

*І прыйдзе* (с. 139)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1926, № 6 разам з вершамі «За ўсё...», «Царскія дары», «На пагранічны», «Улетку», «У лесе», «Вецер»,

«Маладая ачуняла», «Каб...», «Ёсць жа яшчэ...». Пад тэкстам памета: Акопы. Чэрвень — ліпень 1926 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Песня-байка», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

У. Гніламёдаў лічыць, што суд у вершы — гэта глабальна-асацыятыўны вобраз біблейскага паходжання, але ёсць і жыццёвая падаснова верша, штуршком для напісання гэтага твора мог паслужыць суд над Уладзімірам Лістападам — удзельнікам Слуцкага паўстання 1920 г. Сведкам абвінавачвання на судзе выступіў Цішка Гартны. Калі Купала і меў на ўвазе Цішку Гартнага, дык не яго аднаго: верш атрымаўся значна шырэйшым па маштабах лірычна-спавядальнай думкі і шчырасці паэтычнага пачуцця (гл.: Гніламёдаў. Прарок нацыянальнага Адраджэння.— У кн.: Купала Я. Поўны збор твораў: У 9-ці т. Мн., 1995. Т. І. С. 40).

На пасяджэнні літаратурнай камісіі ЦК КПБ 21—22 снежня 1926 г. на тэму «Аб палітыцы партыі ў галіне мастацкай літаратуры» прагучалі наступныя выказванні Зм. Жылуновіча (Цішкі Гартнага): «Адносна вершаў Купалы ў 6 нумары «Полымя», што творы пісаны ў часы ранейшыя. Гэтыя вершы і былі вынікам настрою ранейшых часоў, і ў падзеле Беларусі ён не абвінавачвае Савецкую ўладу» (л. 46) і члена літаратурнай камісіі Сербента: «У сучасны момант мы бачым, што Янка Купала вяртаецца да тых жа нацыянал-дэмакратычных матываў (цытаты з вершаў у № 6 «Полымя»). У гэтым мы назіраем адыход Купалы ад ⟨нрзб⟩ — пакутніцкай пазіцыі, якую ён займаў у 1923—1924 гадах» (л. 48) (НА РБ, ф. 4, воп. 16, спр. 25).

Верш пераклалі: на рускую мову — Д. Бродскі, М. Камісарава, В. Наседкін, на ўкраінскую — М. Львовіч, на англійскую — У. Мэй.

*За ўсё...* (с. 140)

Друкуецца па Зб. тв., 1932. т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1926, № 6 (гл. каментарый да верша «І прыйдзе...», с. 408).

Радок 11 рэдкалегіяй Зб. тв. 1961—1963 гг. слушна выпраўлены па першадруку. У асноўным тэксце было: *Складаў я гімн пабеды.*

Верш таксама друкаваўся ў зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Верш пераклалі: на рускую мову — П. Кабзарэўскі, Н. Кіслік, Р. Куранёў, В. Тарас, Б. Турганаў, на ўкраінскую — Р. Кочур, С. Крыжаніўскі, А. Малышка, М. Палатай, на армянскую — С. Касян, на асецінскую — Ф. Гаглойці, Н. Джусайты, А. Пухаеў, на грузінскую — Т. Джангулашвілі, Г. Цэцхладзе, на кабардзінскую — З. Тхагазітаў, на казахскую — Ж. Абдзірашаў, Н. Нілібаеў, С. Сеітаў, на латышскую — Я. Плаўдзіс, на літоўскую — К. Кубілінскас, на малдаўскую — П. Старасцін, на таджыкскую — М. Фархат, на туркменскую — А. Агабаеў, на ўзбекскую — Тулкун, на чувашскую — С. Паўлаў, Г. Яфімаў, на англійскую — У. Мэй, В. Рыч, на балгарскую — А. Германаў, на іспанскую — К. Шэрман, на польскую — Я. Гушча, на французскую — у анталогіі беларускай паэзіі «У краіне паэтаў» (Парыж, 1982, перакладчык не названы).

На музыку паклаў С. Картэс (араторыя-паэма «Памяці паэта»).

Я. Ціхановіч зрабіў экслібрыс з выявай паэта для М. К. Хайноўскай (у кампазіцыю ўключаны 4 радкі з верша «За ўсё...»).

В. Сібілеў прысвяціў Купалу барэльеф (партрэт у авале, на падстаўцы словы з верша «За ўсё...»).

Верш цытуецца ў тэлеспектаклі «Песня сонцу» да 75-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы (ліпень 1957) (БДАМЛіМ, ф. 129, воп. 2, спр. 141, л. 22).

*Царскія дары* (с. 141)

Друкуецца па часоп. «Полымя», 1926, № 6, дзе ўпершыню апублікаваны (гл. каментарый да верша «І прыйдзе», с. 408).

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1962 г.

Верш паклаў на музыку Дз. Смольскі (араторыя «Паэт»).

*Тамара* (каля сярэдзіны 60-х гг. XII ст.— 1213) — царыца Грузіі (1184—1213).

*На пагранiччы* (с. 142)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Упершыню — «Полымя», 1926, № 6 (гл. каментарый да верша «І прыйдзе», с. 408).

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песняйка», 1930; літаратурны альманах на ўкраінскай мове «Нова Білорусь» (Харкаў, 1929; перакл. А. Паніў).

У творы маецца на ўвазе Рыжскі дагавор 1921 г.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на ўкраінскую — А. Паніў.

*Улетку* (с. 144)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1926, № 6 (гл. каментарый да верша «І прыйдзе», с. 408).

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Адцвітанне», 1930; зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, В. Шэфнер, на ўкраінскую — І. Ганчарэнка, А. Малышка, на армянскую — С. Капуцікян, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на румынскую — С. Дэлчу.

*У лесе* (с. 145)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI з узнаўленнем пасля радка 36 дзвюх строф, якія, на думку В. Рагойшы, маглі быць зняты і самім Я. Купалам, бо паэт баяўся «наклікаць напасць», паколькі ў сталінскія часы іншадумства (тут маецца на ўвазе Рыжскі дагавор 1921 г.) строга забаранялася, жорстка выкаранялася (В. Рагойша. Вяршыні. Мн., 1991. С. 13).

Упершыню — «Полымя», 1926, № 6 (гл. каментарый да верша «І прыйдзе», с. 408).

Верш таксама друкаваўся ў зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваецца чарнавы аўтограф першых сямі строф (адз. зах. 257, л. 1).

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на ўкраінскую — Р. Кочур, А. Малышка, на асецінскую — А. Пухаеў.

*Вецер* (с. 146)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1926, № 6 (гл. каментарый да верша «І прыйдзе», с. 408).

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Творы 1918—1928», 1930; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на балгарскую — Я. Дзімаў.

*Маладая ачуняла* (с. 147)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1926, № 6 (гл. каментарый да верша «І прыйдзе», с. 408).

Твор уключаўся і ў зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Верш пераклаў на рускую мову У. Мікушэвіч.

*Каб...* (с. 150)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI з узнаўленнем пасля радка 40 дзвюх апошніх строф, якія па невядомых прычынах адсутнічалі ў асноўным тэксце.

Упершыню — «Полымя», 1926, № 6 (гл. каментарый да верша «І прыйдзе», с. 408).

Верш уключаўся і ў зб. «Творы 1918—1928», 1930.

У гады Вялікай Айчыннай вайны верш перадрукоўваўся ў газ. «Раздавім фашысцкую гадзіну» пад назвай «Фашысцкім катам» і ў «Сав. Беларусі» (літарат. дадатак), М., 1943, № 3.

З 1954 па 1993 г. у пасмяротныя выданні не ўключаўся (зб. «Жыве Беларусь»).

Верш перакладзены на рускую мову А. Андрэевым, на англійскую (перакладчык невядомы).

*Ёсць жа яшчэ...* (с. 151)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Упершыню — «Полымя», 1926, № 6 (гл. каментарый да верша «І прыйдзе», с. 408).

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1993 г. (зб. «Жыве Беларусь»).

Захоўваецца чарнавы аўтограф з датай 1926 г. (адз. зах. 254, л. 1).

Верш перакладзены на англійскую мову (у кн. A. Adamovich. Opposition to Sovietization in Belorussian Literature. New-York, 1958. P. 78).

*Піянерскае* (с. 152)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе датуецца 1926 г.

Упершыню — часоп. «Беларускі піянер», 1926, № 6 (першая частка пад назвай «Будзь гатоў!»), № 7 (другая частка пад назвай «Заўсёды гатоў!»).

Верш уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Творы 1918—1928», 1930; Выбр. тв., 1937, т. III.

Па ідэйнай скіраванасці, публіцыстычнай адкрытасці блізкі да верша «Арлянятам» (ЭД. С. 485).

У 1926 г. Купала прынёс у рэдакцыю часоп. «Беларускі піянер», дзе працаваў А. Якімовіч, напісаныя «спецыяльна для піянерскага часопіса вершы «Будзь гатоў!», «Заўсёды гатоў!» — бадзёрыя, лёгкія» (асабісты архіў А. Якімовіча).

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Ясенеў, на кіргізскую — Ц. Уметаліеў, на таджыкскую — І. Мукадас, М. Фархат, на туркменскую — А. Кавусаў, на чувашскую — А. Эсхель.

*Аб дзяўчыне* (с. 154)

Друкуецца па часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935, № 8, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Акопы. 3-VII.1926 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Верш пераклалі: на рускую мову — Н. Кіслік, на асецінскую — А. Пухаеў.

*Гутарка аб кепскім гаспадару* (с. 155)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Беларуская вёска», 1926, № 72, 13 ліп., дзе надрукаваны з паметай: Акопы. 5.VII-26 г.

Верш уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Беларускі сялянскі каляндар на 1928 год. Вільня, 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Своеасаблівым працягам купалаўскага асуджэння нядбальства можна разглядаць аграпаэму А. Дзеркача «Міколава гаспадарка» (1927) (ЭД. С. 179).

*Асвер (абл.)* — журавель калодзежа.

*Дзядзінец* — тут: двор, пляцоўка ля хаты.

*Конь сляпы, з ахватам.* Ахват — конская хвароба.

*Кільчак, матылі* — хваробы жывёл.

*Не спанатрыў* — тут: не зведаў.

*Гірса* — пустазелле сямейства злакавых.

*Балазе ё цэп.* Балазе — добра (ад старажытнага блазѣ).

*У пшаніцы «сажа...».* Сажа — хвароба збожжавых.

*Груца* — ячменныя крупы, а таксама каша з гэтых круп.

*Цэд* — вадкі раствор з аўсянай мукі, з якога вараць кісель.

*Цура* — страва з пакрышанага ў квас або ў ваду хлеба з соллю, цыбуляй, і часам з алеем; рулі.

*Мілта* — страва з мукі; назва пашырана на паўночным захадзе Беларусі.

*Саладуха (разм.)* — салодкая страва з густазаваранай жытняй мукі.

*Верашчака* — рэдкая мучная страва з мясам, каўбасой і рознымі прыправамі.

*Атос* — драцяныя або з жалезных прутоў, рэменю і інш. цяжы ў возе.

*Шворан* — жалезны стрыжань, які з'яўляецца вертыкальнай воссю передка павозкі або паваротнай часткі лакаматыва, аўтамабіля і пад., што забяспечвае паварот на хаду.

*Два светы* (с. 161)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1926, № 167, 25 ліп., дзе надрукаваны з паметай: Акопы, ліпень 1926 г.

Верш уключаўся і ў зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваецца фотакопія белавога аўтографа (адз. зах. 7-д, л. 1—2).

Верш пераклаў на рускую мову Б. Уральскі.

*Цэзар Гай Юлій* (100—44 гг. да н. э.) — адзін з самых буйных дзяржаўных дзеячаў, палкаводцаў, пісьменнікаў і аратараў старажытнага Рыма. З цягам часу слова «цэзар» перастала быць імем уласным, стала абазначаць наследніка прастола. Тут — цар, імператар, дыктатар.

*Крэз* (595—546 гг. да н. э.) — апошні цар Лідзіі (Малая Азія) (каля 560—546 гг. да н. э.). Вёў упартую барацьбу з грэчаскімі гарадамі Малой Азіі (Эфесам і інш.), падпарадкаваўшы іх, за выключэннем Мілета, сваёй уладзе. Адзін з самых багатых людзей старажытнасці, пра багацце якога складзены легенды. Імя Крэза Купала выкарыстаў замест агульнага паняцця: Крэз — сімвал багацця.

*Праз гультайства...* (с. 162)

Друкуецца па зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1926, № 167, 25 ліп., дзе надрукаваны з паметай: Акопы, ліпень 1926 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 256; л. 1) без загалоўка на адным лісце разам з накідам «Хто паліў нам хаты».

Верш пераклаў на рускую мову В. Карчагін.

*Дзе стаяў двор панскі...* (с. 163)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1926, № 167, 25 ліп., дзе надрукаваны з паметай: Акопы, ліпень 1926 г.

Верш уключаўся і ў зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Верш пераклалі: на рускую мову — У. Азараў, М. Галодны, на ўкраінскую — І. Ганчарэнка, на латышскую — А. Веян, на англійскую — М. Л. Корр.

*Гарцы* — гарц, гарнец, мера сыпкіх і вадкіх цел, роўная 3, 28 літра, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы мер; пасудзіна такой ёмістасці.

*Вызыск* — эксплуатацыя.

*Гутарка аб кепскай гаспадыні* (с. 164)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Беларуская вёска», 1926, № 83, 8 жн., дзе надрукаваны з паметай: Мінск, ліпень 1926 г.

У першадруку 38-я страфа падзелена на дзве часткі. Першыя два радкі гэтай страфы стаяць пасля 33-й страфы. Гэта, відаць, паліграфічная памылка.

У газ. «Беларуская вёска», 1926, 24 жніўня адзначалася, што «Гутарка аб кепскім гаспадару» і «Гутарка аб кепскай гаспадыні» Я. Купалы вельмі папулярныя сярод сялян і маюць вялікае выхаваўчае значэнне.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Беларускі сялянскі каляндар на 1929 год. Вільня, 1929; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

*Саган (абл.)* — чыгунны кацёл для стравы.

*Чалеснік* — адз. ліку няма; толькі мн. лік — чалеснікі, уваходная выемка ў печы.

*Чэмер* — тое, што і чамярыца, травяністая ядавітая лугавая расліна сямейства лілейных, якая выкарыстоўваецца ў медыцыне.

## 1928

*Летапіснае* (с. 170)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Чырвоная краіна» (дадатак да газ. «Савецкая Беларусь»), 1929, № 4, 1 студз., дзе апублікаваны з паметай: Мінск. Снежань 1928.

Радок 32 рэдкалегіяй Зб. тв. 1961—1963 слушна выпраўлены па аўтографе. У асноўным тэксце было: *Пабрыў «бежанцамі» гінуць.*

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Песнябайка», 1930; зб. «Творы 1918—1928», 1930; кн. «Рытмы перамогі», 1931 (урывак з верша); зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 265, л. 1—2) і перабелены з паметай: Я. Купала. Мінск, 17 снежня 1928 г. (адз. зах. 266, л. 1—3).

Верш створаны з нагоды 10-годдзя абвяшчэння БССР.

Л. Бэндэ ў арт. «Матар'ялы да нарысаў па гісторыі беларускай літаратуры» наступным чынам аацаніў купалаўскі твор: «Не гледзячы на яго недастатковую глыбіню, ён у асноўным правільна адлюстроўвае асобныя бакі працэсу нараджэння БССР» (часоп. «Маладняк», 1931, № 5. С. 109). Галоўны ўпор у ацэнцы зроблены на палітычны бок твора.

Верш пераклаў на рускую мову І. Садоф'еў.

*Таляр* — талер, старажытная нямецкая манета.

*Арол белы над Мінскам* — 8.VIII.1919—11.VII.1920 гг.— акупацыя г. Мінска войскамі Польшчы.

*Рыжскі мір перарэзаў // Беларусь на дзве часці* — 18 сакавіка 1921 г. быў падпісаны Рыжскі мірны дагавор, паводле якога Заходняя Беларусь адышла да Польшчы.

### *Ці хто думаў...* (с. 173)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — літаратурны дадатак да газ. «Савецкая Беларусь», 1928, № 20, 15 снеж., дзе надрукаваны з прысвячэннем: Цішку Гартнаму і з паметай: Мінск, снежань, 1928 г.

Дваццаты нумар Літаратурнага дадатку за 1928 г. прысвечаны 20-годдзю літаратурнай і грамадскай дзейнасці Цішкі Гартнага.

Верш уключаўся і ў зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 268, л. 1—2), перабелены з паметай: Янка Купала. Мінск, снежань 1928 г. (адз. зах. 267, л. 1—2).

У БДАМЛіМ захоўваецца машынапісны экземпляр верша Я. Купалы «Ці хто думаў» з прысвячэннем «Цішку Гартнаму» і з паметай ад рукі пад тэкстам «Літаратурны дадатак № 20 да газеты «Савецкая Беларусь» за 1928 год» разам з іншымі машынапіснымі і рукапіснымі матэрыяламі, прысвечанымі 20-годдзю літаратурнай дзейнасці Ц. Гартнага (ф. 15, воп. 1, спр. 59, л. 17).

Верш пераклаў на ўкраінскую мову Р. Лубкіўскі.

*«Ён прынёс народу дар» / «Сваёю ўласнаю рукой!»* — 1 студзеня 1919 г. быў апублікаваны Маніфест Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі аб абвяшчэнні БССР. Маніфест быў падпісаны членамі ўрада на чале з З. Хв. Жылуновічам (Ц. Гартным).

## 1929

### *Дыктатура працы* (с. 175)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Чырвоная Беларусь», 1930, № 1, 10 студз.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Беларуская работніца і сялянка, 1930, № 16; Палеская праўда, 1930, 1 сак.; Піянер Беларусі, 1930, 4 сак.; Вясна, 1930, № 4; Віцебскі пралетарый, 1930, 27 мая; зб. «Песня-байка», 1930; Вясна пераможная, Мн., 1934; ЛіМ, 1935, № 2, 14 студз.; зб. «Выбраныя творы» (Школьная серыя), 1935; зб. «Песня будаўніцтву», 1936; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; Выбр. тв., 1937, т. III.

Захоўваюцца два аўтографы: перабелены (адз. зах. 271, л. 1) і белавы з паметай: Мінск. 3.XI.29 г. (адз. зах. 270, л. 1).

Рукапіс верша разам з іншымі матэрыяламі паэта ў гады Вялікай Айчыннай вайны быў вывезены ў Германію, пасля вайны вернуты і зараз захоўваецца ў Купалаўскім музеі.

Верш атрымаў ацэнку тагачаснай крытыкі.

Так, А. Канакоцін пісаў: «Па двух творах — «Дыктатура працы» і «Сыходзіш, вёска, з яснай явы» пра Купалу можна было гаварыць, як пра пісьменніка, які да нас набліжаецца, яму пралетарская грамадскасць «адпусціла» старыя грахі часоў акупацыі і г. д.» (у кн.: А. Канакоцін. Літаратура — зброя класавай барацьбы. Мн., 1931. С. 77 і ў арт. А. Канакоціна «Абастрэнне класавай барацьбы ў беларускай літаратуры ў перыяд сацыялістычнай рэканструкцыі» — часоп. «Бальшавік Беларусі», 1930. № 8—9. С. 43; «Маладняк», 1930. № 12. С. 114).

М. Аляхновіч жа ў арт. «На аванпостах пралетарскай літаратуры» лічыў, што: «Яго апошнія творы, як «Сыходзіш, вёска, з яснай явы» і «Дыктатура працы», у якіх Купала піша: «Жыццё без цемры і цярпення / А ў ясным сонцы, як у байцы, / Для ўсіх вякоў і пакаленняў / Збудуеш, дыктатура працы» паказваюць, што Купала ўступіў у новы этап сваёй творчасці, цалкам сугучнай з лепшымі думкамі нашай рэчаіснасці» (часоп. «Маладняк», 1930. № 6—7. С. 192).

А Р. Краснеўскі ў арт. «50-гадовы шлях Янкі Купалы» адзначаў: «У савецкі перыяд творчасці Янка Купала напісаў нямнога і скажам адкрыта, напісанае ім — не ёсць лепшае ў яго «спадчыне». Паэт даў некалькі сваіх водгукаў на рэвалюцыйна-грамадскія падзеі з жыцця Савецкай Беларусі, у якіх мы знаходзім характэрныя думкі і пачуцці для Купалы — народнага паэта. Да такіх твораў мы адносім «Дыктатура працы», «Сыходзіш, вёска, з яснай явы», «Летапіснае», «Піянерскае» і інш.» («Чырвоная Беларусь», 1932. № 17. С. 12).

М. Клімковіч пасля смерці паэта ў артыкуле «Традыцыі рускай літаратуры ў творчасці Янкі Купалы» выказаў меркаванне, што ў купалаўскіх вершах «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...», «Дыктатура працы», «Песня будаўніцтву» адчуваецца магутны ўплыў паэзіі У. Маякоўскага. І тое, што названыя вышэй вершы беларускага паэта і паэма Маякоўскага «Во весь голос» напісаны ў адзін час, на думку аўтара артыкула, не з'яўляецца выпадковасцю (зб. «Янка Купала. Зборнік матэрыялаў аб жыцці і дзейнасці паэта». Мн., 1955. С. 111).

28 мая 1930 г. на вечары ў Доме асветы ў Мінску, прысвечаным 25-годдзю літаратурнай дзейнасці Я. Купалы, Ізі Харык вітаў яго ад яўрэйскай секцыі БелАППа, чытаў перакладзены ім на яўрэйскую мову верш Я. Купалы «Дыктатура працы».

Верш пераклалі: на рускую мову — В. Карчагін, У. Раждзественскі, Б. Турганаў, на ўкраінскую — Т. Масэнка, М. Цярэшчанка (у часоп. «Червоний шлях», 1934, № 2—3 змешчаны пераклад), на казахскую — С. Машакоў, на латышскую — Л. Лайцэн (надрукаваны ў «Celtne» («Будынак»), 1933, № 8), на туркменскую — А. Ніязаў, на англійскую — У. Мэй, на польскую — К. Яворскі, на яўрэйскую — Ізі Харык.

*Сыходзіш, вёска, з яснай явы...* (с. 176)

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1929, № 11—12, дзе надрукаваны з паметай: Мінск. Лістапад, 1929 г.

Верш уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Звязда, 1929, 19 снеж.; Вясна, 1930, № 4; Віцебскі пралетарый, 1930, 27 мая; Беларуская вёска, 1930, 24 мая; Палеская праўда, 1930, 25 мая; Савецкая Беларусь, 1930, 19 студз.; Чырвоная Беларусь, 1932, № 17; Выбр. тв., 1937, т. III; зб. «Беларусі ардэнаноснай», 1937; зб. «Песня-байка», 1930; зб. «Песня будаўніцтву», 1936; 3 страфы з верша ў беларускім адрыўным календары на 1931 г. (2 ліп.), часоп. «Червоний шлях», 1932, № 11—12 (перакл. Л. Паніў).

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 269, л. 1—2).

Верш атрымаў ацэнку тагачаснай крытыкі.

Так, Із. Плашчынскі ў арт. «Нататкі пра творчасць Янкі Купалы» пісаў: «Верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы» безумоўна сур'ёзны паварот у творчасці паэта. Тое магутнае будаўніцтва, якое цяпер адбываецца, выклікае ў паэта новыя песні, якімі ён яго вітае... Купала пачаў сваю творчасць з апявання эканамічнай безвыходнасці людзей, крывенькіх хатак ва ўмовах панавання самаўладства, іх бяспраўя і цяжкай, да крывавых мазалёў, працы. Тое, што цяпер творыцца ў вёсцы, раз і назаўсёды знішчае ўсё тое, што апяваў паэта, глыбока яго перажываючы, і чаму ён аддаў значную частку свае творчасці. Будзем спадзявацца, што новая вёска з яе людзьмі-творцамі, што ідуць разам і заадно з пралетарыятам пад яго кіраўніцтвам, стане стрыжнем далейшай творчасці паэта. Пачатак гэтага ўжо ёсць» («Узвышша», 1930. № 4—5. С. 131).

Я. Бранштэйн жа ў арт. «Янка Купала» адзначаў: «Переломными для него являлись стихи «Уходишь ты, как сон нелепый, деревня старая, из яви», «А по Висле плавает утопленник» и другие. Уже в этих стихах воскресает и обогащается новым опытом былая реалистическая мощь поэта» («Правда». 1935. 27(VII).

Да таго ж захаваліся яшчэ і цікавыя ўспаміны.

Так, М. Лужанін у арт. «Шляхам жыцця» піша: «Як пацерку за пацеркай, за годам год» — гэтыя радкі з паэтычнай споведзі «Шляхам гадоў» я ўпершыню пачуў з вуснаў Купалы на яго юбілейным вечары ў 1925 годзе. А потым чамусьці найбольш запомніліся яго выступленні з вершам «Сыходзіш, вёска, з яснай явы». Яго Купала чытаў часцей і ахвотней за іншыя — Мікола Нікановіч, малады празаік, заўсёды элегантна, крыху пад Купалу, апрануты чалавек, весялун і перасмешнік, даволі ўдала імітаваў Купалава чытанне. Прарабіўшы ўсе маніпуляцыі з акулярамі і адшукваннем рукапісу, Мікола прымаў паставу Купалы і пад вясёлы рогат прысутных заводзіў: «Сыходзіш, вёска!..» («Полымя», 1962. № 6. С. 100).

А І. Г. Будзько ва ўспамінах «Ён назаўсёды ў памяці» адзначае: «У 1930 годзе, калі распачалася калектывізацыя, Я. Купала, М. Чарот і Ізі Харык прыехалі ў Хойнікі, дзе я настаўнічаў пасля сканчэння Белпедтэхнікума... На вялікім сходзе ў Народным доме на трыбуну выйшлі прыехаўшыя паэты. Першым выступіў Янка Купала. Хвалюючымся голасам ён пачаў: «Як сон маркотны, нежаданы, / Сыходзіш, вёска, з яснай явы, / А твой народ, вернападданы / Імкнецца, скінуўшы кайданы, / Да новай далі, новай славы». Верш Я. Купалы на ўсіх прысутных зрабіў вельмі моцнае ўражанне. Як праграму ў перабудове сельскай гаспадаркі чытаў паэт верш, у якім была цвёрдая вера: «Ты выйдзеш, вёска, з яснай явы, / Як сон маркотны, нежаданы, / Во твой народ вернападданы / Ідзе ўжо, скінуўшы кайданы, / Да лепшай долі, лепшай славы» (БДАМЛіМ РБ, ф. 12, воп. 1, спр. 1590, л. 4—5).

У сярэдзіне ліпеня 1933 г. радыё трансліравала літаратурны вечар, прысвечаны творчасці Купалы, на якім паэт прачытаў верш «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» (вечар праходзіў у Народным доме Капыля).

Верш Я. Купалы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» стаў адкрытай палемікай з вельмі папулярным вершам С. Ясеніна «Я апошні паэт вёскі» (ЭД. С. 701).

З вершам Я. Купалы «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» пераклікаецца верш Л. Родзевіча «Кахаю Беларусь сучасную».

Верш пераклалі: на рускую мову — Г. Бярозка (пераклад апублікаваны ў «Известиях народных депутатов СССР», 1930, 15.V; «Советской Белоруссии», 1930, 7.V), С. Гарадзецкі, М. Ісакоўскі, Н. Кіслік, Д. Ронін, на ўкраінскую — А. Паніў, М. Прыгара, на армянскую — Н. Зар'ян, на

грузінскую — В. Гарганэлі, на туркменскую — А. Ніязаў, на чувашскую — М. Сандроў, на англійскую — В. Рыч, на балгарскую — Л. Любенаў, на карэйскую — Лі Хё Ун, на польскую — Ф. Няўважны, Ю. Ратайчык, на румынскую — С. Дэлчу, на чэшскую — К. Беднарж.

Верш ілюстраваў А. Тычына.

*Вадзянік* — міфічная істота ў народных павер'ях славян і іншых народаў, уладар вадаёмаў і жывых істот у іх; уяўляўся ў выглядзе старога з сівой ці зялёнай барадой, доўгімі валасамі, расплывістым тварам, які жыве ў вірах рэк, асабліва каля млыноў («вірнік»), на дне азёр, крыніц, глыбокіх калодзежаў («ціхоня»).

## Вершы невядомых гадоў

*«Беларусы не будуць рабамі...»* (с. 178),
*«Ну, таварышы, ў паход!»* (с. 179),
*«Шаг у шаг...»* (с. 180), *«Узніміся, Сцяг Чырвоны!..»* (с. 181),
*«На штыхі!»* (с. 182)

Друкуюцца па аўтографах (адз. зах. 211, л. 1; адз. зах. 218, л. 1; адз. зах. 216, л. 1; адз. зах. 212, л. 1, адз. зах. 213, л. 1).

Упершыню — «Полымя», 1962, № 4 (публікацыя Я. Шарахоўскага).

Захоўваюцца і чарнавыя аўтографы вершаў, за выключэннем «Ну, таварышы, ў паход!» (адз. зах. 210, л. 1; адз. зах. 217, л. 1; адз. зах. 214, л. 1; адз. зах. 215, л. 1). Верш «Беларусы не будуць рабамі...» у чарнавым аўтографе мае загаловак «Песня камуны».

Па сваму характару гэтыя вершы з'яўляюцца, відаць, вольнымі перакладамі або наследаваннямі рускіх рэвалюцыйных песень. Верш «Беларусы не будуць рабамі...» з'яўляецца творчым перакладам «Песні камуны» пралетарскага паэта В. В. Князева, якая стала масавай рэвалюцыйнай песняй. Пра іншыя нічога невядома.

Чарніла і папера даюць падставы меркаваць, што праца паэта над вершамі адносіцца да першай палавіны 20-х гадоў.

*Сайка ды Грышка* (с. 183)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 199, л. 1).

Захаваўся яшчэ аўтограф без загалоўка (адз. зах. 198, л. 1), тэкст якога вынесены ў раздзел «Іншыя рэдакцыі і варыянты».

Апрацоўка народнай песні.

Чарніла і папера даюць падставы меркаваць, што верш ствараўся ў першай палавіне 20-х гадоў.

*«Працаваў я ў полі...»* (с. 184)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 201, л. 1).

Апрацоўка народнай песні.

Напісаны, відаць, у пачатку 20-х гадоў.

*Што мы бачым на вуліцы* (с. 185)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 200, л. 1).

Упершыню — Зб. тв., 1974, т. IV.

Напісаны, відаць, у пачатку 20-х гадоў.

*Загадка* (с. 186)

Друкуецца па белавым аўтографе (адз. зах. 125).

У выданні твораў Я. Купалы ўключаецца ўпершыню.

*Доля наша* (с. 189)

Пераклад з польскай мовы верша М. Канапніцкай «A pod jaką ty zorzěnką» («А пад якой ты зорачкай»).

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 138, 29 чэрв., дзе надрукаваны з паметай: Мінск. 5.III.19 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні пераклад не ўключаўся.

Захоўваецца аўтограф пад назвай «Наша доля» і з паметай: Я. Купала. 5.III.19 г. на адным лісце разам з перакладам «Ці ты знаеш старонку?» (адз. зах. 310, л. 1).

Апошняя страфа, якая паўтарае трэцюю, у арыгінале адсутнічае.

*Канапніцкая Марыя* (1842—1910), выдатная польская пісьменніца.

*Ці ты знаеш старонку?* (с. 190)

Пераклад з польскай мовы верша Ю. Крашэўскага «До ***».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — газ. «Беларусь», 1920, № 140, 1 ліп., дзе надрукаваны з паметай: Мінск. 5.III.19 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні пераклад не ўключаўся.

Захоўваюцца аўтограф без загалоўка і з паметай: Я. Купала. 5.III.19 г. на адным лісце разам з перакладам «Доля наша» (адз. зах. 310, л. 1) і машынапіс перакладу пад назвай «Ці ты знаеш старонку?» з паметай: Янка Купала. Мінск, 5/III-19 г. (адз. зах. 312, л. 1).

Я. Купала змяніў назву твора, выкарыстаўшы частку радка арыгінала.

*Крашэўскі Юзаф Ігнацы* (1812—1887) — пачынальнік польскай рэалістычнай прозы, аўтар гістарычных раманаў і аповесцей.

*Слова аб палку Ігаравым, Ігара, сына Святаслаўлева, унука Алегава* (с. 190)

Празаічны пераклад помніка старажытнарускай літаратуры.

Друкуецца па кн. «Слова аб палку Ігаравым». Мн., 1938.

Радкі 166, 216, 284—285, 335 рэдкалегіяй Зб. тв. 1972—1976 гг. слушна выпраўлены па аўтографе. У асноўным тэксце было: *на Рускай зямлі, загартованы, бо ўжо забыліся дзедавай славы!*, адсутнічае, *Па полі.*

Упершыню — газ. «Беларусь», 1919, № 16—18, 19, 7—9, 11 лістап., дзе надрукаваны пад загалоўкам «Аповесць аб паходзе Ягоравым, Ягора Святаслаўлева, унука Алегава». У № 19 памета: Пералажыў Янка Купала. Мінск, 30/X.1919 г.

Газ. «Беларусь» за 11 лістапада змясціла вытрымку з ліста акадэміка Я. Карскага: «Не магу не прывітаць Вашага жадання пералажыць «Слова аб палку Ігаравым», гэты дзівосны старасвецка-рускі твор, на беларускую мову, па сваёй архаічнасці так блізкую да яго. Пераклад, кажучы наогул, даслоўны і вельмі ўдалы. Думаю, што справа гэтым у Вас не абмяжуецца і Вы дасце таксама вершаваны пераклад гэтага помніка, тым болей, што і цяпер шмат радкоў у Вашым перакладзе могуць быць ужо падзелены на вершы, разумеецца, без рыфмаў, якія для падобных твораў не так ужо і патрэбны...» Трохі ніжэй Я. Купала піша: «Далей у сваім пісьме прафесар звяртае ўвагу на некаторыя памылкі ў перакладзе, паміж іншым на тое, каб загаловак даць не «Аповесць», а «Песня», каб не перамяняць скандынаўскага імя «Ігар» на грэцкае «Егор» (Georgios) і інш.». Пасля гэтага ідзе заўвага: «Ад перакладчыка. Шчыра дзякуючы п. праф. Карскаму за яго добрыя

рады і папраўкі ў маім перакладзе, пастараюся прыняць гэта ўсё пад увагу, як будзе друкавацца асобнае выданне гэтага твору».

Пераклад друкаваўся і ў «ЛіМе», 1938, № 30, май.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы з паметай: Мінск. 30.X.19 г. (адз. зах. 327, л. 1—12) і белавы ч. VI—IX з паметай: Канец будзе. Я. Купала і з тлумачэннем наступных слоў: ногат і рэзан — тагачасныя грошы (адз. зах. 328).

*Ігар Святаслаўліч* (1151—1202), князь ноўгарад-северскі (з 1178), чарнігаўскі (з 1199). Удзельнік шматлікіх феадальных войн і паходаў. У 1185 г. арганізаваў няўдалы паход супраць полаўцаў. Гэты паход стаў асновай сюжэта «Слова аб палку Ігаравым».

*Баян* (2-я палова XI — пач. XII стст.) — старажытнарускі паэт. Творы Баяна з'яўляліся песнямі «славы» рускім князям, іх выкананне суправаджалася ігрой на гуслях. Імя Баяна, характарыстыка яго творчасці і ўрыўкі з яго песень вядомы са «Слова аб палку Ігаравым». Баян сустракаецца і ў «Задонщине». Некаторыя вучоныя спрабуюць атаясаміць Баяна з вядомымі гістарычнымі асобамі (Ян Вышаціч, Баян — сын балгарскага цара Сімяона X ст.) або вытлумачыць гэта імя як хадзячую назву паэта наогул. Аднак больш падстаў лічыць Баяна рэальнай гістарычнай асобай.

*...старому Яраславу...* — Маецца на ўвазе, відаць, Яраслаў Мудры (978—1054), вялікі князь Кіеўскі (1019—1054), дзяржаўны дзеяч Старажытнай Русі. Сын Уладзіміра Святаславіча.

*...харобраму Імсціславу, што зарэзаў Радзедзю...* — Маецца на ўвазе Мсціслаў Уладзіміравіч (памёр у 1036), брат Яраслава Мудрага, князь тмутараканскі і чарнігаўскі, які, па летапісных звестках, атрымаў перамогу ў адзінаборстве з касожскім князем Радзедзем.

*Раман Святаслаўліч* (?—1079) — унук Яраслава Мудрага, князь тмутараканскі, забіты ў 1079 г.

*...ад старога Уладзіміра да Ігара сягачаснага* — ад Уладзіміра Манамаха (1053—1125) ці Уладзіміра Святаславіча (?—1015), вядомага сваімі шматлікімі паходамі супраць ворагаў Рускай зямлі, да Ігара Святаславіча ноўгарад-северскага (1151—1202).

*...салоўкай па дрэву выдумнаму... Дрэва выдумнае* — метафарычны выраз, які абазначае дрэва паэзіі, дрэва песень.

*Траянавы сочачы след...* — Існуюць розныя думкі вучоных наконт паходжання слова «Траян». Яно сустракаецца ў творы яшчэ тры разы: «Былі векі Траянавы», «Дзевай узыйшла на зямлю Траянаву», «У сёмы Траянавы век». Некаторыя даследчыкі (напр., М. К. Гудзій) мяркуюць, што тут маецца на ўвазе шлях рымскага імператара Траяна (53—117), з паданнямі аб якім звязаны «Траянавы валы» на Украіне і ў Румыніі. Д. С. Ліхачоў лічыць, што Траян — гэта старажытнарускі язычаскі бог, і выраз арыгінала «В тропу Трояню», разумее як «боскія шляхі». А. Болдур прапануе тлумачыць Траяна як бога, якому пакланяліся рускія і румыны. У румын ён асэнсоўваўся як бог зямлі, снегападу.

*Велес, або Волас* — язычаскі бог дастатку і багацця, апякун мастацтва.

*Сула* — левы прыток Дняпра.

*Трубы трубяць у Ноўгарадзе* — маецца на ўвазе Ноўгарад-Северскі, на р. Дзясне.

*Пуціўль* — невялікі горад Ноўгарад-Северскага княства.

*Кметы* — тут: добрыя, выбраваныя воіны.

*Дзіў* — міфічная птушка, у дадзеным выпадку варожая рускім. Яна папярэджвае полаўцаў аб паходзе Ігара.

*Пасулле* — пагранічная з палавецкім стэпам вобласць на р. Суле.

*Сураж* — цяпер г. Судак (Крым), узнік у IV ст. да н. э. як паселішча таўраў. Важны гандлёвы цэнтр. Захавалася Генуэзская крэпасць XIV—XV стст.

*Корсунь* — г. Херсанес (Крым).

*Тмутараканскі балван* — магчыма, адна з статуй, якія былі збудаваны ў III ст. да н. э. у гонар язычаскіх багоў на Таманскім паўвостраве каля Тмутаракані, або паграпічны слуп, камень.

*Алегава гняздо харобрае* — аўтар «Слова» мае на ўвазе родзічаў князя Алега Святаславіча (?—1115), дзеда князя Ігара, якія прымалі ўдзел у паходзе супраць полаўцаў.

*Гза, Канчак* — палавецкія ханы.

*...хочуць прыкрыці два сонцы* — звычайна гэта месца арыгінала «Д сѣлньця» чытаецца як чатыры сонцы. У літаратуры агульнапрынятым погляд, што чатыры сонцы — гэта чатыры рускія князі, удзельнікі паходу. Аднак А. Патабня лічыць, што гэта месца можна чытаць і як два сонцы, тым больш што далей ёсць выраз «два сълньця помѣркоста», г. зн. два князі — Ігар і Усевалад.

*Стрыбожыя ўнукі, Стрыбог* — адзін з язычніцкіх багоў усходніх славян. Мяркуючы па «Слове аб палку Ігаравым», бог вятроў.

*Шоламы аварскія. Авары* — каўказскае племя.

*Глебаўна* — жонка Усевалада Святаславіча Вольга.

*Барыса ж Вячаслаўліча нядобрая слава на суд прывяла на апошні... Барыс Вячаслаўліч* — унук Яраслава Мудрага, загінуў у бітве на Няжацінай ніве (каля Чарнігава) у 1078 г.

*З таей жа Каял-ракі Ярапалк палялеяў* — адно з цёмных месц «Слова». На думку М. К. Гудзія, тут апісваецца пахаванне бацькі Святаполка — князя Ізяслава Яраславіча кіеўскага, забітага ў бітве на Няжацінай ніве. Я. Купала, відаць, прытрымліваецца тлумачэння Е. В. Барсава, які памылкова лічыў сынам загінуўшага князя Ізяслава Яраславіча не Святаполка, а Ярапалка. Падобная замена імён (Ярапалк на Святаполк) сустракаецца і ў іншых перакладчыкаў (гл., напрыклад, пераклад «Слова» А. М. Майкавым).

*Да Сафіі святое да Кіева* — Сафійскі сабор у Кіеве, помнік старажытнарускага дойлідства, галоўны царкоўны і грамадскі будынак Кіеўскай Русі. Закладзены ў 1037.

*Алег Гарыслаўліч* — Алег Святаславіч (?—1115), старажынарускі князь, дзед Ігара. Міжусобіцы гэтага князя прынеслі многа гора Рускай зямлі, за што яго ў народзе і празвалі Гарыславічам.

*...жыццё Даждждбожага ўнука* — г. зн. рускага народа. *Даждждбог* (ад стараслав. даждь (той, хто дае) і бог), ва ўсходніх і прыбалтыйскіх славян бог сонца і агню, сын Сварога, пазней бог земляробства, урадлівасці, дабрабыту. Упамінаецца ў рускіх летапісах, у «Слове аб палку Ігаравым». Жаночая паралель — Падага.

*Карына і Жыля* — міфічныя вобразы, якія ўвасабляюць плач, смутак.

*...наводзячы смагу людзям у полымі рогу* — маецца на ўвазе якісьці пахавальны звычай.

*...на цісовай краваці. Ціс* — каштоўная парода дрэў, якая сустракаецца ў Карпатах. Эпітэт «цісовы» часам памылкова асэнсоўваецца як «цясовы».

*...пабыло каля Плеснеску на балоні, каля нетраў Кісані* — цёмнае месца, адно з самых цяжкіх у сэнсе тлумачэння. Некаторыя з даследчыкаў (напр., М. К. Гудзій) тлумачаць словазлучэнне «дебрьски сани» як лясныя змеі. М. В. Шарлемань прытрымліваецца кан'ектуры «дебрь Кісаня» і дае ёй геаграфічную інтэрпрэтацыю. На яго думку, гэта

сапсаванае «дебрь Киянь», што азначае лясісты роў, пракапаны рэчкай, якая стала потым ручайком Кіянню. М. К. Гудзій меркаваў, што *Плеснеск* — горад у Галіцыі. Д. С. Ліхачоў лічыць, што гэта нейкая мясцовасць пад Кіевам. Цікавым з'яўляецца тое, што ў Беларусі, у Магілёўскай вобл. Слаўгарадскага р-на, ёсць урочышча Плясен(ь)ск, на р. Плясне (або Пляснянцы), якая з'яўляецца правым прытокам р. Пясчанкі, што ўпадае ў р. Сож. *Балонь* — пустое, без забудовы месца перад гарадскімі сценамі, якое добра прастрэльваецца.

*Бусавы часы... Бус* — відаць, адзін з вядомых сваімі перамогамі палавецкіх ханаў. Д. С. Ліхачоў схільны бачыць тут Боса, ці Бооза, караля антаў, продкаў усходніх славян.

*...помсту лялеюць Шараканаву... Шарукань* — палавецкі хан (дзед Канчака), які пацярпеў паражэнне ад рускіх войск у 1106 г.

*«...о мае сыноўцы, Ігару і Усеваладзе!» ...Сыноўцы* — пляменнікі, тут у больш шырокім сэнсе, бо на самай справе Ігар і Усевалад былі стрыечнымі братамі Святаслава, старэйшага ў родзе.

*...з магутамі і з татранамі і з шальберамі* — некаторыя даследчыкі «Слова» лічаць, што гэта назвы плямён цюркскага паходжання, якія служылі ў чарнігаўскім войску.

*Рымаў* — горад, захоплены і зруйнаваны полаўцамі пасля перамогі над Ігарам.

*Туга і нудота Глебаву сыну!* — маецца на ўвазе пераяслаўскі князь Уладзімір Глебавіч, які неўзабаве пасля заняцця Рымава быў цяжка паранены ў баі з полаўцамі.

*Княжа вялікі, Усеваладзе!* — Усевалад III Юр'евіч «Большое гнездо» (1154—1212), адзін з самых магутных і багатых рускіх князёў XII—XIII стст., які ўзначаліў у 1183 г. удалы паход супраць волжскіх балгар.

*...удалымі Глеба сынамі* — дзецьмі князя Глеба Расціславіча Усеваладам і Уладзімірам, князямі разанскімі, удзельнікамі паходу Усевалада Юр'евіча на волжскіх балгар.

*Ты, буй Рурыча й Давідзе!.. Рурык* (? — 1212) — князь перамышльскі; *Давід* (?—1197) — брат Рамана і Рурыка, князь смаленскі; абодва браты Расціславічы — удзельнікі паходу супраць полаўцаў у 1183 г.

*Галіцкі Асмамысле Яраслаўле!* — магутны галіцкі князь, на думку некаторых даследчыкаў, празваны Асмамыслам за тое, што ён быў разумны за васьмярых.

*Угорскія горы* — венгерскія Карпаты.

*...буй Рамане і Мсціслаўле!* — відаць, маюцца на ўвазе Раман Мсціславіч, князь уладзіміра-валынскі (1169—1202?), і яго стрыечны брат Мсціслаў Яраславіч (?—1226), князь луцкі.

*Хінова, Літва, Дарамела, яцвягі* — тут: плямёны, з якімі ваяваў Раман Мсціславіч; *хінова* — відаць, славянская назва гунаў; *яцвягі, дарамела* — літоўскія плямёны.

*Рось* — правы прыток Дняпра. У той час — пагранічная з палавецкім станам рака.

*Альговічы* — нашчадкі старажытнарускага князя Алега Святаславіча, якія валодалі ўдзеламі ў Кіеўскім, Чарнігаўскім, Ноўгарад-Северскім і інш. княствах.

*Інгвар і Усевалад і ўсе тры Імсціслаўлічы — не благога гнязда птахі шасцікрылыя* — відаць, маюцца на ўвазе браты Інгвар і Усевалад Яраславічы, а таксама сыны Мсціслава Ізяславіча — князі валынскія Раман (?—1205), Святаслаў, Усевалад. Эпітэт «шасцікрылыя» ідзе ад асаблівасці апярэння крылляў сокала.

*Ізяслаў Васількавіч* — праўнук Усяслава полацкага, які адзіны з усіх знясіленых міжусобіцамі полацкіх князёў «перабіў» дзедаву

славу, здолеў даць адпор літоўцам, аднак сам загінуў у бітве з імі ў 1185 г.

*...з Хоціем лёг...* — адно з цёмных месц арыгінала, якое да гэтага часу не атрымала колькі-небудзь здавальняючага тлумачэння.

*Не было тут брата Брачыслава, ні другога Усевалада* — на думку М. К. Гудзія, тут маецца на ўвазе князь ізяслаўскі і віцебскі Брачыслаў Васількавіч. Усеваладам памылкова названы ў перакладзе, як і ў тэксце «Слова», Усяслаў Васількавіч, князь віцебскі (другі таму, што далей у «Слове» ўпамінаецца яго прадзед Усяслаў Брачыславіч).

*Яраслаўле і ўсе ўнукі Усяслаўлевы!* — На думку Д. С. Ліхачова, у тэксце «Слова» памылка: замест «Ярославе» трэба чытаць «Ярославли». Бо тут ідзе гаворка аб працяглым разладзе паміж кіеўскімі князямі, нашчадкамі Яраслава Мудрага, і полацкімі — нашчадкамі Усяслава Брачыславіча. Далей (без захавання храналагічнай паслядоўнасці) і апісваюцца воінскія справы і прыгоды князя Усяслава-чарадзея.

*У сёмы Траянавы век жэрабя кінуў Усяслаў аб дзяўчыне, мілай сабе... Сем* — эпічнае абазначэнне даўнасці; *жэрабя кінуў... аб дзяўчыне мілай* — тут выклік, што кінуў лёсу Усяслаў, які ў час паўстання кіяўлян супраць іх князя заняў кіеўскі пасад.

*Ад іх скочыў зверам дзікім...* — Калі Ізяслаў у саюзе з польскім каралём Баляславам выступіў паходам супраць Усяслава, той кінуў кіеўскае войска і ўцёк з Белгарада ў Полацк.

*З Дудутак* — што гэта за мясцовасць, дакладна не ўстаноўлена. М. К. Гудзій лічыць, што маецца на ўвазе гарадок на поўдзень ад Мінска.

*На Нямізе снапы сцелюць галовамі... Няміга* — прыток Свіслачы, які працякае праз Мінск; яшчэ ў XIX ст. у межах горада заключаны ў калектар. У бітве на Нямізе Усяслаў быў пераможаны трыма сынамі Яраслава Мудрага — Ізяславам, Усеваладам і Святаславам.

*Хорсу ваўком шлях перабягаў* — перабягаў шлях да ўсходу сонца. *Хорс* — язычаскі бог сонца.

*...у Сафіі святой...* — маецца на ўвазе Сафійскі сабор у Полацку, помнік архітэктуры 2-й паловы XI—XVIII стст. Пабудаваны пры князе Усяславе паміж 1044—1066 гг. (паводле іншых звестак у 1050—1060 гг.) як праваслаўны храм.

*...але хобаты іх паасобку калышуцца* — тут маецца на ўвазе адсутнасць згоды паміж братамі Рурыкамі і Давідам.

*Яраслаўна* — Ефрасіння, дачка галіцкага князя Яраслава Уладзіміравіча Асмамысла, жонка Ігара.

*...а ўтулы тугой ім заткала* — тугою ім калчаны заткнула.

*Аўлур* — полавец, які разам з Ігарам уцёк на Русь.

*...чарнедзямі на ветрах. Чарнедзь* — зборная назва асобных відаў нырковых качак.

*Князю Расціславу маладому* — князь Расціслаў Усеваладавіч, які, ратуючыся ад палавецкай пагоні, утапіўся ў р. Стугне (прыток Дняпра) ва ўзросце 22 год.

*Ігар едзе па Барычаву, да святое багародзіцы Пірагошчай* — царква Багародзіцы Пірагошчай, якая была заснавана ў Кіеве ў 1131 г., названа так па іконе «Пірагошчай» (г. зн. вежавай), прывезенай з Канстанцінопаля. Барычаў пад'ём вёў ад дняпроўскай прыстані ў цэнтр Кіева.

*Хаўтурны марш* (с. 201)

Пераклад з польскай мовы верша К. Уейскага «Marsz pogrzebowy» з раздзела «Tłumaczenia szopena».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе, мабыць, з-за друкарскай памылкі датуецца 9.VI.1920 г.

Упершыню — зб. «Наша ніва», Вільня, 1920, кн. 1, дзе надрукаваны з паметай: Ператлумачыў з польскага Янка Купала. Мінск. 9.IV.1920 г.

Радок 156 рэдкалегіяй Зб. тв. 1961—1963 гг. слушна выпраўлены па аўтографе і першадруку. У асноўным тэксце было: *Хоць бы там мяне схавалі...*

Зб. «Наша ніва», 1920 у 1935 і 1937 гг. уключаўся ў спісы літаратуры, якую павінны былі канфіскаваць з бібліятэк, навучальных установ і кнігагандлюючай сеці.

Пераклад уключаўся ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Безназоўнае», 1925; зб. «Безназоўнае», 1928; зб. «Творы 1918—1928», 1930.

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 315, л. 1—5).

У 1982 г. А. Гураў зрабіў пашыраны варыянт сваёй кантаты «Тры сцежкі» (напісана ў 1979), уключыўшы ў яе перакладзеныя Я. Купалам вершы К. Уейскага «Хаўтурны марш» і невядомага аўтара «Каваль».

*Уейскі Карнель* (1823—1897) — польскі паэт-лірык, адзін з відных прадстаўнікоў рамантызму ў польскай літаратуры.

*Цноты (польск.)* — дабрачыннасць.

*Апраметная* — пекла.

*Міжнародны гімн* (с. 206)

Пераклад з французскай мовы верша Э. Пацье «Інтэрнацыянал».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе апублікаваны з падзагалоўкам: «Інтэрнацыянал». Напісаў Эжэн Пацье. Пераклад з французскага арыгінала». Пад тэкстам: 1921 г.

Упершыню — газ. «Савецкая Беларусь», 1921, № 157, 20 ліп. з наступнай прадмовай: «Поўны калектыўны пераклад зроблены з арыгінала ў французскай мове і зацверджаны беларускімі камуністамі». Перакладчык не ўказаны.

Пераклад уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: зб. «Камсамольскі спеўнік», 1924 у скарочаным выглядзе ў раздзеле «Рэвалюцыйныя спевы»; зб. «Беларускі лірнік», 1922 з прадмовай: «Поўны калектыўны пераклад зроблены з арыгінала ў французскай мове і зацверджаны беларускімі камуністамі» (перакладчык не названы); газ. «Савецкая Беларусь», 1924, 23 сак.; зб. «Дашкольны спеўнік», Мн., 1928 (пад назвай «Інтэрнацыянал», без указання перакладчыка і кампазітара); зб. «Творы 1918—1928», 1930 з падзагалоўкам «Інтэрнацыянал». Напісаў Эжэн Потье. Пераклад з французскага арыгіналу». Пад тэкстам: 1921 г.; чытанка «Бальшавік», 1932.

У 1921 г. Дзяржвыдавецтва выпусціла «Інтэрнацыянал» асобнай лістоўкай (захоўваецца ў гістарычным архіве) таксама з наступнай прадмовай: «Поўны калектыўны пераклад, зроблены з арыгіналаў у французскай мове і зацверджаны беларускімі камуністамі». Перакладчык не ўказаны.

М. Камінскі ў арт. «Як быў перакладзены «Інтэрнацыянал» (ЛіМ, 1962, № 51, 29 чэрв.) пісаў: «Што датычыць «калектыўнасці» перакладу, дык яна заключаецца ў тым, што ў перакладзе былі зацікаўлены многія ўстановы і арганізацыі Беларусі і, каб паскорыць яго, памаглі паэту. Так, напрыклад, члены тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы, у якой і сам Купала ў той час працаваў, знаходзілі найбольш дакладныя і адпаведныя словы, памагалі звяраць з французскім тэкстам».

Падчас перакладу «Інтэрнацыянала» Купалу кансультавала і яго цешча Э. Станкевіч, француженка па паходжанні.

Газ. «Звязда» ад 23 красавіка 1921 г. у нататцы пад назвай «Интернационал» на белорусском языке» пісала: «Вядомы беларускі паэт

Янка Купала пераклаў на беларускую мову «Інтэрнацыянал». Пераклад не будзе надрукаваны, пакуль перакладчык не зверыць яго з французскім арыгіналам». Амаль такі ж тэкст змясціла і газ. «Савецкая Беларусь», 1921, № 89, 23 крас.

Загадчык Беларускага аддзела Наркамасветы БССР П. В. Ільючонак 27 красавіка 1921 г. пісаў прадстаўніку ўрада Беларусі пры ўрадзе РСФСР М. І. Марозу наступнае: «Тав. Мароз! Калі ласка, зрабіце ўвагу і дастаньце на французскай мове «Інтэрнацыянал» наш. Ён дужа патрэбен, бо Купала зрабіў пераклад на беларускую мову, але пакуль не будзе подлініка, то ў свет выпушчаны не будзе. А «Інтэрнацыянал» нам дазарэзу патрэбен, бо хоры пяюць расейскі або карыстаюцца дужа брыдкім перакладам» (БДА, ф. 15, воп. 1, спр. 19, л. 114).

М. І. Мароз дапамог адшукаць французскі тэкст «Інтэрнацыянала» для зверкі беларускага перакладу.

Існуюць наступныя меркаванні наконт таго, як быў перакладзены «Інтэрнацыянал».

Так, у ЭД, с. 394 адзначаецца, што першы варыянт перакладу, які не друкаваўся, зроблены ў крас.— маі 1921 г. з рускага тэксту А. Коца і ахопліваў рэфрэн і 3 страфы арыгінала: 2 першыя і апошнюю. Канчатковы варыянт перакладу Купалы адпавядае першакрыніцы, зверан з ёю (поўны пераклад «Інтэрнацыянала» на рускай мове выйшаў у 1937 г.).

Такую ж думку, але раней выказаў і Я. Семяжон у арт. «Купалаўскі пераклад «Інтэрнацыянала» (Вопыт параўнальнага даследавання)»: «Неабходна таксама адзначыць, што першы варыянт яго (Я. Купалы.— *А. Ш.*) перакладу з рускай мовы ахопліваў не ўвесь тэкст арыгінала, а толькі палавіну песні-гімна — дзве першыя страфы і апошнюю. Як вядома, рускі тэкст паэта-перакладчыка А. Коца, надрукаваны ў 1902 годзе (без указання прозвішча аўтара і перакладчыка) у лонданскім часопісе рускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Жизнь», а пазней у цэлым шэрагу брашур і зборнікаў пралетарскіх песень па-за межамі былой царскай Расіі і ў С.-Пецярбурзе, складаўся толькі з трох строф. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі рускі тэкст «Інтэрнацыянала» з невялікімі папраўкамі аўтара перакладу А. Коца стаў гімнам Краіны Саветаў, але налічваў усяго тыя ж тры страфы. І толькі ў 1931 годзе А. Коц дапераклаў прапушчаныя раней строфы, але поўны тэкст «Інтэрнацыянала» ў яго перакладзе выйшаў у свет толькі ў 1937 годзе» (зб. «Народныя песняры», Мн., 1972).

А. М. Дзяшкевіч у арт. «Паўстаў пракляццем катаваны...» (ЛіМ, 1971, № 23, 4 чэрв.) лічыць, што купалаўскі пераклад «Інтэрнацыянала» зроблены з французскага арыгінала, а не з рускага перакладу. М. Дзяшкевіч спасылаецца на тое, што ў 1902 г. А. Коц зрабіў пераклад толькі 3-х строф «Інтэрнацыянала» (1-й, 2-й і 6-й), астатнія ж строфы ён перакладаў пазней, у 30-х гг., а Купала ж у 1921 г. пераклаў усе 6 строф «Інтэрнацыянала». М. Дзяшкевіч у карысць таго, што пераклад зроблены з французскага арыгінала, прыводзіць таксама наступныя звесткі: акрамя зб. «Рэвалюцыйныя песні» (1887), усе астатнія французскія выданні «Інтэрнацыянала» апублікавалі радкі «Гэта бой наш астатні» як рэфрэн, што паўтараецца пасля кожнай страфы; Купала ж толькі пачаў і кончыў «Інтэрнацыянал» гэтымі радкамі. Такім чынам, лічыць М. Дзяшкевіч, Я. Купала зрабіў пераклад з прыжыццёвага зб. Эжэна Пацье «Рэвалюцыйныя песні» (1887).

Пераклад атрымаў ацэнку тагачаснай крытыкі.

Так, Л. Бэндэ ў арт. «Творчы шлях Янкі Купалы» пісаў: «Тэндэнцыя набліжэння Купалы да пазіцый савецкай літаратуры не ў апошнія часы

аднаўленчага перыяда, а яшчэ ў яго пачатку. Першым праяўленнем яе трэба лічыць пераклад з французскай мовы на беларускую «Міжнароднага гімна» — «Інтэрнацыянала» (1921 г.). Нягледзячы на рад істотных недахопаў перакдада, ён усё ж найбольш удалы і пісьменны за ўсе іншыя да гэтага часу пераклады «Інтэрнацыянала» на беларускую мову. Мы не можам не аднесці к заслугам паэта факт перакдада «Інтэрнацыянала» на беларускую мову» (часоп. «Полымя рэвалюцыі», 1935. № 10. С. 135).

А Ц. Гартны ў нарысе «Янка Купала — пясняр вызвалення» адзначаў: «І пясняр адразу адгукаецца новай эпосе «Інтэрнацыяналам». Рэвалюцыйнае пачуццё, пачуццё пераможнага народа, дае яму вялікую сілу ды неахопнае натхненне знайсці тую жалезную моц і смелую глыбіню, якія набылі пад яго пяром зычныя словы міжнароднага гімна ў беларускім перакладзе. Паэт улажыў у свой пераклад дакладнасць яго сэнсу і апагей урачыстасці пачуцця. Паэтавы ж здольнасць і мастацтва надалі яскравасць, мілагучнасць. Гэтым перакладам... Янка Купала даў поўную дань запатрабаванню часу» (зб. «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы». Мн., 1928. С. 37).

У. Ігнатоўскі ж на пасяджэнні Інстытута беларускай культуры, прысвечаным прысваенню Я. Купалу звання народнага паэта (1925), сказаў: «І тое, што Янка Купала прымаў актыўны ўдзел у перакладзе «Інтэрнацыянала» на беларускую мову, гаворыць пра тое, што паэт хацеў падтрымаць агонь рэвалюцыі ў сваім народзе».

У снежні 1921 г. у Мінску на ўрачыстым адкрыцці III Усебеларускага з'езда Саветаў выконваўся «Інтэрнацыянал» на беларускай, рускай, польскай і яўрэйскай мовах. На беларускай мове «Інтэрнацыянал» выконваўся ў купалаўскім перакладзе. Але ў тэксце пад загалоўкам паведамлялася: «Поўны калектыўны пераклад зроблены з арыгінала ў французскай мове і зацверджаны беларускімі камуністамі». Перакладчык не названы.

А паводле ўспамінаў беларускага фалькларыста, спевака і лібрэтыста К. Пуроўскага (1894—1965), упершыню «Інтэрнацыянал» на беларускай мове прагучаў 23 лютага 1922 г. у выкананні хору пад кіраўніцтвам У. Тэраўскага на плошчы Свабоды на вялікім мітынгу ў гонар дня Чырвонай Арміі (зб. «Такі ён быў». Мн., 1975. С. 78).

Газ. «Прафрух» (прылажэнне да газ. «Звязда»),1930, № 33, 23 снежня змясціла рэзка адмоўны артыкул Г. І. «Супроць нац.-дэмакратычных скажэнняў баявога гімна пралетарыяту». Аўтар артыкула, параўноўваючы рускі і беларускі тэкст «Інтэрнацыянала» і негатыўна ставячыся да беларускага перакладу, адзначае наступнае: «Перакладзены «Інтэрнацыянал» з расійскай на беларускую мову мае цэлы рад яўных скажэнняў нацыянал-дэмакратычнага парадку... Перакладчык даў яўна палітычна шкодны, насычаны народніцкім зместам пераклад. Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменнікаў павінна зрабіць усё для таго, каб перакласці баявы гімн пралетарыяту на беларускую мову, «забяспечыўшы сапраўдны яго змест». У артыкуле імя перакладчыка не называецца. Але гэта, хутчэй за ўсё, Я. Купала. Бо, як адзначае Я. Семяжон, купалаўскі пераклад «Інтэрнацыянала» пасля рускага перакладу быў першым па тым часе ў Савецкім Саюзе на славянскія мовы ўсходняй групы (БДАМЛіМ, ф. 137, воп. 1, адз. зах. 70, л. 1).

Раней, на пасяджэнні сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 25.XI.1929 г., слухалася пытанне аб змене ў тэксце гімна «Інтэрнацыянал» у беларускім перакладзе. Пастанавілі: «Згадзіцца з прапановай АПАД ЦК аб унясенні ў гімн «Інтэрнацыянал» наступных змен:

1. У прыпеве змяніць словы «Каб у лучнасці братняй» словамі «З Інтэрнацыяналам».

У другім куплеце замяніць словы «Ні бог, ні цар, ні багатыр» словамі «Ні бог, ні цар і ні герой».

А словы «Дабро для ўсіх наш правадыр» — словамі «Сваею уласнаю рукой».

2. Даручыць Наркамасветы арганізаваць працу па новаму перакладу «Інтэрнацыянала», у падставу якога павінен быць пакладзены расейскі пераклад гімну» (НА РБ, ф. 4, воп. 8, спр. 16, л. 731—738).

Справа аб новым перакладзе мела далейшы працяг. Так, захаваліся наступныя дакументы:

«Секретарю ЦК КПбБ тов. Гикало

Существующий перевод «Интернационала» на белорусский язык содержит ряд грубых неправильностей и отступлений от оригинала. По заданию Культпропа ЦК КПбБ, бригадой союза советских писателей Белоруссии сделан новый перевод «Интернационала». Прилагая при этом старый перевод и два варианта нового перевода, прошу санкционировать один из вариантов, так как новый перевод «Интернационала» должен быть включен в ряд подготовленных к печати стабильных учебников для школ Наркомпроса.

Зав. культпропом ЦК КПбБ *Тамаркин* 22/ІІ-34 г. (НА РБ, ф. 4, воп. 3, спр. 147, л. 97).

Відаць, да гэтага дакумента дадаваліся два машынапісныя варыянты новага перакладу «Інтэрнацыянала» на беларускую мову без даты, перакладчыкі: Броўка, Хведаровіч, Хадыка, Кляшторны, Кулявшоў (НА РБ, ф. 4, воп. 3, спр. 147, л. 98—99, 100) і машынапісны экземпляр купалаўскага перакладу «Інтэрнацыянала» без даты (НА РБ, ф. 4, воп. 3, спр. 147, л. 101—102).

П р а т а к о л

пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б № 8,

п. 6 ад 9.ІІІ-34 г.:

Слухалі: Аб выпраўленні тэкста беларускага перакладу гімна «Інтэрнацыянал».

Пастанавілі: Даручыць т.т. Галадзеду, Горыну і Коніку разглядзець пытанне і ўнесці свае прапановы» (НА РБ, ф. 4, воп. 3, спр. 147, л. 9).

П р а т а к о л

пасяджэння бюро ЦК КП(б)Б № 243

п. 25 ад 11/IV 1937:

Слухалі: Аб перакладзе пралетарскага гімна «Інтэрнацыянал» на беларускую мову (т. Шаранговіч).

Пастанавілі: Даручыць т. Сурта і Башмачнікаву арганізаваць пераклад пралетарскага гімна «Інтэрнацыянал» на беларускую мову і ўнесці гэты пераклад на зацверджанне бюро ЦК КП(б)Б» (НА РБ, ф. 4, воп. 3, спр. 403, л. 36).

А да гэтага дакумента дадаваліся: машынапісны экземпляр «Інтэрнацыянала» на беларускай мове, без даты, пад тэкстам: Пераклаў з франц. арыгінала А. Александровіч. Уверсе сінім алоўкам: Алек. (НА РБ, ф. 4, воп. 3, спр. 403, л. 226—227) і машынапісны экземпляр «Інтэрнацыянала» на беларускай мове, пад тэкстам: 1921 год і чырвоным чарнілам: Пераклад Я. Коласа. Уверсе сінім алоўкам Я. Куп. (НА РБ, ф. 4, воп. 3, спр. 403, л. 228—229).

У БДА захоўваюцца дакументы 1921 г. аб працы паэта над перакладам на беларускую мову «Інтэрнацыянала» (ф. 15, воп. 1, спр. 19).

У вершы У. Караткевіча «Дзень першы» намаляваны вобраз Купалы — перакладчыка «Інтэрнацыянала».

Купалаўскі пераклад паклалі на музыку М. Ф. Мацісон, У. Тэраўскі (гарманізацыя).

*Пацье Эжэн* (1816—1887) — французскі рэвалюцыйны паэт, член Парыжскай камуны. «Інтэрнацыянал» напісаны ў 1871 г., апублікаваны ў 1887 г., пакладзены на музыку П. Дэгейтарам у 1888 г.

*Сасонка* (с. 208)

Пераклад з польскай мовы верша М. Канапніцкай «Choinka w lesie» («Сасонка ў лесе»).

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1921, № 2, 15 мая.

Датуецца годам апублікавання.

У 1925 г. асобнае выданне перакладa з нотамі.

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 316, л. 1) на адным лісце разам з перакладам верша «Пажарнікі» і накідамі «Вясна прыйшла зноў. Цёплы май шчыра», «Яснае сонца позненька ўстала», «Позненька ўстала сонца сягонне», «Позненька сонца сягонне ўстала», «Гэй скропе дождж палетак», «О, як ⟨нрзб⟩ ў цяністым гаі».

Пераклад паклалі на музыку М. Аладаў, Н. Сакалоўскі.

У БДАМЛіМ захоўваецца асобнае выданне перакладу з нотамі (1925; музыка М. Аладава) з наступным надпісам: «На добрую память славному Грише. 29/XII-26 г.» (ф. 10, воп. 1, спр. 130, л. 1—3). Подпіс пад надпісам неразборлівы.

*Гриша* — відаць, Пукст Рыгор Канстанцінавіч (гэты экземпляр захоўваецца ў яго фондзе).

*Пажарнікі* (с. 209)

Пераклад з польскай мовы верша Л. Ягалкоўскай-Кашуцкай «Strażacy».

Друкуецца па кн. «Пажарнікі», Мн., 1928 (асобнае ілюстраванае выданне перакладу верша, вокладка і ілюстрацыі А. Абрамава; аўтар верша не пазначаны).

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1921, № 3, 15 жн.

Датуецца годам апублікавання.

Пераклад уключаўся і ў зб. «Дашкольны спеўнік», 1928.

Захоўваецца чарнавы аўтограф на адным лісце разам з перакладам верша «Сасонка» і накідамі вершаў (гл. каментарый да верша «Сасонка», с. 427) (адз. зах. 316, л. 1).

*Ягалкоўская-Кашуцкая Л.* — польская паэтэса.

*Слова аб палку Ігаравым* (с. 209)

Вершаваны пераклад помніка старажытнарускай літаратуры.

Друкуецца па кн. «Слова аб палку Ігаравым», Мн., 1938.

Радкі 27, 71—72, 82, 257, 314, 327, 364, 377, 394, 505, 646, 728, 804 рэдкалегіяй Зб. тв. 1972—1976 слушна выпраўлены па аўтографе. У асноўным тэксце было: *Не лябяжае стада, бы ў байцы; Ой, не сокалаў несла віхура; Цераз поле шырокае — бура!; Жджэ прыход у кожнай хвілі; К той Каялы-ракі між угорскімі; Стаў гаварыці брат да брата са злосці нялюба; Ані прадумаці думай, ні вочмі сваімі; Ня цясовай кравацi пасцілкаю чорнай; Гэта з бацькава там залатога пасаду; Ужо насілле над воляй узнесла-сагнула; Во па Русі й Суле гарады падзялілі; Па дзікім кавылі?; І цёпла атуліваў мглой; Пашматаўшы паганых палкі.*

Упершыню — часоп. «Вольны сцяг», 1921, № 5, 6, дзе надрукаваны пад назвай «Песня аб паходзе Ігара», з падзагалоўкам «Слово о полку Игореве» і з паметай: Акопы. 5.IX.21 г. З старой на сучасную беларускую мову пералажыў Янка Купала.

У часоп. «Вольны сцяг» да перакладу ёсць зноска: «Песня аб паходзе Ігара» напісана старой беларуска-славянскай мовай у XII сталецці. Друкаваны ніжэй пераклад вершам на сучасную нашу

мову зроблены па магчымасці блізкім па зместу арыгіналу. Тлумачэнні да старасвецкіх, а не зусім зразумелых словаў у перакладзе будуць змешчаны ў асобным выданні побач з арыгіналам тэксту і даслоўным перакладам прозай гэтага памятніка. Перакладчык».

Пераклад уключаўся і ў іншыя прыжыццёвыя выданні: Слова аб палку Ігаравым: Песня IX — Калоссе, 1938, № 2; Слова аб палку Ігаравым: Плач Яраслаўны — Калоссе, 1938, № 3; Піянер Беларусі, 1938, 27 мая; Чырвоная змена, 1938, 27 мая; Полымя рэвалюцыі, 1938, № 5; ЛіМ, 1938, 30 мая; зб. «Творы 1918—1928», 1930; Зб. тв., 1928, т. IV.

Захоўваюцца наступныя аўтографы: поўны чарнавы аўтограф (чарніла) з паметай: Янка Купала. Акопы. 5.IX.21 г. (адз. зах. 326, л. 1—29); аўтограф першых дзвюх строф на лістах, праўленых чорным чарнілам (адз. зах. 187); няпоўныя чарнавыя аўтографы (аловак) (адз. зах. 329, л. 1—12, адз. зах. 330, л. 1—9). У папках з гэтымі аўтографамі пад тымі ж адзінкамі захавання ёсць урыўкі іншых аўтографаў, якія напісаны чорным чарнілам і рознымі алоўкамі.

Пры перакладзе «Слова» на беларускую мову Я. Купала карыстаўся манаграфіяй Е. Барсава «Слова аб палку Ігаравым» як мастацкі помнік Кіеўскай дружыннай Русі» (т. 1—3, 1887—1889) і перакладам Е. Барсава.

Аб гэтым сведчыць ліст да Я. Карскага ад 29.III.1920 г., у якім Купала пісаў: «Дык ці не знойдзецца цяпер у нас рэкамендаваных Вамі кніг [redacted] перакладу «Слова [redacted] палку Ігаравым», [redacted] іменна: пераклад «Слова» Е. Барсава, а такжа праца Ф. Е. Корша («Опыт восстановления стихотворн⟨ого⟩ размера [redacted] «Слове» [redacted] т. д.)» (Я. Купала. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 475).

Адразу пасля апублікавання Я. Купала паслаў Я. Карскаму часоп. «Вольны сцяг» з вершаваным перакладам «Слова» і прасіў вучонага даць водгук на пераклад: «Я ўжо даўно выслаў Вам пісьмо і «Вольны сцяг» № 5 (7) і першы аркуш № 6 (8), але адрасаваў на Акадэмію навук. Цяпер, атрымаўшы Вашу адкрытку, мы выслалі па два экз. № 3, 4, 5 і 6-га за 1921 г. ... Прасіў бы Вашай ласкі звярнуць увагу на мой пераклад вершам «Песні аб паходзе Ігара», надрукаваны ў № 5 (7) і 6 (8) «Вольн⟨ага⟩ сцягу». Хацеў бы пачуць Вашы думкі аб гэтай маёй працы» (Я. Купала. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 476).

І ўжо 16/I.1922 г. Купала атрымаў ад Я. Карскага ліст наступнага зместу:

«Многоуважаемый Иван Доминикович!

Ваш стихотворный перевод «Сл⟨ова⟩ о п⟨олку⟩ И⟨гореве⟩» вышел прекрасным: везде видно понимание старого текста и заметно художественное чутье, не говоря уже о легком стихе, соответствующем содержанию картины. В Вашей обработке белорусский язык оказался на высоте. Мне кажется только, что напрасно Вы избегаете нерифмованных стихов. Если бы Вы их не боялись, не пришлось бы обращаться ко многим ассонансам (созвучиям), которые рифм не составляют. Но это пустяк.

Для примечаний в отдельном издании для Вас достаточно одного Е. В. Барсова: нет ли его в университетской библиотеке? Имейте в виду, что книга Барсова — оттиск из Чтений [redacted] Моск⟨овском⟩ общ⟨естве⟩ истории и древн⟨остей⟩ российских, печаталось в 80-х годах XIX ст. Если бы представилась оказия, я прислал бы Вам для пользования экземпляр нашей академической библиотеки. По почте этого сделать нельзя: книга в переплете, с укупоркой будет очень дорого стоить, да и может пропасть. Собственного экземпляра не имею.

Ваш перевод я дал для просмотра специалисту по «Сл⟨ову⟩ о п⟨олку⟩ И⟨гореве⟩» академику В. Н. Перетцу; он тоже согласен со мной относительно его достоинства.

Желаю вам всего наилучшего!

Преданный Вам *Е. Карский*».

(Пуцявінамі Янкі Купалы. Мн., 1981. С. 133—134).

У лісце Я. Карскага размова ідзе пра ўпамянутую ўжо вышэй кнігу Е. Барсава.

А 20.IX.1922 г. Я. Купала пісаў Б. І. Эпімах—Шыпілу: «...я вычытаў у працы Барсава, што рукапіс «Слова аб Палку Ігаравым» быў напісаны беларускім пісьмом. Але гэта так адрыўкова сказана, што мушу яшчэ разгледзець сякія-такія працы па гэтаму пытанню, асабліва працу Калайдовіча, на якім языку быў напісаны гэты памятнік...» (Я. Купала. Зб. тв.: У 7 т. Мн., 1976. Т. 7. С. 453).

Пераклад атрымаў ацэнку тагачаснай крытыкі.

Так, у арт. «Агляд часопісаў» М. Байкоў пісаў: «На першым месцы сярод мастацкіх твораў, безумоўна, трэба паставіць пераклад у вершах Я. Купалы «Слово о полку Игореве», пачаты яшчэ ў папярэднім нумары. Шчырае дзякуй павінны прынясці славутаму паэту ўсе беларусіны за гэтую вельмі каштоўную працу. Яшчэ раней Я. Купала зрабіў пераклад «Слова» ў прозе (гл. «Сав. Беларусь» за 1920 г.). Цяпер літаратура аб «Слове» абагацілася перакладам яго на сучасную беларускую мову не толькі ў прозе, але і ў мастацкіх вершах. Зразумела, што ва ўсякім перакладзе ёсць спрэчныя месца, асабліва ў перакладзе «Слова о полку Игореве», дзе шмат цёмных мясцоў. Ёсць, канечна, спрэчныя месца і ў перакладзе Я. Купалы. Напр., можна спрачацца ўжо ў адносінах да загалоўка перакладу: «Песня аб паходзе Ігара». Запытаем: чаму не «аповесць» аб паходзе Ігара? Ці стараславянскае «слово» не тое самае значыць, што й сучаснае бел. «аповесць»? Ці і ў самым «Слове» не чытаем мы: «Не лепо ли на бяшеть братіе, начати старыми словесы трудных повестей о полку Игореве?» Такой назвы «Слова» трымаецца і сам аўтар перакладу ў сваім першым празаічным перакладзе. Чаму ж змена? Праўда, далей у «Слове» гаворыцца: «начати же ся той песни...», праўда, што і А. Майкаў, напр., пачынае свой пераклад так: «Не начать ли нашу песнь...», аднак «Слово о полку Игореве»,— больш, чымся песня; гэтая цэлая паэма, стараруская Адысея. Але крытычная ацэнка твора Я. Купалы ў дэталях вымагае асаблівага артыкулу, цяпер жа мы можам агульна сказаць, што сваё заданне ён выпаўніў з значным поспехам, у чым могуць сведчыць параўнанні яго вершаў з вершаванымі перакладамі расейскіх пісьменнікаў, напр. Мінаева, Мея і А. Майкава» (часоп. «Вестник Народного Комиссариата Просвещения», 1922. № 2 (4).

У. Дзяржынскі ў арт. «Беларуская літаратурная сучаснасць» пісаў: «У момант найвялікшага напружання працаўнікоў, калі лёсы рэвалюцыі вырашаліся сілай збройнай там, на палёх Палаўчан старадаўных, у гэты момант прагучэла «Песня». З бяздонных нетр гісторыі яна, вынесеная на свет на струнах ліры поэты-грамадзяніна, загаманіла можа несвядома, можа цалкам выпадкова, але загаманіла ў тон з сучаснасцю. І ў гэтым гомане сплялася медзь старажытнага вечавога звону з поклічам «Вызваленне працаўнікоў» у сучаснасці; і ў гэтым гомане спляліся лязгатанне мячоў «харалужных», а шчыты паганыя з грымотамі барацьбы 1920—21 г. там, у стэпах Украіны і Дону «сінявокага»; і ў гэтым гомане сплялася слава «кметам» Куршчыны старадаўняй з славай кметам сучасным — чырвоным героям. Гэта «Песня» была сінтэзам дзвёх вялікіх эпох, раздзеленых у гісторыі сталеццямі.

І бадай ці знойдуцца ва ўсёй сучаснай рэвалюцыйнай паэзіі больш магутныя радкі, больш натхнёныя вобразы, больш яскравыя малюнкі барацьбы над Донам сінявокім, чымся тыя, што мы спаткаем у «Песні». І калі мастацтва было мабілізавана ў той вялікай барацьбе, калі мастацтва павінна было быць тым хмелівам, якое б «барацьбянай напаўняла дух смагай»,— то ў першых шэрагах такога мастацтва павінна была б стаяць «Песня аб паходзе Ігара».

У гэткім выглядзе паўстае перад намі «Песня» з пункту погляду паслякастрычніцкай сучаснасці. Гэта адна старана яе.

А другая! Верш, гучназвонны верш Я. Купалы, які, здавалася, дасягнуў ужо кульмінацыйнага пункту, гэты верш у «Песні» запраменіўся новымі бляскамі. «Песня» — гэта закончаная музыкальная сімфонія, кожная частка якой пяе дзіўную мелодыю, кожная струна якой гучыць самабытнымі тонамі, а ўсё разам зліваецца ў незвычайнай чароўнай гармоніі. З гэтага боку «Песня» з'яўляецца сапраўдным шэдэўрам беларускай найноўшай паэзіі. А вобразы! Выпуклая рэльефнасць і яскравасць старадаўняга арнаменту адцянёвана на фоне сучасных дасягненняў паэтыкі, апавіта зялёным блюшчам вялікага жывога пачуцця. «Песня», як найкаштоўнейшая пэрла літаратурнага мастацтва, узбагаціла скарбніцу беларускага пісьменства» (часоп. «Полымя», 1925, № 1. С. 148—149).

А Я. Плашчынскі (Я. Пушча) у рэцэнзіі на Зб. тв. 1928, т. IV адзначаў наступнае: «Першы пераклад («Песня аб паходзе Ігара».— *А. Ш.*) надзвычай удалы як блізкасцю свайго зместу да аўтэнтыка, так і сваім мастацкім аформаваннем. Якое метрычнае і страфічнае багацце, а як магутна і вобразна гучыць беларуская мова!» (часоп. «Узвышша», 1928, № 3 (9). С. 166).

У Я. Карскага ж знаходзім такое меркаванне: «Отметим еще прозаический перевод с древнерусского «Слово о полку Игореве» (Беларусь, 1919 г.), впоследствии переделанный в стихотворный: «Песня аб паходзе Ігара» («Вольны сцяг». 1921, № 5—6). Говоря вообще, автор очень удачно справился с древнерусским текстом: у него нашелся и подходящий словарный запас, и достаточно художественного чутья, не говоря уже об умении владеть разнообразным стихом, большей частью рифмованным, а иногда, как у него и в других случаях, с простыми ассонансами... «Слово» изобилует разнообразием картин природы, дружинной жизни, обстановки похода и плена: этому соответствует и разнообразие стиля и языка перевода» (Я. Карскі. Белорусы. Пг., 1922. Т. 3, вып. 3. С. 277—278).

А Л. Цвяткоў у арт. «Янка Купала як перакладчык» пісаў: «Чаму ж тады зацікавіўся Я. Купала «Словам аб палку Ігараве», гэтым помнікам дружыннага пяснярства? Справа тут не толькі ў прыгажосці вобразаў, а, магчыма, і ў тэй акалічнасці, што тут яскравымі хварбамі малюецца доля селяніна Дажбожага ўнука ў часе барацьбы паміж феўдаламі, калі «век чалавечы скарачаўся...».

З усіх перакладаў Я. Купалы найбліжэйшым да першатвору трэба лічыць «Песню аб паходзе Ігара». Гэтаму спрыялі некаторыя абставіны. Па-першае, тут не было ніякіх метрычных перашкод: пясняр як быццам у самастойным творы меў магчымасць у кожным месцы ўжываць той рытм, які ён лічыў у даным выпадку найбольш мэтазгодным. Па-другое, шмат якія месцы ў гэтай паэме вытрыманы ў тым самым грамадскім духу, які так часта сустракаецца ў арыгінальных вершах Я. Купалы» (зб. «Янка Купала ў літаратурнай крытыцы», Мн., 1928. С. 227, 243).

У сваіх успамінах пра Я. Купалу Т. Кулеша піша: «Паэт казаў, што праца над перакладам «Слова», хоць і была цяжкай, але прыносіла яму вялікае задавальненне. Ён аддаў ёй многа сіл і часу, бо хацеў захаваць своеасаблівасць гэтага высокамастацкага твора.

— Я так зжыўся з творам,— сказаў аднойчы Купала,— што, зрабіўшы пераклад, як бы адчуў сябе сааўтарам «Слова» і гляджу на гэту сваю працу, як на ўласны твор» (успаміны ў ДзЛМЯнК).

У Л. В. Дранько-Майсюка захоўваецца 4-ты том Зб. тв. Я. Купалы (Мн., 1928) з купалаўскімі праўкамі простым алоўкам на вершаваным перакладзе «Слова аб палку Ігаравым». Адразу за лічбай падаецца адпаведны ўрывак або словы з тэксту, пасля касяка — праўкі Купалы:

Радок: Назва: Песня аб паходзе Ігара / Песня аб паходзе Ігаравым
9 белкай / мысляй
62 салаўцеча / салавейча
71 віхура / віхурай
123 у / й
162 банчук / бунчук
210 ад / Ад
214 Шатамята / Шатанята
237 Траяны / Траяна
239 былі працяклі / былі, працяклі
244 стрэмя / страмя
254 паценні / заценні
257 Каялы-ракі / Каяле-рацэ
299 пір / баль
301 сватаў спалілі / сватоў спаілі
373 балотнае топкае Сані / балоцістых нетрах Кісані
394 узнесла / уссела
437 лiняе / у годах
694 Дону / Донцу
709 І паляцеў / Паляцеў

Пад тэкстам простым алоўкам памета: Пералажыў Янка Купала.

Амаль усе гэтыя купалаўскія праўкі былі ўлічаны пры пазнейшых публікацыях.

*Дзед і баба* (с. 234)

Пераклад з польскай мовы байкі Ю. Крашэўскага «Dziad i baba».

Друкуецца па зб. «Безназоўнае», 1928.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1921, № 5, 1 снеж. з паметай: Ператлумачыў з польскай мовы Янка Купала.

Датуецца годам апублікавання.

Пераклад уключаўся і ў зб. «Безназоўнае», 1925.

Верш Ю. Крашэўскага паклаў на музыку С. Манюшка.

*Зімка* (с. 236)

Пераклад з польскай мовы верша невядомага аўтара.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе памылкова датуецца 1923 г.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1921, № 5, 1 снеж.

Датуецца годам апублікавання.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 318, л. 1).

*Каваль* (с. 237)

Пераклад з польскай мовы верша «Pieśn kowala» невядомага аўтара (гл. «Pierwsza książka do czytania». Minsk, 1924). У арыгінале рэфрэн «Я люблю свой дар...» адсутнічае.

Як адзначаецца ў ЭД, с. 272, Я. Купала ў перакладзе свядома ўвёў гэты рэфрэн пасля кожнай страфы, каб узмацніць маналог героя, глыбей паказаць яго адносіны да працы.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе памылкова датуецца 1924 г.

Упершыню — часоп. «Зоркі», 1922, № 1.

Датуецца годам апублікавання.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца чарнавы аўтограф (адз. зах. 317, л. 1) на адным лісце разам з вершам «Ёлачка» і накідам «Пастушок я санавіты, санавіты...».

Пераклад верша ўвайшоў у кантату А. Гурава «Тры сцежкі» (гл. каментарый да «Хаўтурнага марша», с. 422).

*Ёлачка* (с. 237)

Пераклад з рускай мовы папулярнай дзіцячай песенькі «В лесу родилась ёлочка» Р. А. Кудашавай (музыка Л. Бекмана).

Друкуецца па часоп. «Зоркі», 1922, № 1, дзе ўпершыню апублікаваны.

Датуецца годам апублікавання.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1962 г.

Захоўваецца аўтограф (адз. зах. 317, л. 1) на адным лісце разам з вершам «Каваль» і накідам «Пастушок я санавіты, санавіты...».

*Кудашава Раіса Адамаўна* (1878—1964) — руская пісьменніца.

*У мгле* (с. 238)

Пераклад верша нямецка-швейцарскага пісьменніка Г. Хесэ (Гесэ; 1877—1962) «У тумане».

Друкуецца па асобнаму выданню: «У мгле. Беларускі раманс для аднаго голасу з акампанементам фартэпіяна». Музыка Я. В. Прохарава. Мн., 1925 з падзагалоўкам «Адзінота».

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

У пасмяротныя выданні твораў Я. Купалы ўключаецца з 1962 г.

Як сведчыць кампазітар М. Аладаў, музыка на словы купалаўскага перакладу была напісана Я. В. Прохаравым у 1923 г., калі апошні ў Маскве пазнаёміўся з Купалам. Пераклад, такім чынам, зроблены паэтам не пазней 1923 г.

А ў ЭД, с. 607 адзначаецца наступнае: «Верш нямецка-швейцарскага паэта Хесэ ўпершыню апублікаваны ў 1908 у час. «Швейцарыя» (на ням. мове). Купала, магчыма, пераклаў яго ў час І-й сусветнай вайны, калі ў яго творчасці больш выразна акрэслілася тэма адзіноты, глыбей выявіліся матыў самоты і выкліканыя імі пачуцці расчаравання і песімізму, суму і адчаю (гэта меркаванне грунтуецца на аналізе вершаў Купалы «Таварыш мой», «Вечар», «На вуліцы», «Ночцы», «Плача восень» і інш., якія тэматычна і настраёва найбольш сугучныя і блізкія творчасці Хесэ пач. 20 ст.)».

*Сейбіт* (с. 239)

Пераклад з рускай мовы верша невядомага аўтара.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны з датай: 1924 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Павук і муха* (с. 240)

Пераклад з польскай мовы верша невядомага аўтара.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны з датай: 1924 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Лета цёплае мінае* (с. 241)

Пераклад з польскай мовы верша невядомага аўтара.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны з датай: 1924 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

*Лісце* (с. 241)

Пераклад з рускай мовы аднайменнага верша Ф. Цютчава.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI, дзе ўпершыню апублікаваны з датай: 1925 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы разам з перакладам верша «Першамайская песня» (адз. зах. 322, л. 1); перабелены (адз. зах. 319, л. 1).

Я. Купала па невядомых прычынах не пераклаў першую страфу арыгінала.

*Цютчаў Фёдар Іванавіч* (1803—1873), рускі паэт. Чл.-кар. Пецярб. АН (1857). Адзін з буйнейшых прадстаўнікоў філасофскай і пейзажнай лірыкі XIX ст.

*Першамайская песня* (с. 242)

Пераклад з рускай мовы верша невядомага аўтара.

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — зб. «Дашкольны спеўнік», 1928.

Датуецца годам апублікавання.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 322, л. 1); белавы (адз. зах. 321, л. 1—2).

Пераклад паклалі на музыку І. Чарняўскі, М. Мацісон.

*Кавалі* (с. 243)

Пераклад з рускай мовы верша П. С. Шкулёва «Мы кузнецы».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — зб. «Дашкольны спеўнік», 1928.

Датуецца годам апублікавання.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваюцца два аўтографы: чарнавы (адз. зах. 313, л. 1) і накід (адз. зах. 314).

Пераклад паклаў на музыку М. Мацісон.

*Шкулёў Піліп Сцяпанавіч* (1868—1930) — рускі паэт, адзін з пачынальнікаў пралетарскай паэзіі ў Расіі. Верш «Мы кузнецы», напісаны ў 1906 г., стаў пазней рэвалюцыйнай песняй.

*Пралетарская калыханка* (с. 244)

Пераклад з рускай мовы верша М. Красільнікава «Колыбельная».

Друкуецца па Зб. тв., 1932, т. VI.

Упершыню — «Полымя», 1930, № 5—6, дзе датуецца 1929 г.

У іншыя прыжыццёвыя выданні не ўключаўся.

Захоўваецца аўтограф з датай: 1929 г. (адз. зах. 320, л. 1).

## Чарнавыя накіды

*«Вас браты і вас сястрыцы...»,*
*Я («Прыдыбаў я...»)* (с. 246)

Друкуюцца па аўтографе (адз. зах. 140, л. 1), дзе змешчаны на адным лісце разам з накідамі асобных строф верша «Рунь».

*Малацьбіт. Пушча. На узвіжэнне* (с. 247)

Друкуюцца па аўтографе (адз. зах. 144, л. 1), дзе змешчаны на адным лісце разам з накідамі асобных строф верша «Рунь».

*Успаміны (Замест каляднага апавядання)* (с. 248)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 176, л. 1), дзе змешчаны на адным лісце разам з вершам «Новы год».

*«Хто паліў нам хаты...»* (с. 248)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 256, л. 1), дзе змешчаны на адным лісце разам з вершам «Праз гультайства».

*«Вясна прыйшла зноў. Цёплы май шчыра...»* (с. 248),
*«Яснае сонца позненька ўстала...»* (с. 249),
*«Позненька ўстала сонца сягонне...»* (с. 249),
*«Позненька сонца сягонне ўстала...»* (с. 249),
*«Гэй скропе дождж палетак...»* (с. 249),
*«О, як⟨нрзб⟩ ў цяністым гаі...»* (с. 250)

Друкуюцца па аўтографе (адз. зах. 316, л. 1), дзе змешчаны на адным лісце разам з перакладамі вершаў «Сасонка» і «Пажарнікі».

*«Пастушок я санавіты, санавіты...»* (с. 250)

Друкуецца па аўтографе (адз. зах. 317, л. 1), дзе змешчаны на адным лісце разам з перакладамі вершаў «Каваль» і «Ёлачка».

## Dubia

*«У часе, калі пан над намі...»* (с. 251)

Друкуецца па газ. «Грамадзянін», 1919, № 14—15, 7 сак., дзе ўпершыню надрукаваны пад крыптанімам К.

Датуецца годам апублікавання.

*Яшчэ вісеў на блізкім ліхтары...* (с. 252)

Пераклад з рускай мовы верша М. Шкапскай.

Друкуецца па часоп. «Полымя», 1926, № 3, дзе ўпершыню апублікаваны з паметай: Пераклаў з расейскае мовы Л. І.

Датуецца годам апублікавання.

*Шкапская (нарodж. Андраеўская) Марыя Міхайлаўна* (1891—1952) — руская пісьменніца. Аўтар зб. «Mater Dolorosa», «Час вечерний», «Кровь-руда» і інш.

*Адчуванняў разліў* (с. 255)

Друкуецца па часоп. «Чырвоны сейбіт», 1928, № 4—5, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам Я. К.

Датуецца годам апублікавання.

## АЛФАВІТНЫ ДАВЕДНІК*





* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## ЗМЕСТ*



### ВЕРШЫ

#### 1915



* Першая калонка лічбаў — старонкі тэкстаў, другая — іншых рэдакцый і варыянтаў, трэцяя — каментарыяў.

## 1918

## 1919



## 1920

**1921**



**1922**



**1923**



**1924**

**Купала Я.**

К 92 Поўны збор твораў. У 9 т. Т. 4. Вершы, пераклады 1915—1929.— Мн.: Маст. літ., 1997.— 446 с., [4] л. іл.

ISBN 985-02-0250-5 (т. 4).
ISBN 3-340-01093-7.

Чацвёрты том Збору твораў складаюць вершы, напісаныя ў 1915—1929 гг., а таксама пераклад «Слова аб палку Ігаравым».

**ББК 84(4Беи)6**



Літаратурна-мастацкае выданне

ЯНКА КУПАЛА

*Поўны збор твораў*
*у дзевяці тамах*

**Том 4**

*Вершы, пераклады*
*1915—1929*

Рэдактар *Н. І. Семашкевіч*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *А. І. Дрозд*
Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал*
Карэктары *Л. А. Дзядзюля, Л. М. Маслоўская, Я. А. Бебель*

Здадзена ў набор 09.06.97. Падп. да друку 05.11.97. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера афс. № 1. Гарнітура літаратурная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 23,52+ +0,42 укл. Ум. фарб.-адб. 24,36. Ул.-выд. арк. 23,94. Тыраж 6000 экз. Зак. 1917.

Выдавецкае дзяржаўнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 15.01.93. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.